*З вялікай падзякай жонцы Вользе Квяткоўскай —*
*за падтрымку і любоў*

*Сатыра, постапакаліпсіс, фэнтэзі — тры словы, якія характарызуюць раман «Каларадская пушча».*

*Мінула трыццаць гадоў пасля глабальнай катастрофы. Сусветны акіян узняўся на 199 метраў. Менскае ўзвышша ператварылася ў архіпелаг. Менск падзяліўся калючым дротам і візавым рэжымам на ўласна Менск і на Горад-Герой. Пасля катастрофы частка менчукоў перабралася на самыя аддаленыя выспы, дзе ўтварыла горад Добрае Месца. Нечаканая небяспека вымусіла дабрамесцаў выправіць у Горад-Герой свайго выведніка на мянушку Дзікун.*

*У хітразаплеценым сюжэце ўяўнай будучыні чытач можа ўбачыць сучасны Менск і нават болей — сваю сучасную краіну, на якім бы кантыненце яна ні была.*

**ISBN 978-609-8213-62-1**

# ЧАСТКА I. Порт «Чыжоўка»

## 1

— Праходзім!

Службовец у лінялым камуфляжы знакам паказаў кірунак на іржавы, у зялёна-сінявастых плямах паўкруглы ангар. На самым версе сядзеў чалавек у карычневай камізэльцы. Чалавек абхапіў адной рукой флагшток, на якім ляніва пагойдваўся сцяг незразумелага колеру, бліжэй да бэзавага з рознымі адценнямі малінавага. Выглядала, што вецер і дажджы зрабілі сваю справу, і сцяг даўно пара мяняць на новы.

Другой рукой чалавек у камізэльцы трымаў шчотку. Нахіліўшыся долу, чалавек шмараваў прывараныя па цэнтры пад дахам вялікія літары «ГОРАД-ГЕРОЙ». Ніжэй вісела шыльда «Пункт пропуску «Порт «Чыжоўка».

Пасажыры баржы моўчкі пацягнулі свае торбы, баулы і заплечнікі. Службовец быў падпісаны на спіне словамі «Таможэнные вайска».

— Хто с аружыем — у первае акно. Там здадзіце ў камеру храненія. Астальные ва втарое, трэцяе, пятае, шостае і дзявятае.

Ад трапа да раскрытых варотаў ангару ўздоўж праходу стаялі аўтаматчыкі. Па дзесяць з кожнага боку. З даху ангару, з краёў, за натоўпам таксама сачылі ўзброеныя людзі. Праход быў шырынёй метраў пяць, даўжынёй — каля дваццаці.

Пасажыры пачалі штурхацца-сунуцца. Зачартыхаліся, зажартавалі і заабураліся адначасова. Паціху сталі ўтвараць лініі чэргаў. Ці не траціна перашыхтоўвалася да першага акенца, якое для ўладальнікаў зброі.

За ангарам удалечыні былі бачныя апошнія паверхі дамоў, на якія нібы надзелі касматыя шапкі ці то водарасцяў, ці то лісця розных адценняў зялёнага. У шараватым небе раўлі, нібы быкі на бойні, бакланы. Смярдзела гнілымі малюскамі. Пачынаўся новы дзень.

Да трэцяга акна на пачатак чаргі спакойна пасунуўся мужчына на выгляд гадоў трыццаці. Кароткая стрыжка, джынсавая бейсболка, светла-русыя валасы, сярэдні рост, байка-неліняйка, штаны з самапальнымі адыдасаўскімі лампасамі, берцы, заплеч-

нік сярэдніх памераў — літраў на пяцьдзясят. Вастраватыя рысы твару і шэрыя вочы. З-пад байкі на шыі вытыркаўся кавалак татушкі — зоркі-znічкі. Левае брыво пасажыра было пасечанае шнарам. Твар — загарэлы і абветраны. Гэта быў Дзікун.

Насамрэч новапрыбылага ў Горад-Герой звалі Стась, але на імя яго клікалі толькі кабеты падчас інтыму. Калі скарочана. А яшчэ службоўцы падчас праверкі дакументаў — поўнай формай. Мянушку Дзікун Стась атрымаў у глыбокім маленстве. Дзесьці тут, на берагах ракі Свіслачы. Зрэшты, Дзікун гісторыю слаба памятаў, а дэталі ведаў са словаў дарослых. Трохгадовы Стасік уцёк з дзіцячай пляцоўкі да вады, дзе на яго напаў гіганцкі сінякрылы вадзяны пацук. Драпежнік вагой і памерамі быў з малога, калі не болей.

Крылы дапамагалі пацуку некалькі секундаў трымацца метра на паўтара над зямлёю. Атака, малы ўхіліўся, пералёт, атака, зноў малы адскочыў, але драпежнік даў рады зачапіць кіпцюром брыво хлопчыка. Урэшце Стасік намацаў пад нагамі кавалак арматуры, схапіў і засадзіў пацуку проста ў вока. Фінал бітвы бачыў дарослы мінак,

які пабег па адхоне берагу на дапамогу дзіцяці. Калі мінак перадаваў Дзікуна бацькам, хлопчык быў вельмі спакойны. Успатнелы, перапэцканы крывёю, засяроджаны і спакойны.

— Адкуда? — чалавек у камуфляжы, які сустрэў баржу, ужо вызіраў з акенца будкі на ўваходзе ў ангар.

— Хутары каля Кругоў за Магілёвам.

— Адзін рукзак тока? Чаго так слаба?

— Я тока на свадзьбу.

— Дакументы.

Дзікун залез пад рэмень на штанах, пакорпаўся і выцягнуў з прышытай знутры кішэні ў чатыры разы складзеную паперу, запакаваную ў некалькі слаёў поліэтылену.

— Ты б яшчэ ў сраку засунуў… Чаго на баржы не разматаў? Першы раз штолі ў Горадзе-Герої? Не прыдупрыдзілі?

— Першы.

— Кансервы. Так… Савет пасяленія Кругі сьвідзецельствует, што… Станіслаў Мікалаевіч Рабянок… Ці Рабёнак? Ці дзіцёнак?

Службовец рагатнуў.

— …Адпячатак пальца. Пакажы палец. Пахожа. Давай прыглашэніе.

Разгарнуў.

— Прыглашаеца на свадзьбу… тра-ляля… Марына Іванаўна Петрушкевіч… дом, уліца, числo, подпісь. Есьлі ты не быў у Горадзе-Героі, як цібя знают тада?

— Эта маёй мамы падруга, яна выходзіць за нашага — за кругоўскага, ён і перадаў бумагу.

Службовец сплюнуў сабе пад ногі.

— Ішчо адзін на ПМЖ жэніцца. Ты да нас надоўга? Сам усьпееш прыжаніцца?

Гыгыкнуў. Распісаўся ўверсе паперы, паставіў дату. Штосьці перапісаў сабе ў сшытак.

— Дзяржы. Ідзі на дасмотр. Стой! Які-які адрас? Падшыпнікавы праезд? Там ужо ніхто не жыве, заліла яго даўно. Ідзі, знойдзеш Марыну Іванаўну на свадзьбе. У нас іх альбо ў «Турысьце» гуляюць, альбо ў «ДК МАЗ».

Дзікун пасунуўся ўглыб ангару, а «таможэнныя вайска» павярнуўся назад, дзе ў пакойчыку, дакладней, адсеку, агароджаным тонкімі сталёвымі лістамі, сядзеў за пластыкавым сталом з абадраным надпісам «Coca Cola» такі самы «таможэнныя вайска». Працаваў з дакументамі.

— Мікалаіч, дзяржы, хай праверaць, што за Марына Іванаўна Петрушкевіч з былога Падшыпнікавага праезда 3.

## 2

— Сука… Мы адпомсцім.

Мужыкі ўхвальна кіўнулі галовамі. Чалавек дваццаць абступілі расказчыка і слухалі.

— Удар у човен знізу — човен моцна хіснуўся. Прыкіньце? З-пад вады высунуліся дзесяць багроў… ну, можа троху меней, і рэзка нахілілі борт амаль да самай вады. Прыкіньце? Ды там адзін толькі борт паўтара метра вышынёй! А яшчэ мачта з ветразем… Ну што вам казаць — вы ж ведаеце, якія ў нас экспедыцыйна-рыбацкія чаўны — здаарооовыя! У хвалях мільганулі чорныя, нібы гіганцкія п'яўкі, целы. Я сам бачыў — трындос якая жудасць! Экіпаж раз — і ляснуўся ў ваду. Увесь, цалкам і адразу. Хлопцы, дзве секунды! Усплёскі, каламеса, кроў. Такія, знаеце, бурбалкі крывяныя пайшлі. Наш човен быў метраў на пятнаццаць ззаду. Мы буйнакаліберны страламёт завялі, але ж куды ў каго страляць? Там жа нашы! Падграбаем — сем трупаў. Плюс адзін іхны. Мы нашых у човен, а іхнага прывязалі да кармы ды пацягнулі да берагу. Выгружаемся на пляжы каля гавані, а «п'яўкі» той няма! Застаўся адно гідракасцюм. Абсалютна пусты. Што цікава —

без кіслародных балонаў. Касцюм з дзіркай у раёне сэрца ад удару нажом. Думаю, што адзін з нашых рыбакоў пырнуў. З касцюма палілася вада. І ўсё. Больш нічога: ні крывінкі, ні вантрабінкі. Сукі…

Мужыкі кіўнулі галовамі.

— Хлопцы, Рамонку нашу першай у ваду кіданула, — удакладніў расказчык.

— А Дзікун? — спытаў адзін з мужыкоў.

— А што Дзікун, — адказаў расказчык, — нічога. Такі разгублены на носе стаяў, пакуль там нашых мардавалі.

— Дык зусім ніяк нічога? — перапытаў хтосьці з натоўпу.

— Нічога.

— А вы не разгубленыя былі?! — выгукнуў яшчэ адзін з прысутных.

— А мы што? Мы ж не Дзікун, — расказчык уключыў апраўдальную інтанацыю.

Размова адбывалася непадалёк ад развітальнай цырымоніі з загінулымі рыбакамі і Рамонкай, якая суправаджала першы экіпаж. Людзі сабраліся ў цэнтры Добрага Месца — сталіцы выспы Новая Зямля. Спачатку горад хацелі назваць Новы Змест, маўляў, «новы змест на новай зямлі» — гэта «так паэтычна і сімвалічна!». Але пачаліся

спрэчкі пра форму, новая яна ці старая, таму спыніліся на нейтральнай назве Добрае Месца.

Цяпер вось на Полацкай плошчы пад Менскай гарой сабраліся каля трох тысяч чалавек. На гары — копія вежаў Наваградскага замку, пад гарой — копія Вострай Брамы, а па цэнтры плошчы — Камень-Знічка, які ў народзе клічуць проста — Валун. На ім выбітыя імёны ўсіх жыхароў Новай Зямлі — каля пяці тысяч. У цэнтры Валуна выяўлены герб Новай Зямлі: уласна знічка — васьміканцовая зорка — з упісаным у яе цэнтр роўнабаковым шасціканцовым крыжам. А таксама дэвіз «Мы яшчэ вернемся!». Людзі верылі, што калі-небудзь вернуцца ў Менск, з якога сышлі пасля Вялікага Выбуху, па якім пачала прыбываць Вялікая Вада. Цягам трох гадоў сусветны акіян падняўся на 199 метраў. Паводле разлікаў навукоўцаў вада пачне адступаць прыблізна праз дзесяць гадоў ад цяперашняга часу.

А пакуль дабрамесцы і прыбылыя з аддаленых паселішчаў Новай Зямлі развіталіся са сваймі суграмадзянамі. Смерць тут, на Новай Зямлі, — надзвычайнае здарэнне. Тут людзі самі не памiралі, толькі калі гінулі

ў бойцы з драпежнымі звярамі ці прышлымі ліхімі людзьмі. Таму на другім баку Валуна было не больш за сто пяцьдзясят імёнаў.

— Дарагія суайчыннікі, суродзічы! Ды што там — сям'я! Мы планавалі сёння тут, каля Валуна, традыцыйна адзначыць чарговыя ўгодкі нашага сыходу з Менску, каб знайсці свой новы дом.

На імправізаванай трыбуне над Каменем-Знічкай прамаўляў цяперашні кіраўнік супольнасцяў Новай Зямлі — вялікі ачольнік пан Віктар Абулькевіч.

— Знайсці такі дом, дзе мы б маглі спакойна жыць і гадаваць новыя генерацыі дзеля таго, каб урэшце вярнуцца на нашу радзіму — у Менск — абноўленымі!

«Пракачанымі», — хмыкнуў хтосьці ў натоўпе.

— Мы шмат заплацілі за наш спакой. — Пан Абулькевіч паказаў рукой на адваротны бок Валуна. — Злыдні з розных бакоў спрабавалі захапіць нашу Новую, і ўжо даўно любімую, Зямлю. Мы прыйшлі сюды знясіленымі, але перакананымі ў тым, што пераможам. І мы перамаглі. Мы адбудавалі цывілізацыю. Мы маем электрычнасць, чыстую ваду, жывёлагадоўлю…

Пан Абулькевіч задумаўся на секунду: што яшчэ мелася прагрэсіўнага на Новай Зямлі?

— Мы маем выдатнае войска...

Пан, які стаяў побач з вялікім ачольнікам, штосьці прашаптаў на вуха прамоўцу. Абулькевіч згадаў, з якой нагоды стаіць на трыбуне.

— І вось сёння мы развітваемся з квеценню нашага народу, новага народу, лепшага народу. З найлепшымі прадстаўнікамі лепшага народу, які... Якія — нашы героі застануцца з намі ў сэрцах назаўжды!

Развітальная імпрэза канчалася. Сваякі і блізкія сябры загінулых на чаўнах павязуць целы да колішніх гарадоцкіх могілак, якія цалкам сышлі пад ваду — як і ўсё мястэчка Гарадок Віцебскай вобласці. Да нябожчыкаў прывяжуць камяні з імёнамі і датамі жыцця і пусцяць на дно. На ваду пакладуць вянкі з кветак, з васковымі свечкамі на іх. Так прынята.

***

Пасля праверкі дакументаў Дзікун чакаў у чарзе дагляду рэчаў і круціў у галаве фрагменты падзеяў месяцавай даўніны. Тыя, хто арганізаваў напад, мусілі быць дзесьці тут — у Горадзе-Героі. Іншых варыянтаў не было. «Яны нас знайшлі! А мы знойдзем іх!» — за-

явіў пан Фларыян Корд, якога паўжартам называлі імем па бацьку — Альгердыч. Паўжартам, бо ў супольнасцях Новай Зямлі імя па бацьку не практыкавалася, ветлівы зварот быў «пан», «пане», «пані», «панове». Корд — не псеўданім, а сапраўднае прозвішча — ад тыпу кароткай шаблі ў сярэднявечнай Усходняй Еўропе. Альгердыч, старэйшы сябар і настаўнік Дзікуна, здавалася, нарадзіўся не адну сотню гадоў таму, столькі ён усяго ведаў пра жыццё. А пан Фларыян, як і большасць тых, хто ў дарослым узросце дабраўся з Менску да Новай Зямлі, не выглядаў на свае гады. Вось Дзікун са сваймі аднагодкамі рос і змяняўся з аблічча. А старэйшыя — нібы закансерваваліся ва ўзросце, у якім заснавалі Добрае Месца. Загадка прыроды.

Хоць яшчэ большай таямніцай прыроды сталіся непрадказальныя кліматычныя катаклізмы. Гаворка — найперш пра новы водны свет. Адлегласць тры кіламетры па вадзе човен мог ісці паўгадзіны, а мог — тры дні ці нават тры месяцы. А мог і нікуды не дайсці. Тут, напрыклад, такое надвор’е, а за пяць кіламетраў — зусім іншае. Тут пячэ, там цячэ: раптам навальніца, і раптам яе няма.

Спакойная вада, і — знянацку смерч, здатны засмактаць у сябе цэлую вёску на плывучым востраве. Тут лютуе шторм, а за дзвесце метраў вада застаецца ціхаю. Прагназаваць не было як.

Людзі шукалі больш-менш спакойныя мясціны для падарожжаў па вадзе. Спакойныя — гэта значыць, там радзей утваралася прыродная небяспека. Такія водныя трасы зваліся фарватарамі. Трывалых у часе, амаль нязменных фарватараў было зусім мала. Вакол выспаў Новай Зямлі меўся толькі адзін чысты кірунак — на былы Віцебск. Як выглядала жыццё ў астатніх напрамках, спраўдзіць не было магчымасці. А вось прыбярэжныя воды былі заўжды спакойнымі. Побач з зямлёй прыродных катаклізмаў чамусьці не здаралася.

Затое на вадзе! Апроч кліматычнай небяспекі ўзніклі новыя пагрозы ад флоры і фауны. Напрыклад, шаблязубыя зайцы-плывунцы. Яны вандравалі, скачучы між бярвёнаў, выспачак са смецця і друзу, кінутых чаўноў, вяршалінаў дрэваў і дахаў дамоў, якія тырчэлі з вады. Пры неабходнасці зайцы маглі праплысці па вадзе да кіламетра. Яны падбіраліся да ахвяры бязгучна, зграяй ад пя-

ці да пятнаццаці жывёлінаў, накідваліся і не пакідалі ад здабычы нічога, нават самых цвёрдых касцей.

На зайцоў-плывунцоў палявалі падводныя звяругі. Найперш гіганцкія марскія выдры, свінавасьміногі, а таксама вялікія зубастыя крэветкі. Пакуль заяц у вадзе, ён безабаронны. Каб туша зайца кілаграмаў на трыццаць-сорак знікла за пару хвілінаў, хапала сарака-пяцідзесяці зубастых крэветак.

Вялікія зубастыя крэветкі часцяком хадзілі велічэзнымі — на тысячы асобінаў — касякамі. Рыбакі Усходнепалескага мора здабывалі крэветак тралам у прамысловых маштабах. Трал быў зроблены з вельмі моцнай сталёвай сеткі. Галоўнае — адразу на палубе апарыць здабычу кіпнем.

Чыстая вада — для вялікіх караблёў. Чыстая вада дае магчымасць хутка перасоўвацца, бо там найбольш фарватараў. Дзе былі касякі зубастых крэветак — не было дробнай рыбы. Затое былі вялікія істоты, якія палявалі на крэветак: свінавасьміногі, вугры-цмокі, скаты-бегемоты (у народзе іх празвалі «гіпаэсэсаўцамі»), шчупакі-акулы і ляшчы-быкі… У прыбярэжных водах — марскія бабры, здаравушчыя, як мядзведзі.

***

Пасля пахавання Дзікун сядзеў у кавярні «Трэці Статут» на скрыжаванні вуліцы Усяслава Чарадзея і бульвара Вітаўта Вялікага і згараў ад сораму і роспачы. Псіхаваў пад словы з папулярнай песні:

«Катуй мяне, ратуй мяне,
Катуй мяне, ратуй мяне,
Катуй мяне, ратуй мяне-е-е!..»

Яны з Рамонкай толькі-толькі пачалі гуляць разам. Літаральна напярэдадні ўпершыню ўзяліся за рукі, акурат сёння Дзікун планаваў першы пацалунак, і вось…

Дзікун кідаў нажы і сякеры ў сцяну насупраць. «Няма чым працаваць, — паскардзіўся шэф-кухар уладальніку кавярні, пану Андрэю. — Пятнаццаты раз слухае і інструменту не аддае». Жылісты дзядзька з пшанічнымі вусамі, пан Андрэй моўчкі падышоў да сцяны, складзенай з бярвёнаў, павымаў кухарскі рыштунак, перадаў шэфу, прынёс Дзікуну травяную гарбату і падсеў да стала — маральна падтрымаць вядомага ўсяму Добраму Месцу, ды што там — усёй Новай Зямлі і прылеглым тэрыторыям, чалавека. Дзікун абхапіў рукамі галаву і цяжка выдыхнуў з сябе: «Тры-май-ся за по-руч-ні…»

«Трымайся за поручні!» — любімая фраза Дзікуна. Дзікун ніколі ў рэальным жыцці не бачыў не тое што поручняў, але грамадскага транспарту наагул. Але Дзікуна быў развесяліў расповед Альгердыча пра тое, што некалі ў Менску дзяржаўную арганізацыю «Менсктранс» завалілі тысячамі лістоў і тэлефанаванняў: абураныя менчукі фактычна крычалі: «Вы што — нас за поўных ідыётаў лічыце?!» А ўсіх клопатаў было, што нейкі дробны клерк склаў такі тэкст, які круціўся ў тралейбусах і аўтобусах: «Шаноўныя пасажыры, падчас руху трымайцеся за поручні, якія спецыяльна для гэтага прадугледжаныя». «Не, блін, мы на поручнях бялізну сваю развесім сушыцца!» — абураліся пасажыры.

Дзікун быў апантаны Менскам. З дзяцінства чытаў і глядзеў усё, што было ў Новым Месцы датычнага Менску. Тэксты і фоткі, гісторыю і сучаснасць на момант сыходу старэйшых у пошуках новай зямлі.

Тры-май-ся за по-руч-ні… У жыцці Дзікуна была ўжо аднойчы невыносная роспач. Яе перажыў шмат гадоў таму — неўзабаве пасля інцыдэнту з вадзяным пацуком. Памяць падкідала ўспаміны кароткімі выблiскамі. Будынак аэрапорту, шмат людзей,

нервовыя крыкі. Мама трымае Стасіка за руку. Тата цягне за сабой валізу. Дзікун з бацькамі — у канцы чаргі на чартарны рэйс Менск — Сант'яга-дэ-Чылі. Апошні самалёт, які мусіць пакінуць аэрапорт «Менск-2». Вада падступіла да самай узлётнай паласы. Салдаты адціскаюць аўтаматамі тых, хто не паспеў ускочыць у апошні вагон, у сэнсе — самалёт. З дынамікаў ідзе апавяшчэнне пра тое, што з вайсковага аэрадрому ў Мачулішчах, прадмесці Менску, таксама ладзіцца эвакуацыя ўсіх ахвочых. Гэтыя дэталі Дзікун дазнаўся пазней ад старэйшых, калі падрос, а ў памяці круціліся адно карцінкі штурханіны і поціск напружанай рукі мамы. Малы востра адчуваў неверагодную пагрозу, крычаў, каб папярэдзіць, але бацькі, відаць, думалі, што ён проста баіцца агульнай панічнай атмасферы. Рука мамы літаральна на імгненне адпусціла Стасіка, і малога хтосьці адразу падхапіў. Гэта быў вайсковец з ачаплення. Ён перакінуў хлопчыка камусьці з натоўпу. Маці залямантавала, салдаты закрылі праход. Ні туды, ні сюды больш ніхто не змог прайсці.

Тады быў толькі адчай, малы не мог патлумачыць дарослым, што загадзя адчуў небяс-

пеку. А цяпер Дзікун згараў не толькі ад роспачы, але і ад сораму — бо ён быў бачуном.

Як бачун Дзікун мусіў угледзець пагрозу смерці, якая прыйшла з-пад вады і забрала Рамонку і сяброў-рыбакоў. Бачуны наўперад адчувалі небяспеку з адносна блізкай адлегласці. «Бачуны», казалі людзі. Насамрэч ніякія карцінкі перад бачунамі не паўставалі. Кшталту, праз секунду сабака ўкусіць чалавека, ці праз хвіліну пачнецца атака бандытаў, ці праз пяць хвілінаў у кагосьці ўдарыць маланка.

«Штосьці будзе, — спрабаваў тлумачыць Дзікун, калі ў яго пыталі, як ён адчувае небяспеку. — Першы раз ты не ведаеш канкрэтна, што. Калі небяспечнае здараецца, адразу ў свядомасці фіксуецца нібы хімічная формула. І ты яе запамінаеш назаўсёды. Стрэл са зброі, рык звера, утварэнне віра… Наступны раз пры прадчуванні такой небяспекі формула ўсплывае ў мяне з памяці за некаторы час да падзеі: секунды ці хвіліны. І тады я магу папярэдзіць.

Крыніца пагрозы можа змяніць канфігурацыю. Напрыклад, злачынец дасць пас напарніку, і куля прыляціць з іншага дула, а значыць, па іншай траекторыі, чым ты прадбачыў,

альбо драпежнік вось-вось кінецца, але трапіць у пастку, таму прадчуванне нападу спрацуе ўхаластую, — Дзікун шукаў вобразы, каб патлумачыць, што бачуны не ўсёмагутныя. — Калі небяспека для бачуна новая, то застаецца спадзявацца на шацунак, на тое, што ты правільна ўгадаеш удар. Як брамнік падчас пенальці».

Бачуны складалі базы формулаў небяспек, абменьваліся імі. Інфармацыю перадавалі зразумелымі толькі ім гукамі і жэстамі і — галоўнае — малюнкамі-іерогліфамі. Скрасці таямніцу бачуноў было немагчыма. Бо звычайны чалавек не мог успрыняць, а бачун не мог перавесці свае веды ў звыклае для людзей кадаванне.

Вельмі хутка людзі з мінулага, да катастрофы, жыцця высветлілі, што чым бліжэй чалавек быў да Вялікага Выбуху па часе нараджэння, тым лепш ён адчуваў небяспекі. Так сталася, што тым дарослым, які ўбачыў бой малога Стасіка з сінякрылым вадзяным пацуком, быў Альгердыч. Гэта ён досыць хутка здагадаўся пра незвычайную здатнасць хлопчыка. Стасік вырас найлепшым бачуном. Бо быў адзіным, чыё нараджэнне супала з момантам, калі адбыўся Вялікі Выбух.

Усе астатнія, хто прыйшоў на свет адразу пасля Вялікага Выбуху, таксама мелі здольнасці бачуноў, але ў крыху меншай ступені.

Дзікун вучыў малодшых сяброў з дарам бачуноў. Напрыклад, як адрозніваць фонавыя небяспекі. Вось проста нядобры па жыцці чалавек, а вось канкрэтны зламысны намер, які ад яго сыходзіць. Ці вось — стандартная прыродная пагроза, а гэта — невядомы прыродны катаклізм.

«Гады трэніровак і інтуіцыя, якая вынікае з жыццёвага досведу і аналітычных практыкаванняў, — падмурак поспеху бачуна», — так тлумачыў сваю работу Дзікун, калі навучаў маладзейшых.

Сярод іншага, бачуны суправаджалі рыбакоў, каб абараніць іх ад пагрозаў з боку людзей і прыроды. І вось Дзікун сядзеў у «Трэцім Статуце» і не глядзеў у вочы сябрам — вінаваціў сябе за тое, што прапусціў пагрозу «чорных п’явак». Прапусціў, бо не адчуў. Нічога. Нуль. А гаспадар кавярні пан Андрэй, акуратна падбіраючы словы, тлумачыў, што і Рамонка таксама была бачунняй. Можна было б спісаць сітуацыю на тое, што яна мела дар меншай магутнасці, але калі два бачуны адначасова… Значыць, усе разам

сутыкнуліся з чымсьці новым, абсалютна не ўласцівым для ваколіцаў Новай Зямлі. Таму няма каго за што вінаваціць.

## 3

Калі б хто-небудзь стварыў глабальны рэйтынг падполляў, Менскае магло б прэтэндаваць на самае экстраардынарнае. Рэч у тым, што Менскае падполле ўтварылася не з пачаткам баявых дзеянняў, а ў чаканні вайны. III сусветнай вайны. Ніхто не сумняваўся, што вось-вось мусіць пачацца, але як канкрэтна? Ворагі адразу бабахнуць ракетамі ці пяройдуць у наступ малымі групамі ва ўніформе без апазнавальных знакаў? Зрэшты, галоўны «ікс» у раўнанні быў у цэнтры Менску: на чыім баку ў глабальным канфлікце будуць улады? А найперш, уласна, чыны Міністэрства абароны. Паколькі з адкрытых крыніцаў было зразумела, што многія генералы прададуць сваю краіну за нядорага, то спачатку ўтварыўся Супраціў, а вось з яго крыху пазней сфармавалася Падполле.

Калі Дзікун вырас, ён пэўны час нёс памежную варту разам з Альгердычам на базе ў Білева, колішнім мікрараёне Віцебску. Гэта

была такая заморская, насамрэч запраліўная, тэрыторыя Новай Зямлі. Дзікун як бачун дапамагаў адбіваць напады бандытаў, якія прыходзілі з боку Веляшковічаў і Лёзна. А таксама Ваўкоў, Брусоў, Шапак і Задняй. Гэта ўжо за колішняй усходняй мяжой. У першыя гады, як пачалося фармаванне супольнасцяў Новай Зямлі, госці са зброяй не спынялі атак.

А на поўдзень ад Білева ляжала мноства выспаў. Ад незлічоных драбнюткіх да некалькіх вялікіх. Найбліжэйшай была самая аграмадная, якая звалася Талачынскай, — кавалак сушы, які застаўся ў межах былых ды існых мястэчак: Круглае, Друцк, Шчацінка, Талачын, Усвіж-Бук, Абольцы, Латыгаль, Юрцава. Вада між Білевам і Талачынскай выспай была адзіным уваходам у акваторыю Новай Зямлі.

Талачынская выспа — у некалькі разоў большая за Новую Зямлю, але мала заселеная. Пераважна дробнымі бандыцкімі групоўкамі, якія рабавалі хутаранаў з невялічкіх выспаў. А таксама шукалі здабычу па гарадах, якія самі нібы выспы вытыркаліся з вады. Ды хоць бы Жодзіна са сваім аграмадным БелАЗам. А дадай туды яшчэ шчыльныя

рады дзясятка заводаў, а дадай мікрараёны шматпавярховікаў. Было дзе і што здабываць! Толькі ведай фарватары ды пільнуй, каб не закрыліся. Калі на заводах найперш шукалі каштоўныя металы, то па жылых дамах выглядалі прыдатную для ўжывання пабытавую тэхніку. І каштоўныя металы, зноў жа. Усё перапраўлялася кантрабандай у Горад-Герой.

Апроч Дзікуна ў Білеве разам з салдатамі неслі варту іншыя бачуны. Сядуць маладыя хлопцы і дзеўкі пасля змены каля вогнішча, а тут і Альгердыч падыдзе. Хтосьці запаліць, хтосьці трынькне на гітары, а пасля хтосьці папросіць: «Пане Фларыяне, а распавядзіце, калі ласка, як вы ў Падполлі змагаліся». «Ну як змагаліся, — пачне Альгердыч, відавочна задаволены ўвагай, — мы рыхтаваліся».

Яшчэ да Вялікага Выбуху Альгердыч быў сувязным з адной з групаў, што схавалася ў падземным Менску. Працаваў у рэстаўрацыйнай майстэрні мастацкага музею. А гэта значыць, што ён камунікаваў не толькі з навуковымі супрацоўнікамі-мастацтвазнаўцамі, але з вялікім колам прыватных заказчыкаў. Ідэальны сувязны. Проста ў цэнтры гораду ў сябе на рабоце сустракаўся з кліен-

тамі. А кліенты былі розныя: ад чорнага капача да калекцыянера, ад нуварыша-пакупніка да прафесійнага гандляра антыкварыятам. Усе ўзросты, полы, сацыяльныя становішчы. Усе роўныя перад майстрам-рэстаўратарам, «як у лазні ці аўташколе». Хто ні зойдзе — западозрыць хоць у чымсьці практычна немагчыма. Напрыклад, ва ўдзеле ў Супраціве.

Задача нумар адзін падпольшчыкаў была ў тым, каб захаваць сябе для чаканых баявых дзеянняў. Для большай эфектыўнасці спачатку трэба было выканаць задачу нумар нуль: высветліць, хто канкрэтна будзе на чыім баку ва ўладных структурах, калі вайна пачнецца. Адпаведна, зразумець, як сябе паводзіць з пачаткам баявых дзеянняў. Ці трэба будзе выходзіць з Падполля, каб падтрымаць уладу ў змаганні з агрэсарам, ці наадварот — застаючыся ў Падполлі, ударыць у тыл здраднікам радзімы. Пакуль чакалі канкрэтыкі, абжывалі метро, калектары, пераходы між заводамі і нават між дотамі часоў папярэдняй — ІІ сусветнай — вайны. У Менску было дзе разгарнуцца пад зямлёю.

А над зямлёй… А над зямлёй адна з канспіратыўных кватэраў мясцілася ў раёне

плошчы Перамогі, вокнамі на раку Свіслач. Недалёка на пагорку быў бачны масіўны будынак Міністэрства абароны. Кватэру ў гэтым месцы знялі выпадкова, проста прапанова падалася выгаднай. Але ўдзельнікі Супраціву жартавалі, маўляў, знялі «спецыяльна для натхнення» — каб мець перад вачыма аб’ект інтарэсу. Кватэру замаскіравалі пад блатхату.

Нават калі спецслужбы і ладзілі праслухоўванне, яны ўсё роўна не маглі пачуць тых важных размоваў, якія вялі міжсобку падпольшчыкі: у гармідары крыкаў, рогату і нязроўных песень, што часта пачыналіся, але рэдка даводзіліся да канца. Кутняя кватэра не межавала наўпрост з іншымі. А таўсценныя «сталінскія» сцены ахоўвалі падпольшчыкаў ад канфлікту з суседзямі. Такая тактыка маскіроўкі дала найбольшы плён. Групы, якія абіралі для сябе іншыя віды канспірацыі, больш цярпелі ад выкрыцця і пераследу.

Неяк Альгердыч чарговы раз уздымаўся па нестандартна высокіх прыступках туды, на самую верхатуру, дзе сябры па барацьбе ўжо нарэзалі закускі, адкаркавалі бутэлькі і падрыхтаваліся да сур’ёзнай — на ўсю ноч — работы.

У рэдкіх выпадках, калі трэба было працягнуць і рана ранкам, недалёка — каля крамы «Акіян» — дзень і ноч працаваў шапік «Хутка-смачна» (у народзе «Хутка-брыдка») з півам і хот-догамі, якім далі мясцовую менскую назву — «хадуны». Альгердыч для сябе жартам называў «хадунамі» публіку, якая таўклася каля шапіка а пятай раніцы.

Альгердыч зайшоў у кватэру і ўбачыў яе — Зулю. Пазней менавіта выведніца Зуля здабудзе найбольш каштоўную інфармацыю, якая паўплывае на хаду дзейнасці ўсяго Супраціву. А пакуль Зуля сядзела ў коле мужчынаў і трымала бутэльку віскі ў руцэ. У класіфікацыі аднаго з Зулевых паплечнікаў па змаганні, «у жанчыны адсутнасць жопы кампенсуецца высока задраным носам». У Зулі і жопа была што трэба, выпуклая і пругкая, і нос быў задраны. Ну як нос — носік.

Рост у Зулі быў ніжэйшы за сярэдні. «Не, не так, — сказаў Альгердыч. — Калі шчыра, малюпасенькая ростам, цыцкастая, дупастая, энергічная кабетка, у якой рот не закрываецца ні на імгненне. І якая можа ўліць у сябе неверагодную колькасць алкаголю, усё вакол перавярнуць і разбамбіць і пры гэтым застацца на нагах. Вось такая была Зуля».

Каштанава-мядзяна-брунецісты колер густых валасоў быў натуральным. Вочы змянялі адценне ад татальна — на ўсю зрэнку — цёмна-карычневага, амаль чорнага, да залаціста-карычневага ў зеляніну. Ні ад асвятлення, ні ад прыняцця якіх-небудзь рэчываў змена адцення вачэй не залежала. Зуля выказвала меркаванне, што ў такі спосаб выяўляюцца патаемныя жаданні, якіх яна сама не фіксуе. У залежнасці ад настрою Зуля магла выглядаць дзевачкай-прыпевачкай, а магла быць кабетай «я вас усіх з'ем, сукі».

У вечар знаёмства з Альгердычам Зуля накаціла грамаў трыста пяцьдзясят і пачала спяваць песні ўласнага сачынення. Пра любоў, каханне і змаганне. Паціху, паціху, усё галасней, а пасля Зуля ўхапілася за гальштук сувязнога з аддаленай ускраіны гораду і пацягнула яго ў калідор, а адтуль у туалет. Зулю спынілі.

Зуля ледзь не перасварыла ўсіх мужчынаў, прычым ніхто не зразумеў прычыны. Зуля выліла сабе на галаву кухаль піва, змяшала ў сабе ўсе напоі, што былі на стале. Зулю выцягвалі з акна, у якое яна раўла яшчэ нядаўна мілагучныя песні. Яна паспрабавала

залезці на стол, на шафу і ў штаны ўсім прысутным, а пасля захрапла ў суседнім пакоі, і дзелавая сустрэча працягнулася.

Поўнае імя Зулі было Сузана Анатолеўна Шубзда, але пра гэта ведалі хіба бухгалтары, якія налічвалі ганарары. Працавала Зуля на палову стаўкі рэдактаркай навінаў незалежнага інтэрнэт-рэсурсу «Белоп», працавала з дому. А раз на тыдзень — аператаркаю крану на ток-шоу галоўнага каналу дзяржаўнага тэлебачання. Шэсць дзён на тыдзень пасля абеду была вольная. Час запаўняла тым, што вяла ўласны відэаблог пад назвай «Сама не свая». Пра «нечаканыя знаёмствы з цікавымі людзьмі ў незвычайных месцах».

У адно незвычайнае месца Зуля трапіла на заданне падполля — у вайсковае інфармацыйнае агенцтва «Баец». Спачатку было нечаканае знаёмства, а пасля ўжо заданне. З цікавым чалавекам генерал-маёрам Ціцюкіным Зуля перасеклася ў прыёмнай прыватнага венералагічнага кабінету.

Зуля любіла і ўмела бухнуць так, што мужыкі ў радыусе кіламетра выстройваліся ў чаргу, каб правесці юную мадам дадому. А больш за ўсё ў жыцці відэаблогерка любіла экстрэмальны секс з незнаёмцамі. Пра секс

пасля ў дэталях распавядала на ю-т'юбе, праз што зрабілася дзіка папулярнай у падлеткаў. Але ў рэальным жыцці блогерку цікавілі сталыя мужчыны. Сталыя мужчыны відэаблогаў не глядзелі, пра вядомасць Зулі ў інтэрнэце не ведалі, таму аддавацца свайму хобі яна магла не асцерагаючыся выкрыцця і пераследу з боку сваіх выпадковых партнёраў.

Бывала, што Зуля раздавала прызыўныя флюіды, як роўтар раздае беспарольны інтэрнэт.

А бывала, выпраменьвала кропкавы секс.

З Ціцюкіным атрымалася кропкава. Што не адмяняла промні «ўай-фаю», у выніку працы якога палова службоўцаў Міністэрства абароны пачала рэгулярна сустракацца з журналістамі паловы незалежных і дзяржаўных СМІ ў адных і тых самых венеролагаў.

Вось гэтую частку гісторыі і чакалі ад Альгердыча маладыя байцы каля вогнішча, бо кожны раз расповед поўніўся новымі дэталямі і красаваў новымі фарбамі. Адзінае што, Альгердыч ніколі не раскрываў імя Зулі, казаў «адна выведніца». Прычым гісторыю падаваў так, што яна выглядала хутчэй на анекдот уласнага сачынення. На вайсковы гумар.

Аднойчы Зуля засядала з Ціцюкіным у рэстаране гатэлю «Менск». Засядалі яны ўжо не першы дзень — кватэра Ціцюкіна была па дыяганалі праз дарогу, дакладней — праз праспект Незалежнасці, у доме побач з Галоўным паштамтам. А было перад Новым годам.

Генерал квасіў, а Зуля час ад часу адскоквала ў казіно, якое было ў суседняй зале. Ціцюкін пагрузіўся ўжо ў той стан, калі размова з цікавым чалавекам — сабою — была самадастатковай і змястоўнай. Генерал механічна вымаў з партманета купюру, Зуля механічна яе забірала. Праз кароткі час вярталася, каб забраць наступную. І вось пасля чарговага паходу ў казіно Зуля завалілася ў рэстаран пад руку з новым цікавым чалавекам, высокім падцягнутым джэнтльменам з кароткай стрыжкай.

— Бля-а-а-а!.. Роб-берт-а-авіч! — генерал крыху працверазеў. — Братуха!

— Нікіфаравіч, Валодзя, аааа! Здароў!

Высветлілася, што Ціцюкін і Робертавіч — калегі па службе ў Міністэрстве абароны. Якія не бачыліся ўжо цэлых… цэлых пяць дзён!

— Яна троху трындзючая, калі падап'е, — пазнаёміў Ціцюкін з Зуляй.

— А калі не падап’е? — добразычліва ўдакладніў Робертавіч, які ў казіно не паспеў перакінуцца з Зуляй і трыма словамі.

— Не ведаю.

Сябры-вайскоўцы пачалі прамаўляць тосты за поспех, за тое, што «ўсё хутка зменіцца», і што «ўсё будзе наша».

Дамоў Ціцюкіна цягнулі выкліканыя з Міністэрства абароны малодшыя афіцэры. А генерал крычаў, што вельмі хутка ўсіх нацягне і ўсіх паставіць ракам. «І цібя, і цібя, і цібя! — тыкаў генерал афіцыянту, ахоўніку, швейцару, таксістам каля ганка гатэлю, афіцэрам, якія яго цягнулі. «І вас, і вас, і вас!» — гэта ўжо ў бок будынкаў Дому ўраду, Менгарвыканкаму, Міністэрства ўнутраных справаў, КДБ. «І цібя!» — махнуў рукой Ціцюкін удалечыню перад тым, як адрубіцца.

«Дык вось, Дзікун, — распавядаў Альгердыч, — мы тады не звярнулі на гэтую гісторыю ўвагі. Думаю, па ўсім Менску перад Новым годам такіх генералаў і палкоўнікаў было шмат. Але. Цяпер Горадам-Героем кіруе кароль. Яго ўсе клічуць проста «кароль». Мы думаем, што гаворка не пра манарха. Рэч у тым, што поўнае імя палкоўніка, сябра Ціцюкіна, — Вітольд Робертавіч Кароль».

## 4

— Мы адзін народ.

Прысутныя на нарадзе ачольнікаў майстроўняў застагналі. Падавалася, што ўсе чулі гэтую фразу стопяцісоты раз. Дзікун у Палацы майстроўняў быў упершыню, а тым больш уявіць сабе не мог, што трапіць у залу нарадаў самых-самых. Відаць, справа не жарт, раз Дзікуну дазволілі чуць перамовы на найвышэйшым узроўні.

А ўзровень быў такі. Сем майстроўняў — сем ачольнікаў. Такая была сацыяльная арганізацыя Новай Зямлі. Ачольнікаў абіралі ўнутры майстроўняў. Абралі ачольнікаў, а ачольнікі абралі вялікага ачольніка. Вось цяпер кожны з ачольнікаў сядзеў пад выявай герба сваёй майстроўні — у цэнтры знічкі пэўны знак: скрыжаваныя мячы, дзве вежы, валошка, човен, воўк. Майстроўня Дзікуна пасярод знічкі мела выяву сонца і месяца разам. Да размовы на найвышэйшым узроўні былі дапушчаныя таксама папярэднія ачольнікі, яны мелі права голасу. Людзей у зале было шмат, бо ачольнікам можна быць толькі два гады. Майстроўні пачалі

фармавацца задоўга да Вялікага Выбуху, яшчэ ў мірны час.

— Мы адзін народ, — крыху стомлена, але ўпэўнена паўтарыў сівы пан. Гэта быў ачольнік Уладзісвет, майстроўня нумар тры, «Дзве вежы».

— Пане Уладзісвеце, мы тут сабраліся дзеля іншай нагоды. Мы ведаем ваша меркаванне на тэму адзінства народу, — сказаў вялікі ачольнік пан Віктар Абулькевіч.

—Ты!!! — пан Уладзісвет выкінуў у бок пана Віктара руку, нібы кідануў кап'ё. — Ты ці ўсведамляеш адказнасць за Менск? А за Горад-Герой? Так! Гэта мы вінаватыя ў тым, што Менск раскалолі на дзве часткі. Так! Мы мусім вярнуцца і аб'яднаць народ!

— Пане Уладзісвеце…

— Ты! Не закрывай мне рота! — гэта ўжо на адрас ачольніка іншай майстроўні. — Мы адзін народ! Навошта мы дваццаць сем гадоў таму пакінулі Менск? Ты! — пан Уладзісвет паказаў на Альгердыча. — Ты, Фларыян, казаў, што хочаш уратаваць вось гэтых. — Уладзісвет паказаў на Дзікуна. — Малых бачуноў. Яны выраслі, што нас трымае?

Альгердыч кашлянуў:

— Уладзісвет, а з чаго ты ўзяў, што праз дваццаць сем гадоў мы там камусьці патрэбныя? З нашымі ведамі, з нашымі адкрыццямі, напрацоўкамі. Я быў за сыход найперш, каб мы пачалі з нуля рэалізоўваць наша ўяўленне пра грамадства.

— Мы!!! Мы кінулі наш горад. Наш народ! Мы мусім вярнуцца і дапамагчы! — Здавалася, Уладзісвет ужо нікога не чуў.

Вялікі ачольнік пан Абулькевіч тры разы грукнуў па стале адмысловым малатком — сімвалам улады ў майстроўнях:

— Правам, якое дадзенае мне вамі, справядліва абранымі ачольнікамі, я абвяшчаю тэму галасавання. А менавіта. Ці дэлегуем мы — Рада ачольнікаў — нашага суродзіча Станіслава Рабянка, вядомага як Дзікун, у выведную экспедыцыю ў Горад-Герой з мэтай адшукаць крыніцу пагрозы для Новай Зямлі. А менавіта — высветліць, хто такія «чорныя п’яўкі», як яны апынуліся ў акваторыі Добрага Месца і якую тояць у сабе пагрозу для ўсёй Новай Зямлі. Вам раздадуць белыя і чорныя каменьчыкі. Белыя — «за», чорныя — «супраць». Пан Фларыян Корд мае права двух галасоў, бо, калі раптам хто

забыўся, ён першы ачольнік першай менскай майстроўні. Я сказаў.

Пан Уладзісвет узняў руку:

— Паводле старажытнага Закону майстроўняў я прашу перапынку для прыватных кансультацыяў.

— Пятнаццаць хвілінаў перапынку, — абвясціў вялікі ачольнік.

Дзікун сядзеў побач з Альгердычам і час ад часу лавіў фразы, якія даляталі ад удзельнікаў сустрэчы. Відавочна пан Уладзісвет скарыстаўся з магчымасці пралабіяваць свой інтарэс, які агулам супадаў з інтарэсам і Альгердыча, і Дзікуна.

— …Ён першы з нас, хто вернецца!

— …Яго нельга адпраўляць, ён не ведае таго свету, тых людзей.

— …Наадварот, добра што не ведае, бо і ён там нікому не вядомы.

— …Ён мае фенаменальныя здольнасці. Апроч таго, што ён бачун, ён валодае энцыклапедычнымі ведамі!

Апошняе было чыстай праўдай. Народжаныя падчас Вялікага Выбуху дзеці не мусілі завучваць інфармацыю. Пачутае ці пабачанае хоць бы раз назаўсёды заставалася ў памяці. Ад настаўнікаў у школе па-

трабавалася толькі маршрутызаваць паток ведаў. Этыка быцця — вось якую дысцыпліну мусілі выкладаць настаўнікі. Рэч, якую не завучыш, як параграф падручніка. Этыка плюс адзінаборствы ды ўменне страляць з дзвюх рук.

За Дзікуна прагаласавалі адзінагалосна. Калі фармальна. Быў адзін голас супраць, але яго закрыў Альгердыч сваім другім дадатковым белым каменьчыкам.

***

Чарга на КПП сунулася марудна.

«Я дзесьці чуў, што вада скора пачне сыходзіць», — прамармытаў сусед з правай каляі. «Ды ладна? — адгукнуліся з-за спіны. — Во дзе гора-бяда, толькі прывыклі да вады, жызьнь наладзілі… А скора?» — «Дзета чэрэз гадоў дзесяць ці мо болей… Ці меней…» — «А, цьху, я думаў дзе ўжо заўтра! Каб заўтра, то куды ісьці? Дзе што браць? А так вада корміць». — «А раней помніш як было?» — «Як?» — «Добра было». — «Што добра?» Сусед з каляі прызадумаўся, што канкрэтна добра. Голас ззаду працягваў: «Цяпер тым даў на лапу, тым, тым — і жыві сабе спакойна, а раней ну яго ў адно месца. Абдзяруць

як ліпку, а ў канцы і пасодзюць яшчэ. Не, добра — цяпер!»

Згодна з легендай, Дзікун быў насельнікам адной з дзясяткаў дробных выспаў за Магілёвам. Там паўсюль хтосьці жыве. Ці не жыве. А ўсіх не ўведаеш. Хтосьці з хутароў і не вылазіць ніколі. З хутару і з хутару, нават калі плявузгнеш штосьці не па-мясцоваму, здзіву ні ў каго не будзе. Нават калі сільна вумнае слова ўжывеш. Мала ці хто на хутарах жыве? Ды хоць былы прафесар універсітэту.

Рэчы ў вандроўку закуплялі ў дзядзькі Фэлюся, які жыў у сваім аграмадным доме на вадзе. Дакладней, дом — на плыце, а плыт — на вадзе. Плыт з двума маторамі. І паліва заўжды да іх было — газ. Яго набывалі ў Горадзе-Герої купцы, якія пасля перапрадавалі па ўсіх архіпелагах у раёне воднай трасы Менск — Магілёў.

Дзядзька Фэлюсь быў заможным чалавекам. Ён быў адзіны, хто вольна перасоўваўся па ўсім фарватары ад Брылёва ажно да былой Воршы. Фэлюся ніхто не чапаў, ён быў патрэбны ўсім, і нашым, і вашым, і іхным, і вунь тым таксама. А на выпадак сустрэчы з адмарозкамі ў Фэлюся была ахова. А ў ахо-

вы — і кулямёт, і аўтаматы, і нават снайперская вінтоўка, якая прыцэльна б’е не менш як на дзве тысячы метраў. З вады не падкрадзешся, а на сушу Фэлюсь ніколі не выходзіў. «Чаго я там не бачыў?» Каму трэба, самі прыплывалі. Ці хто быў патрэбны Фэлюсю.

Даўно, яшчэ як вады не было, дзядзька займаўся народнымі промысламі. Вырабы з гліны вазіў на рынак у свой пасёлак гарадскога тыпу. Так Альгердыч распавядаў. Стаяў такі Фелікс Браніслававіч на рынку, свістулькамі глінянымі пагандлёўваў,конікамі рознымі, птушачкамі. Гадамі стаяў. Ні бандыты, ні міліцыя яго не чапалі — што ўзяць? Раптам бац — а ў Фэлюся катэдж свой. Дзядзька пад свіст керамікі дзялы дзелаў. У таго купіў, таму прадаў.

«Не, ніякіх наркотыкаў! — казаў Альгердыч. — Дзядзька Фэлюсь быў высакародны чалавек. Ён у чорных капачоў артэфакты скупляў, а калекцыянерам прадаваў. Пераважна зброю розных часоў. Прычым так бывала, што калекцыянер — мясцовы пракурор, а капальнік — мясцовы начальнік ДАІ. У кожнага свая страсць! І абодва не ведалі, хто чым займаецца, хоць штодня выпівалі разам».

Дзядзька Фэлюсь быў чэсны чалавек. Ён артэфакты мясцовых мясцовым не прадаваў. Ды колькі ў раёне тых калекцыянераў было? Тры хіба. Фэлюсь на Менск працаваў. У Менску з Альгердычам і пазнаёміўся, калі па наводцы знаёмых звярнуўся да спецыяліста па рэстаўрацыі артэфактаў з металу.

А тут прыйшла вада.

І ў дзядзькі Фэлюся закіпела работа. Спачатку быў гармідар — вайна, банды. Дзядзька разам з Альгердычам пасунуліся сюды, на выспы. Туды-сюды. Мясцовыя — хто ўцёк, хто застаўся, а з гарадоў панабеглі прыбышы. Ну, Фэлюсь і давай рабіць людзям паслугі абменнага характару. Соль на перац, каву на гарбату, сала на мыла, «калашнікава» на патроны. Усё па справядлівасці. Падняўся. Тады і персанальнай аховай абзавёўся.

«Ты галоўнае з валютамі не пераблытай, — навучаў дзядзька Фэлюсь Дзікуна. — Залатыя зліткі схавай. Ты іх усе тры штукі аддасі капітану за дарогу да Чыжоўскага порту. Капітан за цябе галавой адказвае, так яму і перадай ад дзядзькі Фэлюся».

«Як клічуць капітана?»

«Ды іх там некалькі, рэйс жа не адзін. На якога натрапіш, таму і скажы. Яны ўсе

мяне ведаюць, — дзядзька Фэлюсь паказаў сціснуты кулак. — Я б мог табе даць старыя жалезныя рублі. — Насамрэч, з медна-нікелевага сплаву, Дзікун ведаў гэта са школы. — Толькі ў цябе іх быць не можа, у хутараніна з дзікай тэрыторыі. Хоць... Вазьмі пяць двухрублёвікаў, можа, як бы ад бацькоў засталіся. Але найперш бяры два іклы шаблязубага балотнага зайца. Тут без пытанняў — здабыў. Хопіць з гакам на выдаткі ў дарозе: там на баржы амаль усе будуць везці нейкую ежу на продаж у Горад, прасці Г-спадзе, Герой. Цяпер курс іклаў добры, зайцы год як павыводзіліся, мала іх стала. Хто іх жарэ — шаблязубых?.. Пытанне. У дарозе ты мусіш выглядаць бедным сваяком, які едзе на вяселле. Таму бяры два іклы, не болей».

На стол ляснуліся дзве кнігі і тры кампакт-дыскі.

«Гэта раманы «Сладкіе слёзы» і «Падарак первай ночы» з серыі «Карманная жэнская сказка» ды музычныя зборнікі «Лучшые песні кафэ», «Лучшый танцпол усех народаў» і «Лучшэ адзін раз услышаць».

Фэлюсь задаволена працягваў:

«Наколькі я ведаю з расповедаў... эээ... з расповедаў, усё гэта, Дзікун, ты спакойна

пранясеш праз Пункт пропуску «Порт «Чыжоўка» ў выглядзе вясельнага падарунку. І, наколькі я ведаю з расповедаў, калі на даглядзе рэчаў чымсьці з гэтага зацікавяцца, прэзентуй службоўцу адну рэч, але не болей».

Плыт-крэпасць дзядзькі Фэлюся паціху дасунуўся да Таланчынскай выспы. Тут Дзікун і Альгердыч пераселі ў патрульны катар — хуткасны і манеўраны. Наперадзе быў яшчэ ладны кавалак дарогі па вадзе ўздоўж моцна зрэзанага дробнымі затокамі і аблепленага малюпасенькімі выспачкамі берагу. Да вёскі Хадулы. Адтуль ужо Дзікун мусіў ісці пехатою.

У катары схаваліся ад магчымых лішніх вачэй пад брызентавым навесам.

«А цяпер галоўнае, Дзікун. З многімі з Супраціву, а пасля з Падполля, я б не тое што за адну барную стойку не прысеў бы. Я б пад адным пастом лайк не паставіў бы. Тады… калі быў інтэрнэт».

## 5

На пачатку Альгердыч раскрыў Дзікуну імя выведніцы Зулі. Навошта? Расповед пачаўся здалёк.

«Перспектывы гарызантальнага ўзаемадзеяння грамадскіх ініцыятыў у дзяржаўным інфармацыйным полі» — такой была тэма канферэнцыі, якая ладзілася на базе адпачынку ў лясах пад Менскам. Грант на арганізацыю сустрэчы выдзеліў Еўрапейскі фонд глабальнага пацяплення ўзаемаадносін унутры сацыяльных кластараў. Ішоў трэці — заключны — дзень канферэнцыі. Удзельнікаў было крыху больш за дзвесце. Многія ўжо не маглі піць. І есці. Гэта была цудоўная маскіравальная дэкарацыя для таемнай нарады лідараў суполак, якія аб'ядналіся для Супрацiву. Дакладней, спрабавалі аб'яднацца.

База была перароблена з былога дзіцячага летніка. Сярод саснавага лесу былі раскіданыя аднапавярховыя дамкі. Дзе для жытла, а дзе для ўласна адпачынку: більярдныя, тэнісныя, картачныя, кальянныя ды алкагольныя, а часцей тэматычна змяшаныя памяшканні. У адным з такіх дамкоў мусіла пачацца нарада.

— У дзюціках цэны на віскар узняліся, няма сэнсу там затарвацца.

— А я з Камбоджы вярнулася, больш ні нагой, толькі ў Тайланд!

— На Зыбіцкай зусім падурэлі: вустрыцы па дзесяць рублёў за штуку прапаноўваюць.

У більярднай пры кальяне апроч Альгердыча былі Альжбета Сандрыгайла з арганізацыі «Еўрапейскі напрамак» і Раман Пашкавец з «Традыцыі назаўжды». Чакалі яшчэ пяцёх чалавек, а пакуль павольна перакідваліся фразамі. Ад дзюцікаў і адпачынкаў паступова падышлі да старой тэмы дэмакратыі пасля перамогі: як мусіць выглядаць новы грамадскі лад.

— Зразумела, што без фінансавай падтрымкі з Усходу цяперашняй уладзе капец. А падтрымка скончыцца, бо Усход прайграе ў вайне. Значыць, у выніку ўсе гульцы палітычнага поля ў Менску атрымаюць роўныя стартавыя ўмовы ў абнуленай сітуацыі, — кінуў для затраўкі Альгердыч.

— Наша партыя пераможа на любых вольных выбарах, — секануў з-за пляча Раман Пашкавец. — Духоўныя каштоўнасці продкаў, традыцыі здаровых паводзінаў, усяго гэтага бракуе людзям. Таму за намі цягнецца просты народ!

— Ды вы на дазволеную акцыю не можаце і дваццаці чалавек сабраць, — фыркнула Альжбета. — Таму вас і не рэгіструюць.

— Гэта пакуль! Людзі не хочуць напружвацца дзеля дробных імпрэзаў, але як будуць вольныя выбары, то прагаласуюць за нас. А за вас — не, спадарыня Альжбета.

— Чаму? — тон Альжбеты быў паблажлівы.

— Таму што вы прэзентуеце толькі невялікую частку грамадства. Усе гэтыя *айцішнікі*, прадпрымальнікі сярэдняй рукі, якія адкрыта пагарджаюць простым народам, яны, яны…

— Яны сваймі падаткамі кормяць ваш просты народ, — прыпячатала Альжбета. — Большасць, меншасць: плаціш падатак — маеш правы грамадзяніна. Хочаш узяць удзел у выбарах? Плаціш…

— Плаціш эквівалент сярэдняй цаны бутэлькі гарэлкі. Чуў я гэтыя абразлівыя прапановы, вас не падтрымаюць.

— Плаціш адзін працэнт ад папярэдняга гадавога даходу. Выбары праз краўдфандынг. Сабралі грошы на арганізацыю — прагаласавалі. Гэта вельмі чэсна.

Пашкавец няўхвальна пахістаў галавой:

— Падаткі ідуць у бюджэт, з бюджэту — на выбарчую кампанію. Навошта множыць працэдуры, калі людзі давяраюць свае галасы парламентарам?

Альжбета зноў фыркнула:

— Множыць працэдуры — гэта вунь Фларыян наш Корд, ака Альгердыч, прапаноўвае.

— Я прапаноўваю ў выпадку нашай перамогі пачаць з чыстага ліста. Твая сучасная заходняя дэмакратыя, Альжбета, можа прывесці да таго, што зноў абяруць тую ці іншую дыктатуру, як гэта было ўсю гісторыю Менску. А мы прапаноўваем сістэму майстроўняў. У адрозненне ад партыяў, якія збіраюць палітычных адзінадумцаў, мы прынцыпова запрашаем людзей, вельмі розных у іхных занятках і поглядах. Галоўны крытэр адбору — чалавек мусіць быць свабодным. У мысленні і дзеяннях, якія скіраваныя на стварэнне, а не разбурэнне.

— Надта абстрактна, — фыркнула Альжбэта.

— Так, на моманце ўваходу ў майстроўню дэмакратыі для канкрэтнага чалавека няма. Мы ацэньваем кандыдата, абмяркоўваем і галасуем. Прычым «за» мусіць быць ад дзевяноста працэнтаў усіх, хто мае права голасу. І вось толькі калі цябе прымаюць, ты трапляеш у валадарства дакладна прапісаных законаў. Унутры майстроўняў дэ-

макратычныя працэдуры вытрымліваюцца дасканала. Што бывае не ў кожнай партыйнай дэмакратыі.

Альгердыч узняўся і пачаў наварочваць кругі вакол більярднага стала.

— А пакуль што я бачу іншую праблему, звязаную з нашым заўтра і пазаўтра. Мы з вамі абмяркоўваем, як будзем змагацца са зброяй у руках. Больш за тое, мы ўжо змагаемся ў Супраціве, мы здабываем інфармацыю, якую зможам выкарыстаць падчас актыўных баявых дзеянняў. А вось там, — Альгердыч кіўнуў галавой у бок будынку з канферэнц-залай, — ёсць нашы фармальныя паплечнікі, якія ведаеце як адрэагавалі на маю прапанову сыходзіць пад зямлю? Яны сказалі: «Фларыян, гэта крутая ідэя! Ужо ведаеце, як прафінансаваць праект? Краўдфандынг, донарская дапамога фондаў, КСА?..» КСА! Я дазнаўся пра гэтую абрэвіятуру. Карпаратыўная сацыяльная адказнасць: прыватны бізнес выступае спонсарам сацыяльна ці культурна значнага праекту. Мне сказалі: «Трэба пісаць заяўку на грант. Зробім серыю перформансаў пад назвай «Мы сыходзім у падполле!». Галоўнае — дакладна сфармуляваць, супраць чаго мы пратэстуем».

Альгердыч ударыў кіем па шары.

— Яны нават не адразу ўзгадалі, што менавіта для нас непрымальнае ў сучаснай грамадска-палітычнай сітуацыі. Супраць чаго мы арганізавалі Супраціў. Кажуць: «Ээээ… Мы супраць вайны? Супраць таго, што сусед з Усходу нас уцягвае ў вайну? Аааа… Супраць таго, што наш урад не можа ўцямна агучыць, на чыім баку выступае… І навошта нам класціся пад танкі?» «Так, — кажу, — прыблізна так».

— Гэта хто? — змрочна ўдакладніла Альжбета.

— Гэта Вальжына і Юстына, — актывісткі твае любімыя. Чым яны адрозніваюцца ад бабулек у райцэнтрах, якія па старой звычцы набралі запалак і солі і рыхтуюцца перасядзець-перачакаць?

— Лекамі трэба запасацца, без солі пражыць можна, — важна сказаў Пашкавец.

— Так, — адказаў Альгердыч, — асобная тэма пра тое, што і бабулькі і генералы рыхтуюцца да мінулай вайны. Але. Я пра іншае. Пра тое, што ў новым свеце, у якім мы возьмем уладу, важна да галасавання не дапускаць людзей без здатнасці да самастойнага мыслення. Вальжыну з Юстынай ці браць

у грамадзяне? Паглядзім. Яны маладыя і могуць змяніцца. У кожным разе, у крытычнай сітуацыі, калі пачынаецца гармідар, не трэба агітаваць за сваё абсалютна усіх, а трэба шукаць толькі адзінадумцаў, каб разам з імі выстаяць. Таму цяпер, калі крытычная сітуацыя дыхае ў патыліцу, я прапаноўваю зацвердзіць сістэму майстроўняў як матрыцу будучага палітычнага жыцця.

Пашкавец катэгарычна махнуў рукой:

— А ў новай сістэме ачольнікам грамадства будзеце вы, спадар Корд?

— Як атрымаецца, але я, не я — гэта дэталі. Важны прынцып: хто выбірае, — Альгердыч зрабіў націск на слова «хто».

Прысутныя катэгарычна адмовіліся нават абмяркоўваць прапанаваную Альгердычам тэму. «Чым яны лепшыя за нас са сваймі майстроўнямі?», «А суддзі хто?», «А чым свабодны адрозніваецца ад несвабоднага?».

Альгердыч распавядаў, як на нарадзе на базе адпачынку ўдзельнікі звыкла цягнулі коўдру на сябе. Нацыянальныя дэмакраты, «почвеннікі-простанароднікі», кшталту лібералы, якім было ўсё роўна, якая ўлада, юрысдыкцыя чыёй краіны, акупацыя — не акупацыя. «Ім усё роўна, за каго адчуваць

сябе вышэйшымі», — з агідай узгадваў Альгердыч.

— Дык вы з майстроўнямі таму і пакінулі горад, што не хацелі працягваць спрэчак?

— Так. Як толькі скончылася грамадзянская вайна, і горад падзяліўся на Менск і Горад-Герой, мы ў майстроўнях вырашылі, што прасцей сысці. Чыя партыя урэшце перамагла ў Менску, мы не ведаем.

Альгердыч вярнуўся да гісторыі пра нараду на базе адпачынку.

Зазваніў смартфон.

— Зуля едзе! — выгукнуў Альгердыч пасля кароткай размовы.

— Колькі маем часу?

— Пяць хвілінаў!

— Гамон нарадзе…

Але Зуля прыехала цвярозая і злавесна ціхая. «Яны прыдумалі абсалютную зброю», — паведаміла выведніца. — «Ціцюкін і Кароль займелі доступ да нейкай зброі, не збіраюцца займаць чыйгосьці боку ў вайне і ведаюць, як абароняцца».

## 6

Тым часам у лобі-бары галоўнага корпусу тэлевізар распавядаў пра незвычайную астранамічную з'яву, якую ў канцы месяца змогуць назіраць усе жыхары планеты. А менавіта — сярэдніх памераў шалёны астэроід, які праляціць блізка ад Зямлі. Тэлевізар казаў, што такіх заблукалых астэроідаў чалавецтва за ўсю гісторыю бачыла вельмі мала, і нашаму часу пашанцавала. Тэлевізар пераконваў, што карцінка будзе ідовішчная.

Зрэшты, за навінамі астраноміі мала хто сачыў з прысутных у бары, добра забітым наведнікамі. Спадар, які назваўся Віктарам, забаўляў дзвюх дзяўчат камічнымі гісторыямі з уласнага жыцця. Вальжына і Юсця хіхікалі, не забываючыся глытаць кактэйлі. Віктар пачаў новую гісторыю:

— Пайшоў я да псіхатэрапеўта. На мяне накаціла штосьці накшталт дэпрэсіі. Як патлумачыць… Мяне перасталі цікавіць бабы. Соры, кабеты. Не ў сэнсе, што я на мужыкоў пераключыўся, а ў сэнсе, што нейкая апатыя. Думаў, можа, захварэў, пахадзіў па дактарах, кажуць — здаровы як вол. А настрою няма, упаў настрой.

Пазваніў адной сваёй колішняй падрузе, думаў, правераны варыянт. Хто-хто, а Светка падыме ўсё што хочаш. А яна, блін, замужам ужо. Мы ж толькі тры месяцы таму бесперапынна трахаліся ў яе на лецішчы!

Але Светка дала нумар сваёй знаёмай — Кацярыны, псіхатэрапеўткі. Дваццаць баксаў — патрындзець гадзіну. А ў мяне грошы былі, у нас добры аб'ект пайшоў на будоўлі. Пазваніў, прыйшоў.

Высокая шатэнка з карымі вачыма. Невялікія грудзі, крэпкія сцёгны. Доўгая спадніца, што ўжо сталася рэдкасцю, такі фасон. А я люблю доўгія спадніцы — таямнічасць. Яшчэ каб абцасы. І нармальныя пазногці. У сэнсе, не нарошчаныя, а натуральныя. Я калі бачу вычвар з пазногцямі, стаўлю на кабеце крыж адразу. Мне не патрэбныя спрэс інтэлектуалкі, але цалкам тупых не люблю.

Так і так, «сядайце, распавядайце». Я акрэсліў праблему. Яна спыталася пра патэнцыю. Кажу, з патэнцыяй усё ў парадку, у душы — сум і пустэча. Папрасіла пачаць як мага здалёк. Ну я і пачаў. Як адразу пасля школы паехаў у Нямеччыну бамжаваць з панкамі.

У Нямеччыне ў мяне дзевак маладых было — ууу. Я налічыў дваццаць пяць нацыя-

нальнасцяў, якія прайшлі праз мае рукі. Гэта калі не браць да ўвагі ўласна немак. Пасля вярнуўся ў Менск. Пачалося з Танькай. Яшчэ дзесяць гадоў жыцця. Разышліся з Танькай. Не тое каб зусім, але як пара. Урэшце ў аповедзе дайшоў да Аксанкі, сяброўкі Танькі.

Аксанка выказала мне прэтэнзію, што, маўляў, я хаджу да яе, а бачу перад сабой Таньку. Так яна адчувае. А яны з Танькай з аблічча вельмі падобныя. І сябравалі ажно з дзяцінства. Манера гаварыць падобная, жэсты. Неяк пасля сексу Аксанка кажа мне: «Што, Мао, трахаеш свае ўспаміны?» У сэнсе, пра Таньку ўспаміны.

Кажу, разумееце, Кацярына, Танька — мая былая. Толькі не проста былая, а сапраўдная, адзіная. Я да яе хаджу часам, і яна мяне прымае, хоць мае нейкіх новых мужыкоў, і ўжо два разы разведзеная. Мы ж даўно пазнаёміліся. Але аднойчы я зразумеў, калі вяртаўся ад Танькі, што я не да былой хаджу. Я да сябе былога хаджу.

«Прабачце, — перабіла Кацярына. — Да Аксаны — каб «трахаць свае ўспаміны пра Таню», а да Тані — каб узгадаць сябе былога? А нельга сумясціць з адной кабетай, напрыклад, з Таняй?»

«Нельга, — кажу, — Таня — асобна, я — асобна. Мы ж розныя людзі. Таню я люблю як Таню, а сябе люблю ў сваім пачуцці да Тані».

Кацярына ўзнялася, абышла фатэль, у якім я сядзеў, паклала мне пальцы на плечы і пачала іх паціху масіраваць:

— Закрыйце вочы, расслабцеся. Здаецца, я магу вам дапамагчы.

Мао запаліў, выпусціў струмень дыму, тэатральна ўзняў вочы ўгару, зрабіў яшчэ зацяжку, а пасля рэзка пасунуўся ўсім тулавам наперад, змоўніцкі прыжмурыўся і хутка замалаціў словамі:

— На трэцім сеансе з Кацярынай я зразумеў, што было не так з усімі маймі папярэднімі кабетамі: яны ўвесь час чагосьці ад мяне хацелі. Я ўвесь час штосьці мусіў, быў абавязаны, заўжды было пачуццё віны, што раблю штосьці не так ці недарабляю штосьці. А з Кацярынай было інакш. Яна пачынала, а я пасля працягваў. А пасля мы разыходзіліся без абяцанняў і чаканняў, задаволеныя адзін адным.

— У сэнсе пачынала? — перапытала Юсця.

— Секс. Чысты секс без абавязкаў, без неабходнасці казаць нейкія ціпа пяшчотныя словы.

— Віктар, дык за грошы ж! — адначасова выгукнулі Вальжына і Юсця. — У вас упершыню быў секс за грошы!

— Э, не, з прастытуткамі я таксама трахаўся. Там пакуль яе дзярэш, яна на гадзіннік глядзіць. Тут было інакш — тэ-ра-пі-я.

Дзеўкі рагаталі не спыняючыся.

— Згодная, — праз слёзы ад смеху казала Вальжына, — не прастытуцыя, а тэрапія. Толькі для Каці. За вашы ж грошы ёй тэрапія.

— Але мне дапамагло! — абурыўся Віктар.

Дзеўкі рэзка сціхлі.

— А гэта галоўнае, — сур'ёзна кіўнула Юсця. — Вы пасля не бачыліся?

— Не, грошы скончыліся. Пайшла няпруха з аб'ектамі. Але я, што хацеў, атрымаў, жыццё наладзілася. Я, праўда, званіў, запрашаў на каву капучына, усё такое, але Кацярына кожны раз адказвала, што вельмі занятая. І я веру, што занятая. Яна дзелавая кабета, сто працэнтаў.

Віктар павярнуўся да бармена і заказаў дзяўчатам яшчэ па кактэйлі.

— Я неяк тырчэў на адным эратычным ўэбкам-сайце. Усе ў курсе, што такое? Можна было зайсці на сайт і ў рэальным часе назіраць за кабетамі, трансамі, мужыкамі,

парамі. Усялякія камбінацыі сексуальных гульбішчаў на кожны густ. За грошы яны розныя фокусы паказвалі з дапамогай сваіх геніталіяў. Дык вось, лазіў я па тым секс-чаце, а тут рэклама ўсплывае: «Элітны салон псіхалагічнай тэрапіі «У Кацярыны». Клікнуў па спасылцы. Тэкст: «Кансультацыя доктаркі псіхалагічных навук Кацярны Войт». Аздоблена ўсё голымі бабамі і *дзілдамі* рознымі. Думаў запісацца на прыём, але ж бабкі ўжо скончыліся. Ну як… У сэнсе, былі, але я за такія грошы трох дзявах увесь вечар магу паіць у сябе на кватэры…

Вальжына і Юсця паглядзелі на свае кактэйлі, пераглянуліся і пырснулі смехам. Віктар працягваў з сур’ёзным выглядам.

— І вось іду я ўчора па Падгорнай, думаю пра канферэнцыю, пра Супраціў, іду і раптам чую: «Віктар, Віктар!» Йолы-колы — на століках «Café de Paris» сядзіць Кацярына! Пачаставала мяне філе тарбо з крэмам з белай хвасолі і грыбамі, мідыямі «муль марыньер», рыба́й-стэйкам «Блэк Ангус» з соўсам «Віскі». І, уласна, віскаром, вядома ж, ужо не памятаю, якім, розным, здаецца.

«Я, Віктар, бязмежна вам удзячная, вы змянілі маё жыццё. Я пасля нашага раз-

вітання была вельмі занятая, а пасля не магла вас адшукаць. Мой бізнес выйшаў на высокі ўзровень — дзякуючы вам. Я б вельмі хацела вам аддзячыць. Калі жадаеце, магу ўзяць вас партнёрам у свой бізнес за працэнт ад прыбытку. Мне падаецца, што ваш патэнцыял не раскрыты. І што я магла б з вашай дапамогай пашырыць спіс псіхатэрапеўтычных паслуг для жанчын».

Я спачатку ўзрадаваўся: нічога сабе — хобі можаператварыцца ў прафесію! Але ў выніку мы амаль увесь час размаўлялі пра адну вялікую пагрозу, якая насоўваецца на ўсіх нас — III сусветная вайна. Я патлумачыў Кацярыне, што вельмі хутка большасць бізнесаў станецца бессэнсоўнымі, асабліва тыя, што прынцыпова прывязаныя да інтэрнэту.

— Дык чым скончылася? — нецярпліва спыталася Юсця.

— Скончылася тым, што Кацярына бярэ на сябе фінансаванне першага атраду, які спусціцца пад зямлю.

— ?!!

— Складайце спіс неабходных рэчаў і каштарыс мінімум на бліжэйшы год. Бяжыце шукайце Альгердыча. На закупы маем тры дні.

Так пачалося Падполле.

Усе плыні, якія заснавалі Супраціў, у Падполле пайшлі паасобку, без каардынацыі дзеянняў. А праз тыдзень пасля таго, як першыя атрады спусціліся пад зямлю, грымнула ІІІ сусветная вайна. Праўда, цягнулася яна яшчэ карацей, чым прагназавалі ў Супраціве. На Усходзе вырашылі збіць шальны метэарыт. Прычым так, каб ён ляснуўся на Амерыку. Але штосьці наблыталі, ці дзяжурны афіцэр быў п'яны, ці маладыя спецы не так разлікі зрабілі, карацей, метэарыт ляснуўся роўна на сталіцу Усходу.

Так адбыўся Вялікі Выбух.

«Гэта было дзіўнае адчуванне пасля Вялікага Выбуху — раптам усе вызваліліся ад глабальнай небяспекі, — распавядаў Альгердыч. — Пагроза ІІІ сусветнай ціснула мільярдам людзей на нервовую сістэму. І вось раптам бац — як у тым анекдоце, калі мужчына думаў, што ў яго СНІД, а выйшаў ад лекара шчаслівы: «Усяго толькі сіфіліс!»

Прынамсі, такой спачатку падавалася розніца між ядравай вайной і прыроднымі катастрофамі: мегаземлятрусам і следам мегацунамі, якія пазмывалі мільёны і мільёны людзей па ўсіх узбярэжжах Зямлі. Менску, як звычайна, пашанцавала — абышлося

малымі ахвярамі. Здавалася, што праскочылі глабальную катастрофу, якая пагражала татальным знішчэннем усяго жывога.

Здавалася, пакуль не пайшла вада. Вялікая Вада.

***

«…Перэжывём, перэжывём, усё как нада будзет у нас!..»

Дзікун уздрыгануўся. Гук песні ішоў з усіх бакоў. Людзі ў чэргах стаялі як стаялі, службоўцы ў камуфляжы павольна працягвалі работу.

— Наканец пачынілі мацюгальнікі, — сказаў сам сабе даглядчык і паглядзеў Дзікуну проста ў вочы.

Два службоўцы моўчкі паставілі Дзікуна на расцяжку, абшманалі і добразычліва спыталіся: «Што вязем?»

## 7

— Гаі.

— Кругі.

— Малыя Ляды.

— Чарнаградзь.

— Новыя Зялёнкі.

— Лугавая Слабада.

Пасажыры называлі населеныя пункты, з якіх прыбылі.

«Гаі, Гаі… Гэта ж адтуль белабрысы Арцём! А дзе ён сам?» Дзікун агледзеўся і ўбачыў свайго новага прыяцеля ў суседняй чарзе. З Арцёмам пасябравалі ў першы дзень падарожжа, якое заняло два тыдні. Мужыкі, а пасажыры пераважна былі мужчыны, ад няма чаго рабіць травілі байкі. Напрыклад, пра тое, што самы багаты на здабычу горад — Жодзіна. Што там на БелАЗе не ўсё разрабаванае, бо завод, які тырчыць з вады, ахоўваецца зграяй людажэраў. Арцём і Дзікун засмяяліся адначасова, так і пасябравалі. А смяяліся, бо пра людажэраў проста глупства: ежы паўсюль самай рознай — мноства. І пад вадой і на зямлі. Кінь хоць што, плюнь зверху і збірай па тры-чатыры ўраджаі цягам года.

На КПП Дзікун бачыў, што кожны прыбылы мусіў цалкам выкласці на сталы даглядчыкаў свае рэчы. А багаж амаль ва ўсіх быў аб'ёмны. Яно зразумела: зрабіць такое вялікае, каму на тыдзень, а каму на два, падарожжа да Горада-Героя з пустымі рукамі? Не варыянт. Бо ехалі збольшага гандляваць. На про-

даж везлі ўпаляванае. Хто што. Чарапашыя лапы, вушы балотнага зайца, багата хто вёз мяса вадзяных выдраў — відаць, развялося ўздоўж былой трасы М4 Менск — Магілёў. Рыбы рознай. Усё сушанае, вэнджанае, вяленае, засоленае.

Шмат цягнулі нашуканага ў кінутых вёсках. Ад спадарожнікаў Дзікун пачуў, што ахвотней за марскія далікатэсы на рынку ў Горадзе-Герої бяруць спраўныя дэталі да камп'ютарнай тэхнікі. А таксама інфармацыю на любых носьбітах.

Арцём, былы магілёўскі хлопец, а цяпер жыхар адной з супольнасцяў Талачынскай выспы, сказаў, што гэтыя, хто травіць байкі пра людажэраў, былі кур'ерамі бандыцкіх груповак. Яны перапраўлялі ў Горад-Герой плаціну, золата і срэбра, адшуканае ці нарабаванае па кінутых паселішчах, і збывалі проста на КПП «Порт «Чыжоўка» даглядчыкам.

Арцём казаў, што паводле закону Горада-Героя прыбылы на КПП мусіць дэклараваць каштоўныя металы і камяні і адразу на месцы прадаваць уладам за смешныя грошы. Кошты адрозніваліся ад рынкавых у дзесяць разоў. А бандыты збывалі службоўцам за пяцьдзясят працэнтаў ад рынкавых.

Пасля ўсё аддавалася начальству, якое тавар перапраўляла кантрабандай у Менск. «Што такое драгметалы? — тлумачыў Арцём. — Гэта ж праваднікі, вытворчасць. А дзе вытворчасць? У Менску».

Фарватар баржы быў нязменны ўжо гадоў дзесяць: порт «Чыжоўка» — Пячэрскі парк. Парк — гэта частка з таго, што засталося ад Магілёва над вадой. Фарватар ішоў не наўпрост, вядома, а як пашанцуе. Залежала і ад нябёсаў у простым і пераносным сэнсе. І ад вады.

Даглядчык рэчаў прапусціў міма ўвагі простыя пажыткі Дзікуна і спыніўся на дысках і кніжках. Заявіў, што сумняецца ў іх змесце і мусіць аддаць на экспертызу. Васілічу. Так і сказаў — «на экспертызу Васілічу».

«Кожная з гэтых рэчаў каштуе не менш за тысячу іхных фанцікаў, — настаўляў дзядзька Фэлюсь перад дарогай. А зняць жытло — да дзесяці фанцікаў за дзень… як іх грошы завуцца, забыўся, мне казалі… забыўся. Кніжкі і дыскі — твая галоўная валюта».

— Дык вазьміце адно што, — досыць галасна прамовіў Дзікун. Гэта была ягоная памылка. Трэба было ціха падсунуць.

Даглядчык ажно падавіўся доўгай пляскатай чыпсінай, падобнай ды шырокай лінаркі:

— Узятка?! Пры іспалненіі? Ды я вас задзяржу да выясьненія!

«Трымайся за поручні!» Дзікун паўгадзіны як адчуваў, што насоўваецца катастрофа, але не мог яе ідэнтыфікаваць. У школе ён праходзіў сярод іншага і слова «хабар», прычым на розных мовах, але ў жыцці ніколі не сустракаўся з хабарам хоць у якой праяве. У дзікуновым багажы формул небяспек такой з'явы не было. Зрэшты, увесь ангар поўніўся незнаёмымі небяспекамі — чалавечымі небяспекамі.

— Камандзір, бліндэр буду — не забуду. Ды прасьці хлопца. Відна ж, што нямесны. Шчанюк худы нейкі з далёкіх хутароў. Я з ім сунуўся разам.

Дзікуна бараніў каржакаваты мужык гадоў пяцідзесяці на выгляд. Цемнаватыя валасы, усмешка ад вуха да вуха, як у жабяняці, нахабнаватыя вясёлыя карыя вочы. На плячы — татуха: тэўтонскі рыцар на кані анфас са шчытом і дзідай наперавес. На баржы разам з Дзікуном мужыка не было.

— Немец, я і цібя задзяржу, — ужо менш агрэсіўна прамовіў службовец. — Ты з дачы са сваёй?

— Пятровіч, ганялі з дружкамі-піражкамі на воднае сафары.

— І як яно?

— Нармальны боршч, усё атрымалася. Хоць там такая макля — хер угадаеш, на што лавіць. Мы далёка не хадзілі, туды, дзе Рудзенск быў. Да Узлянаў на баржы, а там хлопцы яхту трымаюць. Дык за год чаго толькі новага не напрыпаўзло ў ваду! Нават трох акіянічных чарапах бачылі. А мы марскога вугра завалілі. Больш дакладна, я са стрэльбы пацэліў яму проста ў вока. Ён, бляха, як конь, упяцёх на палубу цягнулі. Я, як растаможу, зайду да цябе, угашчу.

У гэтае імгненне пачалася бойка ў суседняй чарзе. Службовец Пятровіч буркнуў «ідзіце» і кідануўся на дапамогу сваім калегам. Дзікун заўважыў, што з кімсьці з пасажыраў біўся белабрысы Арцём.

Вартавы каля шлагбауму пры выхадзе з пункту пропуску адным вокам спрабаваў угледзець, што там за валтузня ў прыцемках ангару, другім — глядзеў у паперы Дзікуна.

Урэшце намаляваў на аркушах нейкія лічбы і папярэдзіў:

— З такім, як у вас, прыглашэніем вы абязаны жыць ісключыцельна ў гасьцініцы «Турыст». Сьпіце гдзе хаціце, хоць пад лаўкай на вуліцы, но засяліцца і аплаціць пражываніе вы далжны ў «Турысьце».

Паўза.

— Аплата прыбываніія ў Горадзе-Герое пасутачная. У «Турысьце» вам пакажуць расцэнкі, но лучшэ бярыце абанямент.

Службан зашпіліў на левым запясці Дзікуна пластыкавы бранзалет сіняга колеру:

— Гэта знак таго, што вы турыст. Здымаць нільзя.

— А калі раптам зляціць…

— Тады хтосьці абавязкова вам падкажа. Іначэ пазнаёміцеся з усёй строгасьцю справядлівасьці. Праходзім.

Прайшлі.

— Дзякуй вам…

Немец ляснуў Дзікуна па плячы:

— Ну ты чуць не папаў… Як хер у рукамыйнік. Я гэтага шлёцэка Пятровіча знаю, ён мог шкоды табе нарабіць. Ладна, давай, старычок, чахлі паршнямі. І галоўнае ты тут не бэзай… У смысьле — ня сцы. Асвоішся.

Пайду, мае рыбачкі ўжо на хоздвары растамажваюцца.

## 8

І вось ён перад табой — Горад-Герой, Горад-Маладзец, Горад-Так-Дзяржаць, Горад-За@бісь! Дзікун не сам прыдумаў жарт — пачуў ад Альгердыча, калі той даваў інструктаж па геаграфіі і тапаніміцы Горада-Героя.

«Мы не ведаем дакладна, наколькі яно там усё змянілася пасля землятрусу і міжусобнай вайны. Але лініі вуліцаў мусяць захавацца. Як вуліцы завуцца, па-новаму ці па-старому, ці так і так, мы таксама не ведаем. Але старыя назвы мясцовыя мусяць памятаць, — інструктаваў Альгердыч. — Вось тут Свіслач выцякае з былога Чыжоўскага вадасховішча. Дамбы больш няма, а рака сталася карабельнай. На набярэжнай каля скрыжавання вуліцаў Ташкенцкай і Машынабудаўнікоў — цяпер порт. А Свіслач і Цнянскі канал, які ўпадае ў Чыжоўскае вадасховішча, ці мора ўжо, разліліся ва ўсе бакі. На дзясяткі і сотні метраў».

Дзікун агледзеўся.

— Інфа, інфа! Інфармацыя!.. Старыя жалезныя рублікі, менскія баксы, іншамарачкі!.. Хлопец, інфармацыю прадаеш? Валюту мяняеш?

Дзікуна атачыла зграйка мясцовых жыхароў розных полаў і ўзростаў. Але зразумеўшы, што прыбылы нічым не збіраецца гандляваць, зграйка кінулася да наступных, хто выходзіў з КПП. Адразу за зонай кантролю пачынаўся стыхійны кірмаш, біржа і аўкцыён у адным флаконе.

Дзікун павольна прынюхваўся да прасторы. Прынюхваўся — гэта на слэнгу бачуноў. Дзікун прыслухоўваўся да сябе і маляваў у галаве карціну небяспек, якія былі наўкола. Жаданне падмануць — практычна ва ўсіх. Фонавая небяспека, без акцэнтаў на чымсьці ці кімсьці канкрэтным. Харчы, раскладзеныя на латках гандляроў ці проста на старым бетоне. Няўлоўна знаёмая небяспека, якая зафіксаваная ў каталогу памяці Дзікуна. Што прадаюць?

Чыпсы ў поліэтыленавых, мытых-перамытых, шмальцаваных-перашмальцаваных кульках. Дранікі — гарачыя і «зараз падагрэем». Печаная бульба, вараная бульба. «Падыходзь, шаноўны! У мяне найлепшы

гатунак!» Мяхі з сырой бульбай. На першай лініі ад выхаду з Пункту пропуску «Порт «Чыжоўка» мясцовыя гандлявалі толькі вырабамі з бульбы ці самім караняплодам.

Ад бульбы сыходзіў сігнал небяспекі. Дзіўны сігнал. Дзікун ведаў формулы атруты. Не, тут нармальны ўежны прадукт. Дзікун ведаў формулы драпежных раслінаў. Не, гэтыя плады дакладна нікога не зжаруць. Дзікун ведаў формулы наркатычных раслінаў і грыбоў. Не, ад бульбы не было хоць якога сігналу пра шкоду для арганізму чалавека. Тым не менш, бульба была катэгарычна забароненая ў Добрым Месцы.

Усіх першаклашак на пачатку навучальнага года везлі на поўнач выспы Новая Зямля ў вёску Малое Сітна, дзе мясцілася закрытае сховішча небяспечных рэчаў і рэчываў. Дзецям дэманстравалі бульбу. І расліну, і плады. «Убачылі? А цяпер запомніце: ні пры якіх акалічнасцях нават рукамі не чапаць гэтай штукі». «Не каштуй ні ў якім разе!» — як першакласніка заклінаў Альгердыч, выпраўляючы Дзікуна ў падарожжа.

Многія пасажыры баржы хутка, відавочна мэтанакіравана, падыходзілі да развалаў з бульбапрадукцыяй, рабілі абмен ці плацілі

грашыма, і вярталіся назад у порт, каб паспець на найбліжэйшы рэйс назад. Расклад воднага руху ў порце быў хаатычны. Разнамасны плывучы транспарт стаяў прышвартаваны і чакаў кліентаў. Набралі — стартанулі. Баржы, катары, яхты самых розных канструкцыяў. «Гэта Менскі карабельны завод вырабляе з усялякага металічнага ламачча, якое пастаўляе Горад-Герой», — патлумачыў Дзікуну белабрысы Арцём, яшчэ як заходзілі ў порт.

Але шмат хто кіраваўся ў адваротны ад порту бок. Неслі свой тавар да перакупнікаў, забіралі грошы і рушылі далей у Горад-Герой — на забавы.

Дзікун прайшоўся ўздоўж рынку, які канчаўся агароджай са стужак, размаляваных надпісамі «стой!». Далей быў плот са сталёвых кратаў, а за плотам было бачна, як грузяцца вялікія аўтамабільныя фуры з надпісам на бартах «Miensk-Tranzit».

— Відзіш, сукі якія. Па-англійскі пішуць. Мы, ціпа, для іх інастранцы-інасранцы.

Побач з Дзікуном адзін дзядзька нібы мармытаў сабе пад нос, але насамрэч відавочна хацеў завязаць размову. «Гэта не па-ангельску, а лацінкай». Дзікун пакінуў думку пры сабе.

Дзядзька дзёр бетон доўгім кіем са скрабком на канцы. Бетон быў увесь у выспачках лішаю сіне-зеленавата колеру. «Бл@дскі лішай», — сказаў дзядзька, нібы паставіў кропку ў дыягназе. На дзядзьку была надзетая карычневая камізэлька.

— Бачыш, на нашых МАЗах ездзяць. З нашага ж гаўна выробленым газам запраўляюць…

Паркан аўтамабільнага заводу МАЗ быў адносна недалёка. Былі бачныя вершаліны комінаў высокіх заводскіх цэхаў — суцэльнае кубло з разнастайнай расліннасці. Падавалася, што расліннасць шаволіцца. Відаць, вецер уверсе. Бо тут, ля зямлі, быў поўны штыль.

Дзікун не схаваў здзіўлення ад словаў «з нашага гаўна».

— У смысьле, са сьвінячага гаўна, канечне. У нас сьвінакомплекс о-го-го! Там такія аб’ёмы штодня выробляюцца!

Дзядзька прызадумаўся.

— А добра, што вецер толькі ў адзін бок дуець — на васток.

«Ага, вецер наверсе ёсць».

— Ужо трыццаць гадоў як толькі ў адну старану. А як бы сюды з таго сьвінакомплек-

су падзьмула?! Ого!.. Што было б! Сьвінакомплекс у пасёлку Гатава. Але ж ты ня знаеш, дзе-та ёсьцека? Ты ж не мясцовы, глядзіш вакруг с удзіўленьнем. Смалявічы?

— …

— Далей?

— З-пад Магілёва.

— Ого. Разнае гаварат пра то, што там далей. Выспы нейкія, а не астравы, ці як? Сядзяць, ні з кім ні дружаць, нікаго да сябе ні пускаюць. Праўда? — Дзядзька забыўся на ненавісных уладальнікаў МАЗаў і «наша гаўно» і ўважліва чакаў адказу.

«Ты там асабліва нікому не давярай. Праўду з іх і трыццаць гадоў таму выцягнуць было немагчыма, не думаю, што цяпер сталася лепей, — інструктаваў Альгердыч перад экспедыцыяй. — Стучалі адзін на аднаго тады, то й цяпер асцерагайся».

— Ух ты, дзядзька, а што такое там грузяць у тыя фуры?! — пераводзіў тэму Дзікун.

У фуры грузілі дары мора. А яшчэ дары мангравых балотаў. Найперш старых знаёмых, лічы з дзяцінства, шаблязубых зайцоў-плывунцоў. Дакладней, іхныя гіганцкія вушы — найбольш каштоўны далікатэс. Сотні вушэй, запакаваных і складзеных штабялямі.

— Сукі, буржуі, — дзядзька далей шмараваў асфальт і бурчэў, не гледзячы за плот. Сплюнуў на толькі што вычышчанае немалымі высілкамі месца і пачаў заціраць па новай.

Тым часам у другую фуру пачалі грузіць гіганцкіх зубастых крэветак. «Усё вакол зубастае, а ты не губляйся», — казаў Альгердыч Дзікуну ў дзяцінстве ў школе.

Дзікун выйшаў за браму і ўгледзеўся ў пляцык перад рынкам. Калі меркаваць паводле мапы, калісьці тут быў аўтамабільны разварот на сутыку Ташкенцкай, Крупскай, Свіслацкай і Кабушкіна. Першыя тры вуліцы былі пад вадой, пляцык уяўляў з сябе паўвыспу.

— Г'ру, міняеш чаго? — да Дзікуна прычапілася бабуленцыя.

«Ты, галоўнае, з рук нічога не мяняй. Марына ўсё арганізуе бяспечна», — настаўляў Альгердыч.

— Таксі, таксі, каму ехаць?!

Дзікуна ўразілі як веларыкшы, пра якіх ён чуў у школе на ўроках сусветазнаўства ў звязку з гісторыяй Паўднёвай Азіі, гэтак і тое, што трохколавыя ровары былі абсалютна новыя. Дзікун наагул ніколі ў жыцці

не бачыў новай тэхнікі, толькі рамантаваную ці сабраную з розных дэталяў. На пляцыку таксавалі ўладальнікі тузіну двух-трохмясцовых ровараў, пяці вазоў, запрэжаных коньмі, і аднаго аўтамабіля.

«Volkswagen Passat B5» важна стаяў на самым бачным месцы. «Бензін і дызель тэарэтычна мусяць захоўвацца на выпадак вайны, — казаў Арцём. — Але ўсе ездзяць на газе. Сыравіна са свінакомплексу ў Гатаве пастаўляецца за мяжу — у Менск. Адмысловым пуцеправодам перапраўляецца. Гаўнатрубой у народзе завеццам. Там перапрацоўваецца і вяртаецца ў Горад-Герой у выглядзе паліва».

Дзікун прыслухоўваўся-прыглядаўся да панарамы патэнцыйных небяспек. Як і на рынку, тут, на пляцыку, новых невядомых мадыфікацыяў не было. Клімат падаваўся ўстойлівым і лагодным. Фанілі толькі людзі. Устойлівымі стандартнымі пагрозамі дробнага ашуканства.

Вока Дзікуна зачапілася за надпіс «Пункт прыёму інфармацыі» на будаўнічай бытоўцы з закратаваным акенцам пасярэдзіне ўваходных дзвярэй. Побач стаяў крыты грузавік. На баку ледзь чыталіся літары

«Аўталаўка». Колы ў грузавіка былі спушчаныя. І моцна іржавыя. Зрэшты, як і ўсе металічныя дэталі наўкола, куды ні зірні.

Побач з «Аўталаўкай» таўкліся мужыкі. Разбіліся на некалькі групак, усіх разам чалавек дзесяць-дванаццаць. Мужыкі трымалі ў руках зрэзаныя зверху пластыкавыя бутэлькі з нейкай вадкасцю. Дзікун падышоў бліжэй да пункту прыёму інфармацыі, каб разгледзіць, што напісана крэйдай на дошцы, прылепленай побач з акенцам.

«Прынімаем у насіленія. Кнігі, кампакты, касеты, флэшкі, вінчэсьцеры. Ацэнка. Торг». Далей штосьці неразборліва змазанымі дробнымі літарамі.

З боку «Аўталаўкі» ішоў роўны гудзёж. З натоўпу выбіваўся голас аднаго пана. «Забыць слова «пан»!» — нагадаў сабе Дзікун. Здаровы, пад метр дзевяноста, крыху паўнаваты, але мускулісты, мужык быў у байцы, берцах, а яшчэ з завушніцай у левым вуху. На носе меў крыху пагнутыя акуляры ў металічнай аправе. На выгляд толькі крыху старэйшы за Дзікуна.

Мужык разважаў пра музыку:

— Ды самыя лепшыя трэкі падкладалі пад порна 1970-х. Пазней толькі там і можна бы-

ло знайсці добрую музыку, пакуль інтэрнэт не накрыўся.

— Табе б які дэпартамент сексуальных расследаванняў узначальваць, — іранічна адказаў суразмоўца.

— Была ў мяне хіпстарка гадоў дзевятнаццаці. Ёй бацькі за трыста еўраў набылі прайгравач для вініла. Для вініла! За трыста еўраў! Прычоску насіла а ля 1970-я. А як у ложак мяне зацягнула, высветлілася, што ў яе ў тым месцы паголена. «Што ж ты, — кажу, — дарагая, такая непаслядоўная? Дзе ты бачыла, каб у 1970-я ў нуль галіліся?!» Моладзі не хапае прынцыповасці.

Абодва паківалі галовамі.

— Есьць чо? Давай пасмотрым, я большэ дзенех дам.

Гэта адзін з гурбы ля «Аўталаўкі» намаляваўся перад Дзікуном. На выгляд хліпкі, але вочы ўпэўненыя.

— Йолы-колы, слыш, чокалка, адвалі, не перашкаджай прыезджым! — прыкрыкнуў той, што з завушніцай.

Хліпкі адышоў на пару крокаў і адвярнуўся.

Дзікун працягнуў у акенца кніжку «Сладкіе слёзы»:

— Добры дзень, колькі можа каштаваць?

З акенца выслізнула жаночая рука ў пярсцёнках няпэўнага металу. Рука пакруцілася, старонкі пагарталіся:

— Семсот рашчотных білетаў.

— Мне казалі, што яна каштуе тысячу…

— Васямсот семдзесят пяць. Не нравіцца, ідзі ішчы, гдзе лучшэ.

Дзікун памятаў што праз Марыну выгадае самы лепшы курс, але не хацеў уваходзіць у незнаёмае месца зусім без грошай, таму пагадзіўся. Праз хвіліну ён трымаў у руках вялікі стос банкнот, на кожнай з якіх было напісана «Рашчотны латарэйны білет».

— Слыш, сто працэнтаў шчасліўчыкам будзеш. Дай дробную купюру на развод! — крыкнуў хтосьці з натоўпу каля піўнухі.

Прысутныя відавочна ажывіліся. Цяпер усе глядзелі ў бок Дзікуна.

— Ды адваліце вы ад пацана! — завушнічны пагрозліва бліскануў акулярамі ў бок суседняй кумпаніі.

Раптам Дзікун адчуў вельмі канкрэтную, знаёмую па рэйдах углыб варожай тэрыторыі, небяспеку. Будзе ўдар кулаком у скронь, а пасля нажом пад рэбры.

— Сядай! — закрычаў Дзікун.

Завушнічны нахіліўся і адначасова засунуў локцем назад аднаму з натоўпу. Кулак нападніка прайшоў над галавой і трапіў у твар хліпкага, які ў гэты момант замахваўся нажом.

«Галоўнае там, не лезь нікуды, памятай, што ты па справах», — мільганула ў памяці настаўленне Альгердыча, калі Дзікун зараджаў з нагі хліпкаму. Нож паляцеў у адзін бок, хліпкі — у другі. Завушнічны і Дзікун адбіваліся спіна да спіны. Блок, удар, яшчэ ўдар, яшчэ.

Уся міні-банда, як выявілася, складалася з пяці чалавек. Прынамсі, столькі курчылася ад болю на зямлі, калі праз хвіліну-другую ўсё скончылася. Астатнія прысутныя каля піўняка з павагай адступілі на бяспечную для сябе адлегласць.

## 9

— Мао. Проста Мао. Націск на першы склад. Рознарабочы, грузчык, кур’ер.

— Дзікун. З хутароў за Магілёвам. Прыехаў на вяселле сваячкі.

Паціснулі рукі.

— Ты мне жыццё выратаваў, Дзікун.

Новыя знаёмцы стаялі на трыбуне, якая была часткай п’едэсталу высачэзнага — сяміметровага, не менш, — помніку, які Дзікун заўважыў, яшчэ калі баржа ўваходзіла ў акваторыю Чыжоўскага порту. Помнік мясціўся крыху далей ад пляцыку перад рынкам. З п’едэсталу было добра аглядаць навакольныя краявіды.

Дзікун накладаў мапу, якую запомніў, на тое, што было ў рэальнасці. «Чыжоўка-арэна» і заапарк зніклі пад вадою. Заапарк — цалкам, спарткомплекс — часткова. Кавалак мікрараёну Серабранка, той, што быў уздоўж каналу, быў напалову затоплены. Пад невысокаю вадою таксама былі прытопленыя тры Дзіцячыя завулкі і палова вуліцы Юнацкай.

— Эх, вада пад самы стадыён «Трактар» падышла, — сказаў Мао, нібы счытаў думкі Дзікуна. — Першы раз у Горадзе-Герої? Табе куды? У «Турыст», відаць?

— Ага, першы. У «Турыст».

«…А где-нибудь в вагоне-ресторане / Тебя ласкает кто-нибудь другой / А я люблю, люблю тебя, Алёнка / И я хочу, чтоб ты была со мной…»

Дзікун ужо другі раз за раніцу ледзь не прысеў ад нечаканасці. Мао заўсміхаўся:

— Не баісь, гэта ў мацюгальніках гуку паддалі.

Побач з Мао ўнутраны Дзікуноў сканер небяспекі маўчаў. Ад Мао сыходзіла абсалютная дабрыня. Сіла і ўпэўненасць, спалучаныя з неверагоднай дабрынёю. Вось што ўяўляў з сябе Мао. Дзікун падумаў, што каля піўнухі Мао ўваліў кумпаніі злыдняў з той самай неверагоднай дабрынёю.

— Што за помнік? Ленін? — змяніў тэму Дзікун. Яму было крыху непрыемна, што прадэманстраваў сваю разгубленасць.

— Так. Яго з Менску прыцягнулі. Уяўляеш — з гэтым во пастаментам разам! Вымянялі за стос рэпрадукцыяў нейкага мастака XIX ст., а таксама за тры альбомы рарытэтных марак. Такіх во помнікаў Горад-Герой намяняў на антыкварыят і прадметы мастацтва — о-го-го! Ты пазней пабачыш: увесь Партызанскі праспект падобнымі «ізваяніямі» ўтыканы. Менскія за іх выменьвалі і кнігі, і карціны, і сучасныя на той момант дызайнерскія рэчы. Не, ну праўда, нахер тут каму карціна Драздовіча ці Шагала альбо

антыкварны фатэль? А так — «упрыгожылі праспект».

Мао зрабіў самакрутку. Замест паперы тытунь загарнуў у сушаны ліст невядомай Дзікуну расліны.

З боку паўразбураных дзевяціпавярховікаў затумкаў буйнакаліберны кулямёт.

— Серабраначка мая, — павярнуўся на гук Мао. — Відаць, анархі ці кантрабандыстаў адстрэльваюць, ці пачварку вадзяную.

— Там Менск?

— Не, за Серабранкай з таго боку Свіслачы пануюць анархі. Яны кантралююць тэрыторыі ўздоўж чыгункі ад вакзалу да Калядзічаў, гэта за колішняй акружной дарогай. У анархаў з Менскам — гандлёва-вайсковы саюз, але табачок — паасобку. Трымаюцца адзін ад аднаго на дыстанцыі. Тым не менш, па факце анархі ахоўваюць частку мяжы Менску. Тут, на поўдні, — з Горадам-Героем, там, на захадзе, — з дзікімі землямі.

Гукі стрэлаў сціхлі.

— А што ў Серабранцы і Чыжоўцы цяпер?

— У Серабранцы? Буферная зона, падмандатная тэрыторыя. Разумееш такія словы? — са значнасцю спытаўся Мао.

— Здагадваюся.

— А насамрэч Серабранка аточаная з трох бакоў вадой. Па зямлі толькі з Партызанскага праспекту можна дабрацца. Але які сэнс? Там у рэальнасці ўлады няма ніякай. Міліцыя толькі па перыметры патрулюе ўдзень. І тое хутчэй ахоўвае Горад-Герой ад серабранскіх. Ды вайскоўцы патрулююць на катарах мяжу, якая ідзе па сярэдзіне фарватару былой ракі Свіслачы. А Чыжоўка стаіць пустая. Кажуць, там распладзіліся леапарды, якія ўцяклі з заапарку. Ахоўваюць Чыжоўку ад людзей.

Мао ўздыхнуў.

— Разумееш, Дзікун, землятрус ад Вялікага Выбуху зруйнаваў ці моцна пашкодзіў практычна ўсе мікрараёны шматпавярховікаў. У нас людзі жывуць альбо ў цагляных двух-чатырохпавярховых дамах дагістарычнай пабудовы, альбо ў прыватным сектары, які ў Горадзе-Герої проста аграмадны.

Дзікун па-гаспадарску агледзеў берагі Свіслачы:

— А з лятучымі вадзянымі пацукамі як тут справы?

— Ты пра гіганцкіх сінякрылых? Выбілі ўсіх даўно. Пажэрлі ў першыя сем-восем гадоў.

Пакуль гаспадарка не наладзілася, цяжка з ежай было.

Памаўчалі, пазгадвалі свае першыя гады пасля таго, як свет змяніўся беспаваротна.

— Калі я пабачыў аўтаматчыкаў пры выхадзе з баржы, падумаў, што ў горадзе мусіць быць багата аховы. А калі пачалася бойка, ніхто не прыбег, — са здзівам прамовіў Дзікун.

— Бачыў гэтых са скрабалкамі і шчоткамі ў карычневых камізэльках? Глядзі па берагах: там два, там чатыры, у тым куце шэсць. Тут куды ні плюнь, паўсюль карычневыя камізэлькі. А да помніку толькі па графіку падыходзяць, хоць ён вельмі хутка зарастае лішаём.

Сапраўды, цёмны граніт помніку быў увесь у рознакаляровых грыбараслінах. Дзікун досыць хутка прызвычаіўся да гэтай асаблівасці краявіду вакол порту — усё ў плямах.

— «Камізэлькі» скрабуць «батву» з будынкаў, працягнуў Мао. — А заадно гэта вочы, вушы і бесправадны тэлефон міліцыі. А паколькі каля помніку людзей не бывае, то і «камізэлькі» тут не труцца побач. Што да боек, міліцыя на іх ніколі не рэагуе. Хіба толькі калі арганізуецца труп. А для жы-

вых выклік міліцыі платны, калі не датычыць дзяржаўнай маёмасці ці дзяржаўнага службоўца. Выклічаш, заплаціш, яшчэ і вінаватым будзеш. Хоць… Міліцыя — тыя ж людзі, толькі від збоку.

— Мао, ты калі-небудзь датрындзішся, — сказаў куст, які тырчэў недалёка ад пастаменту.

Цяпер ужо і Мао прысеў ад нечаканасці. Куст зрушыў з месца і павольна пашкандыбаў у бок вады. Сам. Пайшоў. З-за куста выплыла цётка ў вылінялай камізэльцы.

— Йолы-колы… Ягораўна, здароў! — радасна прывітаўся Мао.

Ягораўна прыгразіла пальцам у бок трыбуны і працягнула скрэбсці стары разбіты асфальт.

— Мао, а што гэта за… бацвінне, якое «батва»? — Дзікун зрабіў рукой жэст, паказваючы разам на ўсё вакол.

— «Батва» — гэта пабочны эфект вырошчвання бульбы гатунку «дружба», — Мао сцішыў голас. — У радыусе больш як дзесяці кіламетраў ад кожнага нявыкапанага клубня «дружбы» расце вось такі паўзучы грыб-водарасць — лішай. Пару спораў заляцела, і пайшлі множыцца. Таму ўсё скрабуць

паўсюль дзень і ноч. Плюс ты ўжо бачыш кусты, якія перасоўваюцца з хуткасцю чарапахі-спрынтара. Яны — таксама вынік актыўнасці «дружбы». Іх спыняюць калючым дротам, звычайна ў цэнтр іх мала трапляе. Карацей, не паскрабі горад колькі дзён, прачнешся ў пушчы.

— А чаму іншы гатунак бульбы не выкарыстоўваць?

Мао азірнуўся некалькі разоў, нават прайшоўся па трыбуне і паглядзеў уніз. Ягораўны ўжо не было.

— А вось за адказ на такое пытанне, Дзікун, міліцыя прыбяжыць вельмі хутка.

«Вніманіе, вніманіе! Аб'яўляюцца рэзультаты ежадневнага розыгрыша! Паўтараем, рэзультаты ежадневнага розыгрыша!»

Мао дзелавіта пашарыўся па кішэнях, але нічога не выняў:

— Дзікун, даставай свае «рашчотныя білецікі», а раптам!

— Дык мяне падманулі, не грошы далі?!

— Грошы. Звычайныя грошы. Толькі нумары на купюрах удзельнічаюць у латарэі. Гэта «Казначэйская латарэя».

— А ў чым выгада скарбніцтву?

— Скарбніцтву выгада ў тым, каб людзі менш чужой валютай карысталіся. Гэта ж нічым не падмацаваная папера. Латарэя — адзіная яе вартасць. Але як працуе!

Уся плошча перад портам стаяла застылай перад мацюгальнікамі.

«Сягоння пабяждае номер МР 5597484», — абыякава і крыху стомлена, нібы «вас многа — я адна», прамовіла жанчына з дынаміка. Плошча захрумсцела сваймі разліковымі паперамі і расчаравана вярнулася да сваіх справаў.

— А ў цябе, Дзікун? Пакажы, пакажы, так… Не-а. Ну нічога, іншым разам.

«…Я буду писем твоих ожидать, читать бессонными ночами / Свиданье наше вспоминать за разведёнными мостами…»

— Патрэбны час, каб прызвычаіцца, — працягнуў тэму мацюгальнікаў Мао. — Гэта як чыгунка ці аэрапорт побач з домам. А… ты ж ніколі іх не бачыў. Можа, цягнік і пабачыш. Там, — Мао жэстам паказаў за Серабранку, — ходзяць два бронецягнікі анархаў. Надзявай заплечнік, пойдзем у «Турыст».

Дзікун і Мао спусціліся з трыбуны і паціху рушылі ўздоўж вуліцы Кабушкіна ў бок

Партызанскага праспекту. Справа цягнуліся парканы прамысловай зоны, злева неўзабаве вымалявалася агароджа былога вайсковага гарадка.

— Бахнеш? — Мао выняў з кішэні на штанах пляшку 0,2 з-пад гарэлкі «Крышталь».

Дзікун адмовіўся. Ён не піў моцнага алкаголю і нават ніколі ў жыцці яго не каштаваў. Дапамога бачуна магла спатрэбіцца ў кожны момант, а алкаголь прытупляў здольнасць адчуваць небяспеку. Бачун мог сабе дазволіць крыху лёгкаалкагольнага напою раз на месяц.

— Я сам раблю, — пахваліўся Мао. — З натурпрадукту — з садавіны пераважна. Хлеб у нас дарагі. Яго пастаўляе Менск, які ў сваю чаргу закупляе на Заходніх тэрыторыях у тамтэйшых абшарнікаў-латыфундыстаў. А ў нас ёсць людзі, якія вырошчваюць звычайныя калісьці расліны: яблыкі, ігрушы, вішні, слівы, чарэшні… Не шмат, але вырошчваюць. Для сябе.

— Мала хто садзіць ягады ды садавіну? — здзівіўся Дзікун.

— А нахвіга напружвацца? Бульба ёсць. Сала ёсць, выкармленае на бульбе.

— А вітаміны?

— А вітаміны самі прыходзяць!.. Упс! — Мао рэзка нахіліўся і ўхапіў куст чарніцаў, які быў ціха краўся міма. Цяпер карэньчыкі-лапкі адчайна біліся ў паветры. — Бяры ягадку.

Мао пасадзіў куст на зямлю, і той як мог даў драпака ў бок МАЗу. Дзікун заўважыў, што на мурах вакол прамзоны зверху быў наматаны калючы дрот, на дроце віселі дзясяткі ссушаных кустоў розных раслінаў:

— Глядзі, вунь, на прарыў ішлі. Некалькі кінуліся на дрот, а астатнія па іх як па мастках. Ха, там за мурам таксама калючы дрот, толькі на зямлі. Гэта лішаі ветрам носіць, а кусты толькі надта моцны вецер на вялікую адлегласць затарабаніць. А надвор’е ў нас устойлівае, прадказальнае. У сэнсе, трыццаць гадоў тое самае, без зменаў. Вецер збольшага наверсе. Такія вось карысныя для харчавання кусты звычайна ловяць і кідаюць пасвіцца ў адным агароджаным месцы. Амаль ва ўсіх у Горадзе-Героі свае загончыкі ёсць. Але кусты любяць заводы. Там жа людзей вельмі мала. Ёсць дзе схавацца.

Мао распавёў, што жыхароў Горада-Героя, якія спецыяльна культывуюць харчовыя

расліны, лічаць у найлепшым выпадку дзівакамі, у найгоршым — нефармаламі, якія замышляюць штосьці супраць грамадства. Навошта культываваць, столькі сілаў выдаткоўваюць, калі ўсё ёсць: бульба, ягады... Сала дзяржава прадае па зніжаных коштах. На святы — свежаніна. Між святамі — каўбасы. Зноў жа, у латарэю можна далікатэсы выйграць.

— А якія прызы за латарэю?

— Прыз дня — адгул на дзяржаўнай працы ці нейкае смакоцце са старых запасаў. Звычайна — старыя вайсковыя кансервы. Яны даўным даўно пратэрмінаваныя, але вось жа дзіва — на смак як новыя. І ніхто ні разу не атруціўся. Прыз тыдня — вечар у рэстаране гасцініцы «Турыст». Там адзінае месца, дзе можна адтапырыцца небанальна, скажам так. «Па-менску», ці «па-буржуйску», як у нас яшчэ кажуць. Прыз месяца — адзін дзень пад сонцам.

Мао скруціў новую цыгарку:

— У вас як там з надвор’ем, на вашых хутарах?

— Па-рознаму.

— А ў нас вось так — плюс 20 уначы, плюс 25 удзень і заўжды без сонца. Часам

дождж. А ёсць адно месца, дзе сонца чамусьці свеціць заўжды. Нейкая дзірка ў хмарах. Там санаторый унізе, для простых, а ўверсе — забаўлялава для багатых. Прыз месяца — дзень на верхняй VIP-пляцоўцы. Гэта на ЦЭЦ-3. Далей, за «Турыстам» і Шарыкападшыпнікавым заводам. Можа і пабачыш, калі пашанцуе ў латарэю. А прыз года — бясплатны ўдзел у свяце паўкабана, якое афіцыйна завецца Днём Горада-Героя. Яно прымеркаванае да перамогі ў Пяцігадзіннай вайне. У рэальнасці ў бойцы з менскімі за Велазавод. У выніку завод застаўся Гораду-Герою, але працуюць на ім за рэдкім выключэннем менскія, якія маюць кантрольны пакет акцыяў: сабе і нам вырабляюць роварную тэхніку.

Па дарозе пачалі зноў сустракацца карычневыя камізэлькі. Адна цёця заехала шчоткай Дзікуну проста па нагах. Моўчкі. Нібы перад ёю нікога не было.

— Слухай, Мао, а «камізэлькі» толькі міліцыю выклікаюць ці таксоўку таксама?

— А мы ўжо падыходзім.

Звечарэла. Гасцініца «Турыст» блішчэла наперадзе агнямі, як круізны лайнер у цемры ночы. Дзікун бачыў такое на відэа.

Каля ўваходу Мао развітаўся. Злева ад дзвярэй стаяў швейцар у навюткай, з пазалотай ліўрэі. Справа вісела дошка гонару з сярпом і молатам у верхнім левым куце. Дошка была невялікая — на тры партрэты.

— Золата, срэбра і бронза, — патлумачыў Мао. — Золата цяпер — Таня, пакаёўка VIP-паверхаў: для іншаземцаў, лічы — для менскіх. З выспаў тут рэдка хто бывае — дорага для іх. Таня... Яе спачатку павярнулі з аддзелу кадраў. Сказалі, «з пласкажопіем не бярэм». А галоўная адміністратарка Ала Пятроўна заступілася, сказала, што жопа нармальная, грудзі выдатныя, а галоўнае — каб чалавек быў харошы. І не прагадала... А на мяне Танька пакрыўдзілася. Я яе калісьці вучыў інтэрнэтам карыстацца. Кажу: «Таня, э-мэйл — не прозвішча, яго часта змяняць не трэба». Псіханула. Пасля, праўда, памірыліся, а пасля зноў... Усё, пака, убачыш Таню — перадавай прывітанне ад Мао.

— А мы вас ждзём! — строга і адначасова гулліва заявіла невялікага росту жанчына з фрызурай «начос» і бюстам, падобным да бяскрайняга айсбергу, які адкалоўся ад ледавіка, каб пачаць падарожжа ў неаб-

сяжным акіяне, але быў злоўлены і схаваны пад сукенкай жанчыны з імем на бэджыку «Ала Пятроўна Кірдун». Адміністратарка яшчэ раз зверыла запрашэнне Дзікуна са сваім спісам і пацвердзіла сама сабе:

— Ждзём.

# ЧАСТКА II. Гасцініца «Турыст»

## 10

Адміністратарка памяняла дыск «Лучшый танцпол усех народаў» на грошы. Гэта былі не бляклыя на выгляд рашчотныя латарэйныя білеты. На банкнотах дызайнерскім шрыфтам красавала слова «ІНШАМАРКІ». Стос папераў быў значна меншым за той, што Дзікун атрымаў у абменніку каля порту.

— Гэта валюта для іншаземцаў, — патлумачыла Ала Пятроўна. — Іншамаркамі вы можаце ахапіць значна большы асартымент тавараў і паслуг, чым рашчотнымі білетамі. Гасцініца «Турыст», «Універмаг», ён тут побач, а таксама забаўляльны комплекс «ДК МАЗ» — вось тры зоны, дзе ходзяць іншамаркі. Нагадваем пра крымінальную адказнасць за незаконны абарот валюты.

Дзікун моўчкі кіўнуў і пачаў разглядаць цэны на «абанементы для аплаты знаходжання на тэрыторыі Горада-Героя». Спыніўся на варыянце двух тыдняў.

— Вазьміце лепш дзесяць дзён з моманту аплаты, два тыдні пачынаюцца з першага ці пятнаццатага чысла, а цяпер ужо трэцяе, — са спагадлівай усмешкай да небаракі, які не ведае жыцця, параіла Ала Пятроўна.

Дзікун аплаціў рашчотнымі білетамі: выняў стос паперак, а Ала Пятроўна выбрала патрэбныя купюры.

— Зараз прыйдзе ваша пакаёўка, — зноў строгім тонам сказала адміністратарка.

«На чай» не забудзься даваць», — у галаве актывізаваўся ўяўны голас Альгердыча. Але было позна, адміністратарка ўторкнулася ў свае сшыткі з лічбамі.

Пакуль Дзікун чакаў пакаёўку, разглядаў вялікі плакат на сцяне ў холе. На белым фоне чорнай фарбай быў намаляваны жаночы сілуэт у кароткай спадніцы, на вялікіх абцасах і з грудзямі, абцягнутымі кароткай блузкай. Сілуэт падпіраў спінай вулічны ліхтар, падагнуўшы адну нагу. Уся выява была перакрэсленая тлустай чырвонай лініяй. Пад малюнкам крычалі вялікія чырвоныя літары: «Стоп рабства!»

— Станіслаў? Я Таццяна, ваша пакаёўка на ўвесь час побыту ў нашай гасцініцы, — маладая кабета з густа намаляваным чырвонай

памадай ротам не павіталася, а развярнулася і моўчкі пайшла па калідоры.

Дзікун пацеляпаўся следам, разважаючы, ці перадаць прывітанне ад Мао, і разглядаючы новую спадарожніцу. Карацюсенькая спадніца не да канца прыкрывала някідкі, але, як на вока Дзікуна, сімпатычны азадак. Хутчэй за ўсё пад спадніцай былі стрынгі, але дакладна сказаць было нельга, бо ў калідоры панавалі прыцемкі. Чорнага колеру сцены і падлога калідору былі падсветленыя рубінавымі плафонамі. На пакаёўцы былі чорныя панчохі, якія адцянялі чырвоныя *лабутэны*.

«Бар, саўна, басейн, парная лазня, рэстаран, більярд, казіно, вышэй яшчэ адзін рэстаран і лаўндж-бар. Тамсама асобна дыскатэка. Пройдземце да ліфта». У адрозненне ад калідору, ліфт быў добра асветлены. Таццяна на сваіх абцасах была на паўгалавы вышэйшая за Дзікуна, якому толькі заставалася разглядаць грудзі пакаёўкі.

Нумар быў на апошнім — пятнаццатым — паверсе. Таццяна паказала, што дзе ляжыць з неабходнага для туалету, пажадала добрага вечара і сышла строгай паходкай, нібы бізнес-лэдзі пакінула перамовы. Толькі нага-

дала на развітанне, што паліць дазваляецца ў спецыяльным месцы ў канцы калідору.

З вокнаў быў бачны густа падсветлены ліхтарамі пляц. Направа — Партызанскі праспект, налева — па ўсім відаць, «забаўляльна-гандлёвая ўстанова «Універмаг». Далей горад ляжаў у абсалютнай цемры. Не, яшчэ крыху дзесьці былі агні. «ДК МАЗ», — прыгадаў мапу Дзікун.

На часопісным століку ляжала брашура «Стоп рабства!». З такой самай выявай, што і на плакаце ў холе. Дзікун разгарнуў і прачытаў тэкст, з якога дазнаўся, што прыезджым ні пры якіх абставінах не рэкамендуецца знаёміцца з жанчынамі на вуліцы. У якасці ілюстрацыі ішла гісторыя пра тое, як два інтурысты загулялі з мясцовымі дзяўчатамі ў адным з бараў, пасля паехалі да дзяўчат дадому, а ўрэшце апынуліся ў скляпенні, дзе два месяцы смажылі дранікі на продаж. І што толькі цудам інтурысты здолелі ўцячы ад рабскай працы.

На століку была яшчэ газета пад назвай «Город Мечты» з выявай нейкага мужыка пасярэдзіне, стос такіх самых газетаў Дзікун заўважыў на рэцэпцыі. Былі тут ці то брашуры, ці то рэкламкі, але Дзікун вырашыў

пачытаць іх пазней. Хацелася нарэшце проста бестурботна прагуляцца. Перад тым, як спусціцца ў хол, Дзікун пайшоў папаліць. Пакойчык для курцоў выходзіў вокнамі ў бок Менску. Мяжа з Горадам-Героем была выразна бачная: вось тут цемра, а вось тут пачынаецца асветленая тэрыторыя. Дзікун нават угледзеў памежную вышку з кулямётным гняздом, міма якой праехаў браняваны цягнічок.

***

— Я п'ян, — паведаміў Ваня ў пустэчу вечаровага праспекту.

Ваня сядзеў на кукішках перад уваходам у бар «Сумёт» — проста праз дарогу ад «Турыста».

— Я п'ян, — паўтарыў Ваня, павярнуўшыся да куста, які таптаўся каля ганка. Здавалася, куст усёй сваёй сукупнасцю галінаў і лісця выцягнуўся ў бок Вані, каб лепш зразумець словы.

З адкрытых дзвярэй барчыку пачулася:

— А што гэта Ізяслаў Віктаравіч не заходзіць?

— Той, які прафесар? А… Гэта, Уладзік, Ізяслаў Віктаравіч сказаў п'янаму Ваню,

што ў захапленні ад таго, як Ваня з трасянкі на трасянку пераключаецца. Назваў Ваню лінгвістычным амбідэкстарам. За што Ваня даў яму ў нос.

— Ясна, Анжэлка. Бачу, Ізяслаў Віктаравіч ужо прайшоў усе кругі бару.

— Анжэла, дай мне менскую гарэлку, я гэтай свінячай «каларадкі» піць не буду! — прагучаў іншы голас. Дзікун акурат у гэты момант праходзіў міма, але голас прымусіў спыніцца і зазірнуць унутр невялічкага бару, зробленага ў колішнім пад’ездзе.

— Немчык, якая «свінячая», ну колькі ўжо можна, што ты людзей абражаеш?

— Немец? — спытаўся Дзікун, працягваючы руку.

— А, шчанюк худы, — радасна прыгадаў Немец. — Сілён, брадзяга! Я бачыў, як ты на піўняку малаціў тых дурымараў.

У Немца спачатку была мянушка Тэўтонец, бо ён захапляўся крыжакамі: з дзяцінства калекцыянаваў салдацікаў-крыжакоў, прачытаў пра крыжацкія ордэны, найперш Тэўтонскі, усе магчымыя кнігі. Татухі сабе набіў крыжацкія. Таму Тэўтонец, Тэўтончык, а ўрэшце для зручнасці сталі клікаць Немец і Немчык.

— Ды вы хоць разумееце, што канкрэтна вы бухаеце?! Вы ж сабе апошнія мазгі вычышчаеце! — відавочна працягваў старую дыскусію Немец.

Ваня з ганка:

— Немец, ну вось што ты прычапіўся? У кожнага сваё меркаванне. Мне «пятачок» падабаецца, і я яго буду піць. А табе не падабаецца, ну і пі сваю гэтую, з водарасцяў ці з чаго яна там… Мне толькі карцінка ў цэліку не падабаецца. Анжэла, пашчоўкай, калі ласка, што там яшчэ ёсць.

Анжэла стомлена, але дзелавіта пачала круціць ручку з боку ад каробкі старога, не тое што даваеннага, яшчэ дагістарычных часоў «Гарызонта».

— Сiськi, сiськi, мачылава, сiськi, мачылава, пляжы, дарагія гатэлі, сiськi… — Ваня меланхалічна пералічаў тэматыку карцiнак, накручаных на ўстаўлены ўнутр корпуса тэлевізара барабан. — Блін, няўжо няма чагосьці больш глыбокага?

— Ваня, прынясі сваю карцінку і глядзі на яе, калі нашы не падабаюцца.

— Я б лепш на твае сiськi паглядзеў, толькі мужу не кажы… Налі яшчэ.

Анжэла наліла палтос «пятачка» і спыталася ва ўсіх прысутных:

— Дык што глядзець будзем?

Раптам прачнуўся Уладзік, які перад тым быў драмануў на барнай стойцы, і рашуча заявіў:

— Футбол.

Немец моўчкі дастаў з вялікай кішэні на баку шортаў акуратна складзены аркуш глянцавай паперы. Гэта была вокладка нямецкага футбольнага часопісу за 2015 год.

— Ого, — так добра захавалася папера? — Ваня перасунуўся так, каб бачыць, што адбываецца ў бары.

— Як вы заманалі сваім футболам, — ляніва канстатавала Анжэла і прыляпіла карцінку да трэснутага экрана «Гарызонта».

Сам Немец дэманстратыўна адвярнуўся. Астатнія ўжылі хто што меў, закусілі бутэрбродамі з паляндвіцай са свінавасьмінога, прысыпанымі зверху «чацвёркай» — так прысутныя называлі бульбяныя чыпсы.

— Гооол! — праз хвіліну закрычаў Уладзік.

— Я п’ян, — сказаў Ваня.

«Пятачок» вадкі, «чацвёрка» цвёрдая пакрышаная. Дзікун усмоктваў у сябе новую

інфармацыю. Пра такое на інструктажы ў Добрым Месцы не казалі. На новапрыбылага кліента ніхто не звяртаў увагі. Дзікун заказаў сабе піва. «Імпартнае, менскае, тока ўчара прывязьлі».

Ваня скептычна паціснуў плячыма:

— Нічога я ў вашым футболе не разумею. І я ўжо п’яны. Выклічце мне таксі.

Анжэла ўзяла ў рукі антыкварны мабільнік, які вісеў на сцяне як дэталь інтэр’еру, і як бы набрала нумар. Ваня сціх у чаканні.

— Гооол! — зноў закрычаў Уладзік і азартна павярнуўся да Немца. — Ты бачыш, што яны твораць?

Немец пацягваў адвёртку з сапраўднай заводскай менскай гарэлкі, змяшаную з натуральным вінаградным сокам. «Без кансервантаў. Хімічную прамысловасць яшчэ не да канца аднавілі», — так у бары рэкламавалі дарагі імпартны прадукт. «А «каларадку», — сказаў Немец, — я не ўжываю ні ў якім выглядзе. Зу-сім». Відаць, сказаў не першы раз, бо ніхто не зрэагаваў. «Каларадка» — гэта тып напою ці канкрэтны гатунак?» Дзікун моўчкі сачыў.

Анжэла выйшла папаліць, а Немец у гэты час замяніў карцінку на тэлевізары: воклад-

ку спартовага часопісу на выразку з грамадска-палітычнай газеты 2014 года. Усміхнуўся сабе пад нос і выйшаў з бару, далучыўся з самакруткай да барвуменкі.

Праз хвіліну з бару панеслася:

— Сукі, хунта!

— Сам ты хунта!

— Хлопчыкі, ну колькі можна, зараз выключу тэлевізар, — праз плячо паўкрыкнула Анжэла.

— Стой! Дай дагляджу!

— Я п’ян…

Немчык нарэшце звярнуўся да Дзікуна:

— Слухай, турыст з далёкіх астравоў, любімец публікі і жэнскіх абшчэжыцій. У цябе від даўно неп’юшчага чалавека! Рады бачыць пачценную публіку. Дык давай ужо пазнаёмімся ізноў. Я Аляксандр, для сваіх — проста Немец.

— Станіслаў. Для сваіх — проста Дзікун.

Зноўку паручкаліся.

— Немчык, у цябе ўжо дзясятая адвёртка ці дванаццатая? — Гэта падышла сінявокая бландзінка гадоў трыццаці пяці. Як пасля дазнаўся Дзікун, таксама барвуменка, Даша.

— Ваня што — праўда на «пяцёрачку» перайшоў?! — Даша не хавала свайго жаху.

— Так, Дашусік, на яе, на хрукалку, на «пятачок», — пацвердзіў Немец.

Даша няўхвальна пахістала галавой:

— Як ён цяпер карцінкі для целіка і білборды будзе маляваць? За што будзе жыць?

Павісла паўза.

— Вось такая макля, — развёў рукамі Немец і павярнуўся да Дзікуна. — «Пятачок» — гэта не пра наркотыкі. Наркотыкі тут нахер нікому не патрэбныя. Тут і алкаголь п'юць хутчэй са звычкі — традыцыя такая… А мне толькі алкаголь патрэбны. Я б бросіл піць, но как жыць без мечты?

Немец праз Уладзіка перадаў сваю шклянку да барнай стойкі:

— Пралангіруйце, будзьце любезны, алкагалісьціческі сектар.

Павярнуўся да Дзікуна:

— Знаеш, пацанчык, чаму я табе дапамог? У цябе выраз твару не такі, як тут. Не як у гэтых шлёцэкаў, — паказаў углыб бару, — не як у мяне і не як у Вані. Хер паймі які выраз твару. Я такіх на астраўных хутарах не бачыў. Вумны сільна ці што. Хоць бачу, што баец.

Немец адпіў са сваёй шклянкі. Уладзік быў пацягнуўся цокацца, але Немец парыраваў, маўляў, «я па сваёй праграме», і працягнуў:

— Бачу, Дзікун, разводзяць цябе на КПП, як кампот. І бачу, што ў чэла з хер ведае адкуль з Усходу пры сабе кнігі! Кнігі! Прыкінь? І кампакты. І я кажу сабе: «Будзь любезен, старычок, памажы хлопцу». Гэта ж не проста пілігрыміна нейкая. Ты адкудава нарысаваўся такі, дружышча? Можа, у вас там многа кніжак на тваім дзікім хутары, можа, давай зганяем туды, забарыжым разам? Ілі ну яго нахер, за табой пацанва стаіць? А ты тут рынкі збыту вывучаць пад'ехаў?

Немец кідануў недапалак у манументальную старажытных часоў каменную сметніцу і прамазаў:

— О-ба-на, трохачковы няўдас… Па былой трасе М4 няма гарадоў, і людзей з гулькін нос на астравах жыве. У іх усе кніжкі паскупляныя даўно. Вунь пункт прыёму інфармацыі ў порце «Чыжоўка» даўно барыжыць кантрабасам з Менску, бо мала інфармацыі прывозяць. Панімаеш, Дзікун, і тут ты — пацанчык такі незамутнёны з чыстымі, амаль не карыстанымі, кніжкамі. Што скажаш, дружышча?

— Ну…

— Нашы тут спачатку ўсе кніжкі ў Менск спіхнулі, а гадоў праз пятнаццаць пайшла

мода, ціпа элітарная, для ізбранных — чытаць, бл@ць! А поезд цю-цю. Няма чаго чытаць. Пакажы, што ў цябе за кніжкі.

Як навучыў Альгердыч, грошы і каштоўныя рэчы Дзікун узяў з сабою. Немец зірнуў апошнюю, што засталася, кнігу, прачытаў назву «Падарак первай ночы».

— У Менску нават на тры капейкі не абмяняеш — нахвіг там каму трэба слёзнае абышто, на каленцы напісанае. А ў нас такое мясцовая «цілігенцыя» чытае. А часцей на паліцу ставіць — па-багатаму выглядае. Пакажы дыскі… О, вось гэта рэальна на вагу золата ў Горадзе-Героі. Калі камп'ютары ў Менск прадавалі, дык заадно з музычнымі файламі. Цяпер усе на падсосе ў плане рэпертуару. У Менск такое не прадасі, але можна самім зарабляць. На дыскатэках. Ці здаваць дыскі ў арэнду. Замуцім бізнес, Дзікун?

Але Дзікун не адказаў, бо ў гэты самы час побач з барам затармазіў грузавік сярэдніх памераў, які меў выгляд пакладзенай на бок шафы з закратаваным акенцам пасярод дзверак, з якой выскачылі тры міліцыянты ў чорных масках. Пакуль двое трымалі на прыцэле наведнікаў бару, трэці схіліўся да Вані і ладзіў пэўныя маніпуляцыі. Ага, узяў

кроў з пальца і засунуў у нейкую машынку з далонь памерам. Агрэгат пікнуў, паказаў на экранчыку нейкія лічбы, Ваню імгненна запакавалі ў грузавік, які адразу газануў, як закрыліся дзверкі «шафы».

— Навошта Ваня папёрся на вуліцу? — заплакала Анжэлка.

— А то яны ў бары не заходзяць, калі хочуць, — сумна парыраваў Уладзік.

— Свінавоз, — звярнуўся Немец да Дзікуна. — Свінавоз вязе людзей на Свінакомплекс. З кожным годам усё болей і болей.

— А што яны мералі?

— А яны самі не ведаюць. Ім сказалі, што калі пакажа 0,25, то забіраць. А чаго нуль дваццаць пяць? Хер яго ведае! І так вось аблавы ладзяць. Па пятніцах каля прахадных заводаў. Яшчэ побач з вяселлямі і карпаратывамі любяць у засадзе сядзець. А ў будны дзень, як сёння, то проста на вуліцы спыняюць каго хочуць і мераюць. Як па мне, то гэта ўсё «хрукалка», то бок «каларадка нумар пяць» дзейнічае…

— Ды змоўкні ты, а то і цябе, і нас усіх забяруць! — пракрычала скрозь слёзы Анжэла.

У гэты момант у Дзікуна рэзка зачасаліся абодва вокі. Зусім недалёка адбывалася

штосьці вельмі небяспечнае для чалавека. Дзікун кінуў на стойку пару рашчотных білетаў і хутка рушыў за рог — у двор. Адразу пабачыў каналізацыйную дзюрку без люка. З-пад зямлі крычала-лямантавала жанчына. Побач гыгыкалі два падлеткі гадоў па трынаццаць-чатырнаццаць. Адзін прапанаваў пісклявым голасам:

— Чуеш-чуеш, Дзімон, давай насцым туды!

Піскляві быў выняў ужо пісюна, як атрымаў выспятка ад Дзікуна, праляцеў над люкам і ляснуўся тварам у рэшткі асфальту на зямлі. Другі кінуў сябра і даў драпака. Праз хвіліну Дзікун выцягнуў кабету на паверхню.

— Як вы? Нічога не зламанае, ісці можаце? Абапрыцеся на мяне. Так, добра, я вас трымаю. Хадземце.

Дзікун ратаваў людзей без роздумаў: работа сталася звычкай, якая, як вядома, другая натура.

## 11

Дзікун заказаў сабе ў нумар літр буракавага квасу, змяшанага з ананасавым сокам.

Вокны пакою выходзілі на паўднёвы ўсход. Горад-Герой ляжаў як на далоні. Цяпер, ранi-

цай, усё было добра бачна. Вунь зусім далёка выглядае з-за дахаў Завод калёсных цягачоў. Палова яго прытопленая вадой, а другая палова даступная з сушы. Крыху бліжэй бачны МАЗ. Злева, яшчэ бліжэй, стаіць ЦЭЦ-3. А зусім побач з гасцініцай пачынаецца плот Падшыпнікавага заводу. Ад слова «шарыкападшыпнікі» пайшла назва раёну — Шарыкі.

Калісьці ўся гэта частка гораду сфармавалася пасярод сасновых бароў. Нават кафэ тут, на раёне, назвалі «Сосны». За прамінулыя трыццаць гадоў дрэвы ссеклі практычна ўсе. Цяпер зеляніна складалася з шапак лішаёў на дахах і заводскіх комінах. Калі ўнізе «карычневыя камізэлькі» паўсюль, дзе магчыма, скрэблі з разбітага тратуару і абшарпаных сценаў лішаі ды лавілі кусты, то чым вышэй, тым мацней буяла расліннасць. А хто б палез на трыццаць гадоў не рамантаваны заводскі комін? Дурных няма.

Цяпер Дзікун заўважыў, што тут, на ўзроўні пятнаццатага паверху, ветру практычна не было. Тым ня менш, лішаі ўсіх магчымых відаў энергічна шаволіліся над дахамі дамоў — на адным узроўні з гасцінічным акном. Шаволіліся не рытмічна, як марскія хвалі, але нібы кожны ў свой бок, хто куды

хоча. «Наступствы моцнага алкаголю», — вырашыў для сябе Дзікун, які парушыў адзін з галоўных запаветаў бачуна — не дэцэнтралізаваць свядомасць з дапамогай стымулятараў. А пачыналася так.

Увесь учорашні дзень мінуўся ў цэнтры Горада-Героя: вялікі шпацыр ад рынку каля гатэлю да «ДК МАЗ» з заходам у крамы і кавярні. У вочы адразу кінулася, што навакольны краявід амаль не ўтрымлівае ў сабе літараў. Шыльды і абвесткі, пісаныя літарамі, Дзікун пакуль бачыў толькі ў ваколіцах порту і ўнутры гасцініцы. Хоць малюнкі трапляліся. Ну вось жа на Партызанскім праспекце: з аднаго боку дамы пазначаныя стылізаванымі MP 38/40, больш вядомымі ў народзе як «шмайсэр». А насупраць дамы прамаркіраваныя выявамі ППШ. Цотныя — ППШ, няцотныя — «шмайсэр».

Дзе-нідзе на дамах яшчэ былі бачныя лічбы, але збольшага мясцовыя жыхары арыентаваліся праз імёны ўладальнікаў жытла. Напрыклад, пошук адрасата на Народнай 5, кватэра 12 значыў, што кожны абітальнік Горада-Героя ведае назвы вуліцаў, таму падчас пошуку застаецца толькі спытацца ў мясцовых жыхароў, дзе нумар 5 і дзе там жыве

Валянціна Сямёнаўна ці Андрэй Хведаравіч. Калі адрас быў у маленькім завулку ў прыватным сектары, часам удакладнялі, побач з чым стаіць дом. Да адрасу «завулак Грыбны 2» дадавалі, што ён у раёне Несцерава, бліжэй да скрыжавання з Ангарскай.

І толькі на цэнтравым адрэзку Партызанскага праспекту былі свежанамаляваныя лічбы. «Для турыстаў», — патлумачыў хтосьці з мясцовых. «Турыстамі» зваліся ўсе прыбылыя, незалежна ад мэты візіту. Турыст — іншаземец, замежнік, чужынец. Чалавек, на якім можна нажыцца.

— Жалеза, жалеза! Прадаю жалеза, купляю жалеза, рамантую жалеза! — пад акном спыніўся «камп'ютаршчык» са сваім вазочкам, забітым старымі мацярынскімі платамі, жорсткімі дыскамі, працэсарамі ды іншым камп'ютарным начыннем. Таксама вока Дзікуна выхапіла з вазочка рознага кшталту радыёдэталі.

Дзікунова блуканне па Горадзе-Герої пачалося ўласна з рынку, які пульсаваў удзень на пляцы між «Турыстам», «Універмагам» і Партызанскім праспектам. У адрозненне ад партовага, заточанага пад бульбу, дары мора і «дары астравоў», гэты рынак

прапаноўваў набыць ці памяняць практычна ўсё, што было ў Горадзе-Героі. З боку, што бліжэй да «Універмагу», былі шэрагі з ежай. З улікам блізкасці «Турыста» і ўласна турыстаў апроч традыцыйнай бульбы гатунку «дружба» ды марскіх далікатэсаў можна было набыць абсалютную экзотыку. Вінаград і ананасы прывозілі толькі з Менску. Малочныя вырабы наагул везлі транзітам праз Менск з Заходніх тэрыторыяў.

А вось, напрыклад, парэчкі, трускалкі, памідоры і гуркі былі мясцовай вытворчасці. Шмат хто ладзіў агароды на дахах. Улады закрывалі вочы на несанкцыяваны захоп тэрыторыі. Бо агароднікі заадно расчышчалі кавалкі паверхні ад лішаёў ды іншых «джунгляў». Цягам трыццаці гадоў дахі раманталіся толькі там, дзе жылі людзі. А людзі засялялі каля трыццаці працэнтаў ад будынкаў Горада-Героя. Рэшта жылых плошчаў стаяла пустая і паціху гніла-развальвалася.

А яшчэ на рынку прадавалі сала. Свінагадоўля была абсалютнай манаполіяй дзяржавы. Немец у бары сказаў, што хоць і любіць сала, але купляе яго толькі падчас камандзіровак у Менск. Немец быў адным з нямногіх шчаслівуцаў, хто меў гадавую менскую

візу. Немец сказаў, што на рынку ёсць і прывазное з-за мяжы хутарское сала, але дзе якое і адкуль — «хер уведаеш». А мясцовых кабаноў толькі «дружбай» кормяць. Немец жа «каларадкі» не ўжывае. «Ага! «Каларадка» — бульба — «дружба».

Але. Галоўнае, што Дзікун зразумеў: цяпер хлеб — ці не самы дарагі прадукт, які могуць сабе дазволіць толькі вельмі багатыя людзі Горада-Героя. Няма дзе вырошчваць збожжа, уся вольная зямля аддадзеная пад «дружбу». А абшарнікі-латыфундысты з Заходніх тэрыторыяў хоць і маюць больш зямлі, практычна ўвесь хлеб прадаюць Менску. У Горад-Герой мука трапляе з дзесяціразовай накруткай.

У бары «Сумёт», альбо «палтосачнай», як называў яе Немец, Дзікуну сказалі, што ў Горадзе-Героі забароненыя якія-кольвек радыё- і тэлепрымачы. Што за праслухоўванне FM- і тэлеэфіру з Менску можна атрымаць вялікі штраф ці прымусовыя працы. За неаднаразовае парушэнне забароны — «пуцёўку на Свінакомплекс, адкуль яшчэ ніхто не вяртаўся».

За час бадзяння па рынку Дзікун зразумеў, што людзі з-пад пахі прадавалі і куплялі

абсалютна ўсё, што засталося ад былога часу — з жыцця да Вялікага Выбуху. Кнігі, часопісы, дыскі, флэшкі, вінчэстары. Найбольш цанілася забаўляльная і навуковая інфармацыя. Навуковую — кантрабандай перапраўлялі ў Менск. Забаўляльная — манетызавалася самымі рознымі шляхамі. Напрыклад, копія фільму ішла ў элітныя відэасалоны. Як афіцыйныя, так і падпольныя. Гэтая забава — прагляд фільму — каштавала дорага па мясцовых мерках.

Але і беднякі маглі атрымаць свой маленькі кайф. Трымальнікі інфармацыі мелі цэлую сетку расказчыкаў. Чалавеку падпольна давалі паглядзець фільм па ТВ-Менск, а пасля ён ішоў па дварах ці на рынкі, дзе вакол збіраліся дзясяткі, часам сотні чалавек і за маленькія грошы слухалі пераказ сюжэту фільму. Сабраная сума залежала ад таленту расказчыка. Пяцьдзясят працэнтаў даходу аддавалася тым, хто больш за ўсіх рызыкаваў: уладальнікам тэлевізараў. Трыццаць адсоткаў плацілі ахове расказчыка. Бо да ўсяго працавалі «дзікія» расказчыкі, якія маглі пагнаць канкурэнта. Барацьба за рынкі была вельмі жорсткай. Дваццаць працэнтаў заставалася, уласна, майстру апавядальнага жанру.

Асаблівым поспехам лічылася атрымаць у свае рукі серыял. Людзі прызвычайваліся да стылю расказчыка і шлі канкрэтна на яго. У «прафсаюзе» расказчыкаў былі выбітныя асобы, якія маглі самі прыдумляць працяг серыялу, а некаторыя нават з нуля ствараць свае аўтарскія тэксты. Гэтыя абраныя майстры не залежалі ад патранажу варацілаў чорнага бізнесу. Іх бараніла народная любоў.

Вяршыняй прафесіі ўважалі ўменне прыдумляць серыялы для дзяцей, бо дзеці цягнулі з сабою бацькоў, што павялічвала аўдыторыю і, адпаведна, касу, у два-тры разы. Топавай тэмай было падземнае жыццё Горада-Героя. Сярод любімых дзецьмі персанажаў былі каналізацыйныя мутанты ўсіх відаў: гіганцкія пацукі-людажэры, заблукалыя вайскоўцы, якія палявалі на падпольшчыкаў, а ператварыліся ў прывідаў-забойцаў, гіпнатызёры-сектанты, якія выядалі твае мазгі на адлегласці, паўсталыя з дамавінаў рыцары даўнейшага часу, якія ратавалі чалавецтва ад мутантаў. Дзікун заўважыў, што ўваходы на станцыю метро «Партызанская» побач з «Турыстам» былі закрытыя тоўстымі сталёвымі лістамі. І што практычна ўсе каналізацыйныя люкі, якія яму

сустрэліся, былі завараныя. Хіба апроч таго аднаго, у двары каля «Сумёту». Хоць агулам Горад-Герой звонку можна было ацаніць як раздзяўбаны. А тут такая ахайнасць.

— Дзядзька, купі карцінкі.

Гэта да Дзікуна звярнуўся хлопчык гадоў дзесяці. Малы раскрыў свой заплечнік і прадэманстраваў невялікі набор коміксаў. Відавочна секс-коміксаў. Адна вокладка была пазначаная назвай «Альгердава дзіда». На выяве здаравенны дзядзька ў рыцарскіх латах засланяў спінай голых дзевак, а сваім гіганцкім чэлесам разганяў драбнюсенькіх мужычкоў. З-за «Альгердавай дзіды» вытыркаліся іншыя сшыткі. Былі бачныя толькі назвы: «Дзікае жаданне караля Стаха», «Случай на раёне», «Толькі ўпоратыя нічога не баяцца».

— А чаго хаваешся? У вас жа такія карцінкі не забароненыя.

— Гэта з-за заходняга бугра — нацыя... нацыянальнаар... нацыянальнаарыентаваныя... — ледзь пачуў шэпт Дзікун.

— Па чым?

— Пяць лахатронак.

— ?

— Пяць рашчотных латарэйных білетаў. За кожны.

Дзікун абраў «Альгердаву дзіду». Ціха абмяняліся паперамі — карцінкі на латарэйкі.

— Ты толькі не свяці, дзядзька, карцінкамі, а то мянты заграбуць. — І хлопец знік у натоўпе.

«Надрывались от погони сторожа, / И собаки не жалели в беге сил. / Я ж бежал, твоим букетом дорожа, / И, запутавшись, в заборах колесил…»

Дзікун зайшоў у невялікую кавярню на першым паверсе «Універмагу» пад назвай «Паўночы вецер».

— Можна вас папрасіць прыглушыць музыку?

— Не.

— А цалкам выключыць?

— Не. А вы ці не з Рудзенску часам?

— Не, Рудзенск пад вадой даўно, я далей, з хутароў за Магілёвам.

— О, землякі! — узрадаваўся бармен. — Я родам з Магілёва. Даўно пераехаў сюды. А я бачу, што не па-тутэйшаму апранутыя, але і не як з Захаду, здалёк як бы. Адкуль жа яшчэ, як не з выспаў.

Праз столік сядзеў самотны мужык, перад якім стаяў графін з гарэлкай і талерка з дранікамі. Мужык ляснуў кулаком і звярнуўся да графіна:

— Гробаны Захад! Там жэ нашы брацья! Гробаны Кароль не хоча іх асвабадзіць ад буржуінаў! За што мы кроў пралівалі на Велазаводзе? А?!.

Графін маўчаў.

Бармен з дакорам і спачуваннем паглядзеў на мужыка. Патлумачыў Дзікуну:

— Даўно тут сядзіць. Ардзенаносец. Адзінае, што яму пагражае, — прымусовае лячэнне ад алкагалізму ў рыбалоўнай арцелі на астравах. А іншага б даўно на Свінакомплекс адправілі… Дык я пра што… А! Вы пытанні дзіўныя задаяце. Калі я прыглушу музыку, у мяне забяруць ліцэнзію. Калі адключу, да таго ж такі штраф упаяюць, што давядзецца ісці ў вечную кабалу да дзяржавы. А на радыётрансляцыю ў дзяржавы выключная манаполія. А шостай раніцы ўключаецца, а дзясятай вечара выключаецца. Праведзена ва ўсе кватэры і ўстановы. Калі ты, напрыклад, рамантуеш сабе новапрыдбаную кватэру, то абавязаны цягам двух дзён правесці туды дрот. За свой кошт. Узровень

гуку пазначаецца адмысловай рысачкай, калі ты рэгіструеш свой прымач у міліцыі. Калі не рэгіструеш — адразу адпраўляюць на Свінакомплекс.

Дзікун кіўнуў, маўляў, усё зразумела, і пачаў вывучаць меню.

— Магу прапанаваць як земляку самаробнае віскі. Сам гнаў з пшанічнай мукі з Заходніх тэрыторыяў. Настойваў паўтара года ў дубовай бочцы — найвышэйшы клас!

— Не, дзякуй, я толькі паесці хачу.

— А я вам падкажу. Якой кухні аддаяце перавагу: традыцыйнай ці старатрадыцыйнай?

— Стара?..

— Пра «каларадку» чулі? — прашаптаў бармен.

— Э… — Дзікун вывучаў гатункі чыпсаў на палічцы пад бутэлькамі з алкаголем.

— Так-так, зямляк, вы гледзіце на «каларадку», гэта новатрадыцыйная кухня — не ўжывалі яшчэ? Тады і прымушаць не буду. Прапаноўваю сцягно дзікага труса, тушанае з цыбуляй і таматамі з кукурузным лавашом у дадатак. З напояў — паўднёварадашкавіцкае сухое вінаграднае віно.

— Ок. Толькі без віна.

Дзікун спытаўся, ці можна набыць цыгарэты. У кавярні не прадаваліся, але бармен паказаў на суседнюю краму. На ёй на шыльдзе быў намаляваны знак «$». «Замежнікам можна за валюту». У вітрыне размяшчаліся дызайнерская вопратка, аўтарскія ювелірныя вырабы, дыскі з музыкай і фільмамі, адзін камп’ютар. А таксама цыгарэты «Менск». «Вельмі дарага», — Дзікун пакруціў перад вачыма цэннікі, якія ўжо паспеў пабачыць у Горадзе-Героі. Дзіва што ў краме «Бакс» наведнікаў не было.

Каля крамы тусаваліся непрыкметныя персанажы, якія сваёй «непрыкметнасцю» адразу звярталі на сябе ўвагу. «Толькі не купляйце і не мяняйце нічога ў барыгаў, ніколі не ведаеш, ці не аператыўнік гэта», — папярэдзіў бармен.

Дзікун упершыню паліў цыгарэты з фільтрам. Гэта быў кайф. У горадзе было шмат новых кайфаў.

Праз сценку з «Баксам» суседнічала крамка, пазначаная на шыльдзе малюнкам пэндзля. Зразумець мастацкага канцэпту шыльды Дзікун не змог: ці тут прадаюцца прылады для малявання ці карціны? Зрэшты, наўкола скрозь панавала нязвыклая

воку візуальная эклектыка. Больш дакладна — адсутнасць хоць якога мастацкага канцэпту. На білбордах, на расцяжках і плакатах усё было выканана бляклым малінава-бэзавым, часам з пераходамі ў маскіравальна зялёна-сіне-карычнівае адценне.

Вось партрэт Караля. Так патлумачылі Дзікуну, бо насамрэч быў бачны адно кепска напісаны абрыс мужыка ў паўпрофіль. А вось групавая выява барацьбітоў з каларадскімі жукамі на білбордзе, за якім бачны намаляваны на палову сцяны палавы акт мужчыны і жанчыны: над геніталіямі ўзыходзіць сонца, а ўсё разам аздобленае вянком з бульбянога бацвіння і валошак. Сэнс кампазіцыі Дзікуну патлумачылі ў краме з пэндзлем.

— Духоўнымі карцінкамі цікавіцеся? — добразычліва ўсміхнулася дама гадоў пад семдзесят з акуратна зачасанымі назад сівымі валасамі і ў круглых акулярах на даўгім носе.

— Ды якая ж гэта духоўнасць?! Гэта самае сапраўднае порна! — упэўнена парыраваў Дзікун у шчырым здзіўленні гартаючы першы-лепшы ўзяты з паліцы комікс.

— Ма-ла-ды ча-ла-век! — строга пачала прадавачка. — Я вас па-пра-шу! Прынцып нашай крамы — духоўнасць, духоўнасць і яшчэ раз духоўнасць!

Дама рэзка схапіла з паліцы адзін са сшыткаў з малюнкамі, пачала хутка гартаць старонкі і па чарзе соваць пад нос Дзікуну:

— Вось — гэта, гэта, гэта, вось — глядзіце? Гэта порна?!

Порна як порна, і не вельмі якасна намаляванае.

— Гэта ў іх там, — рука прадавачкі скіравалася ў бок Менску, — у іх — порна! У іх — бездухоўнасць! У іх — разлажэнне грамадства.

Даму пачало трэсці. Дзікун быў пасунуўся да выхаду.

— Стаяць! Калі не хочаце, каб я націснула на пімпу выкліку міліцыі.

Дзікуну прачыталі лекцыю пра тое, што «ў вашы гады можна было б ведаць», што ў Горадзе-Героі публікуюцца толькі духоўны карцінкі, якія матывуюць да добрых думак і дзеянняў. І калі вы бачыце на малюнку акт саіцыя, гэты малюнак зроблены так, каб вы думалі пра каханне, пра любоў, пра працяг роду, пра працвітанне дзяржавы

ўрэшце. А вось там, на Захадзе, палавыя акты дэманструюць для таго, каб закабаліць просты народ, стымулюючы ягоныя цёмныя бакі натуры. «А яшчэ яны хочуць пасварыць брацкія народы».

Дзікун ветліва даслухаў, набыў адзін комікс і вярнуўся ў кавярню.

«Вечер за решёткой догорает, / Догорает солнца уголёк. / И тихонько песню напевает / На тюремных нарах паренёк… »

Дзікун вярнуўся своечасова. П’яны госць дастаў пісталет, каб страляць у бок барнай стойкі. У бармена ці толькі па бутэльках, Дзікун не ведаў, але небяспека для бачуна была відавочнай. Раз — рука перахопленая. Два — з «макарава» вынятая абойма. Тры — пісталет у адной кішэні, абойма ў другой. Чатыры — мордай у астылыя дранікі. «Адпачывай, ардзенаносец».

Да трусіка з гарнірам удзячны за дапамогу ўладальнік кавярні дадаў кошык з экзатычнай садавінай: мангастан, лічы, рамбутан, ланган, дурыян, чэрымоя. «Усё са свайго агароду». Дзікун скарыстаўся з адсутнасці іншых наведнікаў і разглядаў набытыя ў хлопца на рынку коміксы. Сумневу не было:

персанаж «Альгердавай дзіды» быў вылітым Мао. Сюжэт быў такі. У час да Вялікага Выбуху ў мястэчку побач з сярэднявечным замкам ладзіцца Фэст сярэднявечнай культуры. Ралевікі — хлопец-рыцар і дзяўчына-князёўна — хаваюцца ў кустах, мілуюцца, раптам заўважаюць уваход у пячору. Там толькі пачынаюць займацца сексам, як бачаць дамавіну, вечка якой уздымаецца знутры, як рычагом, гіганцкім чэлесам.

З дамавіны выходзіць рыцар, які сваім палавым органам валіць усіх ралевікоў на фэсце. Цягам гісторыі высвятляецца, што ў сярэдзіне XIV стагоддзя на замову вялікага князя Альгерда вядзьмарка зрабіла з трыццаці трох самцоў змяі похву для мяча. Калі князь насоўваў похву на чэлес, чэлес набываў неверагодны памер і сілу. Похва-прэзерватыў-стымулятар перадавалася ў родзе князя з генерацыі ў генерацыю. Аднойчы адзін рыцар заснуў летаргічным сном, і вось юная пара вярнула яго сваймі эратычнымі гульнямі да жыцця на самым пачатку XXI ст.

Да рыцара стае ў чаргу мноства дзеўчын у нацыянальных строях. Нараджаецца багата будучых герояў. Рыцар ачольвае на-

родны рух разам з падрослымі сынамі і дочкамі, а падчас масавага грамадскага пратэсту ў цэнтры Менску разганяе чэлесам усіх дэманаў з дубінкамі, і народ робіцца вольным.

У фінале рыцар выкідае сваю дзіва-похву ў Свіслач і жыве нармальным чалавечым жыццём, аточаны прыўкрасным кабетамі, а краіна радасна ідзе насустрач шчаслівай будучыні. Рыцар-супергерой, змаляваны з Мао, меў на шчыце выяву зоркі-знічкі.

У коміксах з «крамы мастацкіх вырабаў» Дзікун таксама ўбачыў порна. Сшытак зваўся «Разам да працвітання». Малюнкі былі дэманстратыўныя, але без вялікай фантазіі. З пэўным наборам схемаў паводзінаў падчас палавога акту. Прымітыўная «Камастура на пальцах». Фактычна выглядала як інструкцыя карыстання якой-небудзь пралкай ці пыласмокам. Секс: так, так, гэтак, пасля вось так, і ў фінале — сільная працвітаюшчая краіна маладых і моцных людзей!

Бармен нечакана прамовіў з-за спіны:

— Давайце вашыя коміксы, набытыя відавочна не ў краме, я іх спалю на кухні ад граху падалей.

Калі бармен вярнуўся з кухні, то пільна паглядзеў у вочы Дзікуну і прамовіў амаль шэптам:

— Mianie Vitaŭtam kličuć, tut — Viktaram. I nikoli nie kažycie «ok». Chutaranie z vyspaŭ tak nie havorać.

Дзікун адказаў «dziakuj», разлічыўся і пайшоў у гатэль. «Забыць слова «гатэль», толькі «гасцініца»! Па дарозе абышоў натоўп, які згуртаваўся вакол расказчыка серыялаў, каларытнага дзядзькі з доўгімі валасамі саламянага колеру, змацаванымі стужкай вакол галавы. Стужка была аздобленая знакамі старажытнага арнаменту. Расказчык выгодна вылучаўся стылёвым іміджам на фоне калег-канкурэнтаў, якія мала сачылі за сваім абліччам. Дзікун пачаў ужо быў уздымацца па ганку гасцініцы, як вуха зачапілася за фразу «…і тады народ выйшаў з-пад зямлі і скінуў караля».

Істэрычна завішчаў свісток, слухачы пабеглі хто куды, дзесьці ўтварыўся затор. Апроч двух міліцыянтаў, якія свісталі, на плячык выскачылі «чорныя п’яўкі». Яны моўчкі білі людзей прыкладамі «калашнікавых», імкнучыся прабіцца да расказчыка. Дзікун уважліва сачыў за тым, чым усё скончыцца. Натоўп рассеяўся, хіба што на зямлі засталі-

ся валяцца пабітыя і патаптаныя. Саламянага дзядзькі не было. Міліцыянты і «чорныя» засталіся ні з чым. Але Дзікун гатовы быў прысягнуць, што вандроўны расказчык не пакідаў пляцу разам з натоўпам.

## 12

У дзверы нумару пагрукаліся. «Заходзьце!» На парозе стаяла рудая кабета, апранутая ва ўніформу пакаёўкі. «Знаёмае аблічча…» — пачаў прыгадваць Дзікун. Пакаёўка крыху пагойдвалася. І крыху засмучана ўсміхалася. Добразычліва патлумачыла:

— У мяне змена пачынаецца.

— ?!

— Выклік у гэты нумар, — пакаёўка паправіла карацюсенькую форменную спаднічку і шмыганула міма Дзікуна ў суседні пакой.

— Ну што — ачуняў? — пачуўся з-за дзвярэй другога пакою бадзёры голас Немца. — А я сяджу не п’ю ужэ с утра.

Дзікун глядзеў унутр сябе.

— Што, узгадваеш, што было ўчора? Не напружвай пукацельную вену. — Немец радасна глуміўся. — Пачакай, раскажу.

Рудая тым часам распранaлася, а з ложку вылезла другая пакаёўка — Таццяна.

— Пост здаў, пост прыняў, — весела казырнула Таццяна правай рукой, а левай прыкрыла голыя грудзі. Нядаўняй строгасці, што была падчас засялення ў нумар Дзікуна, як не было.

— Ты, Дзікун, не хвалюйся, я гэты рахунак ужо аплаціў, — супакоіў Немец.

Дзікун не хваляваўся, а спрабаваў узгадаць, якім чынам тут апынуўся Немец. Дзікун вярнуўся ў асноўны пакой. Наліў са збана яшчэ квасу з сокам. На стале побач з буклетам «Стоп рабства!» ляжаў «Прэйскурант тавараў і паслуг».

Ручнік — столькі рашчотных білетаў, мыла — столькі…

Абрус, фіранкі, бялізна, збан, шыба, псаванне падлогі, псаванне ложка, псаванне крэсла, псаванне фатэля… Усё каравым ледзь чытэльным почыркам. Побач ляжаў прайс з загалоўкам «Спецыяльнае абслужыванне». Вельмі старая паперка, на выгляд — ксеракопія, была ўстаўленая ў не менш стары поліэтыленавы файлік.

«Секс классический, Секс анальный, Секс групповой, Секс лесбийский, Услуги семей-

ной паре, Минет в презервативе, Минет без резинки, Минет глубокий, Куннилингус, Игрушки, Стриптиз профи, Стриптиз не профи, Лесби откровенное, Лесби-шоу, Лёгкое БДСМ, Бандаж, Госпожа, Ролевые игры, Лёгкая доминация...» І яшчэ два дзясяткі словаў, палову з якіх Дзікун не зразумеў, хоць са школы ведаў пяць моваў і пры патрэбе мог вывучыць яшчэ пяць менш чым за год. І порна Дзікун бачыў у бібліятэцы Добрага Месца. «Ну, Альгердыч! Так-то ты мне распавёў «усё, што ведаеш пра Менск»?!»

«Качаства ўслуг, как і абеды, у нас практічаскі дамашнія», — прыгадаў Дзікун словы адміністратаркі Алы Пятроўны.

На ксеракопіі было прыпісана тым самым каравым почыркам, што на прэйскуранце: «Абанямент. Паўдня, дзень, тры дня, нядзеля, дзве нядзелі, месяц. Гражданам Горада-Героя — льготны крэдзіт».

— Немец, мясцовыя тут карыстаюцца паслугамі?!

— Панты. Ціпа, «я тыдзень жыў у «Турысце», зайздросціце мне». Піва будзеш? Менскае «Граф Чапскі», старажытная рэцэптура — 1993 года! Чуеш? З дадаткам ядлоўцу!

Ядлоўцу ў Добрым Месцы не было. Але Дзікун ужо не хацеў нічога каштаваць з таго, чаго не ведаў. Накаштаваўся ўжо ўчора… Але дзе і чаго? Дзікун перавёў тэму:

— Немец, тут так файна. Я ведаю пра Менск, пра Менск і Горад-Герой, усё-усё. Ну, амаль усё, — выправіўся Дзікун, зірнуўшы на прэйскурант паслуг гасцініцы. — Я разумею, што я проста ўпершыню ў жыцці ў горадзе. Таму ад усяго, — а ў думках удакладніў: «Ладна, шмат ад чаго», — у захапленні. Але ж ты п'еш менскае піва, не ўжываеш мясцовых харчоў, высмейваеш сваіх суайчыннікаў, у цябе ёсць менская віза. Чаму ты не з'язджаеш?

Немец паглядзеў на Дзікуна задуменна і прапанаваў сходзіць папаліць у спецыяльны пакойчык. Гасцініца «Турыст» стаяла на высокім пагорку, плюс пятнаццаты паверх — Менск быў бачны далёка. Усё было знаёмае Дзікуну з фотаздымкаў і відэа. Чагосьці ўжо не было. Напрыклад, «дом Чыжа» каля Траецкага прадмесця напалову быў разбураны. Аграмадны безгустоўны жылы будынак, які ў свой час навісаў над усім гістарычным цэнтрам Менску.

А Немец распавёў пра сучасны Менск.

— А нахвіг мне з’язджаць?

Загінае пальцы:

— Я работаю ў сумесным прадпрыемстве з менскай фірмай. Кантрольны пакет Велазаводу — у Менску. На нашым «Мотавела», які «мы адстаялі ў пяцігадзіннай вайне і ганарымся подзвігам нашых мужных людзей», вырабляюць ровары, якія нам жа і прадаюць. Я зарабляю ў іншамарках. Іншамаркі свабодна канверсуюцца ў менскія баксы. Я магу ездзіць у Менск хоць кожныя выходныя. Бо працаўнікам «Мотавела» — адкрытая віза. У Менску адтапырваюся — тут зарабляю. Нахер я каму ўпаў у Менску, калі вытворчасць у іх тут? А ўлазіць інтэгравацца ў іхнае жыццё, абзаводзіцца новымі сацыяльнымі сувязямі, пачынаць з якога прыбіральшчыка ці разносчыка дранікаў — у мяне не той узрост ужо. А рыбалка? У менскіх жа няма выхаду да фарватараў. Яны толькі на забалочаныя берагі Заходніх тэрыторыяў могуць з’ездзіць. Што яны там зловяць? Лупатых жаб? Дык тыя жабы атрутныя ўжо за метр вакол сябе. Ну і галоўнае: на каго я гэтых усіх кіну, дружкоў-піражкоў, якіх ты бачыў у «Сумёце»? Гэта ж родныя людзі. Эта родзіна мая, панімаеш?..

Дзікун разумеў. Ён прыгадаў словы Альгердыча са школы: «Хоць вы і выраслі тут, на выспах, памятайце, што ваша радзіма — Менск. І мы ўсе туды калі-небудзь мусім вярнуцца. Выгнанне наша вымушанае і часовае».

— Хацеў бы ў Менск трапіць? — нібы счытаў думку Немец. — Практычна немагчыма. Права ўезду маюць працаўнікі сумесных фірмаў, як я, напрыклад. Я на Велазаводзе — шараговы рабацяга ў зборачным цэху. Але маю права. Яшчэ дыпламаты, ясна. Некаторыя дзеячы культуры, якія асобна ад палітыкі Караля муцяць творчыя праекты з фінансавай падтрымкі Менску. Толькі іх улады Горада-Героя не выпускаюць за мяжу.

— А гандляры?

— Паміж Менскам і Горадам-Героем ёсць экстэрытарыяльная зона — Стары Чэрвеньскі рынак. Там лагістычны цэнтр. Менскія тавар прывезлі, «героі» — грамадзяне Горада-Героя — забралі. І наадварот. Усё пад наглядам бронецягнічкоў. Тут і тут чыгунка, там Свіслач, якая патрулюецца на катарах. Не, без варыянтаў — гаўно доля. Не праскочыш.

Немец пакалькулераваў штосьці ў галаве.

— А нават калі здолееш перабрацца, там цябе адразу вылічаць. Ды хоць бы па гаворцы. Ты ўвесь час кажаш «ок», «окей», а гэта даўно састарэлае слоўца. У мяне толькі адзін знаёмы ўжывае «окей». «Окей, гугаль» — гэта ў яго замест «бл@ць-нахер». Яго так і клічуць — Вася Гугаль… Карацей, вылічаць цябе і дэпартуюць сюды назад. Толькі згодна законаў Менску, ты трапіш на прымусовыя працы. У іх з Менскам такая дамова. Так менскія ўтылізуюць не самых цяжкіх злачынцаў.

«Прывітанне, сябры, у Менску — адзінаццатая трыццаць, на радыё «Адзінка» — выпуск навінаў. Менск рыхтуецца да аднаўлення інтэрнэту. Цырымонія адкрыцця адбудзецца паслязаўтра, трэцяга чэрвеня, апоўдні на плошчы Свабоды. Вас чакае да самага позняга вечара музычная праграма: джаз, класіка, рок і фольк. Будзе працаваць фуд-корт.

Саюзныя войскі анархістаў былі атакаваныя бандай, якая прыйшла з раёну Розачкі. Нагадваем пра неабходнасць быць пільнымі і трымаць персанальную зброю ў баявым стане.

Вялікая партыя кантрабанднага сала была вылаўленая ў Свіслачы ў раёне Старога Чэрвеньскага рынку.

А цяпер — пра надвор’е. Верхавы вецер, як заўжды, дзьме на паўднёвы ўсход, тэмпература паветра: між плошчаю Незалежнасці і плошчаю Перамогі — 25 градусаў цяпла, ад плошчы Якуба Коласа і да Паўночнага Лесу — 18 градусаў, уся Паркавая магістраль да Ждановічаў уключна — плюс 20. Месцамі невялікія дажджы.

Сонца будзе бачнае ў прамежку між пятнаццатай і шаснаццатай гадзінамі па адрасах: Дамініканская 14, Падгорная 6, а таксама з Міхайлаўскага скверу.

І пра курсы валют. Адзін менскоін сёння роўны паўтара менскіх бакса.

Добрага ўсім дня!»

Як высветлілася, менскі бакс — найперш валюта для разлікаў з Горадам-Героем. «Для лахоў чылійскіх», — удакладніў Немец.

— У іх жа ў Менску як бы крыптавалюта.

— Гэта як?!

— Ну банк у іх інфармацыйны, — пачаў тлумачыць Немец. — Кожны грамадзянін мае сваю папку. Разлічваюцца між сабою

чэкамі, а пасля сумы спісваюцца ці дадаюцца ў камп'ютары. Але і баксамі можна, канечне.

З прымача пайшлі дэбаты пра магчымасці змены выбарчага заканадаўства, Немец прыглушыў гук. Тут Дзікун зразумеў, што гасцініца «Турыст» — адзінае месца ў Горадзе-Героі, унутры якога не было рэпрадуктараў-мацюгальнікаў.

— Я чуў на рынку, што ў вас тут прымачы забароненыя.

— Похер на прымач. Улады могуць забраць каго заўгодна за што заўгодна. Але ж ёсць Менск, які часам перакрывае пастаўку газу. У Менску газасховішча ёсць, а гэтым гаўно куды дзяваць? Тут тонкі палітычны расклад. Усе кладуць болт на забарону… Ну, як усе… Калі мяне забяруць на Свінакомплекс, будзе міжнародны скандал. — Немец задумаўся. — Магчыма, будзе дробны скандал. Я ж на «Мотавела» працую. Думаеш, тут ёсць багата людзей, якія могуць маю працу рабіць? Ха! Калі Кароль пачне саджаць усіх, хто ўмее штосьці рабіць, дык тут медным тазам усё накрыецца. Я так думаю. Карацей, галоўнае — не нахабнічаць, не свяціць радыёпрымач.

«Таксі да кавярні «Айцы-Заснавальнікі», увага, Артур Карлавіч Жмулінскі просіць таксі да ганка бару «Айцы-Заснавальнікі».

Гэта з радыёпрымача Немца такая абвестка прагучала.

— Стоп! Хто?! Артур Карлавіч? Ёхарны бабай! Я яго сто гадоў не бачыў, — Немец ажно заззяў ад радасці. — Гэта ж мой дружок-піражок з мінулага жыцця. Мы ў Менску ў адзін бар хадзілі — у «Бутэрбродны-Плюс-М».

Немец заглыбіўся ва ўспаміны пра Менск больш як трыццацігадовай даўніны. Тады яшчэ ў горадзе заставаліся такія ўстановы, якія можна было назваць сумессю румачных і пабаў. Зробленыя ў былых пад'ездах, міні-барчыкі працавалі ў стылі «налівайка». Месца там было няшмат, але памеры мала каго пужалі. Па вечарах налівайкі шчыльна забіваліся наведнікамі, абсалютная большасць якіх была заўсёднікамі не адзін год, а часам не адзін дзясятак гадоў. Таму — паб. Бо ўсе адзін аднаго ведалі. Ды што там ведалі, некаторыя перажаніўшыся былі па некалькі разоў. У госці адзін да аднаго хадзілі, разам на шашлыкі ездзілі. Ледзь не адна сям'я.

Як тлумачыў Немец, яму падабалася пярэстасць публікі. Тут побач стаялі і прафесар універсітэту, і рабочы будоўлі, і адстаўны вайсковец, і дзейны міліцыянт, і журналіст, і літаратар, і «снабжэнец», і таксіст. Сацыяльная сетка ва ўсёй красе з шырокім дыяпазонам поглядаў і меркаванняў. Сярод заўсёднікаў пачэснае месца старажыла займаў Артур Карлавіч — мужчына за пяцьдзясят з вечна пагнутай аправаю акуляраў, з ускудлачанымі валасамі і падкрэслена ветлівым зваротам да ўсіх без вынятку. Артур Карлавіч быў даўнім карэспандэнтам інфармацыйнага агенцтва «Баец». Публіка «Бутэрбродкі» вельмі любіла расповеды Карлавіча пра ягоныя камандзіроўкі ў вайсковыя часці і на палігоны Міністэрства абароны. Пасля камандзіровак Карлавіч традыцыйна заходзіў у барчык. Ужо на падагрэве. Бо афіцэры шчодра частавалі карэспандэнтаў — каб матэрыялы пра войска выходзілі бадзёрымі і жыццесцвярджальнымі.

Але аднойчы Карлавіч вярнуўся цвярозым і… не тое што разгубленым, але засяроджаным на чымсьці сваім. Стаяў за стойкай з чаркай у руках, вусамі шаволіў, як рак — ва ўсе бакі. Гэта значыць, напружана думаў.

А наведнікі падколвалі: «Што, Карлавіч, падышоў да снараду і не ведаеш, якую вяршыню ўзяць?» А ўсе ў барчыку як ніколі чакалі гэтага вяртання Карлавіча, бо той анансаваў, што едзе ў незвычайнае месца — на былы Альманскі палігон.

«Паўтараем, таксі для Артура Карлавіча з бару «БНР», былая «Чабурэчка», дзякуй».

— Бачыш, у іх там праўдны тэлефон ужо амаль ва ўсіх установах. Плаціш, напрыклад, кавярні і замаўляеш абвестку. А кавярня пасля з ФМ-станцыяй разлічваецца і свой працэнт забірае. Зручна! А ў нас у Горадзе-Героі трэба цягнуцца ў офіс радыёкропкі, запаўняць бланкі, пасля чакаць хер ведае колькі. Хіба што павіншаваць кагосьці можна, а так… Ага, дык Альманскі палігон.

Альманскі палігон стратэгічнага бомбамятання стварылі ў канцы 1950-х гадоў. Быў ён па тэрыторыі як тры цэлыя непадзеленыя Менскі. А самі Альманскія балаты — дык як усе пяць Менскаў. А пасярод тых балатоў была тэрыторыя на некалькі дзясяткаў квадратных кіламетраў, якая звалася Мярлінскія хутары. Балаты калісьці належалі князям Радзівілам. З пачатку 1920-х, а то і раней, Радзівілы пачалі за нядорага прадаваць

кавалкі зямлі, раскіданыя паміж бяскрайняю багнай. З'язджаліся туды людзі з усіх бакоў. Простыя сяляне. Так, пад канец 1930-х назбіралася некалькі тысяч жыхароў Мярлінскіх хутароў. А тут прыйшлі саветы. Частка мясцовых пасунулася хто куды ад новай улады, але большасць засталася. У ІІ сусветную немцаў там не бачылі, толькі партызанаў розных відаў. Можна сказаць, што быў на Альманскіх балатах край геаграфіі, а можна — што пачатак. Як бы там ні было, але ў 1959 годзе хутаранаў сагналі ў пару вёсак. Людзі свае хаты і гаспадарчыя пабудовы разабралі, перавезлі, сабралі на новым месцы. Такі сабе традыцыйны сялянскі «Lego». А ў 1961-м мярлінцаў пачалі высяляць ужо канчаткова — развозіць у розныя бакі ад Альманскіх балатоў. Цэлы генерал прыехаў камандаваць аперацыяй. Людзі кідаліся пад колы, людзей пужалі аўтаматамі, выбівалі шыбы ў хатах, разбіралі дахі акурат тады, калі сям'я сядала абедаць. А перад тым высяленнем быў моцны выбух, які мярлінцы чулі. Ды што мярлінцы — за сто кіламетраў у радыусе людзі чулі. З «варожых галасоў» даведаліся, што на Захадзе зафіксавалі радыяцыйную актыўнасць побач з Мярлінамі.

А далей ажно да пачатку 1990-х па балатах шпурлялі ўсялякімі відамі авіяцыйнай і ракетнай зброі — трэнаваліся. Толькі, як пасля высветлілася, трэніроўкі не дапамаглі.

— Маем што маем, — уздыхнуў Немец і правёў рукой так, нібы паказвае на ўвесь сусвет.

На пачатку 1990-х палігон закансервавалі, а незадоўга перад Вялікім Выбухам раскансервавалі. Пачалі там дарогі будаваць. А за чвэрць стагоддзя без людзей на Альманах утварылася ўнікальная прыродная зона з кучай раслінаў і птушак усялякіх рэдкіх. Тады эколагі і абаронцы птушак забілі ў званы. Маўляў, Міністэрства абароны зноў штосьці чалавекашкоднае пачало муціць. Вось Артура Карлавіча і адправілі ў камандзіроўку зрабіць рэпартаж, які б суцешыў ці хоць бы прыцішыў грамадства. Каб выставіў Міністэрства абароны пяшчотным стварэннем. Карлавіч вярнуўся цвярозы і задуменны. Пакруціў вусамі, адставіў чарку. Развітаўся. І больш Карлавіча ніхто не бачыў. А тут во — аб'явіўся больш як праз трыццаць гадоў.

Дзікун ведаў імя Артура Карлавіча. Альгердыч згадваў пра тое, што выведніца Зуля выйшла на важную інфармацыю, звязаную

з вынаходніцтвам абсалютнай зброі ў адной з сакрэтных лабараторыяў Міністэрства абароны. І што Карлавіч нейкім чынам быў звязаны з той імавернай абсалютнай зброяй.

## 13

— Немец, а як ты апынуўся ў мяне ў нумары?

— А ты давай, прыгадвай, а я дапамагу.

— На рынку быў хапун. Я вярнуўся ў гасцініцу. Падарыў Але Пятроўне букет кветак, куды ўклаў пяць іншамарак. Пайшоў да ліфта… там налева ад ліфтаў — уваход у рэстаран. У ім ішла гулянка…

— Ну, давай, — падбадзёрыў Немец.

— Я заўважыў, што па калідоры бегалі святочна адзетыя дзеці, яны гуляліся… Гуляліся ў п’яных!

— Так…

— А, перад тым я сустрэў Алу Пятроўну на ганку гасцініцы. «Зноў набілі пасуды», — сказала яна, абносячы частку прыступак чырвонай стужкай. Я яшчэ падумаў, што біць шкло — гэта нейкі шык, што нават у маім VIP-нумары посуд металічны. І што біць шкло — відаць, нейкая прыкмета.

— Прыкмета — на шчасце. А шчасце чаго? — Немец намякаў-падштурхоўваў.

— Мяне перахапіла кабета... Кабета назвалася Марынай. Яна спыталася, ці не іду я на... На вяселле! Шкляны посуд б'юць на шчасце сямейнага жыцця! Вяселле, я быў на вяселлі! Дзікун узгадаў усё.

Марына завярнула Дзікуна ад ліфтаў і прывяла ў рэстаран. У зале за сталамі, ссунутымі літарай «П», сядзела чалавек сто пяцьдзясят. На выгляд, сядзелі даўно. Добра датыя, распараныя, учырванелыя, усе размаўлялі з усімі і адначасова ні з кім. У глыбіні залы за галоўным сталом, за верхняй перакладзінай літары «П», — маладыя, сведкі і бацькі. Бліжэй да ўваходу ў рэстаран базавалася міні-сцэна, на якой стаяў высокі лысы дзядзька ў строі, падобным да клоўнскага: ружовы колер, клёшы, залатыя аблямоўкі і лампасы. У руках «клоўн» трымаў фужэр з напоем. «Вып'ем этава бажэсьцьвеннава нектара за здароўе маладых!» Выпілі. «Пусьць любоў маладажонаў будзе хмяльной і сладкай, как эта віно! І нікада не будзе горкай! Горка! Усе доўга крычалі «горка!», маладая рабіла выгляд, што саромеецца цалавацца, пасля доўга цалаваліся. Марына пасадзіла

Дзікуна на самым краі, каля ўваходу, спінай да дзвярэй, тварам да залы.

«Клоўн» перадаў свой фужэр афіцыянтцы і бадзёра грымнуў у мікрафон: «Здравствуй, чужая милая!..» Але калонкі рэзка засвісталі, і «клоўн» запнуўся.

«Хацеў пёрнуць, а ўсраўся!» — гыгыкнуў мужык, які сядзеў насупраць Дзікуна. І адразу да суседа за сталом: «Што ты робіш?! Чэрэз руку не налівай!.. І на вясу не налівай!.. Бляха, як дзеці проста». Мужык забраў бутэльку, прачытаў этыкетку. «Што ты ліеш, гэта ж лікёр… Градус не паніжай». Наліў гарэлкі сабе, суседу і Дзікуну, да якога звярнуўся з добразычлівай інтанацыяй: «А ты чаго не ясі? Салаціка во палажы».

Праз пару хвілінаў апаратуру наладзілі.

«Здравствуй, чужая милая,
Та, что была моей.
Как же мне не любить тебя
До самых последних дней!..»

Прысутныя запляскалі, а наваспечаны муж запрасіў сваю жонку на танец.

«Жалко, что не смогли мы,
Не сберегли с тобой
Всё, что зовут любовью,
Что стоит нам жизни той…»

Пара кружляла, а Дзікун прыслухоўваўся да абрыўкаў размоваў, якія даляталі да краю стала. Справа, з боку суседкі, фарбаванай бландзінкі ў чырвонай сукенцы, чулася:

— В плане прадуктаў ён мужык харошы. Всегда прынасіў!

— Ну а к ней ён как атнасіўся?

— Ну к ней не очэнь атнасіўся. Ну дык дзе яно бывае, штоб усё сразу?

Жартаўнік насупраць тлумачыў свайму суседу ўласнае жыццёвае крэда: «Жыць нада па прынцыпах. У міня два глаўных: не гавары «гоп», пака не ўвідзіш гопніка, і — узяўся за гуж, абасраўся і стой».

Па дыяганалі ад Дзікуна сядзелі, з усяго відаць, муж, жонка і сын — пісклявы шасцікласнік. У школьніка на твары былі свежыя абдзёртасці. «Яны там, на Западзе, у школах праводзяць гей-парады. А в качэстве наказанія ў ніх у школах яб@ць у жопу!» — страшыў малога бацька. «Дык ім жа ў жопу мусіць быць па кайфу!» — пісклявым голасам парыраваў шасціклясьнік і атрымаў поўху ад маці.

Тым часам сусед-жартаўнік, здаравушчы чырванаморды дзядзька сталага веку, пра-

цягваў размову са сваім знаёмым. На пальцах у чырванамордага красавалі наколкі. Справа — «МАЗ», злева — «30».

— Ты тупы ці пад’@бываеш? — добразычліва спытаўся чырванаморды ў свайго суседа, на выгляд маладзейшага і значна драбнейшага. — Я ў металаздабычы трыццаць год ужо. Вот эцімі рукамі, — сунуў наколкі пад нос драбнейшаму, — эцімі во рукамі знаеш сколькі я за трыццаць гадоў дэталяў павыкалупліваў? Колькі тон металапракату парасьпіліваў? Колькі тон механізмаў павыкручываў? О-го! МАЗ — эта сіла!

Чырванаморды пасунуў Дзікуну пад нос талерку з дранікамі і кампанейскі падміргнуў:

— Без бульбы х@й укорміш.

І назваўся:

— Мяне Пятровіч завуць.

Дзікун не паспеў адказаць, бо мікрафон узяў у рукі мужык, які сядзеў бліжэй да нявесты. «Мікалаіч, дырэктар МАЗа, мой начальнік», — патлумачыў Пятровіч.

Дырэктар рашуча махнуў рукой у бок Менску:

— На нашы багацтва глядзяць з завісьцю. Але захваціць нашы заводы ў іх кішка танка!

Вып’ем за працьвітаньне нашай металаздабываюшчай отрасьлі!

Выпілі.

Хоць Дзікун ніколі не каштаваў моцных напояў, тут вырашыў зведаць, што гэта такое. «Каб зафіксаваць формулу небяспекі». Наўкола ніякіх пагрозаў, апроч звычайных фонавых, Дзікун не адчуваў. Таму наважыўся. Разам з усімі выпіў «за працьвітаньне». У графінах была пяцідзесяціградусная «падруга», як ласкава казалі мясцовыя пра самагонку — ад назвы гатунку бульбы «дружба».

У галаву адразу дало. Прыемна дало. Праз некаторы час Дзікун злавіў сябе на тым, што каштуе і вараную, і смажаную, і тушаную, і печаную бульбу. Дзясяткі тры розных страваў з бульбы былі на сталах. Але асабліва спадабаліся дранікі. А яшчэ праз некаторы час Дзікун заўважыў, што зала змянілася. На сцяне ў, здавалася, пустой перад тым раме паўстаў партрэт мужчыны ў вайсковай фуражцы, усёй затканай залатымі вензелямі. Прысутныя ў зале жанчыны нібы толькі што пераапрануліся ў вечаровыя сукенкі, а мужчыны — у строгія гарнітуры. Як з кіно пра пачатак XX стагоддзя.

Чарговы тост:

«С законным бракам паздраўляем,
Бальшога шчасьця вам жэлаем!»

І яшчэ чамусьці мірнага неба над галавой.

Выпілі.

Цяпер уся зала цалкам змянілася. Шыкоўная мэбля, шыкоўная люстра пад столлю… Ужо XVIII стагоддзе… а цяпер пачатак XXI… А цяпер — зноў няўцямных формаў і колераў рэальнасць. А цяпер… Замест тумц-тумц-тумц з калонак вушы пачалі выхопліваць складаную мелодыю. Суседка стала выглядаць як поп-зорка Мадонна. Чырванаморды зрабіўся падобным да каўбоя з рэкламы цыгарэт «Marlboro», шасцікласнік прыпадобніўся да выявы хлопчыка з лебедзем: скульптуры ў цэнтры Менску. А вунь за сталамі насупраць сядзяць мушкецёры са шпагамі ў руках і белымі плашчамі на плячах.

Зноў усё знікла. «Мушкецёры» трымаюць у руках бутэлькі. «Хлопчык з лебедзем» лазіць пад сталамі, падглядае, што там у цётак пад спадніцамі. А чырванаморды Пятровіч пачаў казаць чарговы тост:

— Не вижу я сейчас причин,
Чтобы не выпить за мужчин.

За женщин тоже выпью я —
Родилась новая семья!

Пятровіч падглядаў у шпаргалцы:

— За молодых я предлагаю выпить,
За счастье их мы пьем, друзья, до дна,
Теперь нам нужно всем привыкнуть,
И называть их муж, жена!

Пятровіч адарваўся ад паперкі, махнуў рукой, нібы рашуча адрынуў хатнюю загатоўку, і панес шчырую адсябяціну:

— Дарагія маладыя, дарагія іх радзіцелі, дарагія госьці! В прэдверіі блізкага празьніка хачу сказаць тост. Пасьлязаўтра мы атмічаем не проста Дзень Горада-Героя. Пасьлязаўтра мы атмічаем знамінацельнае сабыціе — пабеду ў Бітве за Велазавод. Без этай пабеды не была б у нас мірнава неба над галавой. Не гулялі б мы сіводня эту свадзьбу. Жылі б мы в рабстве. Но у ніх эта не палучылась.

Пятровіч не проста казаў «громка», Пятровіч роў так, што закладала вушы. Толькі цяпер Дзікун заўважыў, што ў чырванамордага адарванае адно вуха. «Тасціруюшчы» вытрымаў паўзу і драматычна выгукнуў:

— Хачу выпіць за Велазавод! Хай помняць. Можам паўтарыць!

«Можам паўтарыць!» — тры разы прараўлі зайчыкі, эльфы, сняжынкі, коцікі і каралеўны. Сам Пятровіч стаўся Дзедам-Барадзедам. А суседка — добрай феяй. Калі адгрымела кананада з цокання фужэрамі і крыкаў «ура!», Дзікун спытаўся ў суседкі:

— А што «можам паўтарыць»? Я чуў, што кантрольны пакет акцыяў Велазаводу належыць Менску.

— Што-о-о бл@-а-а?! Ды Пятровіч на Велазаводзе вуха згубіў! Як ты смееш? Эта ж памяць!

Усе ў зале крыху сцішыліся. Шасцікласнік з падрапаным тварам гучна прапішчаў у бок Дзікуна: «А эты дзядзька, ён са стараны жаніха ці лі нявесты?»

Усталявалася абсалютная цішыня.

Суседка, якая нядаўна падавалася добрай феяй, на вачох учарнела, ссушылася і ператварылася ў злосны *гаваршчы корч*, які прашаптаў: «Эта ня наш…»

«Эта ня наш!!!» — хорам грукатнулі гаваршчыя карчы.

Немец слухаў расповед з усмешкай, а пасля перабіў:

— Я з «Сумёту» заскочыў у хол гасцініцы па цыгарэты, бо ў «палтосачнай» яны

не прадаюцца. Выйшаў на ганак, запаліў, а тут ты бяжыш-ляціш. А за табой нясецца натоўп з крыкамі «эта ня наш!» і кідае ў цябе крэслы. Дык я першаму падножку зрабіў, яны ўсе і паваліліся адзін за адным. На ўваходзе ж прыступкі крутыя. Пакуль яны там валтузіліся ў кучы-мале, я цябе засунуў у ліфт — і ў нумар затарабаніў.

У дзверы рашуча пагрукалі.

— Уваходзьце.

На парозе стаяла цэлая дэлегацыя. Мужык у камуфляжы і з аўтаматам за спінай. Адміністратарка Ала Пятроўна бюстам была ўжо ў гасцінічным нумары, а ўсім астатнім — за парогам. Над ёю ўзвышаўся мужык у гарнітуры, за імі былі бачныя яшчэ некалькі кабет.

— Мы міжведамсьцьвенная маніторынгавая група. Асушчысцвляем кантроль за качэствам услуг, за правамернасьцю прыбываньня грамадзян на тэрыторыі аб’ектаў гасударсьцьвеннай собственнасьці, за пажарнай безапаснасьцю.

Дзікун жэстам запрасіў зайсці.

— Ала Пятроўна, штойта вы такая сур’ёзная сёння? — спытаўся Немец, якога відавочна забаўляла сітуацыя. На каленях

у Немца сядзела рудая пакаёўка, на якой быў адзеты адно толькі форменны чапец на галаве.

— Дакумент аб аплаце паслуг? — без «добры дзень» спытаўся службовец з аўтаматам.

Немец моўчкі працягнуў чэк.

Той, што быў у гарнітуры, аглядаў пакоі нумара. Пасля кінуў камуфляжнаму: «Пажарка залічваецца». «Што гэта ён пажаранебяспечнага шукаў у маіх рэчах, зваленых у куце?» — падумаў Дзікун.

Ала Пятроўна строга спыталася:

— Прэтэнзіі па сэрвісе ёсць?

— Усё задавальняе, — адказаў Дзікун.

— Магчыма, жадаеце замяніць персанал?

— Усё цудоўна.

— Прабачце за нязручнасці.

Кумпанія, як салдаты на пляцы, адначасова развярнулася. Візіцёры адзін за адным выйшлі вонкі.

## 14

«Не тая Марына, не тая Марына», — са скрухай круціў у галаве думку Дзікун, калі падыходзіў да Падшыпнікавага праезду 3. Прыватныя дамы. Пустыя. Гнілыя.

Кустоў і лішайнікаў практычна няма. «Відаць, не дабівае сюды «дружба», ветру бракуе». Смурод застаялага балота. Дзікун спыніўся, пачыналася вада. Дакладней, кісель з вады і «ўсялякага гаўна і палак». Ямы, выбоіны, каналізацыйныя люкі — гэта найменшае зло, якое магла хаваць твань. Але не, унутраны сігнал «алярму» маўчыць. Наконт небяспек — усё спакойна. Вось Дзікун ужо на месцы: стаіць пасярод двухпавярховага дому па самыя яйцы ў вадзе. Першы паверх. Гнілыя рэшткі мэблі. Больш нічога. Другі паверх. Калі Дзікун падняўся па прыступках і зайшоў у пакой на другім паверсе, то ўбачыў здаравенныя — на ўсё сцяну — літары: «КОМІКСЫ».

— Уважаемый, спускаемся!

Голас знізу быў і патрабавальны, і разняволены адначасова. Чуйка бачуна маўчала, значыць, нічога экстрэмальнага не будзе. Ці — пакуль не будзе? На першым паверсе стаялі тры ўзброеныя арбалетамі мужыкі. У камуфляжы з малінава-бэзавымі павязкамі на рукавах. На нагах у мужыкоў былі высачэзныя гумавыя боты рыбакоў — «балотнікі».

— Праходзім.

Галоўны ішоў наперадзе, Дзікун — за ім, двое ззаду. Так дашкандыбалі па вадзе-кісялі да «веладжыпа», як акрэсліў сабе Дзікун канструкцыю, якая чакала на пачатку сухога ўчастку вуліцы. Шасціколавы ровар на чатыры пасадачныя месцы нагадваў абрысамі аўтамабіль.

— Давай, уважаемы, тожа пакруцілі педалі, з вецярком даляцім.

Даляцелі да «пункта ахраны правапарадка», які мясціўся ў забаўляльным цэнтры «ДК МАЗ», падзеленым на два крылы. Злева двухпавярховае выцягнутае — былая канцэртная зала — цалкам аддадзенае пад казіно. А справа — трохпавярховае шматфункцыйнае крыло. Праз сцяну ад пастарунку быў ЗАГС. Далей — крама кветак, вырабленых з пластыкавых бутэлек, следам — «пункт прыёму запчасцей ад насяленія». На другім паверсе быў рэстаран, а на трэцім — працаваў урад Горада-Героя.

Дзікун слухаў бадзёрае «умц-умц-умц» з рэстарану і думаў пра тое, што ніколі не бываў пазбаўленым волі, нават на секунду. «Дзіўнае адчуванне». Заперлі ў «абізьяннік» — закратаванае памяшканне для затрыманых. Думкі пра тое, чаму не спрацавала

«чуйка бачуна», імгненна зніклі, калі Дзікун убачыў сваіх вымушаных суседак.

— Яня, хірург хуткай дапамогі. Спецыялізуюся на п'яных калецтвах на заводах і панажоўшчынах каля бараў.

— Хрысціна, юрыстка, спецыялізуюся на камерцыйных сувязях з Менскам.

— Арына, харэограф, стылістка. Працую з дзецьмі «эліты».

— Дзікун… Турыст.

Дзяўчаты па чарзе працягнулі рукі для вітальнага поціску.

Усе тры ўсміхаліся, відавочна, зусім нядаўна яны смяяліся з нейкага жарту.

— Ну. Чаго цябе затрымалі, Дзікун? — спыталася Яня.

— Не ведаю, — паціснуў плячыма Дзікун, які адзначыў для сябе, што такіх дзяўчат яшчэ не бачыў у Горадзе-Героі. Стылёвыя стрыжкі і вопратка, «як у кіно». Хоць, зрэшты, і як у Добрым Месцы, у якім мода фармавалася паводле фільмаў і часопісаў, прывезеных калісьці з Менску. Старыя візуальныя трэнды падмацоўвалі фантазію і за трыццаць гадоў паспрыялі ўтварэнню неверагодна разнастайных стыляў.

— А нас затрымалі за арганізацыю недазволенага рок-канцэрту, — далучылася да размовы Арына. Цяпер, відаць, штраф упаяюць.

— Сплюнь, — сказала Хрысціна, — глядзі, каб не грамадскія работы.

— Дык а як цябе ўзялі, турыст? — не супакойвалася Яня.

— Зайшоў у пусты падтоплены прыватны дом, тут неўзабаве і прыехалі па мяне.

— А-ха-ха! Які стары фокус, — засмяялася Арына. — Паводле закону Горада-Героя, зямныя і марскія нетры ў межах Горада належаць дзяржаве. Пра гэта не папярэджваюць турыстаў, і калі тыя нават выпадкова заходзяць у ваду па-за спецыяльна вызначанымі для адпачынку месцамі, турыстаў затрымліваюць. Так міліцыянты робяць план па штрафах. Перавыконваюць — міліцыянтам даюць прэмію. Цябе развялі, Дзікун.

— А як яны дазналіся пра мяне?

— «Карычневых камізэлек» бачыў?

Сапраўды, Дзікун прыгадаў, што ў раёне Падшыпнікавага праезду бачыў «камізэлек». Яшчэ падумаў, маўляў, навошта яны, калі тут лішайнікі не плодзяцца. Прынамсі, бліжэй да зямлі.

— А дзе канкрэтна цябе ўзялі? — не адступалася Хрысціна.

— Падшыпнікавы праезд 3.

— Упс, — ціха прамовіла Яня, у якой змяніўся выраз твару з вясёлага на засяроджаны.

У «абізьянніку» запанавала цішыня.

Неўзабаве да кратаў наблізіўся дзяжурны міліцыянт:

— Дрозд, Яноўская, Мальцэвіч — на выхад.

Дзікун назіраў, як у дальнім куце прасторнага памяшкання пастарунку дзяўчаты хіхікалі, пакуль міліцыянт афармляў паперы. Праз паўгадзіны ўсіх адпусцілі.

— На першы раз вы палучаеце штраф разьмерам 500 рашчотных латарэйных білетаў. («Шалёныя грошы! 50 дзён пражывання ў «Турысце».) Пры паўторным правапарушэніі штраф увілічыца ў тры раза. Пры трэцім праванарушэніі вас кваліфіцыруют як угалоўнага прыступніка. Січас вы далжны аплаціць штраф в цечэніе трох сутак. Есьлі не аплаціце, вас направят на абшчэсьцьвенныя работы да цех пор, пака вы не кампенсіруеце гасударству неабхадзімую суму.

Міліцыянт вярнуў Дзікуну паперу ад «пасялення Кругі», насамрэч, зробленую дзя-

дзькам Фэлюсем. Таксама — пасведчанне пра рэгістрацыю ў «Турысце», і замяніў сіні бранзалет на аранжавы:

— Цяпер вы імееце права перадзьвігацца толька ў граніцах турысьцічэскай зоны. Ад стадзіона «Трактар» да «ДК МАЗ», ну і тут па баках ад Парцізанскага прасьпекта. Самі сматрыце. Вот вам карта.

Недалёка ад пастарунку на пляцыку перад «ДК МАЗ» сядзелі новыя знаёмкі: Яня, Хрысця і Арына. Яны відавочна чакалі Дзікуна, які памахаў ім рукой. Перад уваходам у «ДК МАЗ» змейкай вілася здаравенная чарга з мужчынаў і жанчын усіх узростаў, чалавек дзвесце. «Не тое цяпер казіно, што раней», — кінуў дзядуля, што праходзіў міма. Дзікун паказаў дзяўчатам знакам, маўляў, «хвіліначку», і спытаўся ў дзядулі, чаму такі ажыятаж. «Сёння выходны, у людзей ёсць час паспытаць шчасця, — ахвотна патлумачыў дзядок. — Па выходных кожнаму, хто пажадае, даецца пятнаццаць хвілінаў на гульню ў доўг. Цябе, хлопец, туды не пусцяць з аранжавым бранзалетам. Тут толькі для мясцовых. Для турыстаў выключна ў «Турысце». Там толькі за валюту і толькі за грошы».

— А за што гуляюць мясцовыя?

— За свае працадні. — Дзядок быў, відавочна, рады ўвазе і магчымасці паразмаўляць. — Сарваць банк — гэта на некалькі гадоў вызваліць сябе ад працы і мець пры гэтым заробак. Але большасць прайграе. А некаторыя прыходзяць адыграцца і залазяць у кабалу да дзяржавы на гады і нават дзесяцігоддзі.

— А пенсія ў вас ці вялікая?

— А я яе прайграў даўно на дзесяць гадоў наперад, — дзядок спахмурнеў, махнуў рукой і пайшоў, не развітаўшыся.

Дзікун наблізіўся да дзяўчат:

— А дзе бываюць рок-канцэрты?

— А мы табе пакажам, тут недалёка зусім.

На рагу Партызанскага праспекту і Шасэйнай вуліцы кумпанія ўбачыла духавы аркестр і натоўп. Высветлілася, што ва ўрачыстай абстаноўцы прыпынак грамадскага гужавога і велатранспарту «Вуліца Шасэйная» пераймяноўвалі ў прыпынак «ПТВ № 71». З драўлянага памосту вяшчаў бугай з азызлым тварам і шклянымі вочкамі. Вочкі бегалі туды-сюды, але здавалася, што глядзяць проста на цябе:

— У нас сіводня празьнік. Рукаводства Горада-Героя зьдзелала нам бальшы падарак. Па прашэсьцьвіі трыццаці лет восстанавліваeт работу наша прафесіянальна-ціхнічэскае ўчылішча. Эта астаноўка, каторую мы аткрываем, эта сімвал таво, што нас знают і цэнят. І мы будзем старацца, штоб апраўдаць этат падарак чэрэз прызму кадравых вапросаў на ураўні гасударства. І сіводня нам есьць чэм гардзіцца — тружанікі метала- і дзеталедабываюшчай отрасьлі напрацяжэніі нескалькіх лет абісьпечываюот выпалненіе всех прагнозных паказацелей. Но ціпер метала- і дзеталедабыча выйдут на савіршэнна новы качэственны уравень!

Воплескі, аркестр грымнуў, а натоўп зацягнуў:

«Вижу свет за окном —
Солнце будит район.
Всюду песни, знакомые лица…»

Бугай з азызлым тварам рушыў у натоўп, крэпкія мужыкі ў аднолькавых спінжаках пачалі адштурхоўваць людзей. Дзяўчаты і Дзікун дадалі кроку, а ім у след неслася:

«…Наши дети растут,
На заводы придут,
Чтобы славу отцов приумножить!»

Крыху вышэй па Шасэйнай пашыхтаваліся цагляныя двухпавярховыя дамкі на пару пад’ездаў кожны. Сімпатычныя дамкі, з разьбянымі балясамі балкончыкаў, з нетыповымі для большай часткі забудовы Партызанскага праспекту дэталямі дэкору, з верандамі. «Для «ыліты» МАЗу будаваліся калісьці», — кінула мімаходзь Арына. На ўваходзе ў першы дворык вісела расцяжка «Сардэчна запрашаем у наша Гета!». Уся кумпанія ўзнялася на другі паверх у вялікую, аб’яднаную з дзвюх, кватэру. «Спачатку мы цябе пакормім, а пасля пакажам наша «гета».

Завялі прайгравач плытак, паставілі кружэлку з джазам, запарылі зёлак, распалілі кальян. Да Дзікуна прышкандыбаў аграмадны сабака: ангельскі мастыф на мянушку Арнольд, ён жа Роня.

— Ён мяне не ўкусіць?

— Не! Ты ўжо свой чалавек. Ты ж пасля мянтоўкі ўжо пахнеш усім нашым раёнам!

Дзікун агледзеўся. Усё было нязвыклым, усё кантраставала з тым, што Дзікун пабачыў у Горадзе-Героі. Але што канкрэтна? Колеры! Усё ў памяшканні мела выразнае ад-

ценне. Сцены — цёплыя, светлыя, салатавыя. Стол і крэслы пасярэдзіне вялікага пакою — глыбокі сіні. Шыбы і падваконні былі пафарбаваныя ў адно з адценняў аранжавага. Нязвыкла. У Горадзе-Героі ў афармленьні інтэр'ераў і экстэр'ераў панавала бляклая аляпаватасць шэра-бура-бэзавай неакрэсленасці.

А ў «гета» былі выразныя адценні пэўных колераў, падабраныя адзін да аднаго з творчай задумай, аўтарскім падыходам. А на сценах было некалькі карцінаў, кветкі ў вазончыках на падлозе, на падваконнях. На паліцах — кнігі XX і XXI стагоддзяў, сярод якіх бачна багата мастацкіх альбомаў. Пакой-студыя, спалучаны з кухняй. Адны дзверы вядуць у другі пакой, а ў трэці — дзвярэй няма, толькі прыадкрытая шырма. Відаць доўгі стол з прыстаўленымі да яго крэсламі, вялікі планшэт на сцяне, распісаны графікамі і малюнкамі. У канцы стала два мужчыны штосьці жарсна абмяркоўваюць. Часам чуваць абрыўкі размовы:

— …У яго была інваліднасць па інфантылізму.

— …А сябра ягоны меў інваліднасць па ідэалагічных эксперыментах.

— …Прафесія — сэнсолаг.

— …Гарызонт вашай думкі завалены недасказанасцю.

— …Усё, што зарабляецца на нашых марах, мы маем права каментаваць.

— …Ты не ў будучыню ўпэўнена глядзі, ты ў сябе ўпэўнена глядзі.

Яня патлумачыла:

— Рыхтуюцца да семінару «Умацаванне сэнсаў ва ўмовах існавання «гета» ў фантазійнай прасторы», не будзем ім замінаць.

— Гета тваёй краіны, — пад нос прабурчала Хрысця.

— Гета нашага жыцця! — пафасна выгукнула Арына.

— Чаму «гета»?

З фатэля ўзнялася Арына. «Галандская мэбля другой паловы XX стагоддзя», — адзначыў для сябе Дзікун.

— Па-першае, у нас на даху ёсць сонечныя батарэі, — пачала Арына. — Хоць праз вечныя хмары дастаем энергіі меней, чым магчыма, мы можам слухаць музыку, захоўваць ежу ў лядоўні, карыстацца камп'ютарам. Сонечныя батарэі мала ў каго ёсць, хоць іх можна заказаць у Менску пры вялікім жаданні. Дарага. Але калі скінуцца адным до-

мам на дзесяць кватэраў, то цалкам можна сабе дазволіць.

Хрысціна працягнула:

— Па-другое, мы вырошчваем кветкі. Зірні на падваконне. На тваіх выспах вырошчваюць кветкі?

— Так, — паціснуў плячыма Дзікун. А сам звярнуў увагу на тое, што ў самым куце пакою на падлозе стаяў гаршчэчак, у якім расла бульба.

— Па-трэцяе, мы не ямо бульбы, — дадала Яня. — Але галоўнае тое, што мы малюем, чытаем, пішам, дыскутуем. Ладзім семінары, міні-фестывалі, выставы. У нас ёсць тэатральная трупа. І нават тры музычныя гурты.

Дзяўчаты накрылі на стол: свежыя чарніцы і суніцы, фінікі, апельсіны, мідыі, марская морква, акіянічная пяцівокая стронга. «Мяса мы не ямо». Паабедалі. Праз адкрытае акно пачалі далятаць галасы.

— …Я бачу, вы адукаваны чалавек. Вось падкажыце мне. Я ўсё жыццё мучуся, хачу высветліць. Выраз «я@біся колам» — гэта дрынам ці па коле?

— …Класічны твор — гэта сперматазоідпераможца, які стварае культурны кантэкст на пэўны час.

Дзікун падышоў да акна, каб лепш чуць.

— …Кажаш, да Выбуху было прасцей? Прадказальнае надвор'е, вядомыя фарватары. А што — у чалавечым штодзённым жыцці хіба менш небяспечных сітуацыяў узнікала, чым цяпер?

— …Я адмовіўся быць таварышчам, а старшая прапаршчыца Сняжана — гаспажой.

— …Як, як? «Зэ бэст»? Прасцей сказаць «за@бісь».

Дзікун павярнуўся да дзяўчат:

— Гэта яны на семінар прыйшлі?

— Калі меркаваць з размоваў, адны — на семінар, а іншыя — на аўтограф-сесію аўтара новага коміксу. Неўзабаве пачнецца ў суседнім доме нашага «гета». Там і выдавецтва, і крама коміксаў. «Коцікаў» называецца. Хадзем пакажам, — запрасіла Яня.

Вакол ганка каміксарні — высокага, на некалькі прыступак — таўкліся людзі. Хтосьці адзеўся ў гарнітур, хтосьці — ў падраныя джынсы. Унутры крамкі была бачная невялікая чарга да аўтара — мужчыны з сур'ёзным выразам твару, які засяроджана падпісваў сшыткі коміксаў. Але большасць публікі тусавалася на дварэ. Побач з ганкам стаяла таўсценная калода. Ідэальнае месца,

каб паставіць келіхі, папяльнічку і весці нязмушаную размову.

— Формай авалодаў, а сказаць не мае чаго.

— Так, сэнсаў — нуль.

— Ну не нуль, але ж адну адзіную ідэйку расцягвае на цэлы графічны раман.

— Нават не ідэйку, а анекдоцік.

— Дый з формай паўтараецца ўжо які год…

Аўтар выйшаў на ганак, удзельнікі размовы вакол калоды дружна ўзнялі келіхі і хорам пракрычалі:

— Віншуем!!!

Аўтар пакланіўся.

Вочы Дзікуна рэзка зачасаліся, пагроза была знаёмая, але ўбачаная формула небяспекі падказала, што бегчы позна.

— Усім стаяць! Працуе паліцыя сэнсаў!

Публіка без словаў імгненна пашыхтавалася тварамі да сцяны з пакладзенымі на патыліцу рукамі. «Трохачковы няўдас», — Дзікун узгадаў выслоўе Немца і пачаў разважаць пра свой далейшы лёс: проста аштрафуюць і дэпартуюць ці згнояць на прымусовых працах на Свінакомплексе? За спінай ляснуў затвор «калашнікава».

Праз пяць хвілінаў міліцыянты з «паліцыі сэнсаў» выйшлі з памяшкання каміксарні. «Адбой, спасіба за паніманіе». Публіка вярнулася да сваіх келіхаў і працягнула размовы, нібы толькі што нічога не здарылася.

— Што гэта было? — спытаўся Дзікун у Хрысці.

— Яны ў прыбіральню хадзілі.

— ?!

— Глядзелі, ці не падціраецца хто партрэтамі Караля. Усе юрыдычныя асобы абавязаныя выпісваць газету «Город Мечты», не менш за дзесяць асобнікаў, і распаўсюджваць бясплатна. Туалетная папера ў Горадзе-Героі — толькі імпартная, з Менску, таму дарагая. Вось многія і карыстаюцца. Дзесьці з паўгода, як стварылі «паліцыю сэнсаў». Яна сочыць, каб ніхто не кпіў з Караля і ягонай палітыкі «дабра і працвітання».

— Дык яны ў скарыстаных паперках рыліся?!

— Не бывае кепскай работы, — хіхікнула Хрысця.

— У вас хіба многія чытаць умеюць? Я рэдка дзе бачыў літары.

— Этыкеткі з таварамі з Менску ўсе чытаць умеюць. Плюс уменне чытаць цяпер

як бы мода. Невялікі тэкст можа адужаць амаль кожны дарослы. Да таго ж газета збольшага з карцінак складаецца. І ўсе карцінкі — з «сэнсамі», якія пад абаронай дзяржавы.

Да Дзікуна і дзяўчат падышоў уладальнік крамы, мужчына сярэдніх гадоў, крыху паўнаваты, з невялікай барадой, ускудлачанымі валасамі і вясёлай усмешкай на твары.

— О, бачу, новы наведнік, рэдка такое бывае! Выпадкова зайшлі ці падказалі?

— Падказалі.

Дзікун уважліва паглядзеў выдаўцу ў вочы:

— На Падшыпнікавым праездзе 3.

Выдавец радасна ўсміхнуўся:

— Марыну шукаеце?

— Так.

— А мы вас чакаем. Сяргей, — назваўся выдавец.

— Дзікун.

— Хадзем, Дзікун.

Сяргей павёў праз краму і адчыніў дзверы «толькі для персаналу». Спусціліся па прыступках. Яшчэ дзверы. Невялікі друкарскі станок. Пах фарбы. Скруткі паперы. Слабаватае святло ад некалькіх лямпачак. «Эканомім электрычнасць». Чатыры работнікі за працай.

— Знаёмся, Дзікун, гэта наша група пад кодавай назвай «Марына».

Работнікі моўчкі ўзнялі рукі ў вітанні.

— Ты ж па дакументах, відаць, на вяселле прыехаў?.. — сам у сябе спытаўся Сяргей. Падумаў, паўзгадваў: — Так, на вяселле. Вельмі своечасова. Мы акурат на заўтра рыхтавалі як бы шлюб, толькі не ведалі, каго ў жаніхі выбраць, у нас усе мужчыны жанатыя. Будзеш маладажонам. Не хвалюйся, гэта ненадоўга. Заўтра ў нас тут у скляпенні грукат будзе большы, чым звычайна, таму наверсе зладзім бах-татарах з музыкай і феерверкамі. Хадзем далей.

Далей былі яшчэ адныя дзверы, люк у падлозе маленькага пакойчыку, пристаўная лесвіца і яшчэ адзін слаба асветлены пакой. «Выглядае на хімічную лабараторыю», — падумаў Дзікун. Пасярод пакою за сталом сядзела маладая кабета.

— Прывітанне, мяне клічуць Люцыя, у міру — Люся.

Дзікун пазнаў голас кабеты. Гэта яна была ўпала ў люк побач з барам «Сумёт».

— Пакажы сваю тату.

Дзікун прадэманстраваў васьміканцовую зорку-знічку з выявай сонца і месяца

пасярэдзіне. У Люцыі была падобная знічка, толькі пасярэдзіне — з выявай галавы зубра ў профіль.

— Як жа мы цябе даўно чакалі, — паўтарыў выдавец Сяргей. — Амаль дваццаць сем гадоў будзе, як мы дамовіліся з Альгердычам пра пароль «Коміксы» і Падшыпнікавы праезд 3, калі вашы сыходзілі з гораду. Мы ведалі, што ты бачун і што дапаможаш нам, калі вырасцеш. І вось ты тут. Шчыра вітаем у менскім падполлі.

## 15

Люцыя ў белай вясельнай сукенцы і Дзікун у цёмным гарнітуры стаялі ў чарзе. Апроч візавых і казіношных, у Горадзе-Героі быў сезонны тып чэргаў — вясельны. Вяселлі гулялі напярэдадні Дня Горада-Героя, які адзначаўся ў гадавіну Бітвы за Велазавод.

Увесь Партызанскі праспект быў утыканы скульптурнымі выявамі, пераважна Леніна, выменянымі ў Менску на прадметы мастацтва. Насы, задніцы і нават пяткі скульптураў былі спрэс адпаліраваныя сотнямі тысяч дотыкаў. Нос барэльефа галавы Леніна з менскага метро церлі шкаляры перад

кантрольнымі. А вось задніцу скульптуры Леніна, прывезенай з дворыку Трэцяй менскай клінічнай больніцы, церлі чамусьці тыя, хто ішоў у казіно. Многія помнікі былі адпаліраваныя адначасова ў некалькіх месцах. Церлі на ўдачу ў латарэі, на паспяховую рыбалку, на тое, каб «дзевушка дала», каб «парэнь абраціў уніманіе», каб суседку «ракам сагнула і не разагнула», каб канкурэнтка-гандлярка з рынку «ўсё жыццё бульбу стакана́мі прадавала», каб калегу звольнілі, а цябе паставілі на ягонае месца, каб «пранцы ім усім у бок»… Але толькі да аднаго помніку мусілі прыехаць маладажоны.

На ўскрайку пляцу перад «ДК МАЗ» на шматметровай калоне быў усталяваны здаравушчы зубр, а на зубры сядзела дзяўчына. Зубр нібы рыхтаваўся да скачка, а дзяўчына левай рукой трымала сцяг, а правую ўзняла ўгару. Да рукі быў прымацаваны не металічны, а сапраўдны «калашнікаў».

Побач са скульптурнай кампазіцыяй стаяў грузавік з кранам-пад’ёмнікам. Маладыя пары залазілі ў люльку, уздымаліся. Першы прыпынак быў каля зубровых яйцаў, якія блішчэлі так, што былі бачныя за кіламетр. Яйцы церла нявеста. Другі прыпынак быў

каля грудзей дзяўчыны. Грудзі не надта сільна блішчэлі, бо за іх жаніху трэба было проста схапіцца, а не церці. Часам бывала, што пад'ёмнік клініла, тады чарга павялічвалася ў разы, у людзей ламаліся графікі ўрачыстасцяў, пачыналіся бойкі за права праскочыць без чаргі. Таму побач заўжды дзяжурылі ўзброеныя міліцыянты. Гэтым разам наводдаль Дзікун заўважыў «чорных п'явак».

— Люцыя, хто яны?

— Мы мала пра іх ведаем. Яны ўзніклі з ніадкуль пару месяцаў назад. І нам яны вельмі не падабаюцца. Адна наша баявая група паспрабавала ўзяць «чорнага» ў палон, але безвынікова. На руках засталася толькі вопратка: гідракасцюм, маска і пальчаткі.

Дзікун па-ранейшаму не счытваў небяспекі «чорных». Як тады, калі згубіў Рамонку ды сяброў-рыбакоў. Гэтая акалічнасць моцна засмучала, бо «п'яўкі» маячылі паўсюль, і былі яны ўзброеныя.

— Дзікун, што ты раскіс? Ты давай, радуйся, у цябе ж самы шчаслівы дзень у жыцці. Забыўся?

Дзікун ашчэрыўся ўсмешкай і агледзеўся. Самы цэнтр Горада-Героя, самае яго сэрца. Тут і ўрад, і казіно, і міліцыя. Тут на плошчы

імя Караля ўсе афіцыйныя ўрачыстасці адбываюцца. Што не так у краявідзе?

— Люцыя, я не так шмат выяваў Караля сустрэў. Вось і адсюль толькі адзін плакат бачна. Неяк дзіўна, калі ўлічыць, што ён дэ-факта манарх.

— На пачатку Караля паўсюль было значна болей. З кожнай дзюркі гучала ягонае імя, на кожным плоце вісеў партрэт. А цяпер няма патрэбы. Выбараў няма і не прадбачацца.

— А былі выбары?

— Вядома, усё як у людзей. Нават канстытуцыя дагэтуль засталася і выбарчае права. Але на выбары няма каму ісці. Кароль стаўся кіраўніком дзяржавы, бо паабяцаў працвітанне: забяспечыць людзей матэрыяльна і падарыць ім радасць быцця. Вельмі хутка ён пачаў выконваць свае абяцанні і атрымаў падтрымку 99 працэнтаў выбарнікаў на рэферэндуме, на якім прапанаваў прыраўняць права голасу да прыватнай маёмасці. З таго часу свой выбарчы голас сталася магчымым прадаць, абмяняць, закласці ў ламбардзе, паставіць як стаўку ў казіно. Да наступных выбараў кіраўніка дзяржавы людзей з правам голасу засталося каля дзесяці працэнтаў. Зразумеўшы, што іхныя галасы ўжо

ніколі не спатрэбяцца, рэшта таксама свае галасы скінула: пераважна прадалі дзяржаве, бо прыватнікі ўжо не гулялі на гэтым фінансава-маёмасным полі, якое абясцэнілася. Першыя ж гульцы на рынку права голасу зараблялі сабе на дамы з каналізацыяй ці яхты. Цяпер засталося зусім мала людзей, якія не прызнаюць таго рэферэндуму, уважаюць яго антыканстытуцыйным. Я, напрыклад. Мае сябры.

— Хто не прызнае — і ёсць «гета»?

— Так — «гета». Тыя, хто не баіцца агучваць сваіх поглядаў. Незадаволеных цяпер значна болей, чым здаецца. Прычым з кожным годам іх лік расце. Шмат хто з моладзі слухае менскае радыё, глядзіць тэлебачанне, не ўсе, але ўсё болей. Ім проста нудна ў Горадзе-Героі.

«Нявеста» за размовай забылася, дзе знаходзіцца, і ўсё трымалася за прычындалы зубра. Знізу громка папрасілі не затрымліваць чаргу. Праз хвіліну Дзікун памацаў грудзі мэталічнай дзяўчыны. Паводле правілаў, люлька крыху ўзнялася над скульптурнай кампазіцыяй і завісла на тры хвіліны. Каб ужо фармальна жанатыя апошні раз пабылі сам-насам у стане ўзаемнага заляцання.

— З дабрабытам, абяцаным Каралём, больш-менш зразумела: усе ядуць бульбу і сала, вітаміны ходзяць пад нагамі, мора побач — рыба дае фосфар у арганізм; у абмен на нетры заводаў Горада-Героя Менск пастаўляе тавары і электраэнергію. Але радасць быцця — гэта як? Пакуль самае жыццярадаснае, што я бачыў, — гэта ваша «гета». Хоць спачатку думаў, што найлепшае месца на Зямлі — гасцініца «Турыст».

— Колькі мне гадоў, Дзікун?

— На выгляд дваццаць пяць. Але можа быць і болей. У нас на выспах усе, народжаныя да Вялікага Выбуху, выглядаюць значна маладзейшымі за свой узрост. Дый тут я сустрэў чалавека, які памятае 1980-я, хоць цяпер яму мусіла б быць гадоў восемдзесят, але яму не больш за пяцьдзясят з аблічча. У нас на выспах кажуць, што гэта клімат так змяніўся, і людзі перасталі старэць.

Люлька паволі пайшла ўніз. На зямлі «жаніха» і «нявесту» чакаў лімузін на дзесяць пасадачных месцаў, запрэжаны дваццаццю веларыкшамі. Гэта быў шык, які маглі дазволіць сабе далёка не ўсе жыхары Горада-Героя. Што праўда, веларыкшы былі свае, з «гета». Як і астатнія ўдзельнікі перформансу-вясел-

ля. Ролю дружак сужэнцаў выконвалі прафесійныя акторы з нефармальнай трупы «Схаваны тэатр».

Перад тым, як распачаць вясельныя ўрачыстасці за сталом, кумпанія мусіла тры разы з’ездзіць туды-сюды па Партызанскім праспекце з крыкамі «ўра!». Па шляху трэба было раскідваць цукеркі і пырскаць даражэзным менскім шампанскім «Князь Вітаўт». Галоўнае было не перакрыжавацца з такімі самымі вясельнымі экіпажамі. «Было неяк раз, сутыкнуліся дзесяць вяселляў, утварыўся затор на кіламетр у два бакі. Там такая панажоўшчына была, што міліцыянтам давялося страляць у натоўп. Пасля на хаўтурах панапіваліся, як на вяселлі, — распавяла Люцыя. — Паехалі!»

— Дык вось пра ўзрост. Незадоўга да Вялікага Выбуху выведніца Зуля скапіявала з ноўтбука генерала Ціцюкіна аўдыяфайл. Ты ж ведаеш Зулю?.. Яна прынесла кавалак допыту Артура Карлавіча Жмулінскага ў ГРУ. Карлавіч распавядаў пра сваю камандзіроўку на Альманскі палігон.

«Пасялілі мяне за некалькі кіламетраў ад КПП палігону ў вёсцы Цераблічы. А мяне развязло: тэмпература і вухагорланос.

Цётка-гаспадыня Марыя Апанасаўна сказала, што вылекуе мяне за пару гадзін. Нейкая бульба ў яе адмысловая. Кажу, можа, больш правераным спосабам? А яна налівае самагонку і кажа: «І гарэлку ціснулі з адмысловай бульбачкі». Выпіў бульбаўкі, закусіў варанай бульбай. Дзве гадзіны — я здаровы як агурэц! Я проста не паверыў бы, калі б хто такое распавёў. Ні тэмпературы за трыццаць восем градусаў, ні сопляў, ні закладзеных вушэй, ні абкладзенага горла. Шчыра кажучы, і завышаны ціск нармалізаваўся, і ныццё ў калене — рэўматызм. Усе непрыемныя адчуванні ў арганізме зніклі. Пытаюся, што за яно такое?!

«А дзетачка ж ты мая. У 1961 годзе былі вучэнні — іспытывалі такцічэскае ядзернае аружые. Так нашы мужчыны гаварылі. Яны па радзівах слухалі, па заграні́чных. Грамыхала там на балатах — а-ёй-а-ёй! Збольшэга мярлінцаў нашых паразьвезьлі каго куды, некаторых за тысячы кілометраў. А мне адной зь нямногіх павязло — нашае сям'і тут зусім побач ад Мярлінаў хату далі. У Цераблічах. А ў 1964-м з балатоў выйшла сям'я Бабровічаў. Яны як у 1939-м ад бальшавікоў схаваліся, так і праседзелі на балатах. Ні пра вайну

нічога ня чулі, ні што Гагарын у космас паляцеў. І вось што ўдзівіцельна — цалёханькія, здаравёханькія!»

Марыя Апанасаўна распавяла, што па суседніх вёсках анкалогія пайшла — страшна сказаць. «А гэтыя, шчытай, у самым пекле былі, каля самай радзівацыі жылі паўтара года — і цалёханькія». І сам стары Бабровіч Іван, і жонка ягоная Тэкля, і тры сыны іх з жонкамі ды дзецьмі — усе здаровыя як валы. І пачалі Бабровічы лекаваці людзей. Усіх лекавалі. Бульбай! Але насенне той бульбы нікому не давалі. Калгасны тэхнолаг Валянціна Бужко скрала неяк адну бульбіну і павезла ў Менск у інстытут бульбаводства. «Валька з камандзіроўкі ў Менск не вярнулася. Затое прыехалі людзі ў гражданскім і запхалі Бабровічаў — усю сям'ю — у аўтобус «ЛАЗ». Больш мы Бабровічаў ня бачылі». Марыя Апанасаўна сказала, што Бабровічы адзін раз прыслалі паштоўку, нібы жывуць у Менску. «Але хто там праверыць, ці праўда».

«Дык штой-то я. Бабровічаў калі грузілі, Іван — які старэйшы — з кішэні бульбінку маленькую выкінуў і ў мой бок нагой штурхануў. А я яе ціхенька за хатай пасадзіла, а яна і вырасла і клубні дала… за два месяцы!

Так я невялікі кусочак агароду і дзяржу пад тую бульбу. Колькі мне гадоў? Думаеш, семдзесят? Сто чатыры ўжо! Ні хваробы, ні знямогі. І ты не хварэй».

— У нас у Горадзе-Героі людзі не старэюць. — Працягвала Люцыя. — Колькі мне гадоў, я не скажу, але павер, што адчуваю сябе на дваццаць пяць. У нас на ўвесь Горад-Герой засталося ўсяго тры лекары — тры траўматолагі. У выпадку неабходнасці, напрыклад, масавай бойкі ці празмерна вялікіх стратаў на фронце барацьбы з каларадскімі жукамі, мы запрашаем хірургаў патрэбнага профілю з Менску. Для менскіх такая дапамога — гэта кшталту гуманітарнай місіі. Наўзамен Кароль закрывае вочы на існаванне нашага «гета» ў Горадзе-Героі. Такі сабе баш на баш. Чаму людзі перасталі хварэць і старэць, мы дакладна не ведаем. Змены ў прыродзе? Хм. Я не ўжываю «каларадкі», але, як і большасць гараджанаў, трымаю ў кватэры гаршчок з раслінай бульбы. Асабіста я перакананая, што менавіта «дружба» амалоджвае арганізм. Звесткі з Альманскага палігону, здабытыя Зуляй, — наўпраставае таму пацвярджэнне. Гэта інфармацыя пра дзіва-бульбу была вядомая

ўсяму кіраўніцтву Супрацiву. Альгердыч пра гэта табе не казаў?

— Не. Нас у школе толькі папярэджваюць: ні пры якіх акалічнасцях не ўжываць бульбы.

— А кветачкі ў гаршчэчках не растуць бульбяныя?

— Не.

— У кожным разе Каралю вельмі пашанцавала з «дружбай», бо ягоны галоўны дэвіз — «Мы перамаглі старасць і хваробы!». І што ты скажаш насуперак? «Не ўжывайце «каларадкі», а толькі трымайце бульбу побач у гаршках?» Раскажаш пра пабочныя эфекты ад «каларадкі»? Пра «пяцёрачку», праз якую людзі кудысьці знікаюць? Ды ўсім насраць на пабочныя эфекты! Жыццё — кайф, жыццё — амаль вечнае. Праўда, не было яшчэ магчымасці спраўдзіць, ці вечнае…

Дзікун сцісла распавёў пра тое, што ўжо быў адзін раз на вяселлі, і пра тое, што з ім адбылося пасля ўжывання бульбяной гарэлкі і дранікаў са скваркамі. А таксама пра тое, што ўбачыў у бары «Сумёт», калі людзі глядзелі статычную карцінку як відэа.

— Уся справа ў «каларадцы», — патлумачыла Люцыя. Так мы ў «гета» клічам

кожны харчовы выраб з гатунку бульбы «дружба». У чым эфект «каларадкі»? Калі вобразна, у першабытным грамадстве шаман ведаў лепш за ўсіх «шоргат траваў». У нас Кароль, як той шаман, кіруе шоргатам фантазіяў. Не дзівіся, ключавое слова — «фантазія».

Гэта толькі для невялікай колькасці «веганаў», як клікалі тых, хто не ўжывае «каларадкі», усё наўкола было нявызначаных колераў, падрапанае, зашмальцаванае, груба намаляванае, безгустоўна аздобленае. Для тых, хто ўжывае «каларадку», навакольле такое, якім яны яго сабе нафантазіявалі.

«У вяселля дзень урачысты
Наша шчырае вам пажаданне:
Хай нязгасна ў небе чыстым
Свяціць ваша зорка Кахання!»

Вяселле з Партызанскага праспекту перамясцілася за сталы ў дворыку «гета». «Жаніху» завязалі вочы і прапанавалі сярод некалькіх дзяўчат пазнаць сваю каханую навобмацак па руцэ. Акторкі, якія гралі дружак «нявесты», падышлі максімальна сур’ёзна да справы, таму падстаўлялі пад руку Дзікуна і грудзі, і сцёгны, і азадкі. «Каб хоць пасмяяцца ўжо ж!»

Люцыя сказала, што Дзікуна хутчэй за ўсё ўзялі на аловачак спэцслужбы, бо быць жаніхом дзяячкі «гета» — гэта ўжо выклік уладам. «Зрэшты, вясельны стол — ідэальнае месца для канфідэнцыйнай размовы», — падумаў Дзікун.

Праз эксперыменты на сабе, хімічныя аналізы, а найперш — тэхнічную дакументацыю, здабытую Зуляй, пра «каларадку» сёння было вядома наступнае.

«Каларадка» — гэта рэчыва, якое ўтрымліваецца ў кожным гатунку бульбы, але толькі ў «дружбе» набывае найбольшую моц.

«Каларадка» — не наркотык у медычным сэнсе слова. Яна не робіць наўпроставай шкоды чалавечаму арганізму.

«Каларадка» ўплывае на фантазійны апарат мазгоў чалавека.

«Каларадка» ўзмацняе творчую энергію і праганяе яе ў свядомасці на паскоранай хуткасці ўхаластую. У прынцыпе, гэта самае галоўнае, далей — дэталі.

«Мы маладым у іх каханні
Гадоў жадаем маладых.
Каб іх сям'я на мель не села
І каб адчай не біў пад дых».

Стымулятары — алкаголь, а ў большай ступені наркотыкі, — робяць дэцэнтралізацыю свядомасці, пачынаюць гуляцца з ёю, кіраваць працэсамі. А пад «каларадкай» чалавек захоўвае самакантроль уласнай свядомасці. Напрыклад, цудоўна разумее, што ў корпус тэлевізара ўстаўленая статычная карцінка. Карцінка для чалавека — проста тэма для фантазіі. Уяўленне чалавека за секунды праганяе перад вачыма, напрыклад, футбольны матч.

Той самы эфект разгону фантазіі працуе на ўспрыняцце экс- ды інтэр'ераў, якія ў Горадзе-Героі звычайна не маюць выразна акрэсленых колераў і адценняў, а часам і формы. Але пасля ўжывання «каларадкі» набываюць канкрэтыку дзякуючы багажу памяці. Падобнае адбылося з Дзікуном на вяселлі ў «Турысце». Фантазія скарысталася з карцінак у памяці, усё наўкола зайграла фарбамі і формамі. Але паколькі Дзікун быў не падрыхтаваны і адразу ўжыў «тройку» — досыць моцную ступень «каларадкі», — атрымалася што атрымалася: хаос перад вачыма.

«Жадаю я табе, Люцыя,
Каб ты ў кожным годзе

Цвіла, як мак у агародзе.
Не адставала ты ад моды,
Нягледзячы на ўсе расходы.
Да мужа мела трохі ласкі,
А ён за гэта купіць краскі.
Малюй ты вусны, шчокі, бровы
У выгляд рознакаляровы».

Дзікуну карцела зноў ужыць «каларадку», каб паглядзець, у што аформіцца краявід, які пакуль складаўся з парэпаных і пашмальцаваных сценаў, дзвярэй ды лавак двара. Але далейшы расповед Люцыі адбіў ахвоту эксперыментаваць з бульбяным рэчывам.

«Каларадка» не проста разганяе фантазійны рэсурс чалавека да касмічных хуткасцяў. За час працяглага ўжывання рэчыва спустошае фантазійную энергію свядомасці. Чалавек робіцца не здатным на крэатыў і крытычнае мысленне. Самае галоўнае — робіцца не здатным выцягваць вобразы з памяці. Тады звонку чалавеку ў свядомасць можна закідаць для выканання якія заўгодна тэмы. Вось таму ў барчыку «Сумёт» перажывалі за Ваню, які перайшоў на «пяцёрку». А «пяцёрка» — гэта паказнік блізкага фіналу.

«Дару ніткі, каб малады не глядзеў на чужыя лыткі!

Дару трошкі медзі, каб дзеткі былі тоўсценькія, як мядзведзі!

Дару кляновы лісточак, каб першы нарадзіўся сыночак!»

Усе змены ад ужывання «каларадкі» адбываюцца паступова. Рэчыва мае пяць асноўных ступеняў уздзеяння на свядомасць.

1. «Адзінка». «Кол», «дрын». Вараная бульба гатунку «дружба». Гэта своеасаблівая трэніроўка для свядомасці. Эфект выяўляецца на гастранамічным узроўні. Усе ядуць адно бульбу, але кожны адчувае свае ўлюбёныя дадатковыя смакі: кроп, масла, алей, селядзец, скваркі, смятану, грыбы і гэтак далей.

2. «Двойка». «Пара», «дуплет». Смажаная ці печаная «дружба». У працэсе апрацоўкі выдзяляе своеасаблівы «пяршак» рэчыва «каларадкі». Эфект яшчэ не надта моцны, але ў адрозненне ад «адзінкі» дазваляе ўявіць сабе смак якой заўгодна стравы, каштаванай хоць раз чалавекам. Свіную адбіўную, чызбургер, салат аліўе, фуа-гра… Ды што заўгодна! Вось і адказ на пытанне, чаму ў Горадзе-Героі на сталах такі сціплы набор складнікаў страваў, пераважна бульба ды сала. Але людзі ведаюць, што ар-

ганізму патрэбныя розныя рэчывы кшталту вітамінаў ці фосфару, таму ловяць ягадныя кусты і час ад часу бяруць на рынку садавіну і морапрадукты.

3. «Тройка». «Трайбан», «гарыныч». Бульбяны самагон. Апроч уласна алкагольнага ўздзеяння «тройка» дае мазгам дастаткова моцную дозу рэчыва «каларадкі». Як і алкаголь ці лёгкі наркотык, тут «каларадка» трымае эфект адно некалькі гадзінаў, але на канцэнтраваным узроўні. «Тройка» дапамагае вельмі моцна засяродзіцца на патрэбнай тэме. Страляць — максімальна пацэльна, весці транспарт — максімальна паводле правілаў, фармуляваць думку — максімальна дакладна. Але пазітыўны эфект — кароткатэрміновы, бо алкаголь хутка расфакусоўвае свядомасць. Яшчэ «тройка» ўзмацняе «адзінку» і «двойку».

4. «Чацвёрка». «Квартэт», «квадрацыкл». Можа быць як у вадкім, так у цвёрдым выглядзе, звычайна гэта чыпсы і гарэлка. Вельмі моцная рэч. Рэгулярнае ўжыванне дазваляе канцэнтравацца на адной тэме, перажываць і асэнсоўваць яе з усіх бакоў. Трымае доўга. Кажуць, інжынеры МАЗу сядзяць на «чацвёрцы», прыдумляючы новыя —

больш эфектыўныя — спосабы металаздабычы. Таксама кажуць, што падчас сезонных атак каларадскіх жукоў (чатыры ўраджаі — чатыры атакі на год) на палях «дружбы» на «чацвёрку» саджаюць узброеную ахову. Таксама кажуць, што рэдка хто пасля хоча адмаўляцца ад «чацвёркі», бо можна канцэнтравацца не толькі на рабоце. Можаш завісаць на тэме якога-небудзь задавальнення. Любая фантазія робіцца рэальнасцю.

Калі доўга вісець на «чацвёрцы», вы пражываеце большасць сваіх жыццёвых задумаў, мараў, фантазіяў. Не тое каб усе, але самыя яркія, тыя, што на паверхні свядомасці. А пасля мазгі як бы зачышчаюцца наждаком, і нырцануць у глыб свядомасці, каб пашукаць там даўно забытыя вобразы ды фантазіі, ужо немагчыма.

Дадатковы разбуральны эфект ад злоўжывання «чацвёркай» — вы губляеце інтарэс да навакольнай рэчаіснасці, у вас знікаюць якія-кольвек рэальныя жаданні, адпаведна, і планы на будучыню. Вы не будзеце рэалізоўваць сваіх колішніх задумаў, бо яны вам ужо не цікавыя. Вы іх пражылі-пракруцілі пад рэчывам. Так, напрыклад, дэградуе інстытут сям'і. Ты захапіўся кімсьці, пракруціў

у фантазіі адносіны на гады наперад і згубіў інтарэс. Працяглае злоўжыванне «чацвёркі» ставіць чалавека адной нагой у «пяцёрку».

«Дару вулей пчолаў, каб ноччу джгалі і маладым спаць не давалі!

Дару маладога дугою, каб не хадзіў за другою!

Дару маладой бурака, каб не мела мужа дурака!»

5. «Пяцёрка». «Пятачок», «хрукалка», «свініна». Існуе ў выглядзе парашка як дадатак да ежы ды напояў. Ужываецца, калі чалавек сам ужо не можа выцягваць з памяці вобразы і не здатны ўспрымаць новыя. Таму тэму для фантазіі прапаноўвае спецыяльны чалавек — аператар фантазіяў. Каротка іх клічуць словам «кэп». Кэп дае табе тэматыку і ў момант прыёму рэчыва настройвае табе мазгі, як звычайна круцяць ручку ў радыёпрымачы. Толькі кэп робіць настройку, гіпнатызуючы кліента. Ад «наладчыка» патрабуецца толькі адзін штуршок, каб вашая фантазія пайшла ў патрэбным рэчышчы.

Калі ўжыць «пяцёрку» самастойна, можна сысці ў такія прыцемкі свядомасці, з якіх цяжка вярнуцца. Уласныя вобразы, назапашаныя памяццю за жыццё, робяцца

заблакаванымі, таму на новую фантазію можа паўплываць што заўгодна. Праляцела міма муха, так і будзеш «лятаць» па памыйках, пакуль не адпусціць. А не адпускае доўга. Але часцей едзе дах, і справа канчаецца Свінакомплексам. «Што там адбываецца з чалавекам, мы не ведаем, са Свінакомплексу ніхто не вяртаўся. Мы думаем, што чалавек пэўны час там працуе, магчыма, сартуе гной, а пасля чалавека скормліваюць свінням».

Апроч просценькіх фантазіяў на тэму сексу і гвалту, аператары-кэпы ўплюшчваюць у галовы не відавочныя, але канкрэтныя ідэі-задачы: схадзі зрабі тое і гэтае. І пасля не дакажаш, што чалавек не сам наважыўся на нейкі крымінал. Напрыклад, у адкрытую забіў кагосьці «сільна вумнага» на думку аховы Караля.

Доза «пяцёркі» трымае чалавека ў тонусе каля месяца. Пасля трэба ізноў ісці да кэпа. Калі ў чалавека перад тым былі нейкія запасы грошай, з пачаткам «пяцёркі» іх найчасцей ужо няма. Таму аплата за рэчыва адбываецца работай. У мірны час гэта праца на градах з «дружбай», рамонтныя работы ў гушчарах «пушчы». Падчас атак каларадскіх жукоў многіх «пяцёрачнікаў» мабілізу-

юць, канцэнтруюць кожнага на канкрэтнай баявой задачы.

«Мы думаем, што аператары — дэ-факта кուратары са спецслужбы Караля. Яны выкарыстоўваюць «пяцёрачнікаў» для сваіх сакрэтных аперацыяў. Прычым, ім не трэба нікога вербаваць. Нават з кабінета выходзіць не трэба — самі прыходзяць».

— І апошняе пра «каларадку», Дзікун. Рэчыва вядзе да нейкіх, не вядомых нам, зменаў у арганізме. Змены фіксуюць праз аналізы, якія робяць партатыўнымі машынкамі… А, ты ўжо бачыў? І бачыў, як людзей забіраюць?.. Лік зніклых на Свінакомплексе за ўсе гады ідзе на тысячы і тысячы. Але апошнія пару месяцаў, здаецца, сітуацыя пагоршылася. Людзей пачалі адлоўліваць як зайцоў.

«Горка-а-а!!!»

Дзікуну спадабалася, як цалуецца Люцыя.

— Усе ведаюць уласцівасці «каларадкі», але не лічаць іх чымсьці заганным. «Слабак» — робяць вердыкт жыхары Горада-Героя, калі бачаць, як на Свінакомплекс вязуць чарговую ахвяру бульбянога рэчыва. А яшчэ — хто не ўжывае бульбы, той «горшы за підара», — падсумавала свой расповед Люцыя.

## 16

«Трыццаты юбілейны марш да Дня Горада-Героя абвяшчаецца адкрытым!» — паведаміў дыктар з рэпрадуктараў такім тонам, нібы вось проста зараз, у гэтае імгненне, здарыцца штосьці незваротнае.

Паперадзе ўрачыстай калоны дужыя хлопцы і дзеўкі неслі здаравезную расцяжку з надпісам «МОЖАМ ПАЎТАРЫЦЬ!». За несунамі рушылі «веладжыпы», да кожнага з якіх быў прымацаваны плакат. «Ці спампавалі калісьці з інтэрнэту, ці скапіявалі порначасопіс», — падумаў Дзікун. Выявы на плакатах мелі наступныя сюжэты. Мужчына і мужчына займаюцца сексам аднаго віду, іншага віду, камбінаванай версіі. Далей былі бачныя розныя спалучэнні палавых актаў у складзе ўдзельнікаў: мужчына, жанчына і мужчына; мужчына і трансвестыт; трансвестыт, мужчына і трансвестыт; жанчына, мужчына і трансвестыт… Калона была вялікая, плакатаў, як і варыяцыяў, было мноства.

Следам за калонай чалавек дваццаць штурхалі платформу на колах, на якой была ўсталяваная металічная канструкцыя ў выглядзе жэста «fuck!». На сярэднім пальцы, які

тырчэў пад вуглом крыху больш за сорак пяць градусаў, нібы ствол гарматы, чырвонай фарбай былі намаляваныя літары «На Менск!».

Дзікун стаяў на мосце над Партызанскім праспектам каля «Турыста» разам з тысячамі іншых гледачоў. «Галоўнае — заўтра сядзі ўвесь дзень у нумары, — папярэдзіла Люцыя, калі пачалося «вяселле». — Адзін з бонусаў тых, хто жыве ў VIP-нумарах «Турыста», у тым, што шоу на стадыёне «Трактар» бачнае з іхных нумароў».

«Пускай всё сбудется, пускай всё сбудется! И всё как надо будет у нас!»

Сёння Дзікуна абудзілі мацюгальнікі праз адчыненае акно. Словы Люцыі пра «сядзець увесь дзень у нумары» падаліся фігурай маўлення. Як можна прапусціць такі варушняк у Горадзе-Героі! Цяпер натоўп на мосце і па адхонах Партызанскага праспекту накрываў маналог каментатара: «Ідуць героі барацьбы за ўраджай! Следам — калона перадавікоў аховы Першай Падшыпнікавай папраўчай калоніі. Рыхтуюцца найлепшыя работнікі Камітэту па незаконным абарачэнні валюты і каштоўных металаў!»

—Уууу-ррр-ааа!

«З камітэтчыкамі… Ах, прабачце, гэта я, канечне, па-сяброўску!.. — каментаваў знаёмы Дзікуну па старажытных запісах футбольных матчаў голас. — З работнікамі валютнага камітэту, як яго клічуць у народзе, быў цікавы выпадак некалькі гадоў таму… Ой, што гэта я, прабачце, — ужо ідзе наступная калона! Гэта найлепшыя байцы «карычневых камізэлек». Паглядзіце на гэтыя простыя і суворыя твары. Так-так! Менавіта гэтыя людзі дабіраюцца са сваймі шчоткамі, скрабкамі, цяпкамі і мачэтэ ў самыя цяжкадаступныя месцы нашай з вамі дзяржавы!»

— Уууу-ррр-ааа!

«Ідуць найлепшыя работніцы карных органаў апекі. Толькі за мінулы квартал былі аштрафаваныя дваццаць восем бацькоў, а іхныя дзеці прададзеныя на Захад, што дапамагло дзяржаве атрымаць дадатковыя паступленні ў золата-валютны фонд!»

—Уууу-ррр-ааа!

«Ідуць снайперы-памежнікі — людзі, без якіх наш кардон нельга было б назваць надзейна абароненым!» Голас з рэпрадуктара назваў іншых удзельнікаў урачыстага шэсця. Гэта былі найлепшыя металаздабытчыкі, лішаяперапрацоўшчыкі, трусаловы і работ-

нікі гасцініцаў і казіно. Дзікуну падалося, што ў калоне ён заўважыў адміністратарку «Турыста» Алу Пятроўну.

Пад «Снова стою одна, снова курю, мама, снова…» да мосту набліжаліся «франтавікі». «Героі барацьбы за ўраджай» былі апранутыя ў скураныя латы і шаломы, узмоцненыя металічнымі пласцінамі. Вайсковыя чаравікі, пластыкавыя налакотнікі і наканеннікі, пальчаткі з брызенту з металічнымі шыпамі. Абедзвюма рукамі «франтавікі» трымалі доўгія рагаціны — роўна перпендыкулярна зямлі. На зубцы *колюшчай* зброі былі насаджаныя здаравушчыя — метр шырынёю і вышынёю — галовы Leptinotarsa decemlineata, інакш — каларадскіх жукоў.

— Ух і аграмадныя! Большыя, чым у мінулым годзе! — пачуў Дзікун ад хлопца-суседа праз грукат песні «Я куплю тебе дом у пруда».

— Гэта жукі?! — пракрычаў Дзікун.

— Каларадскія! Дзядзька, ты што — з неба зваліўся?.. З астравоў ці што?

— Ну так…

— А, у вас там такіх здаровых не бывае.

— У нас зусім не бывае. У нас бульбы не вырошчваюць, мы з мора жывем.

— Ага, «з мора». Знаем мы, з чаго вы жывяце, — хлопец ашчэрыўся і зрабіў рух як бы з кішэні выхоплівае нож.

Тым часам пад мост заходзілі паляўнічыя з трусінымі вушамі, прылепленымі да абручоў на галаве. На левым плячы трусаловы трымалі арбалеты, а правымі рукамі віталі гледачоў трусінымі хвосцікамі. На даляглядзе ў канцы калоны былі бачныя грузавікі-свінавозы.

«Я тебя целую, дорогую / Я не целовал ещё такую / Самую любимую на свете / Голуби, пожалуйста, поверьте…»

Дзікун глядзеў і ўзгадваў эфект ад свайго прыёму «каларадкі» на вяселлі ў «Турысце»: тое, як фантазія пацягнула з памяці розныя вобразы, і спрабаваў адгадаць, як сябе і наваколле ўяўляюць удзельнікі шэсця. Яны — магутныя волаты, здольныя перавярнуць зямную кулю? Яны — у залатых рыцарскіх латах на белых крылатых конях ці нават на рознакаляровых грозных цмоках? Яны — прыгожыя і смелыя чараўніцы, здатныя толькі адным словам пакласці да сваіх ног усіх мужчынаў у радыусе кіламетра ці сілай думкі спыніць натоўпы ворагаў? Яны ўсе

разам ідуць цяпер пасярод казачнага горада-замку, які ззяе ўласнай веліччу і харастવом?

«З-з-зааааа-вяршаецца першая частка ўрачыстасці! Просім гледачоў перасунуцца да сваіх сектараў на стадыёне «Трактар», пазначаных у запрашальніках. А-а-а-аааа васямнаццатай гадзіне пачнецца галоўная — фінальная — частка свята Дня Паў… Горада-Героя. А пакуль вы можаце пачаставацца вырабамі нашых найлепшых бульбаводаў, рыбакоў, паляўнічых і збіральнікаў. Ад гасцініцы «Турыст» і да парку 50-годдзя Акцябра ўключна працуюць выязныя крамкі нашага штогадовага фестывалю, прымеркаванага да перамогі ў Бітве за Велазавод!»

«Улетают, улетают птицы в даль / Не зовут меня с собой в свой дивный край…»

За невялікі час жыцця ў Горадзе-Героі Дзікун нырцануў у трэці з ліку карнавал. Спачатку было вяселле ў «Турысце», сёння вось Дзень Горада, а ўчора было як бы вяселле з Люцыяй — адгулялі па поўнай праграме. Дзікун пабачыў, як абсалютна цвярозыя людзі («мы ж на заданні») цалавалі «цешчы»

каленку, пілі з пантофлі «нявесты» як бы гарэлку, «нявесту» выкрадалі, выкуплялі, поўзалі на жыватах і спінах, каб выканаць конкурсы, адгадвалі загадкі, а ў канцы пад грукат песень як бы лабухаў нават як бы пабіліся. Фінал быў нечаканы нават для бывалых «вясельнікаў». «Маладых» адарылі апошнім піскам моды шлюбных рытуалаў — арандаванай саўнай на колах. Будка на грузавіку «ГАЗ-66» бадзёра дыміла і абяцала першую шлюбную ноч у зайздроснай для ўсіх тубыльцаў Горада-Героя версіі. «З заездам на элітны пляж у раёне вуліцы Маляўкі, не абы дзе!» Пазней Люцыя патлумачыла: «Добрая маскіроўка, каб аб’ехаць ускрайкі гораду і паглядзець, дзе якія размешчаныя патрулі і стацыянарныя пасты міліцыі».

А пачала Люцыя размову ў лазні на колах так: «Быў у мяне хлопец калісьці, які казаў што Люцыя і Люся — гэта як «Мерседэс» і «Жыгулі». Кабета цалкам распранулася і ўскараскалася на паліцу ў парылцы, перад тым жэстам паклікаўшы Дзікуна за сабою. Унутры лазні апроч уласна парылкі быў невялікі пакойчык: кухня-гасцёўня. Стол, пара крэслаў і хоць і невялікая, але двухспальная канапа (з бялізнай!).

«Дзікун, калі я табе падабаюся, мы пасля лазні зоймемся сексам. Я займаюся сексам толькі з адзінадумцамі і толькі напярэдадні акцыі. Заўтра будзе наш «гетаўскі» экшн, але без твайго ўдзелу. У нас усё даўно сплана-вана, і мы ведаем, што і як рабіць. Але ёсць справа, якую без бачуна мы не рэалізуем. Мы хочам схапіць Караля. Мы ведаем, што ён жыве на ЦЭЦ-3, мы ведаем падземны ход да ЦЭЦ-3, і мы не можам прайсці гэты маршрут, бо ён поўніцца пасткамі. Бачуна мы чакаем ужо амаль трыццаць гадоў. Вас усіх, яшчэ ма-лых, вывезлі з Менску. Альгердыч вывез. І тое, што вас вывезлі, сталася прадметам кан-флікту ўнутры Менскага падполля… А, і так: як бачыш, саўна тут не фінская, а мокрая, то бяры венік, палі вады на вуголле і пачынай».

Дзікун паддаў пары і пачаў.

Пакуль Дзікун працаваў венікам, Люцыя адасоблена, амаль як голас-робат у тэле-травоннай слухаўцы, інфармавала пра стан рэчаў. Кароль быў датычны да вынаходні-цтва абсалютнай зброі. Гэта галоўнае, што было вядома. Што за зброя, якога характа-ру — ніхто не ведаў. Амаль усю інфармацыю аб меркаванай абсалютнай зброі знёс з са-бою Альгердыч.

Люцыя была перакананая, што нейтралізаваўшы Караля, можна спыніць апрацоўку жыхароў Горада-Героя «каларадкай». А таксама выйсці праз Караля на матэрыялы аб абсалютнай зброі. Люцыя пыталася, ці не атрымаў Дзікун ад Альгердыча дадатковай інфармацыі аб прадмеце цяперашняй размовы. Люцыя не хавала скепсісу, калі Дзікун адказваў адмоўна.

Дзікун працаваў венікам ахайна, не лупцаваў, а масажаваў — так было прынята ў Добрым Месцы. Дзікун думаў: «Альгердыч, ты вучыў мяне не тое што не ўжываць, нават не думаць мацерных словаў. І вось, Альгердыч, я іх паўтараю ў думках на твой адрас. Бо я не ведаю, чаму з мяне хочуць выцягнуць інфармацыю, якая тэарэтычна мусіла б быць вядомай усім лідарам колішняга падполля. А самае галоўнае — усе робяць адну справу і мусілі б давяраць адзін аднаму».

— Люцыя, як дазнацца, хто такія «чорныя п’яўкі»?

— Толькі праз Караля.

Прыехалі на пляж. Метраў сто даўжынёй і дваццаць шырынёй агароджанай тэрыторыі. У пяску ўторкнутыя падпаленыя паходні. Наўкола нікога. У сэнсе — не бачна нікога.

Ну хоць бы кіроўцу грузавіка за танаваным шклом. Галяком скокнуць з парылкі ў ваду — проста асалода. Разам з Люцыяй. Пасля віно з дзьмухаўцоў. І вось цяпер Дзікун займаўся сексам на пляжы з паплечніцай у змаганні. У перапынках паміж сексам Люцыя загінала пальцы:

— Краіны трэба параўноўваць не квадратнымі кіламетрамі, а колькасцю разнастайнасці жыцця на квадраты кіламетр.

Мы хочам тут, у Горадзе-Герої, пашыраць прастору разнастайнасці жыцця.

Мы адціскаем шчасце ў лёсу.

Мы хочам наляпіць «гета», як пчаліныя соты. Хай іх будзе меней колькасна адносна агульнага насельніцтва, але гэтыя «соты» будуць і самадастатковыя і структураваныя. А значыць — трывалыя. А галоўнае — напоўненыя матываванымі і салідарнымі людзьмі. Гэтыя асяродкі будуць якасна канкураваць з большасцю грамадства. А таму — прыцягваць да сябе ўсё больш людзей. І ўрэшце з часам «гета» і станецца большасцю.

Дзікун адказаў:

— Захопім Караля. Магчыма, нейтралізуем пагрозу «п’явак», якія відавочна валодаюць надчалавечымі здольнасцямі.

Дзікун распавёў гісторыю з'яўлення «чорных» каля Новай Зямлі і працягваў:

— А далей? Знішчым плантацыі «дружбы»? Людзі не будуць ужываць «каларадкі». Што зменіцца?

— Крэатыўна фантазіяваць будуць, з вынікам. Больш актыўна ўглядацца ў рэальнасць. Можа, для пачатку заўважаць, як брыдка выглядае Горад-Герой. Колькі тут трэба фарбаваць, рамантаваць, упрыгожваць. А далей мы зможам больш эфектыўна прасоўваць нашы ідэі «гета». Ідэі здаровага ладу ўнутранага жыцця чалавека. Нам жа яшчэ пасля сыходу вады трэба будзе грамадства наладжваць. А вада сыдзе, ты ж ведаеш гэта.

Дзікун адчуў, што дзесьці зусім побач, у засадзе, па абодва бакі Свіслачы сядзяць узброеныя людзі; адчуў, як патрулююць ваду катары; як ходзяць па недалёкай чыгунцы бронецягнікі; як гойсаюць леапарды ў недалёкім мікраараёне Чыжоўка, драпежнікі, якія расплодзіліся, уцёкшы з былога заапарку; адчуў, як прытаіўся свінавасьміног у твані забалочанага колішняга вадасховішча. А яшчэ адчуў неверагодны спакой і ўпэўненасць у заўтрашнім дні, якія ішлі ад Люцыі разам з пахам жадання блізкасці. З ім — з Дзікуном.

«Аааааа… цяпер джэк-пот! У гэтым годзе супер-паратрупер-прыз выйграе-ееее… Выйгра-ееееeee… Нумар MP100500!»

Дзікун ачуняў ад згадак мінулай ночы. Проста дзеля цікавасці выняў з кішэні свае рашчотныя латарэйныя білеты. Адна з купюраў мела нумар MP100500.

«Нагадваем магчымаму шчасліўчыку ці шчаслівіцы, што вы мусіце прайсці ў VIP-ложу і па прад’яўленні ахове вашай купюры ўнесці яе ў дзяржаўную касу».

## 17

Дзікун падзяліў для сябе жыхароў Горада-Героя на чатыры ўмоўныя касты: просты народ, народ, няпросты народ, слугі народу. У такім парадку ішлі на дэманстрацыі, а рассаджваліся на стадыёне ў адваротнай паслядоўнасці — простыя былі на самых аддаленых месцах ад ложы Нумар Адзін. Над публікай навісалі асвятляльныя мачты, дзе цяпер замест колішніх электрычных пражэктараў гарэлі аграмадныя газавыя паходні. Драбнейшыя, смаляныя, — шчыльна атачалі футбольнае поле стадыёну «Трактар».

Дзікун сядзеў у VIP-ложы, з якой быў добры агляд не толькі поля стадыёну, але і ложы Нумар Адзін. Дзікун ужо паспеў даць інтэрв'ю карэспандэнтцы «Города Мечты». Пакуль распавядаў, які ён шчаслівы выйграць у латарэю, у якім ён захапленні ад цудоўнага гораду, што ў горадзе ён упершыню, і што ўбачанае пераўзышло ўсе чаканні, мастак, які прыйшоў з карэспандэнткай, рабіў партрэт Дзікуна. Узгадалася «паліцыя сэнсаў» зператрусам урнаў у прыбіральні «Коцікава». «Адваротны бок славы, ён такі», — зрабіў адкрыццё Дзікун.

Гук забітага пад завязку стадыёну нагадваў шамаценне ў партэры канцэртнай залы перад пачаткам выступу сімфанічнага аркестру. У Добрым Месцы былі гэткія відэазапісы. Толькі цяпер шамаценне большае ў разы. І з усіх бакоў. Стэрэашушуканне тысяч вуснаў, стэрэапарыпванне тысяч сядушак, стэрэашоргат тысяч ног. Каманды на крыкі і грукат пакуль не было.

«На трыбуне — лідар нацыі, кіраўнік Горада-Героя таварыш Кароль!»

Выбуховая хваля рову захаплення як цунамі пайшла ва ўсе бакі, і, здавалася, знясе і сцены стадыёну, і прылеглыя будынкі. Ка-

роль сеў у ложы Нумар Адзін у фатэль-гайдалку. На секунду ледзь прыўзняўся, махнуў рукою, і відовішча пачалося.

«А на том берегу незабудки цветут, / А на том берегу звезд весенний салют, / А на том берегу мой костер не погас, / А на том берегу было все в первый раз…»

Увага гледачоў была засяроджаная на ўрачыстых шыхтах, якія ўваходзілі на стадыён і размяркоўваліся па бегавой дарожцы вакол поля. Гэта былі ўжо добра знаёмыя ўдарнікі бітвы за ўраджай ды прадстаўнікі іншых пачэсных прафесіяў Горада-Героя. Публіка ўсіх вітала з не меншым энтузіязмам, чым на некалькі гадзінаў раней на Партызанскім праспекце.

Дзікун звярнуў увагу, што людзей ва ўніформе з арбалетамі, духавымі трубкамі для стральбы атручанымі стрэламі і АК-47 у руках было не так і шмат: пераважна па перыметры бегавой дарожкі і паміж радамі гледачоў. Ад самага верху сценаў стадыёну да футбольнага поля ахова складалася збольшага з «чорных п’явак». А ложа Нумар Адзін, дзе засядаў Кароль, ахоўвалася выключна «чорнымі».

«А ну, давай, наяривай, гитара семиструнная, / Чего сидеть да горевать, ведь ночь такая лунная…»

«Лідар нацыі» быў адзеты ў бардовы халат з залатымі карункамі з кветак і птушак. Кароль гайдаўся ў фатэлі ў такт музыцы і паліў люльку. Да Дзікуна далятаў пах марыхуаны. А яшчэ ў ложы Нумар Адзін былі сямнаццаць кабет. Абрысы большасці ледзь счытваліся ў прыцемках у глыбіні за фатэлем. Пяць кабет завіхаліся непасрэдна вакол Караля. Дзве — масажавалі плечы, дзве — прыселі і разміналі ступакі, а адна стаяла на каленках і масажавала міжножжа.

На полі бліжэй да галоўнай ложы ўсталявалі гільяціну. На выхадах з сектараў былі бачныя аграмадныя барбекюшніцы і шашлычніцы на колах. Вуголле было добра раскачагаранае. Адразу за гільяцінай стаяў велічэзны шацёр тых жа колераў, што халат Караля. У сярэдзіне поля была разметка для ўрачыстага шыхтавання. Уся другая палова поля была агароджаная высокім плотам са сталёвых прутоў.

«Па-а-а-чынаем наша свята!.. Гільяціна — для шчасліўчыкаў, толькі раз на год злачын-

цам выпадае шанец атрымаць хуткую безбалесную адплату за свае антыграмадскія дзеянні. Пр-ы-ы-чым, ва ўрачыстай атмасферы. Сябры, павітаем людзей, якія хоць такім чынам схапілі ўдачу за хвост!»

Трыбуны забіліся ў істэрыцы ад захаплення. Пакуль кат наразаў галовы «шчасліўчыкаў», Дзікун разглядаў публіку. Чырванаморды з вяселля ў «Турысце» трасе масцямі «МАЗ» і «30». А вунь дзядок, які прайграў сваю пенсію ў казіно на дзесяць гадоў наперад. Здаецца, ён пры сустрэчы яшчэ сказаў, што суцешаны, бо падмануў дзяржаву: «Я, можа, менш за дзесяць гадоў пражыву». Глядзі ты — Хліпкі, той, што нападаў з нажом на Мао каля порту «Чыжоўка». Таксама тут. Ачуняў, відаць, пасля прыёму ў твар і пячонку кулаком і ботам. Скакаць яшчэ не можа, але добра свішча: пальцы да рота з выбітымі пярэднімі зубамі прыкладае зухавата. Ха! А вунь Ала Пятроўна, адміністратарка гасцініцы, — азартна адлічвае разам з усімі «раз-два-тры» перад тым, як кат секане лязом гільяціны чарговую галаву. Стоп. Гэта?.. Гэта Люцыя. Зусім побач, праз агароджу VIP-ложы. Удае захапленне. Так сабе ўдае, без энтузіязму.

«А-а-а цяпер!.. Павітаем іншых шчасліўчыкаў, дакладней, шчаслівіц, якія выйшлі ў фінал спаборніцтва за права-а-а… Стаць васямнаццатай жонкай таварышча Караля-а-а!»

Дзікун выхапіў краем вока новую фігуру, якая толькі што намалявалася ў ложы Нумар Адзін: маленькага росту цыцкастую і дупастую кабетку. Мадамка падышла да Караля з бутэлькай у руках, пазяхнула, маханула з гарла і прысела побач. Тут і галовы для гільяціны скончыліся. Праз плячо мадамка нахілілася да Караля, штосьці спыталася. Атрымала гнеўны адказ, маханула яшчэ. Паспрабавала сысці, але была спыненая «чорным», вярнулася ў свой фатэль з выразам твару, які можна было расшыфраваць як «ой, бля…».

— Фурыя, — сказаў сусед па ложы. Гэта быў Мікалаіч, дырэктар МАЗу, бацька нявесты з вяселля ў «Турысце».

Мікалаіч, відаць, думаў, што яго ніхто не пачуў у рове стадыёну. Але Дзікун павярнуў галаву, дэманструючы цікавасць да рэплікі. Мікалаіч Дзікуна не пазнаў, хоць у свой час разам з натоўпам кідаўся табурэткамі

ў бок няўдалага госця вяселля. Дырэктар перапрасіў: «Сусана Анатолеўна — кабета добрая, вельмі моцна дапамагае Каралю кіраваць Горадам-Героем, мы яе любім». У гэты момант Зуля ўскочыла з фатэля і падышла да парэнчаў гаўбца ложы. Пакорпалася ў кайстрачцы, выняла мініяцюрны бінокль і скіравала яго ў цэнтр футбольнага поля.

Дзеўкі выходзілі з шатра цалкам голыя. Толькі з вянкамі з валошак і кветак бульбы на галаве. І на абцасах, такіх, як у пакаёвак у «Турысце». Кожная трымала ў руках палку. Здаравушчы шост — метры з тры. На версе палак мацаваліся шыльды: «Гарадтранс», «Турыст», «Казіно», «Порт», «МАЗ», «ЦЭЦ-3», «Райаддзел», «Магазін «Крама», «ПТВ № 71», «Таможэнныя вайска», «Рыбгас», «Камбінат», «Коцікаў», «Універмаг», «Велазавод», «Школа» і нават «Свінакомплекс». «Замест «Коцікаў», відаць, мусіць быць надпіс «Гета», — падумаў сабе Дзікун, здзівіўшыся, як гэта Хрысця здолела ўпісацца ў шчыльныя рады дзяржаўных прадпрыемстваў. А шыльду «Коцікаў» трымала акурат Хрысціна.

Усіх удзельніц было больш за сто. Стась бачыў нумары школаў, дзіцячых садкоў, ЖЭСаў, назвы крамаў, кавярняў… Адных заводаў

і фабрык было некалькі дзясяткаў. Апроч МАЗу — Шарыкападшыпнікавы завод, Завод калёсных цягачоў, Гораджалезабетон, Гораддрэў, Горадліктэхніка, Малочны камбінат, Цацачная фабрыка, Люстэркавая фабрыка… Дзікун заўважыў назвы навукова-даследчых і навукова-праектных арганізацыяў. «Відаць, распрацоўваюць інавацыйныя метады дэмантажу абсталявання заводаў». А яшчэ склады, а яшчэ пару транспартных кантораў. Шыльда з надпісам «Метро»! Хм, Дзікун не чуў пра тое, што метро тут, у горадзе, функцыянуе тым ці іншым чынам. Яшчэ назвы, яшчэ…

Усе жадалі парадніцца з Каралём. Перамога абяцала павелічэнне акладаў, шалёныя прэміі, а таксама пуцёўкі ў «Турыст» і на курорты ЦЭЦ-3. А начальства яшчэ моцна разлічвала на камандзіроўкі ў Менск.

«Сто адзінаццаць прыўкрасных дам перамаглі ў адборачных конкурсах на сваіх прадпрыемствах. Сто адзінаццаць сэрцаў, напоўненых любоўю, сто адзінаццаць спадзеваў!.. Прывітаем, сябры, нашых фіналістак!»

Пачаліся танцы вакол шастоў. Дзікун убачыў сапраўдную мастацкую акрабатыку.

З аднаго боку, трэба было ўтрымаць высокую і цяжкую палку. Ды яшчэ трымаць максімальна роўна. З іншага боку, трэба было танчыць, прычым арыгінальна, з творчай задумай, а пры гэтым яшчэ і з аганьком, з задорам.

Большасць удзельніц адсеялася цягам першых дваццаці хвілінаў — не далі рады ўтрымаць шасты. Цяпер на полі перад ложай Нумар Адзін завіхаліся пару тузінаў аголеных кабет. Хрысця трымалася зухавата. Дзікун заўважыў яшчэ пару знаёмых абліччаў: Таццяну з «Турыста» і сваю суседку на вяселлі, тую самую, што ператварылася ў «гаварашчы корч».

Кароль прыўзняўся з фатэля і схіліўся галавой да Зулі. Сусана Анатолеўна Шубзда штосьці жарсна казала і тыцкала пальцам у кабет на полі. Калі ўлічыць, што «Трактар» змяшчаў крыху больш за 17 тысяч гледачоў, і што цяпер быў забіты пад завязку, і што мужчынаў і жанчын было прыблізна палова на палову, можна дапусціць, што вось проста цяпер Зулі пасылалі промні нядобразычлівасці каля васьмі з паловай тысяч жанчын. Зуля нахабна на вачох ва ўсіх дыктавала партнёру са свайго ложка, каго ўзяць чарговай жонкай.

Жарсцяў дадаваў той факт, што Зуля не была афіцыйнай жонкай Караля. Дзікун ужо наслухаўся ад сваіх суседзяў, якія шапталіся гучней, чым крычаў стадыён: галоўная версія была ў тым, што Зуля выбірала новых кабет для сябе, а не для Караля. Выбірала для ўласнай спачывальні.

На полі заставаліся ўсяго сем фіналістак. Хрысця зламала адзін абцас і цяпер скакала басанож. У пакаёўкі Таццяны туш з веек заліла вочы, таму рухі танца сталіся хаатычнымі. Бландзінцы з вяселля хапала сілаў адно трымацца за шост. Прадстаўніца магазіну «Крама» дзіка смяялася. Удзельніца ад «Таможэнных войск» Сняжана, імя якой было напісанае на пілотцы, рабіла толькі адну фігуру: паварочвалася то перадам, то задам да Караля. Канкурсантка ад «Гораддрэву» стаяла на месцы, але спрабавала круціць грудзямі, як прапелерам. А прадстаўніца порту «Чыжоўка» выкарыстала канструкцыйныя асаблівасці свайго цела і віхляла задніцай, нібы грудзямі.

Кароль знакам рукі спыніў танцатрэс сямі канкурсантак, узяў мікрафон:

— Дарагія саацечасьцьвеньнікі! Друзьля. Мы пражылі з вамі яшчэ адзін няпросты год.

Заўтра мы перавернем лісток календара і пачнем новы трудавы дзень. Новы трудавы год. Хтосьці возьме ў рукі зброю і пойдзе бараніць нашы бульбяныя палеткі ад жукоў. Хтосьці стане на варту нашых граніц, на ахову нашых багацьцяў, нашых прыродных рэсурсаў — заводаў і фабрык. Хтосьці пойдзе на тыя прадпрыемствы, каб цяжкім трудом, часта рызыкуючы жызьнью, дабываць для Горада-Героя такія важныя дары завадскіх нетраў. Хтосьці пойдзе вучыць дзяцей, хтосьці — працаваць у сьферы сервісу, абісьпечываць усім трудзяшчымся дастойны отдых. А сіводня я хачу паблагадарыць вас за празьнік. За тое, што не забываеце мяне, за тое, што прышлі сюды на стадыён. Асабліва хачу паблагадарыць нашых мілых дам, якія ізыскалі час на падгатоўку і ўчасьціе ў гэтым велікалепным прадстаўленьні. У гэтым празьніку нежнасьці і грацыі.

Кароль паказаў на Хрысцю. Дзікун павярнуўся ў бок Люцыі, якая акурат у гэты момант зрабіла жэст «Yes!». З-пад брылька ложы Нумар Адзін выехаў грузавік з пад’ёмнікам на платформе. Гэта быў той самы МАЗ, які ўздымаў маладажонаў да скульптуры вершніцы на зубры. Хрысця з гонарам зайшла

ў люльку, якая павольна пачала ўздымацца, але дзесьці на вышыні двух з паловай метраў над зямлёй рэзка пахілілася, а праз секунду адвалілася ад крана. Стадыён адначасова выдыхнуў: «О-о-о…» Секунда — і цела Хрысці знерухомела на зямлі. Да дзяўчыны кінулася брыгада хуткай. «Відаць, той самай, якую запрашаюць з Менску».

— Дзіверсія, — рашуча канстатаваў дырэктар МАЗу Мікалаіч. Сказаў нібыта сабе пад нос, але так, каб чулі прысутныя. А ў VIP-ложы былі і міліцэйскія чыны, і вайсковыя, і «людзі ў цывільным». — У нас на мехдвары кантроль качэства стопрацэнтны. А тым больш для такога празьніка.

Хрысцю звезлі з поля на каталцы. Кароль паказаў на Таццяну-пакаёўку. (Пасля адміністратарка Ала Пятроўна скажа на банкеце работнікаў гасцініцы «Турыст» з нагоды перамогі прадпрыемства ў спаборніцтве за права прадставіць новую жонку Каралю: «Бачыце, і ніякае «пласкажопіе» не паўліяла. В жэншчыне глаўнае — глаза». Следам Ала Пятроўна паправіць свой бязмежны бюст.) Новую жонку Караля правялі доўгім шляхам праз усе ўваходы-выхады па дзясятку лесвіцаў. Давялося крыху пачакаць. Свята віда-

вочна скінула абароты. Урэшце Кароль пацалаваў маладую жонку на радасць стадыёну. Пасля дзелавіта заламаў Таццяну літарай «Г» і ўзяў ззаду. Палавы акт цягнуўся нядоўга, Кароль вялікага энтузіязму не дэманстраваў, але «сужэнскі абавязак» выканаў належным чынам.

— Уууу-ррр-ааа!

Сямнаццаць жонак пашыхталіся, а навaспечаная «каралева», альбо «Караліха», як яшчэ казалі ў народзе, з кожнай парукалася і абмянялася чмокамі-чмокамі. Вялікія фіранкі закрылі ложу Нумар Адзін ад тысяч вачэй.

«Антракт паўгадзіны!» — абвясціў мацюгальнік.

Грымнула песня «Если нам скажут: «Ваш поезд ушёл», / Мы накроем стол и подождём другой». Людзі пацягнуліся хто да траншэі за стадыёнам, якая выконвала ролю прыбіральні, хто да палатак з самагонам і чыпсамі. Адзін з чыноў у «цывільным» шпаркім крокам рушыў з VIP-ложы ў бок ложы Нумар Адзін. А Дзікун глядзеў, як Люцыя плача, схаваўшы твар у далоні.

Рабочыя на полі прыбіралі гільяціну і шацёр. З аднаго з праходаў выйшлі «чорныя

п’яўкі» і пачалі атачаць частку поля, адгароджаную плотам са сталёвых прутоў. Па радах хадзілі падлеткі і прапаноўвалі напоі і закуску. Тыя, хто застаўся на месцах, абмяркоўвалі нешчаслівы выпадак з пераможцай конкурсу нявест, а таксама давалі характарыстыкі Таццяне, што прыйшла на замену Хрысці. «Так і будзе ўсё жыццё «дублёршай». Сонца сядала, запалілі паходні. Адразу сталася горача. Хоць Люцыя сядзела зусім побач, але з VIP-зоны да яе было доўга ісці. Дый што б сказаў ёй Дзікун? Што Хрысця ачуняе? Відавочна слёзы Люцыі былі не толькі праз траўму сяброўкі. Да мары падполля дабрацца да Караля заставаліся лічаныя секунды. І раптам аблом ва ўсіх сэнсах.

Дзікун закапаў вочы. Спецыяльны такі раствор, які здымае сверб. А вочы часаліся бязлітасна. Забойства і калецтва — гэта тое, што бачун разабраў у сваіх прадчуваннях. Небяспекі набліжаліся розныя і масавыя. Яны збягаліся ў галаве Дзікуна, нібы мурашы з усіх бакоў на свежазлоўленага вусеня. Аграмадная спажыва для соцень дробных драпежнікаў, кожны з якіх паасобку — нішто і ні пра што, а ўсе разам — магутная сіла. Дзікун адчуваў сябе такім вось вусенем.

Хацеў было спыніць разносцу напояў, каб самагонам прытупіць сваю «чуйку» бачуна. Але стрымаўся. Падчас баявых дзеянняў на Талачынскай выспе, калі аддзел выведнікаў Добрага Месца атачалі банды, Дзікун навучыўся вылучаць адну — самую прынцыповую — небяспеку і пільнаваць толькі яе адну. Гэтым разам Дзікун сканцэнтраваўся на Люцыі. Вакол яе «мурашы» так і гойсалі туды-сюды.

Загулі рухавікі. Дванаццаць трактароў заехалі на стадыён. Ехалі павольна, а рухавікі раўлі надрыўна, праз сілу. Бо на таўшчэзных ланцугах цягнулі кабана. Ды што там — Кабана! З вялікай літары. Пяць метраў вышынёй у карку, восем метраў даўжынёй. Аграмадная жывёліна хрыпела, як конь, гыркала, як сабака, і спрабавала скакаць ва ўсе бакі, як малпа. Натоўп па перыметры поля, тыя самыя абраныя для параду пестуны лёсу, былі пасунуліся ў бок кабана, але іх спынілі «чорныя п’яўкі».

«Да-а-а-а заключнай часткі нашага сённяшняга свята застаюцца лічаныя хвіліны! Просьба вярнуцца на свае месцы і прышпіліць рамяні. Жарт. Проста атрымлівайце асалоду

ад відовішча, якое вы чакалі цэлы год. Хто, хто той шчасліўчык, які сёлета стане ўладальнікам першага прызу — пятака Кабана?»

— Уууу-ррр-ааа!

«Трыста трактарыстаў» — так назвалі людзі ўдзельнікаў бойкі са свінамонстрам. Трыста чалавек, пераважна мужчынаў, віселі ў спісах у букмекерскіх канторах. Трыста тых самых «трактарыстаў» цяпер абляпілі з усіх бакоў плот са сталёвых прутоў.

«За-а-а-астаюцца лічаныя секунды перад пачаткам зрывабашэннага відо-о-о-овішча!»

Трактары, якія трымалі жывёлу ў цэнтры агароджанай пляцоўкі, вокамгненна адчапілі ланцугі і газанулі з арэны. «Чорныя» расступіліся, трыста «трактарыстаў» ухапіліся за плот. Сталёвыя пруты былі адначасова і пікамі. Адным вокам Дзікун сачыў за Люцыяй, другім назіраў, як свінатарэадоры мянташаць адзін аднаго, спрабуючы прабіцца да Кабана. Трыбуны шалелі ў экстазе, штосьці захоплена лямантаваў каментатар, але да Дзікуна даляталі адно асобныя фразы. «Звычайна на нагах застаецца не больш за дзясятак чалавек…» «П’юць з конавак

кроў візаві…» «Хто абярэ сабе на ноч партнёрку са ста з лішкам звышпрыгажунь?..»

Санітары не паспявалі выносіць з поля параненых і забітых. Першую хвалю нападнікаў затаптаў Кабан. Больш хітрыя «трактарысты» кідалі свае пікі праз галовы тых, хто лупіўся адзін з адным, каб прабіцца ў першыя шэрагі і там загінуць пад капытамі. Сярод палеглых у бітве за Кабана было шмат тых, хто «мог паўтарыць» на пачатку шэсця. Што да іншых, як і прадказваў каментатар, на фініш выйшла не так шмат удзельнікаў свінабітвы. Пераможцы паўфіналу — тыя, хто ўпэўнена стаў на нагах, на некаторы час згуртаваліся, каб выканаць першапачатковую місію: забіць свінамонстра. Жывёла ўжо слаба варушылася, але ўсё яшчэ намагалася адбівацца. Байцоў, здатных трымаць зброю, засталося ўсяго крыху болей за дзесяць.

Яшчэ трошкі, і Кабан упадзе з адчайным рыкам. Тады пачнецца апошняя бітва: за права атрымаць суперпрыз — кабаноў пятак. Гэты трафей на ўсё жыццё зробіць пераможцу паважаным чалавекам, увахожым на ўсе імпрэзы Караля. А яшчэ традыцыйна фіналісты змогуць узяць сабе столькі мяса, колькі здолеюць пацягнуць на сабе. Калі

ўлічыць, што большасць з іх параненыя, асноўная маса тушы застаецца на полі. Таму да перасоўных шашлычніц і барбекюшніц ужо пачалі выстройвацца чэргі — рэшту забяруць сабе гледачы.

Дзікун убачыў, як яшчэ некалькі байцоў палеглі, змардаваныя празмерным фізічным і псіхічным напружаннем. Перад заваленым, але яшчэ жывым Кабаном стаялі на нагах, на каленях, а іншыя дык на ўсіх чатырох. Хто з іх наважыцца адрэзаць пятак? Кожны «трактарыст» сачыў адзін за адным. Найменшы рэзкі рух мог справакаваць апошнюю бойку. І бойка мусіла адбыцца. Гульцы са смерцю ў барацьбе за славу цягнулі час, каб адпачыць.

Раптам Люцыя ўзнялася са свайго месца і рашуча пабегла ў бок поля. Проста па галовах людзей. Ачмурэлыя ад самагону і адрэналіну, гледачы не абураліся паводзінамі маладой кабеты. Хтосьці з мужчынаў нават даў рады пляснуць Люцыю па азадку. Ухвальна так, з падтрымкай, маўляў, малайчына, давай дзівосніцай.

Люцыя прабегла міма «чорных» без перашкодаў. Магчыма, інструктажу на падобныя выпадкі «п'яўкі» не мелі. Люцыя мінула

знясіленых «трактарыстаў-тарэадораў», пагладзіла пысу Кабана, падабрала з зямлі адну з пік, засадзіла жывёліне вастрыё ў вобласці сэрца, падышла да аднаго з байцоў, які ляжаў на зямлі і глядзеў на дзяўчыну разгубленымі вачыма, выняла ў яго з рукі мачэтэ, адсекла некалькімі ўдарамі пятак і прадэманстравала яго стадыёну. Публіка зараўла рыкам падтрымкі.

У гэты момант Люцыя тры разы маханула рукой, і стадыён, дакладней, трыбуну насупраць ложы Нумар Адзін, накрыла аграмадным плакатам «Стоп бульба!». Пад надпісам мясцілася выява перакрэсленага чырвонай лініяй караняплода.

Што ўявілі сабе людзі пад эфектам «каларадкі» розных ступеняў, калі ўбачылі плакат? Мегамонстра, які іх усіх зжарэ? Канец свету?.. Як бы там ні было, сямнаццаць з лішкам тысяч прысутных на стадыёне «Трактар» гледачоў хаатычна пабеглі да выхадаў, заціскаючы адзін аднаго, а іншыя — караскаліся на сцены стадыёну, апанаваныя жывёльным страхам. Некаторыя нават палезлі на асвятляльныя мачты. «Чорныя» спачатку стралялі па сектары, дзе вывесілі плакат, а пасля тупа расстрэльвалі ўсіх людзей, з адной мэтай:

адкінуць усіх назад у бок футбольнага поля. Гільзы адстраляных патронаў фантанамі ляцелі з затвораў аўтаматаў.

Дзікун упрысядкі і пятляючы, нібы заяц, дабег да Люцыі, якая ўвесь час масакры з пераможным выглядам трымала пятак Кабана, узняўшы правую руку над галавой. «Чуйка» бачуна малявала маршрут адступлення. Права, лева, наперад, назад, скокнуць, падскокнуць, зігзагам, аббегчы, перабегчы… Дзікун трымаў Люцыю за руку і цягнуў да аднаго з тэхнічных выхадаў са стадыёну. Да непрыкметных дзвярэй, дзе не было валтузні і страляніны. «Давай!» — апошняе, што сказаў Дзікун, выштурхоўваючы Люцыю ў бок парку 50-леція Акцябра, перад тым як згубіць прытомнасць. «Мурашы» небяспек накрылі свядомасць.

## 18

«…Паліцічаскі, — праскрыпеў голас аднекуль з паўцемры. Дзікун ляжаў на бетоннай падлозе, чуняў. — Ахраньнік сказаў, што ён памог убяжаць цірарыстке», — працягваў голас. «Як жа я эціх змагароў нінавіжу, — адгукнуўся іншы голас. — З-за іх

мянты мочаць усіх». «Дык можа нада ненавідзіць тых, хто мочыць?» — далучыўся да размовы трэці голас. «А іх за што? Ані дзелают сваю работу», — катэгарычна праскрыпеў першы.

Дзікун расплюшчыў вочы. Так, камера, так, краты замест адной сценкі. Трое суседзяў — на драўляным насціле над падлогай. «Даўно ляжыць». — «Не варушыцца». — «Можа, памацаць, ці не аддаў канцы?» — «Дык засьмярдзела б ужо». — «Ай, тут і так як у морге сьмярдзіць усё ўрэмя». Пераключыліся на тэму, якія апарнякі найлепшыя ў Горадзе-Герої. Усе пагаджаліся, што каля «ДК МАЗ» — практычна санаторый. А вось гэты — на Трактарным заводзе, ён самы горшы. Тут кормяць абы чым, слабая вентыляцыя, вільготна і пацукі сноўдаюць табунамі, калі людзі спяць.

Дзікун вырашыў не дэманстраваць, што апрытомнеў. Праз хвілінаў дзесяць у камеру зайшлі ахоўнікі, моўчкі ўзялі Дзікуна пад пахі і пацягнулі з камеры па калідоры. «Адзіночка», — падумаў Дзікун, калі за ім закрыліся дзверы. Бляклая лямпачка пад высокай столлю. Камера вузкая, месца хапае толькі для прыкручанага да сцяны жалезнага ложка без матраца ды дзюркі туалету, ніяк

не адгароджанай ад астатняй прасторы памяшкання. Дзікуна кінулі на падлогу побач з ложкам.

Усё цела балела. Але Дзікун адчуваў неверагодны прыліў сілаў. Відаць, пакуль спаў, свядомасць адпачыла, а падсвядомасць перапрацавала каласальны аб'ём інфармацыі, атрыманы на стадыёне «Трактар». Усе гэтыя тысячы і тысячы небяспек, якія Дзікун успрыняў адначасова. Мазгі маглі разарвацца, але не, арганізм даў рады. Цяпер на белым свеце быў ужо не той Дзікун, што раней, — пракачаны Дзікун.

Дзікун думаў пра ўбачанае на стадыёне. Найперш было цікава дазнацца, хто падпілаваў люльку на пад'ёмніку. Не выключана, што гэта была помста якой-небудзь праляцелай міма фіналу красуні. А паколькі кран працаваў на вясельных гульбішчах, не было праблемы пад канец змены ўзняцца пад відам жаніха і нявесты і троху папрацаваць нажоўкай, скончыць пілаваць перад прызямленнем. Галоўнае — быць апошняй парай напярэдадні Дня Паўкабана / Дня Горада-Героя / Гадавіны Бітвы за Велазавод. Чаму не?

Дзікуна ўразіла жорсткасць, з якой «чорныя п'яўкі» пачалі падаўляць паніку. Выгля-

дала, што лепш хай сабе людзі пазадушваюцца на трыбунах, чым выберуцца вонкі стадыёну. Ну і Зуля, калі гэта была яна. Цягам усяго шоу яна паводзілася, быццам ходзіць у сябе па спальні, не ведаючы, чым заняцца, нават калі пачалося душылава.

— Э, мужык, ты жывы?

Голас пачуўся проста побач. Дзікун павярнуў галаву і ўбачыў, што частка падлогі пад ложкам прыадкрылася, у праёме ледзь бялеў чыйсьці твар.

— Як цябе зваць? — спытаў твар.

— Дзікун. Афіцыйна Станіслаў.

— Станіслаў… Добрае імя, наскае, спрадвечнае. Ты часам не гей?

— Не.

— Траўкі не паліш?

— Не.

— «Купалінку» ведаеш?

— Так.

— А заспявай.

— Купалінка-купалінка, цёмная ночка,
Цёмная ночка, а дзе ж твая дочка,
Цёмная ночка, а дзе ж твая дочка.
Мая дочка у садочку ружу, ружу поліць,
Ружу, ружу поліць, белы ручкі коліць,
Ружу, ружу поліць, белы ручкі коліць…

— Малайчына. «Ад панядзелка да панядзелка» можаш?

— Ад панядзелка да панядзелка
дробны дождж ідзе,
Сабралася бедна басота ды гарэлку п’е.
Сабралася бедна басота ды гарэлку п’е.
П’ем мы гарэлку, п’ем мы вішнёўку,
будзем піць віно,
А хто прыйдзе, з нас насмяецца —
будзем біць таго,
А хто прыйдзе, з нас насмяецца —
будзем біць таго.
Вось ідзе дзядзька, дзядзька багаты,
насміхаецца,
Скуль жа, скуль жа бедна басота
напіваецца?
Скуль жа, скуль жа бедна басота
напіваецца?
Ой жа ты, дзядзьку, дзядзьку багаты,
ты ня смейся з нас,
Вазьмі ў руку чарку гарэлкі —
выпі ты за нас.
Вазьмі ў руку чарку гарэлкі —
выпі ты за нас.
Рад бы я выпіць, рад бы я з’есці,
рад бы закусіць,

Ёсць у мяне сто рублёў грошай —
шкода размяніць.
Ёсць у мяне сто рублёў грошай —
шкода размяніць.
Адзін за ручку, другі за ножку,
трэці — у карак б’е.
Не хадзі ж ты, дзядзька багаты,
дзе басота п’е.
Не хадзі ж ты, дзядзька багаты,
дзе басота п’е.
Ад панядзелка да панядзелка
дробны дождж ідзе,
Сабралася бедна басота, дый гарэлку п’е.
Сабралася бедна басота, дый гарэлку п’е.

Так вось усю песню і давялося Дзікуну праспяваць. Здавалася, твар у праёме падлогі слухаў бы ды слухаў, і па другім, і па дзясятым разе.

— Але ж ты наскі хлопец, але ж праўдзівы! А-ёй, а-ёй! Малайчына. Лезь сюды да мяне. Неўзабаве абыход будзе.

Тры-чатыры дзясяткі метраў больш-менш пралазных для чалавека трубаў — і Дзікун апынуўся ў пpасторным тунэлі. «Асцярожна, — сказаў новы знаёмы, — пад нагамі — кантактная рэйка, на яе час ад часу даюць

ток. Мы ў метро, Станіслаў. А вось і станцыя «Трактарны завод». Мяне клічуць Алесь Першазвон». Доўгія саламяныя валасы, стужка з арнаментам вакол галавы, пастаўлены голас, важнецкая запаволенасць рухаў пры досыць хуткай хадзе. «Ха, дык гэта ж той самы баечнік, які распавядаў на рынку, маўляў, калі-небудзь народ выйдзе з-пад зямлі і скіне караля!» А падчас разгону гледачоў расказчык як пад зямлю праваліўся. Значыць не «як», а менавіта пад зямлю.

Платформа станцыі была троху падсвечаная. І станцыя, і кавалак тунэлю, якія толькі што мінулі, пакідалі адчуванне дагледжанасці. Алесь правёў Дзікуна хадамі тэхнічных памяшканняў, прылеглых да галоўнага тунэлю метро. «А вось цяпер я сапраўды папаў», — падумаў Дзікун праз некалькі гадзінаў. Бо зусім побач за сцяной віравала падземнае жыццё, і жыццё гэта было такім.

Тут, у метрапалітэнаўскіх сутарэннях, жылі каля дзвюх соцень чалавек. Наколькі зразумеў Дзікун з урыўкаў размоваў, сутарэнні былі звязаныя з закансерваваным Трактарным заводам, які быў за тры-чатыры сотні метраў адсюль. Гаспадарчай дзейнасці там не вялі, адно што ахова па перыметры

пільнавала нелегальных металаздабытчыкаў. У скляпеннях пад заводам жылі яшчэ некалькі соцень чалавек. Усе былі падзеленыя на некалькі групаў. Тут былі тыя, хто здабываў ежу з паверхні, былі ахоўнікі на выпадак магчымага выкрыцця падзямелля. Былі баюны-расказчыкі, якія выходзілі з-пад зямлі, «каб адкрыць людзям вочы на праўду». Эліта падземных, альбо «норных», як акрэсліў іх для сябе Дзікун, жыхароў.

Алесь Першазвон распавёў, што ён не толькі робіць вылазкі, каб абудзіць народ, падрыхтаваць яго да паўстання супраць дэспата і тырана — Караля. Алесь сам малюе коміксы. «Нацыянальна арыентаваныя! Каб людзі памяталі пра свой род-племя. Пра свае карані. Каб не былі манкуртамі без памяці». Размова адбывалася ў маленькім пакойчыку-майстэрні. Далёка не кожны абітальнік «нораў» меў такі прывілей — прыватную прастору. На працоўным стале Алеся ляжаў сшытак «Альгердавай дзіды», той самы, які Дзікун набыў на рынку каля «Турыста».

— Вы маеце сваю друкарню?! — здзівіўся Дзікун.

— Не, дзе там… — Алесь махнуў рукой. — Часам з «Коцікавым» працуем, а часцей —

да менскіх звяртаемся. У іх якасць лепшая, дый наклад можна большы заказаць за адзін раз. Хіба што дастаўляць больш складана, не заўжды каналы для перакідкі адкрытыя.

— Дык калі вы спакойна можаце выходзіць на паверхню хоць у Менску, хоць у Горадзе-Герої, навошта седзіце тут — пад зямлёй?

Алесь ляснуў Дзікуна рукой па плячы і павёў у самыя *свяшчэнныя* куткі «нораў». У тыя мясцінкі, дзе захоўваліся галоўныя таямніцы падземных жыхароў. Дзе маладым ці новапрынятым у грамаду перадаваліся сакральныя веды. «Веды, якія чакаюць свайго часу, каб разам з людзьмі выйсці з-пад зямлі і пайсці ў народ», — патлумачыў Першазвон.

Ледзь прыкметныя металічныя дзверы былі пазначаныя вялікай літарай «Z». За дзвярыма ў канцы не надта доўгага праходу былі яшчэ дзверы. На іх красавала знічка з «Z» у сярэдзіне. Шлях да дзвярэй выглядаў як анфілада з некалькіх пакояў. У першым — цвярозыя людзі спявалі «Купалінку», у другім — паддатыя людзі цягнулі «Ад панядзелка да панядзелка», у трэцім — танчылі нацыяналістычныя танцы, у чацвертым — падлеткі слухалі лекцыю пра тое, што на паверхні засталіся манкурты, якім няма веры і сярод

якіх жыць не можна. «Царква сведкаў літары «Z», — пазначыў для сябе Дзікун, чакаючы, што ж будзе за апошнімі дзвярыма. Чуйка бачуна маўчала. Значыць, прынамсі за жыццё можна не пераймацца.

Яшчэ зусім нядаўна выведніку Добрага Месца Станіславу Рабянку здавалася, што самае складанае псіхалагічнае выпрабаванне ў жыцці ён прайшоў на вяселлі ў «Турысце», дзе пад уздзеяннем «каларадкі» ён — Дзікун — сутыкнуўся з «гаварашчымі карчамі». Але ў сутарэннях каля станцыі «Трактарны Завод» атмасфера была яшчэ больш густой. Апошнія дзверы раскрыліся. У памяшканні працаваў відэамагнітафон. На экране тэлевізара «Віцязь» быў бачны лысаваты суворы мужчына, які штосьці ажыўлена казаў у ментарскай манеры. Мужчыну слухала каля пятнаццаці чалавек.

Да Дзікуна даляталі словы, якія, як пасля высветлілася, былі сакральнымі: «адраджэнне», «бальшавіцкая навалач» і «шматпакутная». З часам Дзікун дазнаўся, што з экрана вяшчаў Z — прарок. А сімвалам веры ў норнай грамады быў «сапраўдны народ».

У некаторых пытаннях — адзінства ў грамадзе не было. Адны меркавалі, што Z

у патрэбны час матэрыялізуецца на градах з чароўнага клубня. Іншыя былі перакананыя, што Z спусціцца з неба. Але і тыя, і тыя верылі, што дзесьці ёсць сапраўдны народ, які з невядомых прычынаў не праяўляецца.

Маладыя не ведалі, хто такі Z, а старэйшыя ім не распавядалі. Толькі тлумачылі: Z прыйдзе, калі народ паразумнее і раскрые вочы. Калі народ будзе гатовы пачуць і ўспрыняць слова Ісціны. А служэнне царквы было ў захаванні таямніцы Ісціны. «Сектанічны труд», — падумаў Дзікун і адчуў набліжэнне нейкай вялікай з аб'ёму фізічнай небяспекі.

Алесь вывеў Дзікуна са свяцілішча.

— Ты ж бачун, я ведаю. Са знічкі зразумеў. Мы калісьці разам з Альгердычам у Супраціў пайшлі, а пасля нашы дарожкі разышліся. А ведаеш чаму? Бо супольны вораг знік.

— У сэнсе, пагроза III сусветнай вайны знікла? А Кароль, ён жа застаўся, — здзівіўся Дзікун. — Ён хіба не супольны вораг?..

— А Альгердыч твой хто? Здраднік, — рэзка змяніў тэму Алесь. — Мы з ім вучыліся разам у Акадэміі мастацтваў. Здраднік ён, уцёк ад змагання. І цябе звёў з іншымі бачунамі. А цяпер ты з намі. Надоўга. Дапамагаць будзеш. Сам не ўцячэш. Мы тут трыццаць га-

доў жывем, усе хады-праходы ведаем. І валодаем суперсакрэтам — дзе іх можна закрыць.

«Папаў, — падумаў Дзікун і зноў адчуў набліжэнне страшнай сілы. — Не, не папаў!» — сам сабе ўсміхнуўся. Цяпер Дзікун не толькі адчуваў пагрозу як такую, але літаральна бачыў яе абрысы. Цяперашняя была чымсьці кшталту аграмаднага бура, які свідраваў зямлю. А яшчэ Дзікун убачыў, што будуць рабіць ягоныя новыя турэмшчыкі.

Дзікун закрычаў, каб усе ратаваліся. Сцены падзямелля затрэсліся. «Гэта трохгаловы крот-цмок! — закрычаў Алесь. — Уцякайце ў бакавыя праходы і там у люкі!» Прысутныя паўскоквалі і пабеглі хто куды. Але Дзікун рушыў па сваёй праграме — туды, адкуль прыйшоў: у тунэль метро. Падбег акурат у час, калі на маленькай хуткасці перад носам праязджаў вагон цягніка. Дзікун паспеў заскочыць.

Тым часам трохгаловы гіганцкі крот прабіў сцяну тунэлю і пыхнуў агнём услед цягніку. Дзікуна выратавала ад апёку тое, што апошні вагон паспеў завярнуць за рог. Крот быў пагнаўся за чалавечынай, але зламаў усю канструкцыю тунэлю. Сцены абрынуліся,

заблакаваўшы крата завалам з бетону і арматуры.

Цягнік тарабаніў за сабою адзін пасажырскі і тры грузавыя вагоны. Дзікун замацаваўся на платформе апошняга, гружанага сталёвымі лістамі. Наперадзе вымалёўвалася станцыя «Купалаўская». Дзікун памятаў са школьнага курсу гісторыі, што там быў самы безгустоўны дызайн станцыяў менскага метро.

Спыніліся. З грузавых вагонаў пачалі выскокваць людзі. Адзін, два… Пяць, дзесяць… Пятнаццаць. Адкрыліся дзверы пасажырскага вагона, з яго паваліў натоўп чалавек на дваццаць. Вочы зачасаліся. «Трымайся за поручні!» Дзікун адчуў набліжэнне бойкі. Так і сталася: цераз усю платформу «Купалаўскай» двума шэрагамі стаялі паліцыянты ў абарончым рыштунку з дубінкамі ў руках і аўтаматамі за спінамі. «Магчыма, паспрабуюць прасунуцца далей па тунэлі метро і пасля выбрацца праз тэхнічныя праходы», — разважаў Дзікун, назіраючы, як паліцыянты б’юць нелегальных эмігрантаў.

Да паліцыянтаў эскалатарам бегла падмацаванне «касманаўтаў» у шаломах. Пайшлі стрэлы над галовамі. Нелегалы пападалі на падлогу, іх пачалі «пакаваць».

— А ты, бля, што тут схаваўся?!

Дзікун даў рады пазбегчы ўдару дубінкай па галаве, але не супраціўляўся, калі два паліцыянты закруцілі яму рукі за спіну. Ён ужо пралічыў сітуацыю. Адступаць не было куды, крот заваліў тунэль. Шлях наперад быў цалкам перакрыты паліцыяй. Тым часам затрыманым вязалі рукі за спінамі, але на паверхню не выводзілі. А вось у чым справа: з супрацьлеглага боку тунэлю падагналі яшчэ адзін, на гэты раз менскі, цягнік. Уцекачы з Горада-Героя калі і ўбачаць Менск, то дакладна не цэнтральную частку. «Глядзі ты, не ўсе на «каларадцы» сядзяць, ці не шчыльна сядзяць, раз ім штосьці новае ў жыцці трэба», — з ухваленнем адзначыў Дзікун.

— А гэтага дайце мне!

«Касманаўт» з капітанскімі пагонамі павёў Дзікуна па сходах на паверхню. Па выхадзе са станцыі ў падземным пераходзе падняў забрала свайго шалому.

— Арцём!

— Дзікун!

Арцём, той самы белабрысы з баржы, развязаў Дзікуну рукі.

Яшчэ сходы, яшчэ, і вось ён, Менск!

# Частка III. Праспект Незалежнасці

## 19

— А я б у ружовы пафарбаваў! Увесь праспект!

— Добра, што няма ў Менску столькі фарбы, колькі ты хочаш.

Кумпанія за суседнім столікам засмяялася.

— Наш модны ўрбаніст, — патлумачыў Арцём.

Адзін з выхадаў з метро выводзіў на праспект Незалежнасці недалёка ад гастраному «Цэнтральны», каля якога стаялі летнія столікі.

— Наўпраставае народаўладдзе? Ты хочаш пахаваць наш Менск?

За іншым столікам ішла палітычная баталія.

— Калі б рашэнні, як вонкава змяніць Менск, прымаліся на рэферэндумах, гэта быў бы самы выродлівы горад за ўсю гісторыю чалавечай цывілізацыі. Рашэнні мусяць

прымаць эксперты. Інстытут дэпутацтва хоць бы змяншае эфект базару-вакзалу суіснавання людзей у супольнасцях.

— Столікі каля «Цэнтральнага» — гэта наш «Фэйсбук», «Тўітэр» і «Інстаграм» разам, — пажартаваў Арцём. — Тут прызначаюць і дзелавыя сустрэчы, і амурныя спатканні.

«Як пасля складзецца, не ведаю, але пакуль што фармальна ты, Дзікун, затрыманы». Арцём дазволіў Дзікуну паўгадзіны адпачыць. Таму вось цяпер пілі каву на легендарных століках, вядомых аматарам гісторыі Менску з літаратуры і кіно. Людзі, коні, ровары, часам машыны мільгалі перад вачыма. А яшчэ было шмат дрэваў. Дрэвы, дрэвы і дрэвы ўздоўж бясконцай шырокай вуліцы. «І галоўнае, што не рухаюцца тыя дрэвы», — Дзікун радаваўся адсутнасці лішаёў ды кустоў-хадуноў.

— Можна інакш, — працягваў урбаніст. — Трэба зрабіць конкурс на кожны дом. Хай зробяць непаўторна. Кожны будынак.

— Дык гэта ж парушыць цэласнасць кампазіцыі.

— Кожная кампазіцыя ці сама складаецца натуральным шляхам, ці спачатку неяк адмыслова задумваецца. З нейкімі сэнсамі

і падсэнсамі. Вось Верхні Горад: ад Сярэднявечча складаўся, складаўся, яго руйнавалі пажары, часам бомбы, часам чыноўнікі, а ён выстаяў… Такі розны. А вось побач праспект, які нічога не выстойваў і які быў задуманы як узлётная паласа ў паднябессе камуністычнага раю, шэрага і змрочнага. Для цябе гэтая цэласнасць важная — ода шэрасці?

— Ой, ну ты пачаў глыбока капаць…

— Таму рабіць непаўторна! Кожны будынак ад паштамту да… да самага Купалу!

— Парку Янкі Купалы? — шэптам перапытаў Дзікун у Арцёма.

Пры слове «Купал» Арцём спахмурнеў. Сказаў, што распавядзе пазней пра яго.

— Лепш, Дзікун, раскажу крыху пра сябе. Я шмат гадоў працаваў пад прыкрыццём уздоўж трасы М4. Збіраў інфармацыю для Менску. Заадно пільнаваў кагосьці з вашага боку. Татушка твая падказала, хто ты і навошта. Калі цябе ледзь не пачалі вінціць на КПП у порце «Чыжоўка», я разыграў хуліганскую сцэнку, каб адцягнуць увагу на сябе. Мяне забралі ў пастарунак, аформілі, выпісалі штраф, стрэльнулі сабе хабар і адпусцілі. Але мне давялося сысці з работы пад пры-

крыццём — маю фізіяномію запомнілі службоўцы Горада-Героя. Вось, цяпер у менскіх памежніках працую. Ведаеш, а яно і добра, засумаваў я па радзіме.

— Арцём, здароў! — да століка падышоў крэпкага целаскладу высокі мужык. Узрост… Дзікун сумняваўся ў рэальным узросце месцічаў, але заўважыў, што ў Менску людзей сталага на выгляд веку болей, чым у Горадзе-Героі.

— Саша, будаўнік, — новы знаёмец паціснуў Дзікуну руку і звярнуўся да Арцёма:

— Ты на рабоце, бачу, а я сёння вольны, во, піўка ўзяў для пачатку, а там паглядзім.

— Дзе ты цяпер робіш, Саша?

— Цырк рамантуем, туды хочуць перанесці некалькі тусовак з забаўляльнага цэнтру «Сталіца». Пад зямлёй з вентыляцыяй праблемы.

— Забаўляльны цэнтр «Сталіца» пад плошчай Незалежнасці, — патлумачыў Арцём.

— О, а ты не мясцовы? Як зваць? Стась? Адкуль?.. О, Мугулёўшчына, я адтуль родам, можа, чуў пра Кругі? — Саша меў адметны твар, на ім амаль не рухаліся мускулы. Аблічча Сашы не перадавала эмоцыяў. Зусім.

А яшчэ новы суразмоўца Дзікуна хоць і задаваў пытанні, але амаль не чакаў адказаў.

Саша за адзін глыток выпіў паўкухля піва.

— Я ж перабежчык з Горада-Героя. Ды што там — уцякач! Ну іх нахер, я з імі і да Вялікага Выбуху не надта сябраваў, а як яны пачалі «каларадку» ўжываць, то зусім кепска стала. Херню нейкую балбочуць увесь час. Тут, праўда, таксама шмат херні плявузгаюць... — Саша перайшоў на шэпт. — Арцём ведае маю пазіцыю: кнігі, фільмы, архітэктура — гэта ўсё марнаванне часу. Арцём кажа, што без архітэктара дому не пабудуеш. Ха! Вось я прараб, я табе намалюю, накрэслю і пабудую. Можа, гэта будзе дом формай як цэгла, але надзейны. А што будынкі формай адрозніваюцца, дык гэта херня, як кіно ці кніжка — марнаванне часу.

Саша другім глытком дапіў піва, прыязна развітаўся і бадзёра пашкандыбаў па праспекце.

— У Сашы інваліднасць па фантазіі, — пачаў расповед Арцём. — Таму яму далі грамадзянства Менску.

— Гэта як?!

— Звычайна тым, хто прыйшоў з Горада-Героя, грамадзянства не даюць. Лічыцца,

што іх свядомасць настолькі дэфармаваная «каларадкай», што адэкватна галасаваць людзі ўжо не могуць. «Каларадка» спусташае фантазійны патэнцыял свядомасці. А ў Сашы няма чаго спусташаць. Нуль фантазіі. Яго паўгода даследавалі нашы псіхолагі. Нуль. У Горадзе-Герої Саша пакутаваў праз адсутнасць канкрэтыкі. Там жа нічога пэўнага няма. Тое, пра што вы за месяц дамовіліся, можа змяніцца дваццаць разоў. А ў Менску дамова — жалеза. Слова непарушнае, пячаткай і подпісамі падмацаванае. У Менску можна планаваць жыццё. Сашу тут балдзёж.

Арцём і Дзікун паціху рушылі ў бок ратушы. Завярнулі на Дамініканскую. Палац Рэспублікі — архітэктурны монстр позняга СССР — быў напалову разбураны. «Там засядалі прыхільнікі Горада-Героя, рэжым якога хацелі распаўсюдзіць на ўвесь Менск. Давялося іх выкурваць адтуль гарматамі і мінамётамі. Цяпер тут радовішча будаўнічых матэрыялаў. Кожны можа браць сабе на рамонты і будоўлі, — патлумачыў Арцём. — Тая самая гісторыя адбылося з гатэлем у Цэнтральным дзіцячым парку, яшчэ некаторымі будынкамі».

— Затое глядзі! — Арцём з гонарам паказаў на металічнаю каркасную канструкцыю на рагу Валоцкай і Дамініканскай. Гэта абрысы сабору Святога Тамаша Аквінскага. На агульным сходзе менскага парламенту, ён жа Соймам завецца, пастанавілі, што архітэктурныя страты будзем аднаўляць вобразнымі творчымі сродкамі. У Менску водаправод пусцілі ўсяго толькі гадоў восем таму. Ясна, што пакуль да поўнага аднаўлення помнікаў архітэктуры яшчэ далёка. Не тыя рэсурсныя магчымасці. Дый усё і не варта адбудоўваць. Мне каркасныя абрысы ў маштабе дакладнай копіі больш падабаюцца.

Дзікун падумаў, што Арцём добра на століках наслухаўся ўрбаністаў. Сам слухаў Арцёма напаўвуха, бо быў захоплены краявідам, які адкрыўся. Верхні Горад! Сэрца Менску! Менск… Ён рознакаляровы, ён рознаархітэктурны, ён рознačалавечы. Вось яна, ратуша, а вакол на траўцы людзі чытаюць кнігі, слухаюць музыку. Касцёл Панны Марыі, Святадухава царква, далей — касцёл бернардынак, касцёл Святога Язэпа, Гандлёвыя рады, Гасцінны двор, гарадскія скульптуры, вузкія старадаўнія вулачкі!..

Дзікун ніколі ў жыцці не бачыў столькі харас-тва разам у адным месцы.

«Мэрку — у адстаўку!», «Эмігрантам — легалайз!», «Мы — адзін народ!». Архітэк-турнае хараство дзе-нідзе па сценах было спісанае лозунгамі. «Наша апазіцыя, — па-тлумачыў Арцём. — Маргіналы, няма пра што размаўляць. Супраць мэра Альжбеты Сандрыгайлы, бо тая праводзіць ізаляцы-яністцкую палітыку да Горада-Героя».

Каля падножжа гары, на якой стаяў Верх-ні Горад, пад вадой па калена гнілі рэшткі колішняй вуліцы Зыбіцкай. Калісьці вуліцу спачатку разбурылі, пасля штучна забуда-валі муляжамі старых дамоў. Пазней му-ляжы самі па сабе сталіся гісторыка-культур-най спадчынай, дзякуючы сканцэнтраваным гісторыям п'янага разгуляева. Цяпер, на-колькі зразумеў Дзікун, увесь цэнтр Менску, які застаўся над вадой, быў прыстасаваны пад адпачынак.

— А тут мусяць стаяць кабінкі для хуткага сексу!

— Тут мусяць стаяць кабінкі для хуткага распівання спіртнога!

— А я кажу — для сексу.

— Але ж будуць гучаць охі ды ахі. Дзеці будуць чуць.

— Тады давайце зробім абмежаванне ў часе. Напрыклад, кабінкі адкрытыя для сексу з 20:00 да 08:00.

— І для палення марыхуаны!

Спрачаліся галоўны архітэктар гораду з прадстаўніком фірмы-выканаўцы. Абмяркоўвалі добраўпарадкаванне ракі Свіслачы ў раёне Опернага тэатру. Дзверы кабінета галоўнага архітэктара былі адкрытымі і выходзілі ў фае прыёмнай мэра. Тут сядзелі Дзікун і Арцём і чакалі запрашэння на аўдыенцыю.

Офіс Альжбэты Сандрыгайлы быў у будынку ратушы. Фае прыёмнай было аздобленае карцінамі з сюжэтамі важных гістарычных падзеяў, звязаных з Менскам. На першай злева ад Дзікуна былі выяўленыя барадатыя мужчыны ў адзежы XI стагоддзя, якія ўздымалі з папялішча старажытны Мянеск. Горад утварыўся як памежная крэпасць Полацкага княства і быў разбураны брацкімі войскамі Ноўгараду і Кіева ў 1067 годзе. А вось далей карціна з цудоўным прыбыццём іконы Божай Маці ў Менск па Свіслачы ў 1500 годзе. На трэцяй карціне быў ужо 1660 год. Тут са-

юзныя войскі Кароны і Княства вызвалялі горад ад акупацыі з Усходу. На чацвёртай — менчукі святкавалі Дзень нараджэння Напалеона Банапарта…

— Якія кабінкі для сексу?! Вы не чулі, што адбылося гадзіну таму? — да галоўнага архітэктара зайшоў хтосьці са службоўцаў мэрыі.

Але што канкрэтна адбылося, Дзікун не пачуў. З прыёмнай паклікалі: «Спадар Станіслаў Рабянок, прашу заходзіць!» Арцём падміргнуў: маўляў, трымайся!

Дзікун рэзка ўзняўся, але паспеў зачапіць вокам яшчэ адну карціну, апошнюю з двух дзясяткаў. Гэта быў трыпціх: усталяванне памежных слупоў, запуск гідраэлектрастанцыі і рок-канцэрт на плошчы Каліноўскага.

20

Спачатку быў фільм. Спадарыня мэр Альжбета Сандрыгайла спазнялася. Сакратарка сказала, што, відаць, адбылося штосьці надзвычайнае. Бо вось толькі што мэр сама затэлефанавала і папярэдзіла, што спозніцца. І што спадара Рабянка, то бок Дзікуна, трэба заняць. «І вось, калі ласка, прайдзіце

ў пакойчык. Вось фільм, а таксама кава, гарбата і бутэрброды». Сакратарка была ў лёгкім шоку. Відаць, мэр упершыню турбавалася за наведніка.

Фільм пра Менск. Сумесь рэкламнага і навучальнага ролiку. Здаецца, стваральнікі стужкі падышлі да справы з гумарам. Спачатку яны распавялі, які Менск класны, якім яшчэ лепшым ён стане, а пасля патлумачылі, чаму ты, нелегал-перабежчык, хвігушкі калі зможаш жыць у Менску паўнавартасным жыццём, нават калі і атрымаеш від на жыхарства, а не рашэнне пра прымусовую дэпартацыю на радзіму.

— Цікавы фільм? Я начальнік Службы дэпартацыі, Антон Бузевіч. — Круглатвары круглапузы мужчына з лысым чэрапам і густымі чорнымі брывамі, сярэдняга росту, энергічны і ўсмешлівы. Зайшоў ціха.

— Добры дзень, цікавы фільм… Бібліятэкі, музеі, галерэі, клубы, два тэатры. Я не думаў, што культурнае жыццё так хутка адновіцца… Дзе ж гэта… Вось тут, — Дзікун перамятаў файл з гадзінным фільмам на сярэдзіну. — Тут вучаць, як карыстацца грамадскай прыбіральняй, што не трэба на ўнітаз ускарасквацца з нагамі… Гэта для чаго?

— Фільм створаны для ўцекачоў з Горада-Героя. Пачынаем вучыць з простых побытавых рэчаў. Адаптацыя да жыцця ў Менску цягнецца гадамі, і пакуль ні разу не была завершаная хоць бы адным чалавекам. На сто працэнтаў «жукі» менчукамі не робяцца. Ведаеце, Станіслаў, гэта як з бадзяжным сабакам. Калі ўзяць яго з вуліцы, памыць, пакарміць, пасяліць у добрым доме, дзе заўжды поўна ежы ў кармушцы, сабака ўсё роўна будзе красці і рабіць заначкі — на ўсялякі выпадак. Не перавучваецца, бо раптам што.

«Сувора», — падумаў Дзікун.

— Мы назіралі першых перабежчыкаў цягам дзесяці гадоў, пакуль не закрылі доступу новым. Жыхары Горада-Героя набываюць звычкі, у тым ліку светапоглядныя, якія ўжо не змяняюцца. І што ты ні прапаноўвай новае, усё дарма. Так, яны спрабуюць капіяваць тое, што наўкола. Але ў выніку ператвараюцца ў хадзячыя капіявальныя аўтаматы. То бок, сутнасна не змяняюцца, адно вонкава. Уяўляюць з сябе змалпаваны Менск. Бо ў Горадзе-Героі атрафуецца галоўная звычка — звычка да крэатыву. Менск бярэ ў грамадзянства, калі давядзеш кваліфікацыю ў сваёй справе — пацвердзіш

карыснасць. Альбо інвестуеш нейкі рэсурс. Прафукаеш рэсурс, не разаўеш — ласкава раім рушыць назад, дамоў. Праблема — не ў тым, што «жукі» не маюць кваліфікацыяў ці рэсурсаў. Праблема — у тым, што яны нават не спрабуюць прасунуцца наперад, — Антон Бузевіч павольна і глыбока ўздыхнуў. — Арцём мне ўжо сцісла распавёў, як вы трапілі ў Менск. Вы бачылі нелегалаў. Іх адправяць у адаптацыйны лагер у Ждановічах, паўночна-заходнім прадмесці Менску. Там яны пройдуць align розныя кшталту псіхалагічныя тэсты і па выніках атрымаюць выбар: вярнуцца ў Горад-Герой, працаваць на плантацыях Заходніх тэрыторыяў альбо пайсці вучыцца на грамадзяніна Менску.

Спадар Бузевіч паўтарыў, што калісьці перабежчыкам адразу давалі грамадзянства, але вельмі хутка ўбачылі, што навaспечаныя выбарнікі абсалютна не цікавяцца палітычным жыццём. Партыйныя дзеячы на выбарах куплялі сабе галасы перабежчыкаў: часам за добрае слова, часам «за булачку» — за дробныя гешэфты. «Усякая ўласьць ад Бога», — усміхаліся перабежчыкі, на што ў Службе дэпартацыі навучыліся шматзначна адказваць: «Бог прамаўляе праз вас».

Будучы жорсткімі забабоншчыкамі, «жукі» нейкі час самастойна хадзілі на выбарчыя ўчасткі, але боязь Бога ў звязку з выбарамі мінула досыць хутка. Хтосьці з перабежчыкаў прыдумаў, што на тэрыторыі Менску Бог паводзіць сябе інакш, чым у Горадзе-Героі. І такі самы лагодны ў сваіх паводзінах, як і менскае грамадства. Не, ну праўда: турмы — няма, Свінакомплексу — няма, смяротнага пакарання — няма. Рай!

— Відаць, «жукі» імкнуцца ў Менск не для таго, каб хадзіць на выбары? — Дзікун не хаваў свайго лёгкага абурэння. — Раз не хочуць удзельнічаць у палітычным жыцці — навошта прымушаць? Не давайце ім грамадзянства, хай будзе толькі від на жыхарства.

— А мы амаль так і робім. Толькі ў нас яшчэ ёсць закон, згодна з якім жыць у Менску могуць толькі грамадзяне. Таму Менск выдае эмігрантам дазвол на працу. І магчымасць прайсці экзамен на грамадзяніна, які практычна ніхто не здае. Раптам у канцы Школы правоў і абавязкаў вучань дазнаецца, што як грамадзянін будзе абавязаны сплачваць дзесяць працэнтаў свайго даходу ў агульную касу Менску. А неграмадзяне падаткаў не плацяць. Па-за Менскам,

дзе эмігранты здымаюць жытло, — свае законы. Дакладней, пісаных законаў няма, жывеш, як дамовішся.

— Але ж вы такім падыходам множыце беззаконне на тэрыторыях вакол Менску!

— Ёсць іншае меркаванне: што такім падыходам мы баронім сваё грамадства, сваю цывілізацыю — ад размывання.

— Але ў будучыні канфлікт непазбежны.

— З Горадам-Героем?

— Так! Там насельніцтва болей разы ў тры, калі не чатыры, чым у Менску.

— Горад-Герой ні кроку не зробіць у наш бок, пакуль мусіць бараніць свае бульбяныя палі ад каларадскага жука. У іх на ахову мяжы з намі сродкаў асабліва няма, не тое што на вайну. Дый ваяры з іх так сабе, іх жа з дзяцінства дзяржава трымае ў чорным целе. Страх — іхнае другое імя. А ў Менску ў кожнага грамадзяніна — зброя ў доме. І вайсковыя зборы раз на год ладзім.

— І анархісты. Ёсць у Менску.

— О, так, Канфедэрацыя анархістаў кантралюе землі ўздоўж чыгункі ад Калядзічаў да самых да Ждановічаў. У нас з анархамі — узаемавыгадная дамова. Калі ежу яны мінімальна вырошчваюць самі, то газ, электрыч-

насць і чыстую пітную ваду атрымліваюць у нас. Выходзіць бартар: ахова мяжы наўзамен на рэсурсы. Так гістарычна склалася. А мы і не супраць. Яны слова трымаюць, нам не пагражаюць, наадварот. Яны дэ-факта нашы «казакі» на мяжы з непадкантрольнымі тэрыторыямі, дзе пануюць дробныя групкі бандытаў. Толькі пра «казакоў» ім не кажыце — моцна злуюць.

Антон задаволена пацёр рукі, відаць, агучыў свой любімы жарт.

Дзікун звярнуў увагу на карту, якая вісела на сцяне пакою. Паўднёва-заходняя частка вялікага, калісьці адзінага, Менску была вылучаная штрыхоўкай у асобную зону. Бузевіч перахапіў позірк.

— А тут — Абяцаная Зямля для нелегалаў. У Горадзе-Героі пашыраная легенда пра тое, што па праспекце Дзяржынскага існуе праход да чыстай вады. І хоць большасць уцякаюць дзеля ўзроўню спажывецкага жыцця, які ў Менску на дзесяць галоў вышэйшы, чым у Горадзе-Героі, некаторыя спрабуюць прабрацца міма кардонаў анархістаў за чыгунку ў бок мікрараёну Паўднёвы Захад. Думаюць, што па чыстай вадзе можна дабрацца да вялікай цывілізацыі.

— Можна?

— Дзе там!

Антон Бузевіч наліў сабе і Дзікуну кавы. Кава! Тут, у Менску, яна мела цалкам іншы смак, чым у Горадзе-Героі. Пазней Дзікун дазнаўся, што ў гатэлі «Турыст» яго частавалі распушчальнай, а ў Менску — натуральнай.

— Разумееце, Станіслаў, справа ў тым, што ў раён праспекту Дзяржынскага мы адпраўляем злачынцаў трэцяй ступені.

— ?!

— У Менску няма смяротнага пакарання і турмаў. Заканадаўча. Першы тып пакарання прадугледжвае штраф ці грамадскія работы. Другі — высылку ў Горад-Герой. Як надоўга, залежыць ад цяжкасці правіны. Бывае, што і пажыццёва. Забойствы ў нас рэдка бываюць. А вось кантрабанда «каларадкі» нумар 4–5 прыраўноўваецца да замаху на забойства. У Горадзе-Героі часцей за ўсё пакараных кідаюць у якія-небудзь металаломні Заводу калёсных цягачоў ці падобнай установы. У «камізэлькі» такіх не бяруць, бо лічацца нядобранадзейнымі нават паводле мерак «жукоў». Калі пакараны ў Горадзе-Героі падсядае на «каларадку», назад мы яго не прымаем. А трэцяя сту-

пень пакарання — гэта выгнанне з Менску праз праспект Дзяржынскага. Асуджанага на БТРы вывозяць на кіламетр далей за чыгуначны мост у ваколіцах абласной ДАІ і ўсё — тэпай сам.

— Так небяспечна?

— Склізні, — пачаў тлумачыць Бузевіч, — у паўтара разу большыя памерам за БТР. Анархі распавядалі, як некалькі гадоў таму першы і пакуль апошні раз дабраліся да Медычнага інстытуту. Гэта кіламетраў шэсць, а мо і болей. Калі на вялікай хуткасці ўрэзацца ў склізня, то можна яго чпокнуць, але калёсы завязнуць. Калі наперадзе бачыш некалькіх, то лепш пакоцаць іх з кулямёта разрыўнымі кулямі. Хлопцы казалі, што ў такі спосаб таксама нармальна праехалі. Але перад імі, дні за два, адзін з БТРаў не вярнуўся. Калі ехалі назад, дзесьці перад вуліцай Уманскай тая машына, што ішла другой, ляснула ў кювет. Пакуль першыя заўважылі, пакуль развярнуліся, пакуль вярнуліся, бачаць — а ў лагчыне пад адхонам цэлы статак склізняў, асобінаў з дваццаць! І ўсе навалiліся на машыну.

Бузевіч даліў сабе ў каву з фляжкі і выпіў, не цокаючыся.

— Тэарэтычна хлапцоў можна было выратаваць. Выклікаць праз рацыю дапамогу, пасмажыць пачвараў агнямётам, закідаць гранатамі, выклікаць урэшце бульдозер, кран… Але хлопцы з перакуленага БТРа не закрылі аднаго люка. Проста шчылінку пакінулі. А мы то ўжо ведалі, што калі склізь трапляе на адкрытую паверхню цела, імгненна спыняецца кроў, цела робіцца жэлепадобнае, а далей склізняк неяк усмоктвае цела ў сябе, як бы далучае яго да сябе… Зрэшты, з нашага боку ў Даліне склізняў даўно ніхто не бываў. Перад тым кожная паездка здымалася на відэа. Нават былі зрабілі «сацыяльны ролік». Забойствы і так былі рэдкія, а цяпер зусім няма. Паказаць ролік?..

Дзікун адмовіўся. Расповед пра склізняў, вядома, быў моцны, але ўражанняў Дзікуна ад марскіх пачвараў не пераплюнуў.

— Антон, а што ёсць на паўночным усходзе Менску?

У гэты момант з-за сценкі пачуўся глыбокі жаночы голас:

— Яны прарвалі сцяну Купалу! Я толькі што адтуль! Што?.. Я САМА бачыла — фігура «чорнага» на некалькі крокаў выйшла са «святламузыкі»!

## 21

— Дык вось як ты вырас, Стась Рабянок… Як там Флорык, то бок, Альгердыч?.. Як Свецік? Каторы Уладзісвет. Паслядоўнікі яго канцэпцыі «мы — адзін народ!» тут добра псуюць усім нервы…

Бландзінка сталага веку з ачмурэлымі ад эмоцыяў вачыма барабаніла пальцамі па стале. Прытым фыркала, нібы цюлень, чым перабівала ўвесь каэфіцыент карыснага дзеяння сваёй пераканаўчай знешнасці.

— Антон, яны там ёсць — за Купалам.

Бузевіч моўчкі кіўнуў. У кабінет мэра Альжбеты Сандрыгайлы збіраліся службоўцы. У пагонах і без.

— Спадарства, перад вамі Станіслаў Рабянок. Ён бачун. Першы і найлепшы бачун, якога некаторыя з вас бачылі малым хлопчыкам, а некаторыя толькі чулі пра яго. У прынцыпе, мы чакалі кагосьці адтуль, але я не думала, што гэта будзе той самы бачун, якога празвалі Дзікуном. Надта цэннага кадра адпусцілі колішнія сябрукі-паплечнікі.

Спадарыня Альжбета хадзіла туды-сюды, паліла, кашляла, глядзела ў акно, за якім

было бачна, як заканчваецца падрыхтоўка да свята аднаўлення інтэрнэту, піла каву і час ад часу адасоблена разглядала Дзікуна, нібы ён быў рэкламным плакатам у метро.

— Стварылі вы там у сябе ідэальнае грамадства? — нядобразычліва спыталася Альжбета. Не тое каб злосна, але нейтральнай інтанацыю назваць было цяжка. Альжбета затушыла недапалак, падпаліла новую цыгарэту і, не чакаючы адказу, працягнула: — А ў нас тут няма ідэалу.

Спадарыня мэр выпраменьвала мноства разнастайных небяспек. Якіх? Дакладна Дзікун сфармуляваць не мог, але адчуваў, што кабета яго баіцца. Што кабета яго ненавідзіць. Што кабета яго хацела б бачыць не тут. Альжбета распавяла сваім падначаленым кароткую гісторыю Дзікуна. А яшчэ Альжбета прызналася, што была супраць таго, каб Альгердыч з кумпаніяй звялі з сабою дзяцей-бачуноў, бо яны маглі добра паслужыць на карысць менскага грамадства. Альжбета падкрэсліла, што лічыць містыкай тое, што Дзікун аб’явіўся ў Менску акурат тады, калі ягоныя здольнасці так патрэбныя для падтрымання бяспекі.

Спецыяльна для Дзікуна спадарыня мэр зрабіла тлумачэнне: Купал узнік з ніадкуль дваццаць сем гадоў таму. Ён ахоплівае паўночна-ўсходні ўскраек Менску. Што за ім адбываецца, ніхто не ведае, бо Купал не прапускае за сваю абалонку нічога. І ўгледзець немагчыма, бо Купал запоўнены чымсьці, што менчукі клічуць «святламузыкай». Гэта непразрыстая субстанцыя, якая ўвесь час змяняе колер. І вось сёння салдат з памежнай варты ўбачыў, як з Купалу (у народзе казалі «кумпал») на паўсекунды высунуўся «чорны». Альжбета паехала на КПП каля Кінастудыі, каб паразмаўляць з салдатам, і сама ўбачыла паўтор — выхад «чорнага» з каляровай субстанцыі. І вось цяпер Дзікун дазнаўся, што ён мабілізаваны ў менскае войска і паступае ў распараджэнне найвышэйшага вайсковага кіраўніцтва. У выпадку дэзерцірства... «Адправіце мяне ў Даліну склізняў?» Альжбета сказала, што цэніць гумар і разумее, што здольнасці бачуна дапамогуць Дзікуну не стаць ахвярай склізняў.

— Таму мы цябе на ланцуг пасадзім, Стась. А ланцуг прыкуём да грузавіка, у якім будзем вазіць цябе вакол Купалу, а ты будзеш адсочваць перасоўванні «чорных»...

Пасяліце яго ў казарме ў былым дзіцячым садку нумар 143. На вуліцы Караля, — дадала спадарыня мэр. «Не таго Караля, а колішняга архітэктара, але гумар зачотны», — адзначыў сабе Дзікун.

Альжбета Сандрыгайла казала хутка, пазіраючы на гадзіннік. «Спяшацца сапраўды варта», — падумаў Дзікун і вырашыў не раскрываць прысутным, што ягоная чуйка бачуна з «чорнымі» не працуе.

— Задушліва, — гучна прамовіў Дзікун.

Антон Бузевіч адкрыў акно. «Раз, два, тры, раз, два, тры», — хтосьці спраўджваў мікрафон. Сцэна была ўсталяваная пад Святадухавай царквой, адноўленай у свой час як канцэртная зала, і глядзела проста на ратушу. «Раз, два, тры, раз, два, тры…»

— Спадарыня мэр, ваш выступ на адкрыцці — першы, праз дваццаць хвілінаў.

— Дзякуй, Антон. Увага! Ніхто не мусіць ведаць пра «чорных», нам не патрэбная паніка. Тым больш сёння свята.

— «Чорныя» звязаныя з Каралём. Толькі дабраўшыся да Караля, можна дазнацца, як ліквідаваць пагрозу «чорных». І заадно зразумець, хто гэта ці што гэта, — Дзікун казаў рашуча, але эмацыйна стрымана.

— Палкоўнік Вепрукевіч, — назваўся спадар у афіцэрскай уніформе. — Адкуль вы ведаеце, што для пазлу не стае Караля?

— Станіслаў шмат чаго мусіць ведаць з таго, чаго няма ў нас, — сувора прамовіла Альжбета. — Альгердыч знёс з сабою інфармацыю аб таемных вайсковых распрацоўках. Амаль усё, што здабыў Супраціў. А цяпер мы бачым, што «чорныя» неяк звязаныя з Купалам, а Купал — з Горадам-Героем не мяжуе. Значыць, «чорныя» туды прыходзяць гэтаксама, як і ў Менск, — самі па сабе. Таму час вам, спадары вайсковыя, браць пад пахі Дзікуна і везці да Купалу. Хай адпрацоўвае за Альгердыча і кумпанію.

Дзікун адказаў:

— Дзейнічаць трэба хутка. Я цяпер тут, у Менску, бо «чорныя» дабраліся да Добрага Месца, да выспы ў былым Гарадоцкім раёне, дзе цяпер жывуць людзі сямі майстроўняў. Жывуць у спадзеве вярнуцца ў Менск і разам будаваць новую цывілізацыю, калі пачне спадаць вада.

— «Мы адзін народ», — фыркнула спадарыня Альжбета, — так, начутая.

— Дабраліся ажно да Гарадоцкага раёну? — перапытаў палкоўнік Вепрукевіч.

— Так, мы не ведаем колькасці «чорных», на што яны здатныя і на каго працуюць. Кароль — крыніца важнай інфармацыі аб «чорных». У Горадзе-Героі ёсць падпольшчыкі, якія гатовыя дапамагчы. Ёсць я з маім дарам бачуна і вялікім шанцам абысці пасткі, якія сцерагуць падземны праход да ЦЭЦ-3. Усё, што трэба цяпер ад вас, — дапамагчы мне трапіць назад у Горад-Герой. Ці проста не замінаць мне.

Альжбета Сандрыгайла набрала поўныя грудзі і пачала:

— Нам. Патрэбна. Тут. У Менску. Сёння. Цяпер. Супрацьстаяць «чорным»! Гэта значыць, што цябе, Станіслаў, зараз возьмуць пад рукі…

«Яго нельга адпраўляць, ён не ведае таго свету, тых людзей», — згадалася рэпліка аднаго з ачольнікаў майстроўняў, таго, які быў супраць камандзіроўкі Дзікуна ў Менск. І гэта была праўда: Дзікун не мог прадказаць паводзінаў прысутных вялікіх начальнікаў. У майстроўнях усё будавалася на ўзаемным даверы і максімальнай адкрытасці інфармацыі сярод сваіх. Тут і цяпер Дзікун не счытваў прысутных людзей. Адчуваліся фонавыя небяспекі… Хоць, не… Ужо не!

Дзікун энергічна пачасаў абодва вокі. Ён ужо бачыў канкрэтную пагрозу. Праз хвіліну да яго скроні прыставяць дула пісталета. Можна выскачыць у акно. Другі паверх, зламаць нагу — лёгка. Трымайся за поручні… Не выйсце. Хоць… Арцём выйшаў з-за спіны генерала і прыставіў пісталет да галавы Дзікуна:

— Усім стаяць! Гэта закладнік!

## 22

— Пісталет не зараджаны, — шапнуў Арцём Дзікуну. — Маю ідэю, як цябе вызваліць. На твой палон мы з Альжбетай не дамаўляліся. Дарэчы, гэта яна арганізавала тваё выкраданне з аэрапорту «Менск-2» у дзяцінстве. Яна колішняя жонка Альгердыча і была побач у момант, калі ты біўся з пацуком. Альгердыч хацеў, каб ты паляцеў з бацькамі, а Альжбета скрала цябе. Тады ўжо Альгердыч паслаў яе куды далей і забраў цябе да сваёй майстроўні.

Апошнія фразы пачула ўся плошча. Хтосьці за пультам зрабіў максімальны гук мікрафона, які стаяў побач на сцэне.

— Давай, Дзікун, раскажы хто ты ёсць і чаму тут! — штучна пагрозліва запатрабаваў Арцём.

— Прыбяры пісталет, я раскажу без прымусу! — тэатральна, з выклікам, адказаў Дзікун.

Дзікун спачатку пункцірна апавёў сваю гісторыю: найперш пра бачуноў, і што такое майстроўні, якія ён, Дзікун, рэпрэзентуе ў Менску. Але галоўнай была тэма «чорных п’явак». Некаторыя менчукі бывалі са справамі ў Горадзе-Героі, таму пра існаванне адносна новага ўзброенага фармавання ведалі. Дзікуну важна было распавесці пра трагедыю, якая адбылася ў акваторыі Новай Зямлі. Пра тое, што не было зразумела, з якой пагрозай сутыкнуліся людзі. Што за сіла таілася ў «чорных». «І самае галоўнае — яны выходзяць з Купалу», — падсумаваў Дзікун.

Пры слове «Купал» шматтысячная публіка ўстрывожана выдыхнула. У гэты час паліцэйскі спецназ ужо сабраўся ў немалой колькасці побач з натоўпам і пачаў шыхтавацца. «Хутка будуць прарубліваццa да нас», — прамармытаў Арцём і выгукнуў:

— Людзі! Мэр і ейныя памочнікі хочуць схаваць ад вас важную інфармацыю. Дапаможаце нам цяпер — дапаможаце сабе на самую блізкую будучыню! Тут недалёка, на Койданаўскай вуліцы, месціцца наша мен-

ская FM-станцыя. Давайце не дамо паліцыі нас захапіць, і хай наш госць раскажа ўсім, і Менску і Гораду-Герою, падрабязнасці таго, што ведае пра небяспеку!

Ці сама Альжбета даўмелася, ці хто з памочнікаў параіў, але паліцыя нікога не чапала, толькі ішла збоку вялікай гурбы ўзрушаных людзей. А пасля заблакавала ўсе хады-выхады вакол двухпавярховага дамка пасярод гістарычнага квартальчыку. У дамку і быў офіс радыё «Адзінкі», работнікі якога не хавалі шалёнай радасці ад эксклюзіву, які абрынуўся ім на галаву. Ды яшчэ ў той самы дзень, калі запускаліся канкурэнты з інтэрнэт-медыямі.

Што праўда, над галавой радыйнікаў ужо заселі снайперы, але бачна гэта было толькі некаторым мінакам на вуліцы. Койданаўская і ўнутраны дворык-патыё былі шчыльна забітыя людзьмі і не пакідалі шанцаў паліцыянтам для манеўру. А дахі — хадзі, як на праменадзе. Тым больш студыя радыё была абшытая гукаізаляцыйным матэрыялам — не пачуюць крокаў. У офісных памяшканнях радыё раўлі калонкі. А самыя моцныя дынамікі, што знайшліся на «Адзінцы», выставілі на вуліцу.

— Прывітанне, сябры, у студыі для вас працуе Жанна Гудбай, — вядоўца сваім глыбокім кантральта прамаўляла інтымнай інтанацыяй начных эфіраў, хоць за акном было крыху па апоўдні. — Пасля выпуску навінаў і кароткай рэкламы мы пазнаёмімся з гасцямі нашага ток-шоу «Прыехалі»…

Відаць, у навушнікі Жанны моцна пікнулі і штосьці сказалі, бо з аблічча вядоўкі знікла ўсмешка жанчыны-вампа, а вочы рэзка вылезлі наперад.

— Увага! У студыі радыё «Адзінка» — госць з далёкіх усходніх выспаў Станіслаў Дзікун… — пік у навушнікі, — Станіслаў Рабянок, вядомы як Дзікун, які мае важнае паведамленне для жыхароў Менску і сумежных тэрыторыяў. Вам слова, спадар Дзікун.

— Вітаю. Ва ўсіх вас, ва ўсіх нас застаецца няшмат часу, магчыма, часу ўжо няма. Вядомыя многім менчукам з паездак у Горад-Герой «чорныя», яны не проста новае ваенізаванае фармаванне. Насамрэч дакладна невядома, ці гэта людзі наагул, ніхто не бачыў, што ў іх пад касцюмамі.

Дзікун коротка паўтарыў гісторыю пра «чорных» і рыбакоў Новай Зямлі. Таксама сцісла, але з выразнымі дэталямі, апісаў ма-

савы расстрэл гледачоў на стадыёне «Трактар».

— Самае галоўнае, што «чорных» бачылі сёння самай раніцай у Менску…

— …Хо-хо, ну іх бы нашы памежнікі адразу супакоілі, — Жанна Гудбай выразна паглядзела на капітанскія пагоны Арцёма.

— Іх бачылі з боку Купалу.

— Ой…

У навушнікі Жанны Гудбай зноў пікнулі і штосьці сказалі.

— Дзікун, падчас свайго выступу на плошчы Свабоды каля Ратушы вы распавядалі пра сістэму дэмакратыі ў вас на Новай Зямлі. Пра нейкія майстроўні, якія робяць немагчымай узурпацыю ўлады.

— У нас чалавек не атрымлівае грамадзянства аўтаматычна, зрэшты, як і паўсюль. Але адрозненне сістэмы Новай Зямлі ў тым, што грамадзянства калі даецца, то не адразу з правамі і абавязкамі ў межах усёй дзяржавы, а толькі адной супольнасці, якую мы клічам майстроўняй. Дый дзяржавы як такой няма, ёсць канфедэрацыя майстроўняў. Яны аб’яднаныя адзіным кіраўніцтвам. У майстроўнях абіраюць сваіх ачольнікаў, а тыя ўжо галоўнага каардынатара

майстроўняў — Вялікага Ачольніка. Такім чынам папулізм адразу адмятаецца, а магчымасць узурпацыі ўлады адной групоўкай зводзіцца да нуля, бо людзі ўнутры сваіх суполках праходзяць пільны палітычны адбор. Нейронныя сувязі грамадства робяцца вельмі складанымі.

— А як можна стаць сябрам… Ці як правільна сказаць?.. Удзельнікам майстроўні?

— Для нас важныя этычныя крытэры, якіх трымаецца кандыдат ва ўдзельнікі нашай супольнасці. Таксама яго мінулае. Большасць майстроўняў сфармавалася тут, у Менску, яшчэ да Вялікага Выбуху. У тыя часы было досыць проста з праверкай інфармацыі. А цяпер, калі да нас грукаюцца прышлыя на Новую Зямлю людзі, мы даем ім шанец выявіць сябе. Пасля чалавек здае свайго кшталту экзамен перад майстроўняй. Толькі ў звычайных экзаменах ёсць білеты, якія ты мусіш вывучыць, а тут супольнасць робіць «білеты» згодна ўласных правілаў, пра якія кандыдат не ведае.

— А што за правілы?

— Калі агулам, то чалавек адказвае на пытанне свайго матыву: чаму грукаец-

ца да нас — менавіта ў нашу майстроўню? Як ён уяўляе сваё жыццё сярод нас? Якія мае планы, надзеі, як бачыць перспектывы сябе ў майстроўні? Яго слухаюць, абмяркоўваюць, спрачаюцца, выстаўляюць аргументы «за» і «супраць». Пасля адбываецца галасаванне. «За» лічыцца дзевяноста працэнтаў. Калі не прымаюць, чалавек жыве далей, як жыў, толькі без права голасу.

— То бок, вы не гатовыя прыняць да сябе ў канфедэрацыю майстроўняў бежанцаў адразу пачкамі? У нас у Менску гэтая тэма — прадмет вялікай палітычнай дыскусіі.

— У грамаду — гатовыя, даваць права голасу — не. За амаль трыццаць гадоў выбудавалася досыць гарманічная структура грамадства. У нас людзі розных рэлігійных канфесіяў. Розных палітычных поглядаў у мінулым. Бо цяпер палітычныя погляды не маюць практычнага сэнсу: майстроўні як соты. Мы жывем на выспах пасярод агрэсіўнага асяроддзя, мы мусім дамаўляцца між сабою, нягледзячы на рознасць палітычных уяўленняў. І ў нас атрымліваецца пакуль выпрацоўваць з мноства розных уводных супольнае бачанне будучыні. Бачанне жыцця, калі сыдзе вада і, як усе мы спадзяемся,

чалавецтва пачне аднаўляцца колькасна. І хацелася б, каб якасна. І мы не гатовыя ставіць пад удар гармонію, пабудаваную на тым, што вельмі розныя людзі пагадзіліся прыняць пэўныя нормы ўзаемадачынення.

Арцём знакам паказаў, што хоча далучыцца да размовы.

— Таксама госць нашага экстраннага эфіру…

— Проста Арцём.

— Я бачу на Арцёме форму памежнай паліцыі!

— Зараз важна, каб людзі ў форме, якія мяне чуюць, а нас чуюць таксама людзі ў форме ў Горадзе-Героі, каб усе разам зразумелі, што палітычныя рознагалоссі, у тым ліку на тэму адзін народ мы ці не адзін, каб гэтыя спрэчкі рэзка сціхлі. Зразумейце пра «чорных» простую рэч: мы маем справу з сілай, якую немагчыма прагназаваць. Сілай, якая нікому не падпарадкоўваецца. Чуеце, «жукі»? Гэта не наёмнікі з выспаў, як вы там думаеце!..

Жанне Гудбай пікнулі ў навушнікі.

— Дзякуй, Арцём… Тэма адносінаў з Горадам-Героем у Менску актыўна асвятляецца, а хацелася б пачуць ад нашага, не па-

баюся гэтага слова, экзатычнага госця штосьці пра Менск, як бы погляд збоку. Спадар Дзікун, вам слова.

— Я заўважыў, што ў Менску нашмат больш людзей сталага веку, чым у Горадзе-Героі. Магчыма, не ўсе ведаюць, але калі не ўжываць «каларадкі», а проста трымаць яе пры сабе, яна пазітыўна ўплывае на здароўе і працягласць жыцця чалавека.

Жана Гудбай ледзь не звалілася з дыджэйскага крэсла. Прычым нельга было зразумець, якая эмоцыя апанавала вядоўкай, бо Жанна прыкрыла твар рукамі.

— А я вам скажу, — далучыўся Арцём, — што многія ў Менску ведаюць асаблівасці такога рэчыва, як «каларадка», якое ў нас тут выдаецца выключна за наркотык. А вось спадарыня Альжбета Сандрыгайла дае многім сваім прыяцелям доступ да «каларадкі», а тыя, у сваю чаргу, размяркоўваюць мяшэчкі з бульбінамі сярод, так бы мовіць, эліты электарату, — наўзамен за падтрымку і агітацыю галасаваць за спадарыню мэра. Таму ейная партыя сядзіць на пасадзе больш за чвэрць стагоддзя, мяняючы імёны мэраў, але не сутнасць сваёй палітыкі. Таму за «каларадку» караюць як бы за наркотыкі

высылкай у Даліну склізняў. Таму ім патрэбная ізаляцыя нашых братоў і сясцёр па той бок мяжы, хоць мы і адзін народ!..

І вось тут пачаўся штурм спецназу.

Праўда, у студыі гэтага не чулі. У студыі быў свой варушняк. Раптам ссунуўся кавалак падлогі. З дзіркі памахаў рукой норны чалавек Алесь Першазвон. Жана Гудбай на падлогу не глядзела, адключыла мікрафоны гасцей, сказала «хвіліначку і працягнем» і зачытала абвестку: «У бар «Айцы-Заснавальнікі» патрэбнае таксі на імя «проста Карлавіч!» Паўтараю, бар «Айцы». Пакуль Жана Гудбай чытала-паўтарала, кумпанія ўжо нырцанула ў адзін з падземных хадоў Верхняга Гораду.

— Паспеем у «Чабурэчку» па Карлавіча? — сказаў Арцём.

— Можа, куды далей ад менскай паліцыі? — здзівіўся Алесь.

— Не, трэба ў «Чабурэчку», якая цяпер завецца «Айцы-Заснавальнікі».

— Паспеем. Таксі для Карлавіча яшчэ доўга не будзе. Менск перакрыты, я выбіраўся на паверхню, бачыў.

— Ты ўсё са сваймі коміксамі ў Менск наведваешся?

— Ага.

— Прабілі новы падземны ход? — удакладніў Дзікун, але замест адказу атрымаў толькі «пфff…», маўляў, ясна — так.

«І вось што цікава, — падумаў Дзікун, узгадваючы крата-мутанта ў метро ды іншыя небяспекі ў Горадзе-Героі, — за ўвесь час у Менску усяго раз зачасаліся вочы. Як бы вакол поўна зброі, нерваў, супрацьстаяння, таямніц, а сігналаў пра небяспеку амаль няма».

У «Чабурэчку» забіраліся праз кухню.

— Здароў, Алесік, ты сёння з сябрамі? Бярыце во анучкі, пачысціцеся.

— Прывет, Юля, многа народу сёння?

— Мала, усе ў цэнтры, на свяце інтэрнэту. Адзін Карлавіч з раніцы засеў. Цяпер во таксі заказаў, а яно ўсё не едзе. А дзе там, усе людзі вакол плошчы Свабоды, відаць… А, ты ж не чуў? Мэрцы нашай прад'явілі падман выбарнікаў, штосьці з «каларадкай», цяпер каля Ратушы такое творыцца!

— Алесь, мы пасля на тэрыторыю анархаў рушым, ты з намі? — спытаў Арцём.

— Не, не, не!

— Чаму? Бо яны супраць дзяржавы? Яны ж, як і вы, «за народ», — здзівіўся Дзікун.

— Не, не, не! Яны за народ, дзе ёсць гамасекі, дзе легалізаваныя прастытуцыя

і марыхуана. Не, не, не! Вы, давайце, ужо без мяне. Мы нават хадоў не ведаем пад іх тэрыторыяй. — Алесь Першазвон раздражнёна махнуў рукой і шмыгануў назад у скляпенне пад кухняй.

— На «каларадцы» сядзяць, — пракаментаваў Арцём.

— Усе падземныя?! — не паверыў Дзікун.

— Усе. Ёсць нават версія, што Міністэрства абароны яшчэ да Выбуху на іх суполцы выпрабоўвала чацвертую ступень «каларадкі». Хоць гэта хутчэй проста байка… Хадзем у залу.

Партрэты мужчынаў, апранутых па модзе пачатку XX ст., з дакорам глядзелі на адзінага наведніка кавярні. Прынамсі, здавалася, што айцы — заснавальнікі БНР не адабраюць Артура Карлавіча, які гэтым святочным днём з дапамогай чаркі абраў шлях хуткага выключэння сябе з агульнаграмадскіх працэсаў. Вусы Карлавіча тапырыліся, аправа была пагнутая, вочы глядзелі перад сабой задуменна. А тут раптам бах — перад носам прызямліліся два мужыкі, адзін з якіх у форме вайсковай паліцыі.

— Арцём? Дарагі, не магу паверыць, я думаў, тут мала каго са знаёмых сустрэну.

Карлавіч выдаў эмоцыю здзіўлення, не большую як для тыдня расстання. Хоць з радараў знаёмых былы спецыяльны карэспандэнт агенцтва «Баец» знік акурат перад Вялікім Выбухам — больш за трыццаць гадоў таму.

— Гэта яшчэ што, Артур Карлавіч, знаёмцеся з маім прыяцелем Стасем — гадаванцам Фларыяна Корда.

— Фларыяна?! А-я-яй, — не было зразумела: ці суразмоўца Дзікуна іранізуе, ці ён сапраўды злёгку шакаваны.

У Дзікуна пачалі часацца вочы. Пагроза пакуль была далёкая, але яна насоўвалася.

— Стась, Станіслаў… А як вас па бацюшку?

— У нас гэтая форма не ўжываецца.

— А, ну так, ну так, Фларыян казаў мне. Цэлую лекцыю прачытаў пра шкодны ўсходні ўплыў на культуру зваротаў. А я вось прызвычаіўся па бацюшку.

Карлавіч ажно ўзмакрэў, так хваляваўся.

— Рады вас бачыць, Станіслаў, — Карлавіч пацягнуў руку для вітання. Толькі не для поціску, а для таго, каб ляснуць далонню аб далонь. Дзікун адказаў на вітанне.

Артур Карлавіч заплакаў. Дакладней, усплакнуў. Зусім трошачкі. Намацаў побач

з сабой на лаве кепку, выцер слёзы, усхліпнуў, усміхнуўся:

— Дык вось дзе ты быў, залаты ключык!

## 23

— Трэба ісці, — Дзікун ускочыў, — зараз жа!

Арцём пакінуў на століку некалькі менскіх баксаў, падхапіў пад руку Карлавіча, і ўсе ўтрох энергічна пасунуліся да выхаду. КПП між Менскам і зонай, кантраляванай анархамі, быў літаральна за хвіліну хады ад «Чабурэчкі» — побач з гатэлем «Менск». Далей была плошча Незалежнасці, а за ёю недалёка — вакзал. Сэнс КПП быў толькі ў тым, каб менскія, вяртаючыся дамоў з клубаў «Сталіцы», не праносілі марыхуаны, якая ў Менску была толькі часткова дазволеная і прадавалася ў аптэках маленькімі дозамі. На тэрыторыі Канфедэрацыі анархістаў быў поўны легалайз.

Перад КПП Арцём надзеў свой шалом, прыкрыў палову твару забралам, кінуў калегам з памежнай паліцыі фразу «гэтыя са мной!» — і вось яна, тэрыторыя, недасяжная менскім уладам. У гэты момант завылі

сірэны, а з рацыі ў памежнікаў закрычаў загад пра неабходнасць перакрыць усе выхады з Менску ў звязку з ваенным становішчам. «Уффф, паспелі!» — «трэцяе вока» бачуна магло быць задаволенае.

Да тройкі падышла пара ўзброеных аднымі мачэтэ хлопцаў.

— Прывітос, куды рушым, якую зброю маем, чаму ў форме?

— Афіцыйна, да Камандантэ, вось пісталет, вось абоймы.

— А, Арцём, здароў. А што там у вас за шум-крык у Менску?

— Неўзабаве дазнаецеся.

— Што гэта яны на мяжы так лёгка ўзброеныя? — здзівіўся Дзікун, калі патрульныя анархі крыху адышлі.

— Бачыш шматпавярховік? Гэта Пед, — патлумачыў Арцём. — Былы Педагагічны інстытут. Там наверсе — снайперы.

Праз пару дзясяткаў метраў Карлавіч перапрасіў і прысеў на лаву. Спінай да Чырвонага касцёлу, а тварам да былога Менгарвыканкаму. Пад плошчай была «Сталіца» — тры ўзроўні забаўляльных клубаў. А ў былым Менгарвыканкаме зрабілі інтэрнат для прастытутак, якія працавалі тут

побач, пад зямлёй. Над уваходам у Менгарвыканкам вісеў банер «Бясплатны прыём», але насамрэч гэта была рэкламная замануха рэстарану, які мясціўся на першым паверсе і працаваў *круглыя суткі*.

— А-я-яй, — пахістаў галавой Карлавіч, гледзячы на касцёл, — тут храм, а тут сама побач распуста.

— Прынялі амстэрдамскі прынцып.

— ?

— Ведаеце, як у Амстэрдаме ў Сярэднявеччы ўтварыўся квартал чырвоных ліхтароў? Святары касцёлу, які і дагэтуль стаіць там, недалёка ад порту, гэтыя святары зразумелі, што прастытуцыя не знікне — колькі ні прапагандуй здаровы лад духоўнага жыцця. Таму вырашылі сабраць усіх прастытутак вакол сябе, каб дапамагаць ім і духоўна і медычна.

— Вось малайцы якія, — няўпэўнена адказаў Карлавіч і ўзняўся, каб працягнуць шлях. — Дык тут кіруюць сапраўдныя анархісты?

— Ну як сапраўдныя — розныя.

— А куды ўсе дзеліся? — спытаўся Карлавіч, паказаўшы на Дом Ураду.

— А як Вада пайшла, то хто куды, мы адрасы не пыталіся. У Менску і ваколіцах за-

сталіся альбо тыя, у каго не было грошай уцякаць, альбо тыя, хто нікуды і не збіраўся.

— Хачу ў «Сняжынку», там я правёў найлепшыя часы жыцця, калі не лічыць «Бутэрброднага-Плюс-М», — раптам заныў Карлавіч. — Застаўся міні-бар «Сняжынка» побач з вакзалам?

— Там даўно вегарня. Веганская ежа.

Карлавіч цяжка ўздыхнуў.

— Пане Артуру, што за «залаты ключык», пра які вы ўзгадалі? — спытаўся Дзікун.

— Спачатку прыйдзем на месца, у штаб анархістаў, усё раскажу.

***

Як анархісты ўяўляюць сабе ўладкаванне грамадства, Дзікун ведаў. Галоўная ідэя — замест інстытуту дзяржавы мусіць існаваць самаарганізацыя людзей у выглядзе незалежных адна ад адной суполак, якія мусяць утвараць свайго кшталту канфедэрацыі. Гэты пункт ідэалогіі анархізму вельмі дзівіў Дзікуна тым, што быў падобны да ідэі майстроўняў, якія былі незалежнымі адна ад адной і ўтваралі канфедэрацыю.

На прывакзальнай плошчы між дамоў-вежаў, аднаго з сімвалаў Менску, быў яшчэ

адзін КПП. На гэты раз сур'ёзны, з аўтаматчыкамі і БТРам. Арцём казырнуў, зноў сказаў пра Камандантэ, аддаў пісталет. Усіх трох візіцёраў абшукалі і суправадзілі ў будынак Цэнтральнага чыгуначнага вакзалу. Да былой сталоўкі «ХХ век» на другім узроўні. Бліжэй да вокнаў на крэсле за пластыкавым столікам сядзеў мужык, які трымаў у руках коміксы «Альгердава дзіда». Вокладка прыкрывала твар.

— Сюрпрайз! — сказаў мужык, адкладаючы сшытак.

Гэта быў Мао.

Карлавіча пасадзілі па цэнтры і расселіся паўколам. Да прысутных далучылася кабета, якая сваёй яркай адзежай кантраставала з камуфляжнымі тонамі, што панавалі на вакзале.

Карлавіч расказаў пра тое, што атрымаў у свае рукі чароўную бульбіну, пасля выпадкова на працы дазнаўся, што дзіўная знаходка ёсць у сакрэтнай распрацоўцы вайсковых бульбаводаў, і ўцёк, бо хацеў вечнага здароўя, але не ў засценках спецслужбаў.

— Мы з Пацярпелай параіліся…

— З кім?

— З жонкай маёй. Я яе Пацярпелай клічу. Са мной жыць — тая яшчэ прыгода. Параіліся і ціхенька з’ехалі ў Налібацкую пушчу, хутар там купілі, я нешматлікім суседзям пісьменнікам назваўся. У прынцыпе, гэта амаль праўда, я ж зрабіў калісьці кніжку аб тым, як правільна склейваць мадэлі караблёў… А жонка — прафесійная пчалярка. Так і жылі трыццаць гадоў. Цяпер вось вярнуліся. А ўсё праз маю неахайнасць. Адпрацаваную брагу кінуў побач з апаратам. Думаў, заўтра прыбяру. А кабаны спачатку брагу пажэрлі, напіліся і заадно дзялку з маёй дзіва-бульбай зжэрлі ўсю дашчэнту. Іх на брагу шмаааат прыйшло. Вытапталі зямлі як футбольны стадыён. Э… Школьны футбольны стадыён… -чык.

Карлавіч у Налібацкай пушчы для прыкрыцця гнаў самагон — каб ніхто не здагадаўся, для чаго ён так часта ў лес гойсае. «Ну не пры хаце ж тую залатую бульбу вырошчваць? А раптам бы контрвыведка мяне знайшла?»

Арцём:

— А навошта вам была патрэбная дзялка ажно са школьны стадыёнчык? Вы што — спажывалі тую бульбу?

— Троху.

— Троху — гэта як? Варылі-смажылі ці ціснулі гарэлку, як кажуць у тых краях аб працэсе выганкі самагону?

— Што вы — ціснулі! Мяне б там уся Пушча засмяяла, уключна з кабанамі. Там прынята толькі з жыта, ну, яшчэ пшанічная робіцца. Усё астатняе лічыцца ці ерассю, ці ашуканствам.

— Значыць, чароўную бульбачку вы толькі варылі і пяклі. — Задаволена канстатаваў Арцём, абарочваюся да прысутных з выразам твару, маўляў, не ўсё так кепска. — Тады зразумела, як так бадзёра вы пражылі трыццаць гадоў у замкнёнай лесам прасторы і не паехалі глуздамі.

Карлавіч папрасіў Дзікуна прадэманстраваць прысутным тату. Гэта была выява далоні на далоні.

— Гэтае тату, сябры мае, — дакладны скан далоні Ціцюкіна, які зрабіла Зуля, пакуль той спаў. Гэта ключ да таемнай лабараторыі ў інстытуце бульбаводства. Такая самая далонь ёсць і ў Фларыяна Альгердавіча, так, Станіслаў?

— Так. Ён у дзяцінстве казаў, што гэта, каб нашы поціскі між сабой былі больш моцнымі, — сказаў Дзікун.

— Дык а што тут з гэтай дзіўнай бульбай атрымалася? Я праз радыё чуў пра нейкую «каларадку». Я хоць дапамог тады Альгердычу сваёй інфармацыяй? Ён трапіў у лабараторыю?

— Артур Карлавіч, — узяў слова Мао, ён жа Камандантэ. — Апроч нашага госця з Новай Зямлі астатнія тут прысутныя звязаныя братэрствам Супраціву. А значыць, мы ведаем не толькі Альгердыча, але і Зулю, а ад іх — пра вас. А таму, шаноўны Артур Карлавіч, давайце вы не будзеце прыкідацца чалавекам не пры справах, які толькі дзесьці штосьці калісьці чуў. Вернемся да сутнасці нашай размовы — да «каларадкі», пра якую вы пачулі яшчэ тады, трыццаць гадоў таму, а не цяпер праз радыё. Часу ў нас мала. Мне даклалі, што «чорныя» канцэнтруюцца на самай мяжы Менску. Нам трэба адшукаць лабараторыю і трапіць у яе, бо мы спадзяемся знайсці там абсалютную зброю, якая дапаможа супрацьстаяць «чорным». Вы ўсё дакладна зразумелі, што я сказаў?

Мао дастаў з кабуры на поясе пісталет Макарава і паклаў на стол.

Карлавіч загаварыў вельмі шпарка. Алкаголь, выпіты ў «Айцах-Заснавальніках»,

ад эмацыйнага ўзрушэння выпарваўся ўсё хутчэй, рытм гаворкі рабіўся ўсё больш выразным.

— Я меў доступ шмат да якіх архіваў. Там паўсюль у сістэмах былі паролі ад нуля да дзевяці альбо дата Дня абаронцы айчыны. Я падумаў, што не маю права адзін валодаць інфармацыяй пра бульбу. Сыду, знікну ў Пушчы... А Фларыян Альгердавіч мне падаўся вельмі прыстойным чалавекам. Я нават не ведаў тады пра Супрацію. Калі я распавёў Фларыяну пра сваю камандзіроўку на Альманы і наступную знаходку інфармацыі пра лабараторыю, Фларыян Альгердавіч наўзамен прыадкрыў мне інфармацыю пра Супрацію. Думаю, ён хацеў далучыць мяне да актыўнай дзейнасці, не ведаў, што я ўжо валізкі сабраў на хутар. Мы абодва рызыкавалі, калі раскрываліся адзін аднаму. Вайсковыя біяхімікі, далучаныя да таямніцы чароўнай бульбы, знайшлі, што «каларадное рэчыва» ёсць у кожным гатунку бульбы, але ў малых колькасцях. Рэчыва дзейнічае, але слаба. Народы поўначы Еўропы з канца XVIII — пачатку XIX стагоддзя пачалі актыўна ўжываць бульбу, і ў выніку самі ведаеце: былыя драпежнікі-вікінгі сталіся траваед-

нымі, а народы на кантыненце палюбілі дэспатаў і тыранаў. Гэта мая аўтарская інтэрпрэтацыя... Дык вось, Ціцюкін і Кароль з дапамогай навукоўцаў знайшлі спосаб актывізаваць працэс выдзялення рэчыва, якое цяпер клічуць «каларадкай»... А хто ведае пра лёс тых навукоўцаў?.. Дык вы кажаце, што Ціцюкін даўно знік? А Зуля — у палоне Караля? — зрабіў круглыя вочы Карлавіч.

— Артур Карлавіч, вы так сябе паводзіце, нібыта да вашага хутару радыё «Адзінка» не дабівае. Ахоп перадатчыка — большы за сто кіламетраў у радыусе, усю Налібацкую пушчу накрывае. А яшчэ ёсць асобны канал на сярэдніх хвалях, які дублюе інфармацыйныя выпускі «Адзінкі», а замест музыкі круціць аўдыякнігі і радыёпастаноўкі. Акурат у разліку на тое, што Менск пачуюць тыя, хто дзесьці зграз у аддаленых мясцовасцях. Дык у навінах і пашыраных інфармацыйных перадачах жыццё Караля згадваецца перыядычна. Бо радыё транслюе і з разлікам на той бок, на Горад-Герой. І пра фаварытку Караля Сузану Шубзду «Адзінка» паведамляла не аднойчы. Артур Карлавіч, мы ў курсе, што вы ведаеце болей, чым пакуль кажаце. Прашу вас зразумець, што

цягам бліжэйшай паловы гадзіны мы тут, проста ў гэтай зале, мусім прыняць важнае палітычнае рашэнне. Пра «чорных» вы чулі праз радыё ў «Айцах-Заснавальніках». Мы, анархісты, можам чакаць, пакуль «чорныя» прыйдуць да нас. Мы можам выканаць інтэрнацыянальны абавязак і пайсці на перадавую ў Менск. Мы можам самастойна зрабіць палітычны крок і, напрыклад, напасці на «чорных» у Горадзе-Героі. З нашага боку гэта будзе выглядаць як акт агрэсіі. Але калі «чорныя» — адзіны арганізм, а мы ў гэтым не сумняемся, значыць, Горад-Герой не мае на іх уплыву. Значыць, гэта будзе не агрэсія, а дапамога і адначасова прэвентыўны ўдар для абароны. Але для таго, каб прыняць максімальна правільнае рашэнне, нам патрэбна больш інфармацыі, у тым ліку ад вас, Артур Карлавіч. Такім чынам: ці вы ведаеце штосьці пра абсалютную зброю?

— Нічога.

Выглядала, што ніхто нічога не ведаў пра абсалютную зброю, апроч таго, што Зуля калісьці знайшла гэтую назву ў адным з файлаў Ціцюкіна.

— Як варыянт, «абсалютная зброя» можа быць іншасказам. Магчыма, гэта і ёсць тая

самая «каларадка», — прапанаваў версію Карлавіч.

— Але «каларадка» дзейнічае павольна, зброя мусіць быць хуткай і канкрэтнай. Нават калі яна прызначаная для масавага знішчэння, — парыраваў Дзікун.

— «Чорныя» як зброя?

— Вельмі падобна.

— Я не ўпэўнены, ці гэта важна… Мне падалося, у лабараторыі было штосьці кшталту пульта, — сказаў Карлавіч.

— Звычайная рэч, здаецца. У свой час са смартфона можна было зрабіць пульт для чаго заўгодна, хоць для крышкі ўнітаза, — Мао быў скептычны.

— Мяне здзівіла… Я запомніў… — працягнуў Карлавіч. — Мяне здзівіў выгляд пульта. Ён быў вельмі прымітыўны на фоне астатняй прысутнай тэхнікі. Такі… Як «бабульчын мабільнік». Штосьці на віду, чым вельмі рэдка карыстаюцца.

— Хм, няўжо не было спакусы націснуць і праўдзіць, што за пульт? — спытаў Мао.

— Была. Націснулі. На маленькім акенцы высвеціла патрабаванне паролю.

— Артур Карлавіч, чаму вы раней не сказалі, што былі ў лабараторыі?

— Трывога… Кароль уладарыць у Горадзе-Героі. Ціцюкін першыя гады пасля Вялікай Вады быў заўважны побач з Каралём. Пасля Ціцюкін знік. У іх камандзе, абазнанай ва ўсіх дэталях справы з лабараторыяй, быў яшчэ трэці чалавек. І хутчэй за ўсё ён быў не з сістэмы Міністэрства абароны, інакш пра яго дазнаўся б калі не я, то Зуля. Яны для нейкай спецыфічнай задачы, не падуладнай іх кампетэнцыям, даверыліся трэцяй асобе. І калі гэты чалавек застаўся ў Менску… У сэнсе, альбо ў Менску, альбо ў Горадзе-Героі, і дазнаецца, што я шмат ведаю, я магу аднойчы не дайсці дадому. Але раз «чорныя» ўжо на парозе і гатовыя наступаць…

Мао рэзка ўзняўся і сышоў. А яркая кабета назвалася:

— Кацярына. Віця мне пра вас крыху распавёў.

— Віця?

— А-ха-ха, не магу прызвычаіцца да мянушак! Камандантэ, альбо інакш Мао.

— Дык вы… — Дзікун асекся. Што сказаць? Што нейкі Альгердыч калісьці распавёў пра псіхатэрапеўтку Кацярыну, якая прафінансавала першы атрад падполля? Ад-

крытая гэта інфармацыя ці не? Ды «чорныя» вось-вось уварвуцца, нашто гістарычныя згадкі.

— Што я? — усміхнулася Кацярына. — Не, я не з тутэйшай супольнасці. Я жыву на плошчы Незалежнасці, у доміку пачатку XX стагоддзя. Бачылі побач з касцёлам? Колішні даходным дом. Вось там і жыву, у мяне акурат побач пад зямлёй бізнес — у «Сталіцы». Не, мы не тое каб пара-пара, часам ходзім у госці адзін да аднаго.

Усе чакалі, калі вернецца Мао, каб пачаць дзейнічаць. А Кацярына, нібы нічога надзвычайнага не адбывалася, распавяла, што займаецца цяпер інвестыцыйным праектам, які мог бы дазволіць Канфедэрацыі анархістаў стаць энергетычна незалежнай ад Менску. «Са смецця можна здабываць газ. Дзякуй пакаленням, якія навалілі тэрыкон смецця пад пасёлкам Навінкі. Патэнцыял па газе — ацяпленне дваццаці пяці тысяч сямей цягам дзесяці гадоў. А ў нас тут сямей тысячы тры, не болей, вось і лічыце. Плюс вядзем перамовы з Горадам-Героем наконт распрацоўкі гары смецця за Трасцянцом. Праўда, яны ўсё трасуцца над сваімі «прыроднымі багаццямі» і выгандлёўваюць сабе

пяцьдзясят працэнтаў выніковага прадукту. Але яшчэ паглядзім, хто ўмовы будзе дыктаваць».

Кацярына выказала спадзяванне, што Горад-Герой адкрыецца і як рынак працоўнай сілы, і як рынак збыту, і як пастаўнік сыравіны для газу — без мытных збораў.

— Праўда, Віця спрачаецца са мной, кажа, што калі скінуць прыгнёт Караля, народ Горада-Героя мусіць самавызначыцца. Маўляў, анархісты дапамогуць ім з гарызантальнай арганізацыяй грамадства, а таму нам — капіталістам — будзе цяжка, як ён кажа, за тры капейкі выкупляць рэсурсы. Паглядзім.

## 24

Нарэшце вярнуўся Мао. Разам з двума хлопцамі і дзяўчынай. Назваў паплечнікаў: Маўлюк, Нядзельнік і Яя. Праз хвіліну зайшлі яшчэ чалавек дзесяць узброеных людзей. Мао ўжо не губляў часу на знаёмства.

— Мы ўсе параіліся, — паказаў на новапрыбылых, — і прынялі рашэнне.

Мао разгарнуў на стале мапу. Павярнуўся, паказаў на Маўлюка, Нядзельніка і Яю:

— На ўсялякі — вось вам падмацаванне: усе разам вы ідзяце ў лабараторыю ў Бульбаінстытуце. Да старога Чэрвеньскага рынку вас падвязуць на дрызіне. Абыдзеце рынак па вуліцы Аранжарэйнай. Пяройдзеце Чэрвеньскі тракт тут. А вось тут ужо і недабудаваны паркінг стаіць акурат побач з інстытутам. Ці адразу праз галоўны ўваход зойдзеце, Карлавіч?

— Праз галоўны не ведаю як. Праз паркінг ведаю.

— Добра, уваходзіце праз паркінг, вось вам рацыя, Дзікун, трымай. Ты наперадзе пойдзеш як бачун. За табой — Карлавіч як адзіны, хто ведае шлях, Карлавіча ахоўвае Арцём, мае людзі прыкрываюць вам хвост. Як толькі вы вяртаецеся з добрымі навінамі, пачынаецца аперацыя. Бронецягнікі абстрэльваюць Серабранку і Чыжоўскую затоку. А-ку-рат-нень-ка абстрэльваюць, каб нікога і нічога не зачапіць. Прыцягваем увагу праціўніка. Адначасова дыверсійную групу закідаем на вяртушцы максімальна блізка да ЦЭЦ-3. Так, у нас ёсць верталёт… Маленькі, прагулачны, для турыстаў, але верталёт. На два пасажырскія месцы. Значыць, у групе будзем я і Дзікун. Важна! Калі раптам

«чорныя» актывізуюцца, а вы ўсё яшчэ будзеце пад зямлёй, аперацыя пачынаецца аўтаматычна.

Усе кіўнулі галовамі.

— Яшчэ раз. У лабараторыі ёсць пульт, які, напэўна, можа нам дапамагчы, але мы не ведаем, як дакладна. Магчыма, у лабараторыі ёсць інфармацыя аб абсалютнай зброі, але мы не ведаем, якая канкрэтна. Там ёсць штосьці, звязанае з «каларадкай», але ці спатрэбіцца нам гэтая інфармацыя сёння? Не факт. Тым не менш, мы рызыкнем, бо спадзяемся на падказкі з лабараторыі. Артур Карлавіч ведае падземныя хады, а Дзікун мае ключ ад дзвярэй. Мы страхуем і трымаем верталёт напагатове. Спадзяемся, што ён спатрэбіцца раней, чым «чорныя» пойдуць у атаку. Усім поспехаў, йолы, блін, колы!

***

— Лявей страляй!

Удзельнікі экспедыцыі ў лабараторыю ўжо сёмую хвіліну вялі бой. Хтосьці залёг за мяхамі з цэментам, хтосьці схаваўся за калонамі скляпення пад недабудаваным паркінгам. Панавала цемра. Працэнтаў на дзе-

вяноста пяць. Святло дзе-нідзе прабівалася праз шчыліны ў недаробленай столі.

— Дзікун, вядзі ў атаку! — крыкнуў Арцём.

Дзікун зрабіў выгляд, што праз грукатанне стрэлаў не пачуў. Арцём адразу павёў каманду ў наступ, ці запальваецца дзе святло — нават не шукаў. Відавочна верыў у здольнасці бачуна. Дзікун нікому не сказаў, што адзіныя, ці адзінае, чаго ён не бачыць, — гэта «чорныя». Усё, чым можна было цяпер дапамагчы, — гэта падказваць, куды адхінацца ад кулі працаўніка. Байцы апынуліся ў патавай сітуацыі: адступіць было небяспечна, а далей наступаць — наагул самагубна.

Раптам уключылася святло. «Чорныя» рэзка схаваліся за калонамі. Аднекуль згары незадаволена паўкрыкнуў голас:

— А што тут за херня творыцца?!

— Саша?

Будаўнік Саша глядзеў у шчыліну ў столі.

— Арцём? Арцём, вунь адзін гад схаваўся направа ад сярэдняй калоны!

Арцём і астатнія байцы паглядзелі ў правы бок, але нікога не заўважылі.

— Ды вунь жа чорны касцюм, побач з водным стаяком!

Дзікун кінуў гранату ў пазначаным кірунку.

Бах!

Відавочна Дзікун пацэліў, бо з месца выбуху прыляцелі пырскі… Не, не крыві.

— Глядзі-глядзі! — палец Арцёма паказваў туды, дзе нядаўна рванула граната. Раскіданы выбухам белы парашок збіраўся ў купкі і ўцякаў кудысьці за калоны. Такі самы парашок абляпаў Арцёма, які ўзяў рэчыва на палец і панюхаў:

— Крухмал! Бляхаўка, гэта жывы крухмал! — Арцём скідануў рэшткі парашка з пальца і ажно адскочыў.

— Не ўкусіў цябе крухмал? — пажартаваў Саша, які спусціўся згары. Але прысутным было не да смеху. Усе з жахам глядзелі на парашок, які, здавалася, супраціўляўся, калі яго запіхвалі ў пустую паўтаралітровую пластыкоўку. Так у Менску называлі пластыкавыя бутэлькі.

Нядзельнік і Яя заблакавалі ўваход у калідор, у якім зніклі «чорныя». Астатнія размаўлялі. Нібы і не было толькі што смяротнай пагрозы.

— А вось гэта, відаць, шостая ступень, раз пятую ўжо вынайшлі, — прамармытаў Артур

Карлавіч, разглядаючы парашок. Але Карлавіча не пачулі.

— Саша, як вы сюды трапілі? — спытаўся Маўлюк, — Тут памежная зона Канфедэрацыі анархістаў.

— А ў мяне пропуск, — паказаў картку Саша, — нам гэты аб'ект далі на дабудову. Інвестары з Заходніх тэрыторыяў, аднекуль з-пад Маладзечна. Лагістычны цэнтр бла-бла-бла. Гэта цяпер мой другі аб'ект пасля цырку. Сёння выходны, а ўчора я ў спяцоўцы партманет пакінуў. Вось вярнуўся, чую — грукат нейкі, а тут вы.

— «Шасцёрачка», — сам сабе паўтарыў Карлавіч. — Жывы крухмал. А магчыма, не жывы, а паўжывы і неяк запраграмаваны…

— Пра што вы, Артур Карлавіч? — перапыніў Арцём.

— Трэці ў звязцы Ціцюкін — Кароль — ікс быў праграміст… — працягваў мармытаць Карлавіч.

Дзікун не слухаў Артура Карлавіча. Стала ясна, што нейтралізаваць «чорных» вельмі проста. Была яшчэ адна рэч, якую ніхто з прысутных не ведаў, апроч Дзікуна: «чорныя» баяліся вады. Пасля атакі на рыбацкія чаўны ў акваторыі Добрага Месца да зямлі

прыцягнулі адно пусты гідракасцюм «чорнага». Цяпер Дзікун зразумеў, што ўнутры касцюма быў жывы крухмал, які проста распусціўся ў вадзе.

Усіх справаў — адкруціць вентыль стаяка водазабеспячэння. Калідор меў ухіл у патрэбны бок. Вада пайшла пад ногі і далей па падлозе.

— Цяпер нават самая невялікая драпіна будзе для «чорных» небяспечнай, — падсумаваў Дзікун.

***

Вада плюс асколкавыя гранаты — і вось яно, заканчэнне бітвы з «чорнымі» ў сутарэннях пад паркоўкай. Ашмёткі гумавых касцюмаў і дзесяць «калашоў», раскіданыя па калідоры, падтопленым вадой.

— Дзікун, дзякуй табе аграмадны! — не хаваў захаплення Арцём. — Калі б не ты, мы маглі б тут загразнуць надоўга.

Прысутныя шчыра радаваліся. Кожны паціснуў Дзікуну руку.

Маўлюк пабег закрываць вентыль, а Карлавіч разглядаў рэшткі жывога крухмалу, які распускаўся ў глыбокай лужыне пад нагамі:

— Калі гэта абсалютная зброя, то нейкая неперакана ўчая.

— Сплюньце! — адказалі ўсе хорам.

Маўлюк вярнуўся, каманда сабралася ўваходзіць у металічныя дзверы, на якіх была ледзь бачная намаляваная далонь. У гэты момант з-за рога калідора проста па сцяне выпаўзла аграмадная рука белага колеру, схапіла Карлавіча за шыю і пацягнула назад за сабою. Байцы толькі на секунду аслупянелі і амаль адразу кінуліся за сваім сябрам. За рогам была зала метраў дваццаць на дваццаць, пасярод якой стаяў васьміногі сямірук без галавы, але з тузінам вачэй і трыма ратамі на жываце.

— Жывы крухмал споўзся, — прахрыпеў Карлавіч.

— Дзікун? — здзіўлена спытаў Арцём.

— Я не адчуваю «чорных», — прызнаўся Дзікун.

Карлавіч задыхаўся. Вырачыў вочы, адчайна махаў рукамі і нагамі.

— Нельга страляць, у Карлавіча можам трапіць, — папярэдзіў Маўлюк.

— Дый патронаў амаль не засталося, — удакладніла Яя.

— Цягаць ваду цэбрам! — прапанаваў Арцём, і ледзь увярнуўся ад трох рук, якія выцягнуліся нібы тэлескапічныя вуды, і паспрабавалі схапіць Арцёма за галаву.

— Не паспеем! — крыкнуў Дзікун.

Рука, што трымала Карлавіча, адвалілася ад тулава монстра, і прыпячатала палоннага да падлогі. Асноўная крухмальная канструкцыя рушыла ў наступ.

— Нажамі! У каго ёсць, адбівайцеся нажамі! — заклікаў Дзікун, а сам ухапіўся за багор, які вісеў у калідоры на шчыце супрацьпажарнай бяспекі. Вялікі нож быў толькі ў Арцёма. — Саша, бяжы назад, цягні кавалкі арматуры з будоўлі! Без абалонкі гумавых касцюмаў крухмал развальваецца ад любога ўколу ці парэзу.

Васьміногі сямірук паспяхова працягваў наступ. Адарваныя нажом і багром рукі праз хвіліну аднаўляліся.

— Трэба нейтралізаваць адарваны ад тулава крухмал, — крычаў Дзікун! — Яя, Маўлюк, Нядзельнік, займіцеся мяхамі з цэментам, засыпайце тое, што мы з Арцёмам адрэжам!

Каманда Дзікуна павольна адступала, зацягваючы васьміногага сямірука ў падземны

гараж, дзе было поўна мяхоў з цэментам і будаўнічага друзу.

Рыдлёўка — лепшая зброя супраць жывога крухмалу. Рыдлёўкі валяліся тут сама ў недабудаваным гаражы. Раз — адсек крухмальную руку, два — прысыпаў яе цэментам. Тры — паліў вадой. Гэта Нядзельнік: знайшоў на будоўлі шланг і падключыў яго да воднага стаяка. Бах — удар арматурай, бабах — багром, вжых — нажом. І зноў цэментам і вадой.

Паўтары гадзіны праляцелі незаўважна. І ўсе засталіся жывымі, нават Карлавіч.

Пакурылі. І Саша, які завязаў сто гадоў таму, і Яя, якая і не пачынала ніколі. А Карлавіч дастаў з унутранай кішэні пінжака фляжку, спачатку сам зрабіў вялікі глыток, пасля прапанаваў рэшткі прысутным. Прысутныя ахвяравалі ўсё Карлавічу, які найбольш з усіх перапужаўся і відавочна меў патрэбу ў анестэзіі нервовай сістэмы.

Праз паўгадзіны ўсе вярнуліся да лабараторыі, і Дзікун прыставіў руку да малюнка на сцяне побач з уваходам. Дзверы адчыніліся і… На калідор вывалілася мумія ў ашмотках вайсковай уніформы з пагонамі генерал-маёра.

— Прывет, Ціцюкін, — нядобра ашчэрыўся Арцём.

Астатнія асцярожна пераступілі цераз цела, якое лягло проста перад дзвярыма. Карлавіч агледзеў лабараторыю:

— Ідэальны кліматычны рэжым.

Лабараторыя была метраў пяць вышынёй, амаль круглая, метраў дваццаць у дыяметры. Кампутары, кампутары, а таксама мноства тэхнікі невядомага прызначэння. Прынамсі, ніхто не змог сходу назваць, што тут да чаго. На супрацьлеглай ад уваходу сцяне вісела лесвіца, якая ўпіралася ў люк на столі.

— Артур Карлавіч, а вы ж, здаецца, пісалі артыкул у свой час пра вайсковых бульбаводаў? — спытаў Маўлюк. — Я бачыў штосьці ў вашай гэтай газеце «Баец». Што вы скажаце пра лабараторыю?

— Гэта была строга засакрэчаная інфармацыя пра бульбаводаў… Я пісаў наагул пра вайсковых хімікаў… Увага! Глядзіце. Мумія Ціцюкіна была тут — каля самых дзвярэй. На целе ёсць кулявая адтуліна ў раёне сэрца. Заўважылі? Паглядзіце. Значыць, генерала застрэлілі, калі ён закрываў дзверы. І замок паспеў замкнуцца. Бо Ціцюкін застаўся

адзін. Хтосьці выходзіў з лабараторыі, альбо наадварот, хацеў патрапіць, але не паспеў…

І вось тут Дзікун адчуў пагрозу, якая сыходзіла ад аднаго з прысутных у лабараторыі. Але паколькі людзі стаялі кучна, зразумець, хто менавіта фаніў небяспекай, не было як. Раптам Дзікун заўважыў рэч, якая паводле стылістыкі рэзка выбівалася з антуражу лабараторыі. Гэта быў кнопачны мабільны тэлефон. Такія непрацяглы час былі ва ўжытку на пачатку XXI стагоддзя. Дзікун ведаў гэта са школьнага курсу агульнай гісторыі, але ўпершыню бачыў такую антыкварную рэч. Тэлефон ляжаў на асобнай палічцы, якая стаяла на высокай падстаўцы.

— Ого! — усклікнуў Саша і з захапленнем узяў у рукі мабільнік. — У мяне такі самы быў — «Nokia 3310». Арэхі калоць можна — цэгла! І надзейны як танк.

— Стой! — крыкнуў Арцём і літаральна падляцеў да Сашы.

«Ёсць!» — сказаў сам сабе Дзікун у момант, калі пальцы Арцёма дакрануліся да тэлефона. Цяпер Дзікун дакладна ведаў, што будзе далей і што трэба рабіць.

— Апроч Караля і Ціцюкіна тут, у лабараторыі, быў трэці — праграміст, — цяпер

ужо ўпэўнена заявіў Артур Карлавіч. — Але ў праграміста не было доступу да дзвярэй. Ён не мог самастойна трапляць у лабараторыю. Яму быў патрэбны той, хто мае ключ.

Усе ўважліва слухалі, апроч Арцёма, які надзяваў на сябе незвычайнага выгляду шапачку: падобную да тых, што карыстаюць у басейне, але з навушнікамі. Арцём пасунуўся бліжэй да сцяны, да якой быў прымацаваны рубільнік, узяўся адной рукой за рычаг і прамовіў:

— Так, Артур Карлавіч, гэта мне трэба было трапіць у лабараторыю. Гэта я той самы праграміст, які працаваў з Каралём і Ціцюкіным, і якога яны вырашылі кідануць. Паабяцалі долю ва ўладзе, а самі хацелі мяне адправіць на Свінакомплекс, каб ператварыць у аднаго з «чорных». Таму я столькі гадоў пасвіў кагосьці з Новай Зямлі, бо ведаў, што Альгердыч шмат чаго накапаў. У тым ліку такой інфармацыі, якой не было ў мяне. І мае спадзевы, мае гады чакання і пільнавання далі плён у выглядзе Дзікуна.

Нядзельнік з Яяй напружылі рукі на сваіх аўтаматах, але Дзікун ціха падаў знак «адбой».

— Гэта не мабільнік, гэта пульт, — Арцём ціскаў пімпачкі. — Цяпер там, наверсе, усё заварушылася. Рэжым патрулявання і рэгулявання для «чорных» я пераключыў на рэжым атакі і знішчэння. Хто не пахаваўся — я не вінаваты.

За тыя некалькі секундаў, што вочы Арцёма былі занятыя пультам, Дзікун паспеў ціхенька пакласці свой пісталет на падлогу.

— Ну што ж, — бадзёра прамовіў Арцём. — Па-свойму я да некаторых з вас прыкіпеў. Але давядзецца развітвацца назаўсёды. Што я магу для вас зрабіць у фінале? А хоць бы патлумачыць, што тут адбылося… Э, красаўцы, аўтаматы акуратна знялі, паклалі Яі на рукі. А ты, зая, пакладзі зброю во на гэты стол побач са мною.

— А давай я цябе лепш застрэлю, — прапанавала Яя.

— Не паспееш, — парыраваў Арцём. — Я націсну на рубільнік, і ты не пачуеш цікавай гісторыі пра гэтую лабараторыю і пра Караля з Ціцюкіным.

— Яя! — Дзікун інтанацыяй даў зразумець, што не варта рабіць хоць якіх самастойных захадаў.

Дзяўчына сабрала зброю і паклала, куды сказалі.

— Апошні раз, калі я тут быў, — працягваў Арцём, — я праграмаваў пад кіраўніцтвам Ціцюкіна. У праграме было знішчэнне ўсіх, хто будаваў гэтую лабараторыю. А таксама ўсіх, датычных да праектаў «каларадкі». Ліквідацыю работнікаў здзейснілі першыя — эксперыментальныя — «чорныя». А вось асноўная праграма актывізавалася толькі праз шмат гадоў. Спачатку «чорныя» ўзялі Караля пад хатні арышт, пасля пачалі замяняць міліцыю ў Горадзе-Героі. У Ціцюкіна план быў распісаны на трыццаць гадоў наперад. Так, гэта я застрэліў Ціцюкіна, калі спрабаваў трапіць у лабараторыю і завалодаць пультам. Вось гэтым самым, што ў маіх руках. Хоць Ціцюкін даўно аддаў канцы, праграма яго жыла і жыве цяпер. Згодна адной з установак адносна «чорных», калі іхная крытычная маса накапілася, пачаліся пэўныя актыўнасці. Сярод іншага — водная выведка. На адных такіх выведнікаў-дыверсантаў напароўся ты, Дзікун, са сваймі рыбакамі. А ўсё гэта праграмавалася вось гэтым мазгамі.

Арцём вольнай рукой пагрукаў па сваёй галаве. А другой націснуў на рубільнік:

— Да пабачэння.

Штосьці шчоўкнула, ціха загуло, а людзі сталі глядзець у адзін пункт і казаць адначасова, не слухаючы нікога.

— …Вашы традыцыі па-за духоўным кантэкстам — проста набор культурнага смецця, — прамармытаў Карлавіч.

— …Анархізм — справа дарослых, а тут я бачу інфантылаў, якім патрэбная дзяржава, — праскрыпеў Нядзельнік.

— …У нас жывуць суворыя рыбакі, якія не маюць люстэрак. Бо калі люстэрка бачыць іх позірк, то пужаецца і трэскаецца, — прашаптаў Дзікун.

Штосьці казала Яя, штосьці бубнеў Маўлюк…

Арцём адчапіў ад пояса вялікі армейскі нож. І сам сабе паведаміў:

— А цяпер я вас ціха, каб не пачулі наверсе, адпраўлю на той свет, сябры мае. Пакуль спахопяцца, пакуль знойдуць, дзе тут праход да лабараторыі, пакуль ускрыюць дзверы… О, як доўга яны будуць дабірацца да вас. — Лязо нажа дакранулася да шыі Яі. — Цэлую веч…

Бабах!

Саша пацэліў з пісталета Дзікуна проста ў галаву Арцёма.

— Ды вы рэальна дзеўбануліся! — сказаў Саша і выключыў рубільнік на сцяне.

Павісла паўза. Павісела і адвісла.

— Што гэта было? — Сашава інтанацыя была патрабавальна-разгубленай.

Усе пачуваліся няёмка, бо ніхто не мог узгадаць, што гаварыў.

— Гэта выпраменнік лухты, — патлумачыў Карлавіч. — Адна з пастак для нечаканых гасцей. Працуе і ў аўтаматычным рэжыме, і ў ручным, як цяпер. Уздзейнічае на фантазійную функцыю чалавечых мазгоў. Пабочны прадукт працы над «каларадкай».

Карлавіч уважліва паглядзеў спачатку на Сашу, пасля на Дзікуна. Дзікун ледзь прыкметна ўсміхнуўся і кіўнуў, маўляў, «так, Сашу не ўзяло».

— Адключыў я ваш выпраменнік. Вы і праўда нагаварылі абы-чаго, — сказаў Саша.

Цяпер усе глядзелі на труп Арцёма.

— Нажом хацеў нас забіць? — дзелавіта спытаўся Дзікун.

— Так, адкуль ты ведаеш?

— Прадбачыў, Саша, прадбачыў.

— Дзякуй за ствол, Станіслаў, што мне падкінулі. Голымі рукамі я такога кабана, ды яшчэ ўзброенага, відаць, не заваліў бы.

— Дык вы ўсё прадбачылі і арганізавалі наша цудоўнае вызваленне, Станіслаў? — Карлавіч канчаткова працверазеў. Больш за тое, нават пачаў выпраменьваць радасць, а не пакуты бадуна і сумлення.

Дзікун чарговы раз за дзень атрымаў удзячныя поціскі рукі.

— А што вы тут робіце? — люк на стале адкрыўся і ўсе ўбачылі незадаволенае аблічча Мао. — «Чорныя» некалькі хвілінаў таму паперлі сцяной, а вы тут языкамі счапіліся і разбегчыся не можаце. А з Арцёмам што?

— А з Арцёмам тое, што ён цяпер не павядаміць коду ад такога патрэбнага ўсім нам пульта, — адказаў Дзікун.

***

«А я чую — стрэл пад нагамі. Гляджу — люк не да канца закрыты», — тлумачыў Мао, калі разам з Дзікуном бег сядаць у верталёт.

## 25

Верталёт высадзіў Дзікуна і Мао ў парку 50-леція Акцябра на дзіцячай пляцоўцы. «Далей не магу, — патлумачыў пілот, — ЦЭЦ-3 мае ўласную супрацьпаветраную абарону».

Перад тым Мао затэлефанаваў на радыё «Адзінка» з просьбай даць абвестку на адрас Сузаны Анатолеўны Шубзды. Ад імя Мао. Каб яна выйшла на сувязь праз радыёкропку Горада-Героя. Папрасіў паўтараць абвестку кожныя пятнаццаць хвілінаў, пакуль Зуля не адгукнецца. «Ці пакуль усіх нас не накрыюць «чорныя», — падумаў Мао, але змаўчаў.

Як звычайна, мацюгальнікі ажывіліся раптоўна. Перад тым у палову сілы круцілася песенька «Водочку пьём», а тут яно на поўную моц закашлялася, захыркалася, за… мацюкалася знаёмым па розыгрышах латарэі жаночым голасам:

— Віцёк, падла, калі ты мяне чуеш, значыць, ты яшчэ жывы, і значыць, што табе каб-з-д-цы.

Ага, Зуля пачула зварот па «Адзінцы»! Праз паўхвіліны шабуршэнняў і скрыгату голас змяніўся ў бок кабетызацыі гучання і мур-мур-мяўнай, амаль пяшчотнай, інтанацыі гаварэння:

— Віцечка, Пусік мой. Я б магла сто разоў даць загад, каб цябе прыдушылі, пакуль ты швэндаўся па Горадзе-Героі. Кабялюга ты… — Трэск у эфіры.

Жаночы голас заплакаў, было чуваць, як наліваюць вадкасць у… З такім гукам і працягласцю, відаць, у вялікі келіх на высокай ножцы.

— Ты, Віця, казліна, ты палову майго жыцця сапсаваў. Ты казаў, што мне на ЦЭЦ-3 максімум год сядзець, а прайшло дванаццаць! Ты разумееш, што калі б не рэчыва нумар 3000R172L2019, вядомае ўсім як «каларадка», я б ужо была старой?!

— Ну, не такой ужо старой… — прабурчаў сабе пад нос Мао.

— Мао, ты падонак! — Зуля нібы пачула адказ. — Мао, альбо тыя, хто разам з ім. Мы тут за кумпанію з Каралём ужо не першы год у зняволенні… Адна забава — быць вядоўцай гэтага кончанага радыё. Ты музыку чуў у Горадзе-Героі? Гэта калекцыя Караля. Найлепшае, назбіранае за гады! Найлепшае!.. — І да Караля: — Скажы пару словаў, урод.

— Э… Вось такое я гаўно, — прабубнеў мужчынскі голас. — Я дадзены гэтаму народу як пакаранне за… За легкадумства, так, Зусюля?.. Зусюлюлечка… Зусюпіпапачка…

На ўсе мацюгальнікі Горада-Героя пачуўся гучны «плясь» даланёй па шчацэ.

Ажывілася рацыя:

— Камандантэ Мао, «чорныя п’яўкі» прарвалі абарону менскіх. Мы косім з буйнакаліберных кулямётаў з бронецягніка ў раёне Сляпянкі, але яны лезуць з-пад Купалу проста як прусакі, іх проста мора… Камандантэ, немалая частка рушыць у бок Партызанскага праспекту.

— Віцё-ё-ё-ё-ооок!.. — рыдала Зуля ў мікрафон.

Мао штурхануў Дзікуна локцем у бок:

— Панюхай паветра, мы зможам перабегчы да «Турыста»? Там праз сутарэнні выйдзем да тунэлю ў бок ЦЭЦ.

— Віцька… Мао… — Зуля шморгала носам. — Калі чуеш мяне, дай знак.

Мао шпульнуў сігнальную ракету.

— Ясна, сонейка, бачу. У парку вы. Бяжыце да «Універмагу», у сам не заходзьце, з левага боку, за былой шаўрмічнай, там стары тэлефон-аўтамат, набярыце мяне: 233-45-78.

Пакуль Дзікун і Мао беглі, слухалі далей Зулю.

— Так, цяпер, мянты, звяртаюся да вас. Нават не ўздумайце нейкія свае гульні пачынаць. Вам усім у прынцыпе ўжо гамон. Мы тут з ЦЭЦ у бінокль бачым, як «чорныя» пайшлі ў наступ. Але выратавацца можаце

паспрабаваць. Самае лепшае, што можна зрабіць, — пазаганяйце людзей па хатах. Хоць разок карысць грамадству зробіце гвалтам над асобай… Андрэіч, ты сёння дзяжурны па цэнтральным райаддзеле? Хвілінаў праз дзесяць-пятнаццаць на горадзе будзе такі шухер, што ты ў найлепшыя часы Аўтазаводу не бачыў. «Чорныя» не проста ідуць. Яны коцяць валам з-пад Купалу. Замыкай людзей, замыкайцеся самі. Па магчымасці, адстрэльваецеся.

Дабеглі. 233-45-78.

— Алё!

— А ты хто?

— Я Дзікун. Я ад Альгердыча.

— Ад Аль-гер-дыча?! О… Чым памагчы?

— Мы хочам трапіць на ЦЭЦ, вызваліць вас, Сусана, захапіць Караля, загадаць яму спыніць «чорных».

— Не атрымаецца, — рашуча адказала Зуля. — Мы з Каралём у палоне. Ужо дванаццаць гадоў нічога не кантралюем. «Чорныя» дзейнічаюць па сваёй праграме. Мы толькі, як бы гэта сказаць… фронтмэны: скачам па сцэне, але на інструментах граюць іншыя. У пастцы мы.

— У мяне пульт ад «чорных», няма паролю, — стрэліў фразай Дзікун.

— Ого! Гэта цалкам змяняе справу. Шанец ёсць. Кароль казаў пра пульт, які застаўся дзесьці ў нейкім інстытуце. — Было чуваць, як Зуля зрабіла глыточак. — Лезьце пакуль на дах «Універмагу». Там прасцей адбівацца, пакуль я буду цягнуць пароль з гэтага ўшлёпка, Караля. Ён пасля Дня Паўкабана яшчэ ні разу не апрытомнеў, усё жарэ і жарэ.

З даху «Універмагу» быў бачны вялікі кавалак таго, што хавалі парканы ЦЭЦ-3. Поле для міні-футгольфа, басейны розных памераў, вадзяныя горкі, вялікі тэніс… Аквапарк з прыбамбасамі.

Зашыпела рацыя Мао:

— Камандантэ, Менск захлынаецца… Людзі адстрэльваюцца, але «чорныя» як маскара, якая заляпляе горла…

Мао зірнуў на коміны ЦЭЦ:

— Давай, Зулечка, давай, разумніца, інакш хутка ўсім капцы.

— Чорныя паўзуць па вадасцёкавых трубах: з твайго боку цягам хвіліны выпаўзуць восем, з майго — пяць, ёсць яшчэ шэсць трубаў, якія мы не кантралюем. — Дзікун «нюхаў» сітуацыю. — Прапаноўваю дзеўбануць па тых, што паўзуць бліжэй да нас, і заняць кругавую абарону вакол вось, напры-

клад, гэтай выцяжкі вентыляцыйнай шахты. Не ўзмоцненыя бранёй асобіны «п’явак» трушчацца вельмі лёгка, але… Але патронаў у нас — хвілінаў на дзесяць, пасля толькі рукапашны бой.

Цяпер ужо і Мао пачуў скрыгат па трубах. Ба-бах з драбавіка: «На, дзіця маё… Мы разварушылі пекла, Дзікун. Трымайся, брат!» Паколькі Мао з часу першай сустрэчы з Дзікуном адпусціў бараду, то роля айца Рыгора з «Мы не ходзім у Рэйвэнголм» яму вельмі нават пасавала. Гумар быў дарэчы, бо жыць ім заставалася ўжо менш за дзесяць хвілінаў. Не сумаваць жа! Хоць не, вось хтосьці далучыўся з паляўнічым карабінам з боку «Турыста». Дзікуну нават пачуўся воклiч «бліндэр буду агурэц!». Так і ёсць — Немец! А вось яшчэ стрэлы: з супрацьлеглага боку плошчы. У акне дому насупраць тарца «Універмагу» — Люцыя! Махае рукой.

— Хлопчыкі, — ажывіліся мацюгальнікі, — шукаю, шукаю… Ёсць некалькі версіяў таго, што можа быць кодам.

Бах-бах! Прыкрытыя шчыльным агнём Немца і Люцыі, Мао і Дзікун пераключыліся на рэжым забавы. Яны малацілі «чорных» прыкладамі, нажамі, нагамі і кулакамі.

Здавалася, больш задаволеных жыццём людзей цяжка было знайсці.

— Так... бачу вас у бінокль, — зноў ажывілася Зуля. — Гэта ўсё, вядома, весела, але чорная хваля ўсё бліжэй. Андрэіч, у вас у райаддзеле ў двары стаяў БТР, пацісні-патрушчы, можа, гэтую саранчу? Там лёгка: валіш з кулямёта, а следам з вадамёта — і ім капцы. Адцягні час. Я гэтую свалату, Караля, спрабую ажывіць.

Рацыя практычна закрычала:

— Камандантэ! Менск захоплены, людзі пазамыкаліся ў памяшканнях альбо ўцяклі ў бок Заходніх тэрыторыяў і нават у Даліну склізняў. Цяпер чорныя штурмуюць нашы пазіцыі — Канфедэрацыі анархістаў. А боезапас у бронецягніках на такую колькасць жывой сілы не быў разлічаны. Мы разглядаем варыянт адступлення па чыгунцы на поўдзень, да мястэчка Гатава. Там у затоцы маем прыхаваныя катары. Магчыма, здолеем перагрупавацца на вадзе і высадзіць дэсант. Прыём.

— Ясна, брат, — адказаў Мао, які засяроджана дубасіў прыкладам драбавіка чарговую галаву «жывога крухмалу».

Міма па праспекце пранесліся міліцэйскія БТР і вадамёт. Прычым не проста вадамёт,

а вадамёт — швейцарскі нож! Тут табе і магчымасць рассякаць натоўп — кошам целы адкідаць-раскідаць. І паліваць вадзічкай — самае тое для аперацыі супраць «чорных». І ёсць спецыяльныя байніцы для агнявога бою.

— Віцёк, я код знайшла… Скажы, што ты мяне кахаеш!

Дзікун прыкідваў, наколькі часу БТР з вадамётам могуць затрымаць хвалю «чорных».

— Мао, калі ты зараз не прызнаешся ў каханні, я цябе асабіста прыстрэлю.

— Дзікун, а як прызнацца?

— Пульні ракету.

Мао пульнуў.

— Віцечка, гэта было каханне? Зараз, золатца, код такі… Дакладна каханне, ты глядзі мне!

БТР з вадамётам, відаць, усё. Паток «чорных» валіў ужо па Даўгабродскай у раёне парку 50-леція, яшчэ пара хвілінаў — і затопіць плошчу перад «Універмагам» і «Турыстам». Мао выпусціў трэцюю — апошнюю — ракету.

— Ладна, зайка, код такі: ад нуля да дзевяці тры разы.

Дзікун набраў патрэбныя лічбы, на пульце запаліўся зялёны агеньчык, палец націснуў

на пімпу насупраць надпісу «стоп». Чорныя сталі як адзін, то бок — усе.

Запанавала ціша. Як той казаў — *звіняшчая*.

— Зайчык, — ажылі мацюгальнікі. — Кароль кажа, што сярод пімпачак на «5» запраграмаваны «пункт збору». Навядзі куды хочаш прыбор і націсні. «Чорныя» мусяць туды ўсе пацеляпацца.

Дзікун падышоў да краю даха, накіраваў на цэнтр рынкавай плошчы прыбор і націснуў «пункт збору». «Чорныя» і праўда пасунуліся ў адным кірунку. Цяпер зусім не страшныя, хутчэй забаўныя, нібы пінгвіны.

З акна «Турыста» радасна махаў рукой Немец. «Сёння ў «Сумёце» будзе свята да раніцы, — падумаў Дзікун. — Вось і ўсё. Збірацца ў дарогу дадому. Не! Збірацца вяртаць дадому — у Менск — паплечнікаў».

— Што ж, Мао, цяпер у цябе работы — трымайся за поручні! Самаарганізацыя грамадства на такой немалой тэрыторыі — гэта не абы-што. І ад Зулі спачатку адграбеш. За ўсіх тваіх жэншчын, якім ты задурыў галовы «дзеля вялікай справы». — Дзікун уявіў, як да Мао выштыхоўваецца чарга з кабет са спісам прэтэнзіяў. Кабет, якім цяпер

не затлуміш мазгі падполлем, супрацівам, пагрозай з боку «чорных» ды якой іншай рэвалюцыйнай неабходнасцю. — З іншага боку, зможаш са сваіх кабет зрабіць першую суполку самакіравання.

Мао маўчаў, нібыта толькі што нічога экстраардынарнага не адбылося. Маўчаў і круціў у руках пульт кіравання.

— Дзікун, тут адна падпісаная словам «Купал» пімпа ёсць.

— Я заўважыў адразу.

— Цісканём?

— Не-а. Трэба быць гатовымі да чаго заўгодна, што можа быць за тым Купалам. Пакуль прыбіраем вызваленую ад «чорных», а па ходу і ад Караля, тэрыторыю.

— Хм, хм… Хлопчыкі! Вітольд Робертавіч Кароль кажа, што на пульце ў ніжнім правым куце ёсць маленькая непадпісаная пімпачка. Яе пальцам не націснеш, трэба шпількай ці дзюбкай алоўка. Пімпачка адкрывае нашу астахерэлую клетку на ЦЭЦ. Давайце хуценька вызваляйце вязняў залатой камеры.

Мао пашукаў па кішэнях, знайшоў кавалак тонкага дроту, націснуў.

— Дзякі, дзякі, чмокі, чмокі, мы ідзем, я, Кароль і дзевачкі. Унізе «Універмагу»

ёсць кавярня «Паўночны вецер». Скажыце Вітаўту, гаспадару, каб накрываў сталы проста на двары… Народ! Усе чуеце? Сёння будзе пір на ўвесь мір, толькі без бульбы. Патрэбная дапамога прывезці з ЦЭЦ ежу. З нашага прыватнага рэстарану! Вы таксама нясіце ўсе, хто што можа, з ежы і пітва, але яшчэ раз: «фры каларадка дэй» сёння. Сталы і крэслы нясіце ці лавы. Сёння з 18-й на рынку зажыгаем!

Мао і Дзікун спусціліся на плошчу. Абняліся з Немцам, абняліся з Люцыяй, паціснулі руку Андрэічу з райаддзелу — таго самага, дзе Дзікуна афармлялі за тое, што «ўступіў у водныя нетры» на Падшыпнікавым праездзе.

— Андрэіч, — кампанейскі сказаў Мао, — перадай сваім, што хто не заляпаўся адыёзнымі выкрутасамі супраць мірнага насельніцтва, а так — па дробязі нашкодзіў, можа спакойна заставацца і ўлівацца ў новае жыццё. Каму ёсць што хаваць, мае дзень, каб уцячы: хоць на выспы, хоць у Даліну склізняў, хоць на Заходнія тэрыторыі. Амністыя дзейнічае дзень, запомні… А гэта што?!

Па Партызанскім праспекце бадзёра сунуліся тралейбусы. Салоны машынаў былі забітыя хлопцамі і дзеўкамі са стралковай

зброяй. Публіка паводзіла сябе жвава, гарлапаніла вясёлыя песні.

— Нашы, анархі, — патлумачыў сам сабе Мао. — Я й не ведаў, што электралініі — у працоўным стане.

— На выпадак вайны з Менскам падтрымлівалі, — патлумачыў Андрэіч, — каб боекамплекты на перадавую аператыўна падвозіць. У нас жа генератары ёсць, на газе.

А менскія не спяшаліся прыбываць. Фактычную акупацыю Горада-Героя здзейснілі анархісты. «Ня тое каб акупацыю, — тлумачыў пазней Мао, — проста так само неяк склалася — занялі ключавыя пункты, а ніхто і не супраціўляўся. Ад Караля каманды не было, а самім «жукам» не вельмі і хацелася вайнушкі».

Тым часам здаравушчы дзядзька з куламі памерам як у іншага галава, Андрэіч мяўся як школьнік перад дошкай падчас экзамену.

— Сьцісьняюся спрасіць, маладыя людзі… А бульбу вы цяпер усю забароніце?

Мао адказаў рашуча:

— Ніякай дыктатуры, толькі ўсе разам прымаем прынцыповыя рашэнні. Адно скажу, што дзяржаўнай манаполіі не будзе

ні на што. Ні на бульбу, ні на гарэлку, ні на міліцыю. Можа і самой дзяржавы не будзе, а канфедэрацыя суполак. Андрэіч, твая пасада будзе выбарная, з галасаваннем…

І тут Дзікуна пачаў накрываць сон. Таму прамовы Мао пра лепшую будучыню Горада-Героя Дзікун не даслухаў. Нумар у «Турысце» быў аплочаны на тыдзень наперад. Нічога не замінала вярнуцца ды адпачыць.

— С празьнічкам, — павіталася Ала Пятроўна, нібы нічога такога не адбылося.

— З якім празьнічкам?

— Дык з вызваленьніцэм жа. Ад этай… — Ала Пятроўна хуценька разгарнула шпаргалку пад бюро. — Ад аўта… краціі!

## 26

— У галаве не ўкладаецца: Караля дванаццаць гадоў трымалі пад хатнім арыштам, а Горад-Герой жыў і па-свойму нават працвітаў! Як вам? Без мудрага, блін, кіраўніцтва. — Зноў Дзікун прачынаўся ў пакоі «Туриста» пад бадзёрую прамову Немца, якую той выдаваў камусьці ў калідоры, магчыма, пакаёўцы.

— Немец, не заходзь, я не адзін! — крыкнуў Дзікун і прыабняў Люцыю.

— Дружышча Дзікун, прабач, што турбую, але трэба, каб ты свой табун адагнаў, — Немец усміхаўся на ўвесь свой хітры і добразычлівы твар.

Дзікун зірнуў на гадзіннік на сцяне гасцінічнага нумару. Нармальна паспаў — ужо дзявятая вечара. А пачынаўся дзень з кавы на століках каля «Цэнтральнага».

— Зірні на плошчу.

А-ёй, а-ёй! Усё забітае «чорнымі п'яўкамі», няма дзе як сталы расставіць.

Дзікун выняў з-пад падушкі пульт, навёў на праспект. «П'яўкі», а цяпер ужо іх пачалі клікаць «пінгвінамі», пасунуліся растусоўвацца ўздоўж Партызанскага.

— Дык кажаш, Дзікун, страляю я нармальна?

— Ты нас выратаваў!

— Дык бярэш да сябе ў каманду? Табе ж яшчэ дадому вяртацца.

— Люцыя, бярэм?

Дзяўчына з усмешкай кіўнула.

— Бяру. Заўтра адкаркуем Купал, паглядзім, што там да чаго, і рушым на Новую Зямлю.

Тым часам на рынку проста на прылаўках зарганізавалі сталы. Каля «Паўночнага ветру» быў своеасаблівы прэзідыум з Зуляй на чале. Леваруч сядзеў ледзь прытомны Кароль, а справа — бадзёры Мао. У адной руцэ Зуля трымала мікрафон, а другой пагладжвала Караля:

— Вітольдзік харошы. Вітольдзік не ўзурпатар. Вітольдзіка падставілі. І мяне разам з ім!

Зуля паспрабавала позіркам спапяліць задаволены фэйс Мао, які не сумняваўся, што падставілі, але перад тым узурпацыя была вельмі нават чоткая.

— Дык вось… — працягвала Зуля. — Быў такі Ціцюкін, ён нас усіх запёр у гэтай, каб яе, ЦЭЦ. Не, там у плане якасці жыцця, дык толькі наперад! Паверце, рэсурсаў Горада-Героя патрацілі на наш палац не мала. Але. — Зуля наліла сабе з графіна. — Дванаццаць гадоў на курорце! Ды ў нас усіх дах паехаў.

— Ааааа… Эта жа Эдзік! — Жаночы крык з боку праспекту быў такі моцны, што перабіў нават зульчыны ізліянія. — Эдзік! Аааааа…

Жыхарка Горада-Героя стаяла насупраць аднаго з непарушных «чорных». Толькі насамрэч яны былі амаль белымі пад гідракас-

цюмамі. У аднаго спаўзла маска, і быў бачны бляклы твар.

— Ааааа…

— А сапраўды, Эдзік, — выгукнуў хтосьці з натоўпу.

— Яго ж месяц таму на Свінакомплекс адправілі.

— Наперад нагамі?

— Не, жывым.

Іншыя прысутныя заварушыліся — пачалі агаляць твары «чорных». «Вася!», «Сярога!», «Саша!», «Алёна!», «Дзіма!», «Ой, Наташа!»… Усё больш і больш знаёмых пазнавалі людзі. Усіх «чорных п'явак» аб'ядноўвала тое, што апошні раз іх бачылі перад адпраўкай на Свінакомплекс. «Ааа… Эдзік мой! Можна, я яго забяру дахаты? Хоць такі, хай стаіць у калідоры!»

— За дружбу народаў! — грымнуў з калонак знаёмы голас. Пятровіч з МАЗу, ветэран Бітвы за Велазавод, у якой згубіў адно вуха, той самы Пятровіч, які ледзь не трапіў табурэткай па спіне Дзікуна, гэты красавец-мужчына цяпер запрагаў тост за мір ва ўсім міры і за «хто старае памянець…», і што якая гэта радасць, калі брацкія народы могуць выпіць разам.

Што праўда, з Менску пад'ехала на аўтамабілях і конях троху людзей. Цяпер госці складаліся не толькі з узброеных анархаў. Але каб сказаць, што ўвесь Горад-Герой сабраўся на свята ці што палова Менску ламанулася праз адкрытую мяжу, то не. Такога не было. Разам да рынкавай плошчы з усіх бакоў прыйшлі пару тысячаў чалавек. «На Новы год збіраецца болей», — прабурчаў Немец.

Дзікун схадзіў на рэцэпцыю:

— Ала Пятроўна, сёння і заўтра ўсе нумары на апошнім, то бок, маім, паверсе зарэзервуйце за вайсковым камандаваннем... Дакладна не ведаю. Рэзервуйце яшчэ ніжэйшы, чатырнаццаты паверх. Далей пра абслугоўванне будзеце кантактаваць з маім памочнікам — Немцам.

«Тут як у сям'і — у каго пульт, той і галоўны», — рагатнуў Немец, калі вайскоўцы з трох канцоў калісьці адзінага гораду абмяркоўвалі план на заўтрашнюю аперацыю «Купал». Адзінагалосна пульт ад Купалу і «чорных» пакінулі ў Дзікуна.

Новы камандзір аб'яднанай групоўкі даў слова Маўлюку, які трымаў у руках раздрукоўку нейкага тэксту.

— На момант утварэння Купалу, а гэта дваццаць сем гадоў таму, праз месяц, як з Менску сышлі майстроўні, на гэты момант «в военном городке Уручье располагалась отдельная гвардейская механизированная бригада. Также полк внутренних войск Министерства внутренних дел. Имеются многочисленные хранилища военной техники».

— У перакладзе на чалавечую мову — пяхота і разгоначныя войскі, — далучыўся прадстаўнік Менску палкоўнік Вяпровіч. — І ў тых, і ў тых ёсць гранатамёты, магчыма, агнямёты, ясна, што станкавыя кулямёты, дакладна ёсць пара танкаў, а можа і болей, іншая браняваная тэхніка. Магчыма нават артылерыя. Наша задача на сёння — узгадніць супольныя дзеянні для вымання зброі, тэхнікі і боезапасаў. Важна зразумець: калі там пачнуць абараняцца, мы адразу страляем ці спрабуем патлумачыць, хто мы і чаму забіраем тое, што забіраем?

— Калі там засталіся жывыя людзі, то тэарэтычна ежы і медыкаментаў хапіла і вайскоўцам, і рэшце цывільных, — далучыўся начальнік цэнтральнага райаддзелу Горада-Героя Валянцін Андрэевіч Пупко. —

Але ж колькі вайскоўцаў там магло застацца? Афіцыйныя звесткі наўрад ці дапамогуць, бо як пайшла вада, шмат хто дэзерціраваў.

— Такім чынам, наша супольная задача нумар адзін — атачыць увесь перыметр Купалу, — зноў узяў слова Дзікун. — Цывільныя, калі яны там ёсць, змогуць пакінуць тэрыторыю толькі праз адзін КПП, які мы абсталюем каля Кінастудыі. Тамсама ў парку Лес Ваньковічаў… Той, які быў адзін час Чэлюскінцаў… Арганізуем… Як назваць? Тлумачальны сектар. Мэта — патлумачыць людзям палітычны расклад на Менскім узвышшы — каб чалавек сам прыняў рашэнне, да каго далучыцца. Вайскоўцам зробім фільтрацыю проста на тэрыторыі іхных часцей. Хоць я адразу прапаноўваю аматараў пакрычаць «я прысягу даваў адзін раз» адпраўляць у Горад-Герой, — Дзікун паглядзеў на падпалкоўніка міліцыі Валянціна Пупка.

— А чаму нам, Дзікун?

— А таму, што пакуль толькі ў вас ёсць порт з выхадам на чыстую ваду. Далей паказваеш мапу і прапаноўваеш варыянты эміграцыі.

Уначы ўсё-ткі паспалі некалькі гадзінаў. Раніцай многіх раней за будзільнік на ногі

паставіў гучны голас Мао. Там, дзе ўчора побач з «Паўночным ветрам» былі сталы, сёння стаяла кароценькая, метры на тры, трыбуна. Па ёй туды-сюды хадзіў важны Мао з мікрафонам у руцэ. Мікрафон нейкім чынам падлучылі да агульнай сістэмы мацюгальнікаў. Мао голасна распавядаў пра перавагі жыцця без дзяржавы, а самаарганізавана. Перад трыбунай таўкліся «карычневыя камізэлькі», якія толькі выйшлі на змену, гандляры з рынку, пару мужыкоў у камуфляжы і пагонах, але без зброі. На праспекце заставаліся стаяць «чорныя». Часам Мао спыняўся, каб секануць з-за пляча проста ў слухачоў перад трыбунай — ба-бах! Гэта значыць, нейкі важны тэзіс узмацняўся жэстыкуляцыяй. Напрыклад, распавядаў, што больш не будзе ўціску простага чалавека ўладамі. Што ўсе вольныя рабіць, што захочуць. Што не трэба адпрацоўваць пазыкі дзяржаве. Што больш не будзе фінансавага рабства.

Мао распінаўся, а кабеты яго абмяркоўвалі: красівы, відны, ладны. «Я б за яго прагаласавала», «сразу да», «я б замуж пайшла!». Адна цётухна тапталася моўчкі. Слухала, слухала, урэшце не вытрымала, падышла

да Мао: «Даражэнькі, скажыце, а ці можна ўжо ісці работаць?»

— Можна, — ледзь не блаславіў вольнай ад мікрафона рукой Мао.

Народ паціху пачаў рассмоктвацца. А Мао ім у спіну працягваў кідаць словы пра вызваленне, пра гарызантальную арганізацыю грамадства, пра новыя магчымасці для людзей, а галоўнае — іх дзяцей. Загінаў пальцы адной рукі…

Тым часам у штабе пілі каву і гарбату. Вызначыліся, хто якімі сіламі блакуе перыметр Купалу, хто захоплівае вайсковыя часці ва Уруччы. Таксама дамовіліся пра супольнае патруляванне Горада-Героя, які для зручнасці назвалі проста Горадам.

Далей пачаўся варушняк. Дзікун, Люцыя і Немец сядзелі верхам на БТРы ў раёне Кінастудыі і сачылі за секунднай стрэлкай. Аб 11:00 Дзікун націснуў на пульце патрэбную пімпачку, і за імгненне Купал знік. Разнамасная вайсковая тэхніка рушылі па праспекце Незалежнасці ў бок Нацыянальнай бібліятэкі.

Ехалі павольна. Насустрач імчалі легкавікі ў немалой колькасці. Машыны спыняліся, з іх выскоквалі людзі і дружна фоткалі вай-

скоўцаў. «Смартфоны», — здагадаўся Дзікун і панюхаў паветра. Не ў пераносным сэнсе, як бачун, а ў наўпроставым — як звычайны чалавек. Дзікун упершыню ў жыцці ўдыхаў у сябе восень. Краявід быў адкрыты, да найбліжэйшых будынкаў — жылых шматпавярховікаў — каля кіламетра. Вось злева фантан пасярод каналу! Пітная вада проста так б'е ў неба — для прыгажосці. А вунь дзеці з бабуляй кормяць качак пшанічным хлебам. Птушкі, шмат птушак на дрэвах. Усе расліны навокал злёгку крануліся золатам. «Відаць, пачатак восені, так цёпла!» Неба было чыстым. Хіба пара хмарынак над галавой, а так — блакіт нябёсаў!.. А вось жаўнеры выбудоўваюць ланцуг, каб ачапіць вось гэта ўсё — мікраараён Усход.

Ажывілася адна з рацыяў:

— Прыём, узялі вайсковыя часці. Амаль без прыгодаў. Заблакавалі большасць афіцэраў. У іх там, здаецца, дзве тысячы байцоў усіх разам… Патлумачылі мужыкам, што мы не ворагі, мы проста з будучыні, для іх. Там усе ў поўным ступары, калі мы гаворым, што мінула дваццаць сем гадоў.

«Тэхналогія Купалу — больш важная за іншыя адкрыцці Караля і Ціцюкіна. Пачаць

допыт Караля на тэму Купалу», — пазначыў сабе Дзікун.

— Прыём, тут палкоўнік Вепрукевіч. Адзін мотапехацінец усё-ткі дахам паехаў. Капітан малады. Крычыць «піндосам не здаемся!». Мы пасмяяліся, кажам, выходзь, мы з саюзных войскаў. Не паверыў, гандзёныш, ха-ха. Яно і праўда, саюзы розныя бываюць. Галоўнае, каб не застрэліўся.

— Прыём-прыём, тут Маўлюк. Мужыкі, сярод нас ёсць адзін чалавек, які ніколі не еў піцы, шаўрмы, дранікаў без «каларадкі» не еў. Хлопцы! Камандзіры! Адпусціце пяць-сем чалавек, хай да Нацыянальнай бібліятэкі падвязуць ежы з гандлёвых цэнтраў. Дзікун пачастуецца, і нам у радасць.

Дзікун паказаў Маўлюку, які ехаў следам за БТРам у грузавіку, кулак: маўляў, не салідна гэта ўсё. Маўлюк развёў рукамі — справа зробленая. Спыніліся роўна насупраць Нацыяналкі. «Дзікун, бачыш, усё добра, хадзем у бар зойдзем, ён толькі адчыніўся. Ты нырцанеш у атмасферу адноснай нармальнасці, якая панавала перад Вялікай Вадой», — Маўлюк цягнуў за рукаў у супрацьлеглы ад Бібліятэкі бок. Да будынку з крамай, у тарцы якога была бачная шыльда бару.

Але з нармальнасцю троху перагін атрымаўся. Дзеўка за стойкай была ці ў адхадняку, ці па жыцці не надта ветлівая. Раздражнёна сказала, што толькі што падключыла кегі, і што піва на продаж пакуль ёсць адно бутэлькавае. Узялі па «Gambrinus'е», натуральнага, з Чэхіі.

— Дарагое, відаць, было, — сказаў Маўлюк.

— Што значыць «было»?! — абурылася дзяўчына. — Так! Плацім адразу!

— Ты, Дзікун, не думай, што тады барвуменкі ўсе былі такімі.

— Я шчас Валерыку пазваню, он на вас управу найдзёт!.. Не работае связь…

— Дзікун, я дагэтуль не магу зразумець, як маладыя дзеўкі так хутка пераймалі хабёльства сваіх больш сталых калег? — Маўлюк паклаў на стойку пяць менскіх баксаў.

— Давай за шок яшчэ пяцёрку «іншамарак» дакіну, ёй за сёння яшчэ шмат перажыць трэба.

— Што вы мне суёце, клоўны?! Якія «менскія баксы»? Якія «іншамаркі»? Кнопка выкліку міліцыі ў нас тут вось.

— Хадзем на ганак, красуня, пакурыш, як той казаў, з рабочымі.

Дзеўка выскачыла на двор, убачыла калону вайсковай тэхнікі, мужчынаў ва ўніформах розных масцяў і з рознымі — незнаёмымі, без чырвоных зорак, — знакамі адрознення. Убачыла яшчэ вайскоўцаў, якія заходзілі ў мікраараён Усход з розных бакоў. Убачыла, што на даляглядзе — хмарнае лета, а не сонечная восень. Убачыла і… заплакала.

— Прызвычаішся, дарагая, куды дзенешся. Пакуль будзь на месцы, да цябе падыдуць, возьмуць звесткі, патлумачаць, што адбываецца.

## 27

Дзікун стаяў на аглядальнай пляцоўцы Нацыянальнай бібліятэкі. Куды ні кінь вокам — горад канчаецца лесам. Зусім побач з Бібліятэкай мітусіліся гараджане. Ужо дванаццатая, абедзенны час. А тут побач — гандлёвыя цэнтры, дзе ёсць кавярні і фастфуд. Гадзіна як Купал прыбралі. Але людзі пераважна яшчэ не ведала, што скокнулі на дваццаць сем гадоў наперад. І што цяпер чыстая вада — гэта самая галоўная валюта ў гэтым новым дзіўным свеце. А таму смузі ў цябе ў руцэ, гараджанін, які выйшаў паес-

ці на свежае паветра проста перад калонай вайсковай тэхнікі, гэты смузі цягне грашыма на дзень нармальнага харчавання. Калі зірнуць у бінокль, бачна, што рука гараджаніна дрыжыць ад хвалявання і здзіўлення, смузі плёскаецца.

«Камандзір, камандзір! — ажывілася рацыя голасам Немца. — Тут ах…» — «Тут ахвігіцельна», — удакладніў Дзікун. «Тут у Бібліятэцы ахвігіцельныя танцы, камандзір, верхні ўзровень — рэстаран. І шэф-кухар кажа, што вады і ежы тут ёсць, можа, больш як на дзесяць гадоў наперад. А, камандзір!» — «Прапаноўваеш сябе на кухню прыладзіць?» — «У санстанцыю правяраюшчым!» — «Немец, адбой, не забіваем хваляў».

«Маўлюк на сувязі. Інкубатар і вытворчасць «чорных п’явак» былі ў сутарэннях, ніжэй за саўны і басейн. Са Свінакомплексам былі звязаныя падземнымі шлангамі. Цікава, што з аднаго чалавека-прататыпа маглі зрабіць да дваццаці копіяў». — «Прынята, — адказаў Дзікун. — Сняданак-нарада — праз пятнаццаць хвілінаў у рэстаране на апошнім узроўні. Вазьміце каго з адэкватных затрыманых вайскоўцаў, лепш афіцэраў».

Менск, Менск, Менск... Хоць у менскай міфалогіі Бібліятэка была ў «цэнтры», але да цэнтру-цэнтру адсюль было вельмі далёка, кіламетраў сем, не менш. Дый да Горада-Героя — прыблізна столькі ж. Але ж як прыгожа глядзелася пушча-зеляніна Горада-Героя! Звыклая воку зялёна-сіне-бурая шапка лішаёў адсюль, з вышыні, выглядала інакш, чым зблізу. Як адно цэлае, зусім без прагалінаў. Дзікуну падалося, што не можна бачыць з такой адлегласці, як лішаяводарасці варушацца. Але яны варушыліся.

«Дзікун, тут Маўлюк, інжынеры дакладваюць, што ад Свінакомплексу шлангі ішлі далей, да бульбяных палёў. Новыя звесткі: ёсць рэчыва, якое ўзмацняла ўздзеянне «каларадкі». Рэчыва паступала ў арашальную сістэму палёў. Падачу рэчыва адключылі».

Менскія навукоўцы другую гадзіну вывучалі аграмадны цэнтр кіравання, які займаў адзін з сярэдніх узроўняў Бібліятэкі. Галоўны манітор цэнтру вісеў у сярэдзіне ромбакубаактаэдру, у форме якога пабудавалі Нацыяналку. А навукоўцы падаваліся касманаўтамі ў адкрытым космасе побач з аграмаднай канструкцыяй, утыканай пімпамі, рычажкамі і тлумачэннямі да іх. Больш за семдзесят

тры метры, альбо дваццаць тры паверхі, такая была Бібліятэка, дзе апроч кніг, цэнтру кіравання «каларадкай», былі рэстараны, саўны, боўлінг, басейны і нават міні-трэк для картынгаў.

«Трэба сыходзіць з аглядальнай пляцоўкі», — падумаў Дзікун.

І тут Бібліятэка варухнулася! Выпусціла з сябе шэсць гіганцкіх ножках. Прысела некалькі разоў, нібы размінаючыся, а пасля дала маленькі скачок уверх. Пры гэтым аглядальная пляцоўка ні на сантыметр не змяніла сваёй пазіцыі. «Інжынерыя!» — падумаў Дзікун. Следам Бібліятэка нібыта агледзелася, выбрала кірунак — прынахілілася ў бок пасёлку Навінкі — і як бы замерла на старце.

— Дзікун, прыём, што ты бачыш, давай загады. Бібліятэка задраіла ўсе ўваходы-выхады!

Шапка-пушча паўзла. Гэта не быў падман зроку. Проста цяпер, на вачах, шапка захоплівала прастору метр за метрам. Шаволілася, высоўвалася ва ўсе бакі, нібы хапала будынкі шчупальцамі аграмаднага тысячанога. Вунь накрыла прыватны сектар за вуліцай Радыяльнай. Вунь хлебазавод на вуліцы Батанічнай — высачэзны будынак — і на яго

абрынулася сцяна зеляніны. Зусім побач з Бібліятэкай кусты ўсіх масцяў групаваліся і рушылі наперад. Некаторыя ўжо пачалі караскацца па сценах Бібліятэкі.

— Дзікун, мы памыліліся! Рэчыва, якое мы адрубілі на цэнтральным пульце кіравання, яно не сілкавала, а тармазіла сілу «каларадкі» ў бульбе на палях! Мы спрабуем вярнуць як было, але Бібліятэка абсалютна ўсю тэхніку ўнутры сябе заблакавала!

Лішайнікавая маса з кожнай секундай набірала хуткасць.

Дзесьці з раёну Аўтазаводу пайшоў цяжкі гук, які пачаў нарастаць шалёным тэмпам.

Бібліятэка павольна стартанула ў кірунку кружной дарогі.

На даляглядзе над Горадам-Героем замаячылі чорна-аранжавыя плямы.

Жукі дагналі зеляніну і зляпіліся з ёю ў адно цэлае неакрэсленага колеру. На Горад сунулася аграмадная хваля.

«Вось яна — абсалютная зброя!»

Гіганцкая шэра-бура-малінавая хваля-цунамі.

# Змест

Літаратурна-мастацкае выданне

**Квяткоўскі** Севярын

# КАЛАРАДСКАЯ ПУШЧА

Рэдактура — Сяргей Прылуцкі
Дызайн — Артур Вакараў
Карэктура — Настасся Мацяш
Вёрстка — Юлія Андрэева
Фота — Вольга Квяткоўская

Выдавец «Logvino Literatūros namai».
J. Savickio 4, LT 01108 Vilnius.
Паліграфічнае выкананне:
таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
ЛП № 02330/0552782 ад 01.10.2010.
Вул. Цімірразева, 9, 220004, Мінск.